# Піліп Пестрак

## ЗБОР ТВОРАЎ У ПЯЦІ ТАМАХ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1986

# Пiлiп Пестрак

ТОМ
5

ЛЕСАВIЧАНКА
Раман

ПУБЛIЦЫСТЫЧНЫЯ I КРЫТЫЧНЫЯ АРТЫКУЛЫ

АСНОЎНЫЯ ДАТЫ ЖЫЦЦЯ I ТВОРЧАСЦI

Рэдактар тома
К. Р. ХРОМЧАНКА

Падрыхтоўка тэкстаў i каментарыi
К. В. ПIЛIПОВIЧ, Л. У. ХРЫШЧАНОВIЧ

Асноўныя даты жыцця i творчасцi
В. М. ГРЫШКЕВIЧ

МIНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛIТАРАТУРА»
1986

# ЛЕСАВІЧАНКА

**Раман**

## ПЕРШАЯ КНІГА

### Раздзел першы

### ГЭТЫ ГОРАД...

Гэты горад, здаецца, прапахнуў наскрозь гісторыяй. Нешырокія цэнтральныя вуліцы з найбольш дробнымі дамамі, на якіх вапнавыя сцены пашчэрблены, дамы з іржавымі бляшанымі стрэхамі, пад якімі павіслі над вузкімі тратуарчыкамі балкончыкі, што быццам імкнуцца ўпасці ўжо,— усё гэта стварае стракатую панараму нейкай зношанасці, старызны, набытай і пераджытай пакаленнямі з даўных, даўных часоў.

Ад цэнтральнай плошчы пачынаюцца гэтыя стракатыя, абпаленыя летнімі днямі, прасякнутыя вогкасцю асенніх туманаў вуліцы. І магутны касцёл, як паднебны цуд, узвышаецца над імі недзе з пачатку XVI стагоддзя, сочыць пільным вокам за нараджэннямі і смерцямі гэтага людскога мурашніка — беларусаў, яўрэяў, палякаў, рускіх, літоўцаў, татараў,— мурашніка, што віруе бесперастанку на вуліцах — і ў гомане слоў, і ў прытоенай начной цішыні, каб не сціхалі жыццёвыя турботы.

Ад цэнтральных вуліц збягаюць у бакі тыя вузенькія, заўсёды зацемненыя вулачкі са слядамі задымленага сярэднявечча. Яны то прадзіраюцца праз гушчыню дамоў па роўнядзі, даўшы дзе-небудзь на павароце закругленую крывінку, то збягаюць у даліны між зборышча пацямнелых стрэх і стрэшак, што чым ніжэй, тым больш гуртуюцца, здаецца, без канца. Там, на вапнавых сценах і сценках, на пакрыўленых вокнах і акенцах, прыліплі надзей-

на, утульна налёты копаці і вулічнага пылу, да якіх можа дакрануцца часам толькі адзін ціхі сонечны праменьчык.

І вечарамі, пры цьмяным святле далёкіх ліхтароў, здаецца, што па іх снуюць не людзі, а цені.

Гэты горад... раскінуўся па ўзгорках, забрукаваных лабатым каменнем, над глыбокімі ручаінамі, што тонуць у кустах і дрэвах, невядома кім пасеяных. Вулачкамі, абсаджанымі хаткамі, што, як ластаўчыныя гнёзды, павісаюць на адхонах, ён спускаецца да быстрацечнага Нёмана. Яго імклівы, шырокі паток імчыць пад небам свае воды ў недалёкія, ужо ўскраінныя, пескавыя, стромыя берагі, з якіх у люстраную плынь глядзіцца бор. За патокам хораша назіраць здалёк з берагавой страмніны. Берагавы загіб з борам цягне да сябе, як магнітам, каб павесці недзе далей у яшчэ няזнаныя прыгажосці. На страмніне, як з горнай скалы, далёка бачны бор. На ёй, утрамбаванай каменнем і дзярном, ляжаць (не стаяць, а ляжаць) памяткі сівой, калісьці збройнай, мінуласці — рэшткі цагляных, абаронных сцен замка, пабудаванага пры літоўскім князі Вітаўце, якога гісторыя назвала «вялікім». Толькі рэштка сцен... Яна здзіўляе сучаснікаў сваёй таўшчэзнасцю і моцай, заяўляўшай некалі на вечнасць. Асталіся толькі рэшткі... Вечным бывае, відаць, нешта іншае. Тут жа глядзіць з берагу ўдаль сам палац, белы, перароблены з «Вітаўтавага» мастацтва на дом царскіх афіцэраў — і таму абдае людзей казарменна-халодным воблікам. За яго тыльнымі сценамі зямля, парослая густа дрэвамі і кустамі, спаўзае далёка ўніз, ужо к гораду, да глыбокай дарожкі-сцежкі, якая віецца заадно з іскрыстай ручаінай — то хаваюцца абедзве ў кустаўі, то выбягаюць з яго, каб урэшце дабрацца да Нёмана. На такой вось надбярэжнай горнай плошчы маячыў некалі, абгароджаны таўшчэзнаю сцяною з цяжкаёмкіх прастакутных цаглін, замак Вітаўта. Ён суроваю пагрозай глядзеў на захад за Нёман, дзе набегамі палашылі пушчу рыцары-тэўтоны, да таго ўедлівыя і неадчэпныя, што Вітаўт вымушаны быў перанесці сталіцу з Вільні сюды, дзе абароннай моцай стаў яму ў дапамогу сіні Нёман. Недарма сюды многа пазней уцякаў ад шляхецкіх дзяржаўных пакут немалёваны польскі кароль з венграў Стэфан Баторый. Цішынёй і ўтульнасцю пахла яму тут — сярод пескавых узгоркаў і патаемных наднёманскіх пушчаў. Тут гранне паляўнічых рагоў рэхам разносілася ў дрымучым Наднямонні. Ад роздуму нараджа-

ліся планы паходаў на праваслаўны царскі ўсход, а ў пушчы трафеямі клаліся мядзведзі. Тут хрыбет сярэдняй Літвы, як называлі тады беларускія землі. І не раз немалёванаму каралю залятала думка: што рабіць са спаборніцтвам Нёмана і Віслы, каму даць перавагу? Лаціне ці кірыліцы? Каралеўскія замкавыя пергаменты квітнелі тады кірыліцай і пахнулі фіміямам воску і кадзіл усходняга пісьменства. Але далёка над Тыбрам з купала святога Пятра аглядала свет вока прагнага папы, якому служыла душа каталіка Стэфана Баторыя. І лаціна павінна выціснуць кірыліцу. Баторый дзяржаўным пісьменствам Польшчы і Літвы зрабіў лацінку.

І ў новыя часы на маляўнічых узгорках вострымі вежамі пацягнуліся да неба рэнесансавыя касцёлы і па звілістых, стромых сцежках падымаліся да брам у чорных сутанах, абапіраючыся на кій, служкі культу з езуіцкіх брацтваў.

Касцёлы ўнеслі ў атмасферу горада сваю плынь, свой каларыт, унеслі ў процівагу артадаксальным цэрквам свой «мадэрн» — элемент готыкі, і мясцовыя людзі адчулі ў гэтым подых панскасці. Мяшчанства пачало здаваць пазіцыі — у першую чаргу багатае, а потым і бяднейшае. Земляробскія ўскраіны не прынялі прыхарошаных багаццем убранства касцельных сцен, ксяндзоў, прычэсаных па-кавалерску, паголеных, з пахам парфумы, не прынялі і такой палёгкі ў малітвах, як лавы для сядзення, і святога сухога прычасця з голых рук ксяндза. Касцёл здаўся земляробам панскім, а таму чужым, а значыць, не ўгодным богу. А вось для навакольнай мясцовай шляхты — пескавых надняманскіх грачкасеяў — касцёлы сталі прытулкам, што і стварыла ў горадзе свой спецыфічны каларыт — мяшчанска-шляхецка-плебейскі.

Горад-кангламерат— шумлівы, турботлівы, з подыхам сваёй неспакойнай мінуласці. Адзнакі яе яшчэ дзе-нідзе асталіся жыць у наваколлі. Нават адчуваецца яна на сонечных палявых дарогах, што віюцца на ўзгорках і далінах. Наш час шукае іх, каб заглянуць у даўнасць.

Гэты горад астаўся пакаленням як сустрэча дзвюх плыняў, якія не скарылі адна адну, але якія парушылі даўняе дрымучае адзінства, калі мячы звінілі «аб літоўскія шаломы», калі рэхам міжусобніцкіх бітваў поўнілася вялікая Кіеўская Русь. Усё гэта пахавалася пад напластаваннямі вякоў. Але знайшліся трубадуры скажонай гісторыі. Ашуканства ніколі не плыве наверсе — яно хава-

ецца, каб дзейнічаць спакваля. Пілсудскі, патураючы італьянскаму дучэ, загадаў археолагам унядрыцца ў пласты Наднямоння, каб давесці свету іх адвечную польскасць і тым самым апраўдаць гістарычную экспансію тадышняй польскай магнатэрыі на ўсход...

Так і вырас з зямлі на Замкавай наднёманскай гары з-пад рук капачоў не рымска-каталіцкі храм, як спадзяваліся экспансіяністы, а вырас самы сапраўдны грэчаскі, складзены з кіеўскай белай цэглы, якога гісторыя назвала княжаскай Ніжняй царквой, бо яна асела ніжэй палаца, набліжаючыся да Нёмана. Лагодныя формы сцен, іх прыемны мяккабелаваты колер і потым — прыдаткі мясцовых народных элементаў. Гэта адпаліраваныя камені, умураваныя ў сцены, як свая народная мазаіка, а потым такія ж камені пры ўваходзе ў царкву, як пры парогах сялянскіх сяней,— гавораць аб высокіх мастацкіх густах наднёманскіх дойлідаў. Ад рэштkaў сцен царквы вее той мастацкай прытульнасцю, якая ўлівае ў душу спакой. Вядома, правобразам гэтай невялікай княжай царквы была Кіеўская Сафія.

Вось ён і ёсць, фундамент напластаванняў наднёманскага горада, вось што дало пачатак аднаму з далёкіх фарпостаў Кіеўскай Русі на мяжы гедымінаўскай Літвы.

Можна цяпер сягнуць ад Вітаўтавага палаца цераз глыбокі яр-рэчку, пайсці ўздоўж Нёмана па яго цячэнні і апынуцца ля другой памяткі XII стагоддзя, ля ціхай цэркаўкі кіеўскага мастацтва, якую народ называе «каложыскай», а царкоўныя хронікі — Барысаглебскай. Назву «каложыская» дала Пскоўская Каложа, якая цяпер з'яўляецца прыгарадам. Пад Каложай у 1405 годзе князь Вітаўт разбіў пскавіцян, узяў іх у палон адзінаццаць тысяч і пасяліў у наваколлі вось гэтай цэркаўкі, дзе мясцовыя дойліды пакінулі вякам сваё мастацтва.

...Павел Верасовіч устаў. Калі сядзеў на таўшчэзных рэштках Вітаўтавай абароннай сцяны, перад вачыма плыла-рассцілалася тонкая сінявата-барвовая смуга, з якой то паказвалася сваімі рэльефамі, то знікала дрымучая старажытнасць з вартавымі вежамі, з купаламі цэркваў, з мініяцюрнымі цэхавымі домікамі, з рыбацкімі хатамі. І ў першабытнай цішыні плыў патрыярх Нёман, прабіраўся праз пушчы да недалёкай Літвы.

Павел ціха ўсміхаўся гэтым зданям, як нейкаму першаадкрыццю, якое выплыла з дна мора. Але ж цёплы асенні вецер ускалыхнуў бярозку побач пры сцяне, і тон-

Гродна

кая казачная смуга знікла. Вочы ўбачылі ўдалечыні высокія фабрычныя каміны з дымам, а слых пачаў убіраць аддалены, аднастайны гарадскі шум, у які ўрэзваліся гукі машын, паравозных гудкоў — далёка на чыгунцы. І, бачыце, касцёлы страляюць вежамі ў неба, і гэтага не выкінеш. Яны існуюць, і яны яшчэ ўладаюць. Рытм цэркваў слабейшы. Але яны таксама існуюць. Вунь за касцельнай ґрамадзінай туліцца ў высокіх сценах турма. Верасовічу па-сапраўднаму яшчэ не верыцца, што ён ужо на волі, на сапраўднай волі, бо ў горадзе нядаўна адгрукаталі баі за свабоду, і яна — свабода — рэгулюе ўжо мелодыю гарадскога шуму, у якой хочацца разгледзець новае, будучае. Дванаццаць год турэмнага жыцця яшчэ прыгнятаюць Верасовіча, і ў гомане гісторыі ён хацеў бы знайсці нешта, што б аб'ядноўвала ў сабе і вялікасць, і маленскасць, што можна было б патрымаць на далоні, як трапяткую дзіўную птушачку. І гэта ёсць не што іншае, як радасць чалавечага існавання, яго шчаслівага генія.

Дзіўная мазаіка гісторыі...

Верасовіч накіраваўся з XV у XII стагоддзе, каб паглядзець на тое, што стварыў чалавечы геній.

Узвышша над ярам-рэчкай з аднаго боку і шырокім Нёманам з другога пераклікаецца здалёк з Замкавай гарою. На ім, на гэтым узвышшы, нешта ціхае, утульнае, пабудаванае з кіеўскіх, значыць, квадратных цаглін, паміж якімі лепка такой жа таўшчыні, як сама цэгла. Невялікі храм старажытнасці дбайнай, ласкавай работы. У сцены сям-там умураваны адшліфаваныя камяні з мясцовых палёў, у форме сваёй нібы знарок неахайныя, як зрабіла іх прырода. А потым раскіданы ў сіметрыі нябеснага колеру маёлікавыя крыжы з часоў князя Уладзіміра, бо і называюцца ўладзімірскімі. Яны ўжо злёгку патрэсканыя ад векавых вятроў і слотаў. А потым раскіданы па сценах пліткі — зялёныя, жоўтыя, блакітныя. І ля парога такі самы камень, як у Ніжняй царкве. Цагляная агароджа нізкая, і таму гэтая цэркаўка відна, як на майдане. За агароджаю разложысты дуб раскінуў галіны. Ён авеяны легендамі, і адна з іх гаворыць, што ён нікім не пасаджаны тут. Ён ужо рос, калі майстры будавалі для людзей і дзеля хараства не кранулі яго.

Навокал узгоркаватае поле з маладзенькай рунню. Ад яго ўніз да яра-рэчкі скупіліся хаткі з садкамі ў шэрых платах. І самая блізкая да цэркаўкі хатка стаіць на палявым узвышшы. Ад яе парожка пачынаецца сцежка, якая

вядзе іменна сюды, да жалезных дзверцаў, адмысловых у сваёй вышуканай пабудове. На парожку з'явіўся сівы старэнькі ў зімовай шапцы з ключамі ў руцэ. Павел зразумеў, што выйшаў сторож гэтай старажытнасці. Старэнькі высокага росту, але ўжо сагнуты ў плячах, апранены у шэра-суконную саматканую куртку, выветраную і пажоўклую. Прывітаўся амаль што глыбокім паклонам. Па маршчынах старога сачыліся з вачэй ад ветру скупыя слёзы.

— Хочаце ў цэркаўку заглянуць? — прыветна спытаўся ён.

— Ага, дзедку, хачу. Як можаце, адчыніце.

— Чаму не магу? Я ж яе пільную. Калі ласка.

Замок глуха, неяк застарэла, празвінеў пры павароце ключа, і дзверцы адчыніліся. Такі ж звон, але ўжо з рэхам, паўтарыўся і ў царкоўных дзвярах — старых, драўляных, закончаных лукам угары.

Глухое рэха неяк раптоўна шарахнула пад скляпеннем ад крокаў Паўла. Ён далей стараўся ступаць ужо асцярожна, ідучы ўздоўж сцяны. Вось паглыбленні ў сцяне, дзе былі ўмураваны галаснікі для рэзанансу, а значыць, для чысціні голасу тых, хто тут выконваў культавыя песні. Сціплы іканастасік і амбон з дошак.

Нягледзячы на стук ног, Паўла раптам кранула цішыня. Дзе ж сторож? Аглянуўся — і ў душу ўдарыла нечаканае пачуццё здзіўлення: стары, сагнуўшыся, стаяў на каленях, заглыблены ў малітве. Ён не звярнуў увагі на тое, што Павел глянуў на яго. Бледныя губы пад сівымі вусамі шапталі свае, набытыя ў горы-жыцці, культавыя словы, якія павінны быць магічнымі. Павел далей аглядаў цэркаўку, але ўжо больш прыслухоўваўся да нячутных слоў сагнутага за ім на каленях чалавека, які пражыў жыццё. Яго завучаныя ад дзяцінства словы абвалакваюцца скаргай і ўзвышанай просьбай — жаданнем шчасця для зямлі. Толькі ў такой цішыні, відаць, можна так прасіць, жадаць, заслухаўшыся ва ўласныя шэпты душы...

Паўлу хацелася даўжэй спыняцца зрокам — то на дэталях столі-скляпення, то на формах куткоў, то на падлозе, выкладзенай шэрымі плітамі, і асобна на той пліце, дзе напісана імя княгіні Галіцынай, даўно пахаванай тут. А ўсё для таго, каб за спіною адчуваць прыпаданне чалавека да зямлі.

Старэнькі абапёрся рукамі аб падлогу і падняўся, кладучы апошнія крыжы на сваё чало ў маршчынах, на ху-

дыя грудзі і плечы. Пачаў расказваць, як частка гэтай старажытнай царквы абвалілася ў Нёман недзе ў 1853 годзе. Была вялікая паводка, якая падмыла бераг. І так многа год царква стаяла акінутая. Аж ехала царыца ў Варшаву, і губернатар папрасіў у яе грошай на адбудаванне. Царыца дала грошай — аж дваццаць пяць тысяч. Тады ўмацавалі бераг каменнем і дзярном, а на адбудову цэркаўкі грошай так і не хапіла.

— Няўжо так дорага абышоўся бераг? — спытаўся Павел.

— Дзе там! Хапіла б, але грошы пайшлі ўжо на што іншае...

Старэнькі чагосьці не дагаворвае, і таму Павел зноў пытаецца:

— Што? Можа што іншае пабудавалі?

— Дзе там! — махнуў рукою стары і дадаў павышаным голасам: — Прапілі!.. І праелі на цукерках!

— Хто?

— Паны! Чыноўнікі з папамі!

— ?!

— Прапілі і на цукерках праелі,— паўтарыў стары,— а потым збіралі ў людзей па грошу і абвалены бок зрабілі з дошак... да часу.— Стары абыякава махнуў рукою на правы бок цэркаўкі і закончыў: — А цяпер... Невядома як...

Ён рукавом выцер твар ад застылых ветраных слёз.

Павел па пахілай сцежцы спусціўся к Нёману. Ішоў як адпачыўшы, пасвяжэлы, і з усмешкай думаў пра дзядзьку. «Якое ж дзіўнае спалучэнне ў чалавеку — узвышанасць і раптам такі цвярозы, голы рэалізм. «Прапілі і на цукерках праелі паны, чыноўнікі з папамі...» Каго? Што? Ды цэркаўку святую. І Верасовіч засмяяўся ўголас.

Там, у царкве, дыктат узвышанага — ад зямлі да нябёс, а па-за царквою дыктат суровай логікі жыцця... ужо без бога. А людзям жа трэба выкоўваць ласку іменна з гэтай суровай логікі жыцця. Гэта не лёгка, не лёгка... Але гэта не ілюзорна, гэта датыкальна для ўсіх...

Павел ішоў па беразе павольна.

Заглядзеўся за Нёман, недзе туды, дзе бразгала лесапілка, дзе па беразе спускаліся да Нёмана садкі ад драўляных адмысловых домікаў. Думка плыла, як гэты Нёман, у нешта шырокае, нясціспутае, самастойнае.

Лёгкі дотык да локця. Глянуў налева і сустрэўся з цёмна-шэрымі вачыма пад цёмнымі бровамі, якія глядзе-

лі на яго з загадкавай усмешкай. Павел, быццам па інерцыі сваіх нядаўніх думак, павольна разглядаў твар жанчыны — белы, з выразам стомленасці. Павел нават затрымаўся зрокам на ім. Аднак жа трэба гаварыць, бо гэта Лена, спадарожніца па турэмных змроках.

— Што гэта ты такая сягоння, уся ў чорным? І плацце, і хустка... Гм...— ледзь усміхаючыся, з непрыкметным прылівам ласкі спытаўся Павел.

— Ну і пытанне, аж адказаць не магу. Адкуль, куды ідзеш? Я ведала, што ты блукаеш недзе тут. Ты ж гаварыў нядаўна...

Яны мінулі ўжо старажытную цэркаўку і выйшлі на голыя палявыя прасторы, ад якіх рукой падаць да лесу. Павярнулі ад Нёмана ўправа на палявую дарожку, якая павольна ўзбіралася на ўзгорак. Ціхае сонца нібы разаслалася па наваколлі, прыпала да зямлі, і можа таму недзе быццам далёка сціхаў, тануў гарадскі шум. Часам яго зусім не было чуваць.

Выйшлі на ўзгорак і спыніліся. Адсюль добра было глядзець на горад, які праглядаўся разам з ускраінамі — са стужкай Нёмана пад мастамі, з могілкамі: праваслаўнымі, каталіцкімі, яўрэйскімі,— з вакзалам, заапаркам, а потым палямі, па якіх павіліся дарогі да вёсак і мястэчак. Касцёлы, цэрквы выныралі вежамі з гушчыні дамоў і блішчэлі на сонцы.

Лена, сцішаная, пільна праводзіла вачыма па панараме горада, быццам бачыла яго ўпершыню. Аднак заўважала знаёмыя вуліцы і вулачкі, дзе даводзілася бываць на яўках, на канферэнцыях, добра бачыла турму і ўспомніла, як прывязлі яе, пабітую, з дэфензівы і кінулі ў адзіночку. Хутка прыйшоў фельчар і аглядзеў сінякі, кроўю набеглыя вочы і яе пабітае жаночае цела. І парваныя валасы пасмачкамі падалі на плечы...

Лена на імгненне прыкрыла вочы. Потым павярнула галаву да Паўла і доўга глядзела ў яго профіль. Павел адчуваў гэты зрок, але твару да яе не паварочваў. Усё роўна бачыў насцярожаныя, гарачыя вочы і ясны лоб, скроні, атуленыя чорнаю хусткаю. Як манашка... Урэшце павярнуў галаву, з нячутным уздыхам сціснуў Лену за руку і ўжо яе не выпускаў.

— Гэты горад, Лена, гаворыць нам яго пакінуць. Ісці нам трэба ў навуку, каб пашырыць нашы веды, каб захаваць у чысціні нашу вернасць таму, чаму мы аддалі сваё маладое жыццё.

— Гаворыш, як тэарэтык. А практыкай нашай хто будзе займацца?

— Для практыкі мы пакуль што выключаны, Лена. Наша практыка — гэта павінна быць работа, разумная наша работа.

Лена змоўкла, задумалася. Нешта не клалася такое ёй у галаву, нешта сказана не да канца. Душа пратэставала. Раптам вырвалася:

— Паеду ў вёску... да мамы!

— Можа гэта і добра,— павольна сказаў Павел.— I я, відаць, паеду таксама, але не да мамы, у яе я ўжо быў, паеду да сваіх падпольных палескіх сцежак. Там знайду сяброў. Гэты горад, Лена, нас яшчэ пакліча.

## ХМЫЗ І ХМЫЗЫ

— От нарэшце... нарэшце я цябе дачакаўся,— ускрыкваў час ад часу Іван Хмыз і намерваўся абхапіць Паўла ў абдымкі, але толькі націскаў за плечы. Потым адчыніў дзверы на кухню і паклікаў жонку: — Анісяl Дзе ты? Ідзі сюды!

Анісся недзе з-за печы глуха адказала:

— Пачакай, зараз вось павешу цыбулю.

Рухавы Іван Хмыз зноў кідаўся ў гутарку, не спускаючы шэра-блакітных вачэй з Верасовіча, і ахкаў, і вохкаў, і біў сябе далонямі па сцёгнах, і проста не ведаў, дзе пасадзіць госця.

— За ўсіх нас адседзеў ты ў гэтай праклятай турме! Ох, гэта не жарты... То колькі гадкоў давялося прабыць? Мусіць, нешта з дванаццаць? Га?

Павел павольна кіўнуў галавою, стомлена стуліўшы на хвіліну вочы, як бы нічога нідзе не адбылося. Ад такой нечаканай, радаснай сустрэчы гаспадар і госць стаялі і глядзелі адзін на аднаго з усмешкаю.

— То сядзем. Чаго ж мы стаім? Сядай!

Іван Хмыз яшчэ не стары, але жыццё пастарыла яго твар. Ён быў загарэлы, з шэрым налётам пылу. Тырчалі, як стрэлачкі, вусы — шэрыя, трошкі зямлістыя, а паабапал іх праклаліся маршчыны.

— Ого-го! Было, было... ды яшчэ як было... Помніш, калі мяне прывязлі ў турму скатаванага? Левае вока набухла кроўю. Хлопцы абступілі мяне і глядзелі на мае сінякі і шышкі. Адзін маладзён не вытрымаў і сказаў: «То

трэба было ўжо хоць трошкі прызнацца... каб так не цярпець». Ого! Прызнацца! Як гэта прызнацца? Таварышаў выдаць? Не... Якую ж мы моц збудуем процiў паноў, калі будзем прызнавацца?

Павел, паклаўшы руку на стол, лагодна прамовіў:

— Вось, Іван, усё, бачыш, перажылі і дачакаліся свабоды. Мы чакалі Чырвонай Арміі — вось яна і прыйшла.

Пад вусамі Івана зайграла шчаслівая ўсмешка.

— Прыйшла і свабоду прынясла. Але ў турме — як ты гэтай палітэкваноміяй нас адукаваў, свет мне адкрыўся. Гэта ж падумаць, як гэта ўсё на свеце зроблена! Дак вось як багацеюць буржуі, вось адкуль ідзе ім гэты прыбытак. Яна ў мяне ў галаве моцна сядзіць. Калі я прыйшоў з турмы, мужыкам сваім пачаў расказваць пра гэты прыбытак. Доўга не верылі — казалі, што ўсё грошы робяць — не рукі, а грошы...

Іван закруціў галавою, перасмыкнуў прапацелую кепку на патыліцу і гаварыў:

— Вось так яна і свабода. Даў ты нам добра дыхту з гэтай палітэкваноміяй.

— Ты і цяпер не прывык яшчэ правільна выгаворваць... Не палітэкваномія, а палітэканомія,— азваўся Верасовіч.

— Праўда, праўда... Ну што ж, брат, мужыцкае да сябе цягне... Балота і ёсць балота. Усё роўна за гэтую экваномію заклікалі ў паліцыю і махалі ля носа кулакамі: «Ты, псякрэў, у турме марксізму навучыўся, мы табе пакажам марксізм». А ўсё вінават ты...— ужо смяяўся Іван.— Дак раскажы пра сябе, як вы там з панамі... калі выходзілі з турмы?

— Хацелі расстраляць нас паны, Іван. Колькі нас было ў турме — усіх пяцьсот. На валаску павіс быў той расстрэл. Мы ўжо арганізавана рыхтаваліся да смерці. Вырашылі на ТК [1] і перадалі праз сцяну стукам рашэнне ўсім нашым хлопцам і дзяўчатам... так і так... высвнілі абстаноўку і каб хто часам перад смерцю не запанікаваў...

— Вядома,— падхапіў Іван. Твар яго зрабіўся трывожны, прытоены.

Іван слухаў і чакаў, што яшчэ скажа Павел, што перашкодзіла расстрэлу.

— Пасля абеду ў горад увайшла Чырвоная Армія. Пачаўся бой з панскімі атрадамі. Ён гучаў трое сутак. На трэці дзень пайшла ў ход чырвоная артылерыя...

[1] ТК — турэмны камітэт.

— Артылерыя? — падхапіў Іван і крутнуў галавою.— І вы сядзелі ў турме?

— Сядзелі ў турме. Каб не нахапілася Чырвоная Армія, быў бы нам каюк.

— От як яно...— з прыціхлым стогнам прамовіў Іван і паківаў галавою.— Значыць гэта тое, што ты жывы, што жывыя і хлопцы, і дзяўчаты нашы — усе астатнія жывыя... Што б там ні было... От я і рад, што ты тут у мяне. Пазнаеш маю хату? Нешта разоў чатыры начаваў у мяне, канферэнцыі праводзіў. Печ тая самая стаіць у кухні, на якой ты спаў зімою. Толькі вось грубку зрабіў і адгарадзіў куток. Вось тут я цябе і пасялю. Ад мяне ты ўжо не ўцячэш. Не, не...

За акном прамільгнула белая хустка. Іван штурхануў рукою ў раму, і акно адчынілася. Гукнуў:

— Анісяl Чаму ты не ідзеш?

— Зараз іду! Вось толькі каноплі пастаўлю пад страху. Трошкі пачакайце!

Павел стрымліваў Івана, каб той не турбаваўся. А потым устаў і прайшоўся па хаце. Іван з усмешкаю правёў за ім вачыма і не змоўчаў:

— Прывык па адзіночцы хадзіць, прывык... Не сядзіцца. Адразу відно.

— Ёсць такое, Іван. Бывала і так, што ходзіш аж да знямогі, калі за душу заскрабе... туга...

— Ну, цяпер пажывем свабоднымі. Толькі як там на свеце, скажы? Буржуі што-небудзь робяць? Як там той фашыст Гітлер? Бачыш, Польшчу пабіў. А як з намі? Будзе чапляцца ці пабаіцца?

— Цяжка цяпер сказаць. Яму і хочацца, і колецца. Нашы стараюцца як мага не дапусціць да вайны. Відаць, што не ўдасца. Трэба быць гатовым на горшае. Пабачым.

Абодва змоўклі. Іван скручваў з газетнай паперы ўжо нейдзе другую ці трэцюю папяросу з свайго пахучага самасаду і маўчаў, усё нешта прытакваючы сам сабе.

— От каб то ж гэтых буржуяў ужо як-небудзь... да парадку,— прамовіў,— яшчэ трымаюцца, чэрці.

— Барацьба вядзецца не на жарты... ва ўсім свеце,— сказаў Павел і, праз хвіліну глянуўшы ў акно, дадаў: — Добра ў цябе тут, Іван, мясціна харошая.

Іван устаў.

— Харошая, вядома. Неяк жыць можна. Але каб не нажылі яшчэ якой-небудзь пакуты. Перажылі адно, а тут можа быць другое...

Іван памаўчаў і пачаў пра іншае:

— Хадзем пакажу табе загарадку, там у мяне як станцыя.

Увайшлі ў невялікі пакой з двума вокнамі — адно ў пярэдняй сцяне, праз якое адкрывалася вачам шырокая даліна, больш асаковая. Яна слалася праз лес, які стаяў па абочынах,— вялікасны і па-асенняму ціхі, задуманы. Перад акном другой сцяны распасціраліся хмызы. Гэта было лёгкае ўзвышша, парослае кустамі. Іван называе іх хованкай грыбоў, арэхаў і жалудоў.

— Тут табе растуць грыбкі, як лялькі,— цягнуў сваім тонам Іван,— розныя, якія хочаш. Першыя высыплюць гнёздамі лісічкі. А потым пойдуць іншыя. А ўжэ калі паявяцца баравікі — цэлае, брат, царства паноў... як палкоўнікі. Мая Анісся цэлую бочку насоліць і насушыць. Ах, брат, смаката...

— Ты так гаворыш, Іван, што аж сліну гоніць.

— А што? Во ж яно так і ёсць. Вось прыйдзе Анісся, пачастуе нас... От баба ўпартая. Да чаго прычэпіцца — не адарвеш. Пачакалі б тыя каноплі.

На адной сцяне пакоіка вісеў партрэт Леніна, прыбраны вышытым ручніком, на другой — плакат: каваль гвазданую молатам па агністым жалезе, і ва ўсе бакі рассыпаюцца іскры. Побач глядзелі са сцяны некалькі сямейных фотакартак у адной рамцы. У кутку туліўся столік з самаробным крэслам. А пры перагародцы мясцілася ляжанка, накрытая каляровай посцілкай.

— Тут робяць урокі мае сын і дочка. Гэта я ўжэ для іх... Ну і сам часам газетку пачытаю. У гэтым пакоіку ты паспіш, адпачнеш. За сталом можаш пісаць. Вершыкі яшчэ пішаш? Ці мо пакінуў?

— Папісваем часам, але цяпер нешта не пішацца. Не асвоіліся мы яшчэ як след з нашай свабодай. Нічога, адолеем. Хачу ехаць у Маскву — вучыцца.

— Вучыцца? Яшчэ табе мала навукі? Гм... От зайздросны на навуку. Ты ж і так усё знаеш — дзе якія краі, гарады, моры, рэкі, дзе якая зямля, звяры, птушкі... Ты ж нам пра ўсё гэта расказваў у турме. І яшчэ вучыцца?

— Філасофію трэба вывучаць, каб мудрасці набрацца...

— А што — палітэква... Цьфу! Палітэканоміі мала? Ну што ж — вучыся на здароўе. А як з жаніцьбай? Жонкі, мусіць, яшчэ няма?

— Яшчэ няма.

— Ну от бачыш, без жонкі... Як той, што ў пустыні...

Тады мы табе знойдзем жонку тут. Хутар у мяне нядесны, адгуляем вяселле, месца хваціць. Бо як жа гэта — пакутаваў чалавек дванаццаць год у турме, выйшаў на свабоду і каб жонкі не было?

Павел глядзеў у акно, на тую лугавую даліну, па якой у свой час даводзілася прабірацца ў другое сяло — не аднаму, а з ёю — маладой, цярплівай, адданай. Але дзе яна цяпер? Усё зацямніла глухая таямніца. Не хацеў Павел гаварыць з Іванам пра гэта. Ды вось якраз і Анісся прасунула галаву ў прыадчыненыя дзверы. З цікавасцю аглядаючы Паўла, стала прасіць прабачэння, што затрымалася пры рабоце. Анісся Паўла не ведала. У тыя часы падпольшчыны Іван Хмыз яшчэ не быў жанаты. Ажаніўся, як выйшаў з турмы.

— Вось, Анісся, той чалавек, пра якога я табе не раз расказваў. Знаёмся і дай нам пачастунак, а то ўжо і абед мінуўся.

Анісся — сярэдняга ўзросту прыгожая маладзічка, з лёгкім загарам на энергічным твары, з густымі серпавіднымі бровамі над чорнымі вачыма, сярод якіх зграбна размясціўся курносы носік.

— Павел, я адыду на мінутку,— сказаў Іван і выйшаў услед за Аніссяй.

Павел Верасовіч захадзіў павольна па пакоіку, заклаўшы рукі назад. Калі падыходзіў да акна, углядаўся ў гэтую задумную першабытную прыроду. Прыехаў ён да Хмыза з далёкага горада, каб у яго хоць трошкі, як кажуць, адпачыць душою. Ёсць тут пра што ўспомніць і падумаць. Нешта будзе пісацца. А што — невядома. Турма наклала свой след на яго твар, які выглядаў белы, як вымачаны, і з цёмных вачэй тонка праглядала стомленасць. Ногі ступаюць павольна, удумна. Яна — думка — працуе над чымсьці ўвесь час, маршчына над пераноссем паглыбляецца. Нешта займае Верасовіча — працягваюць варушыць тыя думкі, якія ўзніклі над Нёманам.

Увайшоў Хмыз.

— Хадзем за стол! — ускрыкнуў ён клапатліва.— Але, як ты некалі казаў, давай памыем рукі. Я помню гэта і, павер, заўсёды мыў рукі перад ядою і цяпер мыю.

На стале тырчала бутэлька свойскай гарэлкі — самагонкі. Навокал бутэлькі надзейна расселася гліняная міса, поўная халодных салёных грыбоў з пакрышанай цыбуляй, дымілася патэльня смажанага сала з яечкамі, у

талерцы бялеў пакроены сыр. І чорны хлеб сваёй выпечкі скібкамі ляжаў у дзвюх гурбачках.

Абедалі аж да цёмна. Вераснёўскія вечары, як вядома, надыходзяць хутка. Так што абед зайшоў за вячэру. На заканчэнне Анісся паставіла два эмаляваныя кубкі — Весасовічу і свайму гаспадару Хмызу — і наліла ў іх малака. А потым быў чай, настоены на чабры.

З шумам убеглі дзеці — хлопец год дзесяці і дзяўчынка год васьмі. Яны былі ў сяле, у клубе, дзе паказвалі кіно.

* * *

Ужо трэці вечар Павел адчыняе акно ў адгароджанай станцыі Івана Хмыза. Удзень ён адчыніў бы акно на тую лугавую даліну, што паплыла праз міжлессе, а вось увечары, нанач, прыемней для вока хмызы. Яны вось непадалёку за дарожкай — густыя, бязладныя ў сваім неаглядным зборышчы. І ў гэтым іх прывабнасць. На стале перад акном стаіць Іванава лямпа, якую Павел старанна ачысціў ад слядоў мух і пылу.

Ужо трэці вечар — ціхі, спакойны. З акна плыве прыемны халадок. Павел піша апавяданне пра пакуту камсамольца ў турме, катаванага ў карцэры сем раз, а дакладней кажучы, сем дзён. Сіла ці слабасць яго ў тым, што камсамолец вырваўся з арганізацыйнай арбіты камуністычнай абшчыны і пачаў ваяваць адзін. У турме наступіў якраз жорсткі тэрор, і кіраўніцтва не брала курсу на масавую барацьбу, каб не падстаўляць дарма камуну на збіванне. А ён вырваўся адзін на адзін з пачварамі...

Павел піша. Серабрыстыя скроні і залысіны лагодна паблікваюць у святле лямпы. Адкінецца Павел на спінку крэсла і глядзіць у акно. Бачыць, як варушацца лісточкі. Прамень ад лямпы сягае да іх, патанулых у начной цемры. І яму здаецца часам, што прамень з кожным вечарам аддаляецца ад яго і заціхае нязгасным агеньчыкам. Можа лямпа павярнулася другім бокам. Можа...

Гэты трэці вечар робіцца і доўгім, і нейкім зраўнаважаным. І нешта не хіліць да сну. Надышоў той апошні момант працы, калі наплывае больш роздуму, чым ахвоты да пісання.

Раптам з цішыні, з начной хмызовай гушчы, кінуўся на стол шэранькі матылёк. Ён упаў, адскочыў і завіхрыўся навокал лямпы, чапляючыся за шкло. За ім прыляцеў

другі і трэці, а потым... паплылі чародкі і сталі падаць ужо і па разгорнуты сшытак. Павел змятае іх далоняй — туды к адчыненаму акну. А яны ўсё ляцяць. Павел заўважае, што чародкі матылькоў большаюць і сярод іх пракідаюцца большыя летуны. Гэта былі ўжо не матылькі, а матылі. Яны віхрыліся навокал лямпы так, што яна пачала моргаць, і Паўлу стала ніякавата. Ён усміхаўся, аглядаючы і стол, і сцены, дзе распаўзалася гэтая нечаканая і дзіўная навалач. І ўрэшце падумаў: што з імі рабіць? Вядома, можна было зачыніць акно, і матылёвы паток спыніўся б. Але Паўла ўжо цікавіла сама з'ява.

Бо матылі, аднак, ляцелі... падалі на стол і поўзалі не толькі па стале, а і па асвечаных сценах. Прыбывала матылёў больш і шэрых, і іншых колераў. Урэшце нечакана, што аж Павел уздрыгнуў, уляцеў матыль цёмна-зялёны, мясісты, вялікі, уляцеў, як бы аэраплан, і з лёту шарпануў шкло лямпы, і лямпа пагасла. Стала цёмна, хоць вока выкалі. Павел пасядзеў з хвіліну і пашукаў запалак. Запаліў. Апечаны «аэраплан» варушыўся на стале, намагаючыся паўзці. Паўлу прыпомнілася — ён недзе чытаў,— як у XIX стагоддзі ў Францыі быў налёт хрушчоў, ды такі масавы, што аж машыны спыняліся на шашы...

Павел расказаў пра варвара Аціла, які з полчышчамі дзічы ў далёкія, дзікія часы пачуў святло далёкага ад іх старажытнага Рыма і ўсё ж такі дабраўся, каб яго знішчыць.

Іван ківаў галавою, згаджаўся. Падабалася яму такая гутарка. Ён думаў па-свойму. Бо глыбока ўздыхнуў і неспадзявана для Паўла прамовіў: «Чуе душа, што, калі падыдзе тое ліха, цяжкая будзе барацьба. Хоць і ў нас сіла, але ўсё роўна будзе цяжка».

— Ты гэта аб чым? — спытаўся Павел.

— Як аб чым? Аб тым, пра што і ты гаворыш. Што рабіў твой Аціла, ці як яго там?.. Нешта падобнае цяпер робіць Гітлер.

— Ага... Вось пра што... Правільна, таварыш... Пра гэта ж я і кажу...

Іван насцярожана глядзеў у адным напрамку, не спускаючы вачэй з акна, быццам там за ім нешта займала яго.

Сябры сцішыліся на момант, як быццам думкі іх спалучаліся на адным.

Іван неспадзявана павярнуў галаву да Паўла і запытаўся пра камсамольца, пра якога Павел пісаў.

— Ага,— быццам прыпамінаючы пра тое, што паспела ўжо забыцца, прамовіў Павел,— прыйшоў начальнік турмы да яго ў камеру-адзіночку са сваімі памочнікамі і папрасіў Юрку перастаць выцягваць ніткі з матраца і віць шнуркі, каб перасылаць ноччу прадукты таварышам.

А калі прачытаў Хмызу ўсё апавяданне, той аж ляснуў у далоні і пачаў прыгаворваць:

— Во гэта па-нашаму, гэта наш хлопец! Вытрымаў катаванні і змусіў ката, каб папрасіў яго. Толькі так і трэба, не інакш!..

— Яго злавіў дазорац на віцці шнуркоў з матрацавых нітак і падаў справу начальніку. І пачалося каранне з карцэра і катавання ў ім. Юрка, як бачыш, пайшоў у задор і віў шнуркі далей, ужо не хаваючыся ад дазорцы. Ізноў былі карцэры і катаванні. І так сем разоў. Чатырнаццаць сутак адбыў Юрка... І вось тады прыйшоў да яго кат прасіць перастаць віць шнуркі. Прыйшоў прасіць... Разумееш?

Хоць апавяданне было прачытана, аднак Паўлу хацелася паўтараць яго. І атрымоўвалася ўжо неяк не па-кніжнаму. Але ўспрымалася лепш.

## У ДАРОЗЕ

Прачнуўшыся на верхняй лаўцы плацкартнага вагона, Павел Верасовіч глянуў у акно ці, дакладней, у яго верхнюю палавіну пад рамай, і аж прыўзняў галаву. Вачам адкрылася нечаканая карціна: стагі і стагі сена, ужо зляжалыя, прыгладжаныя вятрамі і дажджамі, абагрэтыя, прысушаныя сонцам. Стагі і стагі... Іх абкружаюць кусты кучаравага лазняку, хіляцца па адной пажоўклыя бярозкі, якіх дбайна абмінулі каса і сякера, то аднекуль зялёнай палоскаю ўварвецца сасняк і на момант затуліць краявід. Але вось ён вынырнуў зноў — вострыя, асадзістыя сасёнкі, надзейна прырослыя да балотнай зямлі, мінаюць прывабнымі радкамі, і альхоўнік, густы, пародзісты, кусціцца як хоча, спускаючыся да прычыгуначнай канавы.

Але, як бы ні было, усюды адчуваецца прысутнасць лесу — часам з'яўляюцца дубы-адзіночкі. Вось яны раскінулі сваё разлапістае, нічым не ўтаймаванае ў сваім росце голле. А за імі цямнее лес, які выдаецца непраходным. І недзе там далёка на ўскраінах жыве лясная глухамань. Яна там, дзе клубкаватыя хмары застылі над

верхавінкамі — то зубчастымі, то густымі, імшаста-авальнымі. І неба з раскінутымі хмаркамі выдаецца нізкім, нейкім нават цесным для наваколля.

Поезд імчыць, і вострае шараханне-рэха коціцца па глухім прасторы, хвошча ў акно, як бізунамі, і без агляд-кі ляціць удаль, пакідаючы за сабою хмызы, кусты, тапаліна-асінавыя палосы з ёлкамі, патанулыя ў сонцы пералескі на «градах», пакуль не наплыве і стане глухой сцяною перад вачыма некранутая веліч-дрымучасць, якая, здаецца, прыцішае імкненне поезда.

Унізе пры століку снедаюць два дзядзькі. Яны выклалі свой харч кожны паасобку, сам сабе, і жуюць — жуюць павольна, ёмка. Губы і вусы ў іх блішчаць ад сала. Яны выціраюць іх канцамі торбаў, так, як і рукі, а часам рукавамі рудых куртак.

Вымаюць з торбаў, усё роўна як паказваюць на свет, толькі вяршочкі сваіх кавалкаў сала, нібы хаваючыся, каб, крый божа, хто не ўбачыў гэтага багацця, і асцярожна, з любасцю адрэзваюць па кавалачку. Таксама адрэзваюць і хлеб. І ядзяць, час ад часу ўсё-такі зіркаючы па-суседску непрыкметна на харч адзін аднаго: ці не з'явіцца ў суседа чаго-небудзь новага — можа яечкі, мо цыбуля або мяса. Не — толькі хлеб і гэтае заўсёднае сала. Валасы ў дзядзькоў крыху з сівінкаю, падстрыжаны, як «пад гаршчок», і таму дзядзькі вельмі падобны адзін на аднаго. Ядзяць і вядуць гутарку — сваю, арыгінальную.

...— Прыязджаў нейкі начальнік да нас... Ото нядаўна, на Барыса... ага, на святога Барыса, і казаў на сходзе, што будуць капаць канал на Палессі ад мора да мора.

— Такі канал?! — паставіўшы вочы на суседа, здзіўляецца другі.— Ад мора да мора? Ого! Як жа ты намацаеш тое мора? Яно ж недзе далёка...

І дзядзька круціць галавою. Відаць, што не верыць. Сусед пераконвае: «Знойдуць мора, не бойся, цяпер усё знойдуць. І за морам, калі хочаш... У Амерыкі ж ездзяць цераз мора. Вунь у нас адна маладзіца ездзіла яшчэ пры цары да свайго дзядзькі. Казала, што два тыдні трэба плыць морам».

— Два тыдні? — зноў зжахаецца сусед. А потым дадае:— То гэта і я чуў. Але два тыдні па моры... Хіба каб мяне звязалі ды вочы закрылі, ну то можа тады я і паплыў бы...

— Бачыш, людзі плаваюць — і жывыя... Гэта як і на зямлі — як бог дасць.

— Як бог дасць,— паўтарыў другі — той, што сядзеў пад Паўлам, крыху гарбаносы, брывасты і вусаты.

Сівінка пацерусіла ў бародах і вусах абодвух, толькі ў суседа на другой лаўцы чарнейшая барада і нос раўнейшы. З гутаркі было зразумела, што ён разбітнейшы за свайго земляка.

— Цяпер, бачыш, начальства новае, савецкае, дык яно... Гэта ж табе не паны, што толькі падаткі дай і дай, а мужыку за гэта толькі хвіга... і бізуны.

— Ой пасмакталі нас тыя падаткі... арышты і турмы... хацелі ўсю моладзь нашу са свету звесці.

— Ну вось, толькі ўсяго і было нашага жыцця — цярпі і цярпі,— пацвердзіў чарнаваты дзядзька.

У Паўла ў чамадане таксама ляжыць кавалак сала — ды такога тоўстага, што ён толькі дзівуецца. Разам з салам ляжаць тры колцы духмянай сялянскай каўбасы, ад якой пахне — і кмен, і перац, і часнок, і каляндра. У дадатак — буханачка чорнага хлеба, спечанага на аеры... Гэта ўсё сяброўскія падарункі Івана Хмыза і яго Анісі. Вязанка сушаных баравікоў, якую Павел назваў «магутнай», схавана ў асобнай вялікай торбе, бо ў чамадане не хапіла месца.

Павел урэшце злез з лаўкі, узяў з чамадана ручнічок, мыла і пайшоў памыцца. Ішоў, прабіраючыся праз людскую цеснату — мужчын, жанчын і дзяцей,— і ўсюды бачыў вясёлыя твары, быццам людзі адпачывалі пасля доўгага цярпення. З чуласцю жанчыны ласкалі дзяцей, выціралі ім носікі, папраўлялі ў каго шапачку, у каго хустачку і прасілі не крычаць, сядзець ціха, запрашалі да акна, за якім плыў усё той жа нясканчоны лес. Апрача людзей, загароджвалі дарогу мяшкі, кошыкі, нагружаныя яблыкамі, сушанымі грыбамі, свежай бруснікай у кошыках і дранкавых каробках. Значыць, едуць не толькі ў госці да родных, знаёмых, але і на рынак. Адчувалася ў гэтым усім тая прыемная народная турбота-ўцеха плёнамі сваёй працы, да якой уставалася з зарою і гаравалася, аж пакуль не агорне ноч. Нейкі руплівы неўтаймаваны рух ахопліваў усіх.

Паўлу сапраўды ўжо хацелася паснедаць — тым больш што і столік пры акне нічым не заняты. Дзядзькі скончылі сваё «ўрачыстае» снеданне, пазавязвалі торбы і паклалі ў кутках. Цяпер сядзяць, прытуліўшыся спінамі да сцен, і маўчаць. Глядзяць у акно, назіраюць уцяканне лесу і тэлеграфных слупоў. Часам ускідваюць позіркі на

Паўла, які вось глядзіць на сябе ў маленькае люстэрка і прычэсвае свае рэдкія валасы на залысінах. Безумоўна, ім думаецца, што́ гэта за чалавек, што ён робіць, дзе працуе. Нейкі ён не падобны ні на пана, ні на мужыка.

Урэшце Павел даведаўся, што дзядзькі едуць у свой райцэнтр на рынак — паглядзець кароў, свіней, парасят — можа што ўдасца купіць. І ўсё ж такі чарнаваты дзядзька не выцерпеў, спытаўся ў Паўла, хто ён, дзе працуе, адкуль сам. Павел усё ім талкова расказаў пра сябе. Яны слухалі, пераглядваліся, разумеючы адзін аднаго. Калі Павел скончыў, яны загаварылі ў адзін голас:

— То ж вы наш чалавек... Божа мой, дванаццаць год у турме. Гэта ўсё за нас, за нас.

Калі першыя спачуванні мінулі, дзядзькі змоўклі і не спускалі з Паўла вачэй. Бедавалі і ганарыліся, што вось які «наш чалавек». А потым глянулі ў куткі на свое торбы, і асцярожна, быццам баючыся, каб не скрыўдзіць, ціхім, даверлівым голасам спытаўся адзін:

— Вы ж не снедалі? У нас ёсць хлеб і сала. Можа пад'ясцё? Не бойцеся, паны ўсяго не адабралі... А цяпер, дзякаваць богу...

І дзядзька кінуўся развязваць торбу. Але Павел спыніў яго, сказаўшы, што ён яду мае.

Раптам усе адчулі, што поезд сцішае ход. За акном заміргалі бярвеністыя хаты і хаткі з гонтавымі стрэхамі — то чатырохскатнымі, то двух. Праваднік, праходзячы па вагоне, крыкнуў: «Лунінец!»

Усе заварушыліся да выхаду. І Паўлу трэба выходзіць, бо тут яго перасадка. Многа сонечнага святла, людскога руху з мяшкамі за плячыма і з кошыкамі ў руках. Жанчыны — адны дзяцей неслі, другія вялі за ручкі,— і ўвесь гэты сялянскі паток куртак і хустак уліваўся ў расчыненыя жалезныя вароты і расплываўся за вакзалам. Канцы перона абселі пераважна жанчыны з мяшкамі і кошыкамі яблык. І куды ні глянь, усё яблыкі і яблыкі — адборныя, урадлівыя антонаўкі. Над прадаўцамі павісалі галіны клёнаў, ліп, а за плотам прывакзальнага агародчыка лапушыліся разложыстыя кусты арэшніку. Павел ішоў па пероне, усміхаўся людзям і сонцу, што стаяла над лесам, які цямнеў недалёка за чыгуначнымі палотнамі. Маладзіцы ў расквечаных хустках і вышытых фартухах наперабой запрашалі да яблык. Павел ужо і так іх накупляў, што чамадан неміласэрна цягне руку да зямлі.

Размясціўшыся ў другім поездзе, Павел выйшаў, каб

свабодна пахадзіць, зайсці ў вакзал — купіць газету. Поезд адыходзіць праз трыццаць хвілін. Часу хопіць.

Калі ён стаяў ля газетнага кіёска і разглядаў часопісы, брашуры, адчуў, як чыясьці рука кранула яго за плячо. Глянуў улева і аж уздрыгнуў ад нечаканасці: перад ім стаяў Аляксей Варанюк і павольна, па-прыяцельску ўсміхаўся. Пацалаваліся і падышлі к буфету, каб дзеля сустрэчы выпіць па шклянцы піва. Селі за столік і пачалі разглядаць адзін аднаго. Аляксей Варанюк — высакаваты, танклявы, ні то яшчэ юнак, ні то ўжо сталы мужчына — выглядаў добра, лепш, чым тады, калі яму дэфензіўшчыкі паролі патыліцу іголкамі і не шкадавалі кулакоў для яго маладога смуглаватага твару камуніста-падпольшчыка, які прыехаў з ЦК у Палессе замяніць Паўла-інструктара; потым яны абодва апынуліся ў турме ў адзіночцы, у якую турэмная стража напхала аж сем чалавек.

— Ну, расказвай,— падганяў Аляксей.

— Ну, расказвай,— падганяў Павел.

Яны наперабой расказвалі пра свой цяперашні лёс пасля вызвалення. Варанюк ехаў у адну палескую вёску да жанчыны, каб памагчы ёй здабыць дакумент, што яе хата нешта дзесяць год была канспіратыўнай для падпольшчыкаў, якія прыязджалі з цэнтра. Хоць хата не раз «арыштоўвалася», але так трымалася ўдала, што паліцыя вымушана была гаспадыню яе выпускаць. Ад партыйнай арганізацыі канспіратыўныя хаты па вёсках ніякай аплаты не мелі. Гэта была толькі ахвярнасць людзей.

У гутарцы паспелі дакрануцца і турэмных успамінаў. Аляксей не сцярпеў, каб не папрасіць Паўла расказаць пра палескіх дзядзькоў, якія, седзячы на прызбе і раскурваючы люлькі, гутарылі аб тым, як памёр цар Мікалай. Павел у турме не раз расказваў гэтую адмысловую, каларытную быль, прынесеную ім у турму з падполля. Але Аляксею яшчэ раз захацелася паслухаць — у турме ж не мог нацешыцца ёю.

Павел глянуў на гадзіннік. Заставалася пятнаццаць хвілін.

— Так і быць. Яшчэ паспеем,— сказаў ён і пачаў гаварыць, як адзін дзядзька, папыхваючы люлькай, павёў такі сказ: «Цара оруштував мотрос. І водыв вун його на ваданне [1]... Щось тры разы водылы його на ваданне, а вун

[1] Тут разумеецца польскае слова «бадане», што азначае «допыт», «даследаванне».

ныяк нэ хотів прызнаватіса. І тоды мотрос шарахнув ёго сашкою по голові, тай всэ. Ось так цар і помэр...»

Другі дзядзька запярэчыў, што не так было, і пачаў сваё: «Ог-го... то нэ так було. То праўда, що ёго водылы на ваданне... То праўда... Алэ як вун нэ хотів прызнаватіса, то ёго мотрос посадыв у турму аж на чэтвэртый отаж. Цар упав з чэтвэртого отажа і розбывса... Сорок п'ять літ ёму було...»

Аляксей пільна слухаў, не зводзячы з Паўла вачэй, і, калі той скончыў, пырснуў смехам так, як некалі там, у турме, і паўтарыў тое самае: «І да чаго тут гэтыя «сорок п'ять літ»? Як прычапі кабыле хвост».— І дадаў з павагаю, імітуючы дзядзьку: «С-о-о-рок п'ять літ ёму було» — і ўпаў тварам на свае рукі са смехам.

Аляксей правёў Паўла да поезда, і ўжо ў апошнюю хвіліну Павел здолеў спытацца, дзе ж працуе Аляксей.

— Фінагентам!

І доўга стаялі абодва — адзін на пероне, другі — на прыступках вагона — і махалі рукамі, пакуль поезд не набраў хады.

Павел прыйшоў на сваё месца, сеў, сцішыўся ў сабе і, сумны, пачаў глядзець у акно. Думкі плылі ўслед Аляксею: «Паехаў да Настусі Гарабок. Трэба было б і мне ехаць з ім. Яна была б удвая рада, гэтая адважная жанчына, якая якому хочаш дзядзьку «дасць ніць». Мы з Аляксеем некалі ў адзін голас сказалі, што з Настусі быў бы добры старшыня сельсавета. Яна ўсіх людзей у наваколлі назубок знае, ацэньвае так трапна, што ні адной рысачкі ў чалавеку не прапускае. Настуся — гэта агністая справядлівасць. Недарма яна аберагала падпольшчыкаў у сваёй хаце...»

Павел непрыкметна для сябе ўздыхнуў. І стала яму неймаверна шкада, што не паехаў з Аляксеем. Каб можна было павярнуць гэты поезд. Але... не павернеш ні поезд, ні самога сябе. У кішэні ляжыць пісьмо Лены, якое і сарвала яго з такога ўтульнага седала, як хутар Івана Хмыза. Трэба ехаць назад у горад. Ідзе падрыхтоўка да абласнога мопраўскага з'езда. Лена — член гаркома МОПРа і адначасова нецярплівы загадчык аддзела культуры гарсавета. Вось яна і кліча...

# ЛЕСАВІЧАНКА

Лена нарадзілася пад бацькоўскім прозвішчам — Лясовіч — у балотна-пескавой вёсцы над Нёманам у звычайнай, быццам усім вядомай, сялянскай серадняцкай сям'і. Але, калі вырасла, скончыла беларускую пачатковую школу, а потым апынулася ў беларускай гімназіі, пачала пісаць сваё прозвішча — Лесавічанка. Ёй даспадобы было такое гучанне, бо ў ім адчувалася ні то штосьці ад лясной кветкі, прыхаванай у цяньку, ні то ад аснежанай ёлачкі на лясной паляне. Яна і ў друку беларускім знаходзіла падобныя вымаўленні прозвішчаў — Пушчавічанка, Краўцавічанка і іншыя — і казала сама сабе: «Як гэта хораша, міла...» І тата, і мама не супярэчылі, казалі: «А хто ж ты, як не Лесавічанка? Ты ж наша, Лесавічова, дачка». У гімназіі ёй трапілі ў рукі лістоўкі, якія хутка завялі ў падпольны камсамол. Рамантыка падполля падхапіла Лену на свае крылы. «Ой, божа, як жа шкада нашых людзей, нашых бедных сялян, што яны цярпяць і бясхлебіцу, і вопраткі дзеткам няма, адна мама напрасці на ўсіх не можа, і бегаюць босыя і ўлетку, і ўзімку. Нават дроў не хапае. І зімамі вецер выдувае хаты, і сем'і туляцца на печах... А паліцыянты — няма таго дня, каб не грукалі па хатах — то з падаткамі, то з вобыскамі. І страху няма канца...»

Такія вось і падобныя думкі пасяліліся ў душы Лены, сталі яе штодзённым жыццём... І мары... мары кіпучыя пыталіся: «Калі ж прыйдзе тая воля? Калі ж мы яе здабудзем?»

Па вызваленні, выйшаўшы з турмы разам з Паўлам, Лена не паехала ў вёску, асталася ў наднёманскім горадзе і далей пісала сваё прозвішча — Лесавічанка.

...Лена вярнулася ад сваёй матулі. Пабыла ў тым запаветным наднёманскім куточку, дзе нарадзілася і гадавалася. Нёман там нешырокі, амаль што хаваецца ў раскошных паплавах, што губяцца ў недалёкім лесе, ля якога і прытулілася вёсачка Прылессе.

Раўнінныя, урадлівыя паплавы пакошаны, і духмяныя стагі, здаецца, прыкрылі ад вока шэрую вёсачку. Тут над Нёманам перакінуты не адзін мост, з якога кожны інакш не назавеш, як масток. Бо ж на адным баку Нёмана паплавы-сенажаці, а на другім пескавыя палі, сярод якіх расцягнулася вялікая вёска — Ваўкі. Так і гаспадарылі

тут людзі, біліся з рознымі нядолямі. Былі тут змаганні з панамі — супроць падаткаў, шарваркаў, за беларускую школу. Тады ў барацьбу ўступалі і дзеці, аб'явіўшы школьную забастоўку — супроць прымусовай школы польскай.

І тады сакратаром забастовачнага камітэта была Лена, дзяўчына яшчэ ў гімназіяльным плацці, яшчэ мамчыная дачка, але поўная свядомага запалу, адданасці для сваіх народных спраў. І як добра было пасля розных падпольных нарадаў у заснежаных вёсках прыйсці ў сваё зацішнае Прылессе, да сваёй устрывожанай мамы, павячэраць смачнай бульбы з халоднай квашанай капустай, потым абняць маму за шыю і шапнуць на вуха: «Мамачка, не гневайся, усё будзе добра...» А гэтая мамачка, вядома, змоўчыць. Толькі, затуліўшыся недзе ля печы, змахне ціхую слязу і скажа: «То лезь на печ, нагрэйся, а то намерзлася даволі...»

Бацька маўчаў. Ніколі не распачынаў гутаркі пра Ленiны справы. Толькі калі Лена засне на печы, агледзіць яе чаравікі і, дзе што парвалася ці стапталася, зашые, прыб'е і паставіць гатовыя пад ложак. Рупіцца потым, як заўтра падвезці ў гэтую гімназію, раіцца з сваёй Хрысцінай, што ёй пакласці ў сані з яды, з адзежы. У гаспадарцы скупа. Бацька ходзіць у лапцях. Лена не можа забыцца той шэрай заношанай кашулі, якую бацька, лазячы на гарышчы, парваў на спіне аб цвік. І потым мама ўшыла чорную латку, чорную на шэрым. І яна, гэтая латка, сваімі абрысамі выглядала, як Афрыка на геаграфічнай карце. Думаў бацька: «Гімназія... Гімназія... Ды вось нешта пагаворваюць, што паны зачыняць яе». Дзеліцца гэтымі думкамі з Хрысцінай і кажа: «Няхай бы ўжо яна была. Ну каму яна замінае?» І нешта пераліывае сам сабе Сцяпан Лясовіч. Але больш маўчыць. Толькі працуе беспярапынку — то малоціць жытцо ў сваім гуменцы, то едзе ў лес — вазіць купцу дрэва на сплаў да Нёмана. А вечарамі то робіць сані, то пляце каробкі з ляшчыны або наробіць кляновых лыжак. Усё гэта людзі купляюць на рынку.

Толькі ад нейкага часу была ў яго адна турбота да Лены, калі яна з'яўлялася ў хаце: «Памажы вось гэтаму забастоўшчыку ў задачах, нешта не ладзіцца ў яго». А забастоўшчык — гэта Віця, брацік Лены, вучань трэцяга класа пачатковай школы — чарнявы, як бацька, з вострымі і, як мама часам сварыцца, «жулікаватымі» вачыма.

Лена заўсёды правярала Віцю без бацькавай просьбы і заўсёды аставалася задаволенай. Але вось забастоўка школьнікаў, больш двух тыдняў, асадзіла навуку Віці, і таму бацька ўстрывожыўся. І з таго часу кожны раз пытаўся ў Лены: «Ну як ён?»

Надышоў час, што Лена ў падполлі стала сакратаром райкома камсамола і на гэтай рабоце была арыштавана. Прайшла дэфензіву, у партыю ўступіла ў турме, дзе прабыла пяць год без двух тыдняў. Бо прыйшло яно — чаканае вызваленне пад пяцікутнай зорачкай. Трэба было яго сустракаць.

Апошняя гутарка з Паўлам Верасовічам на Нёмане прывяла Лену ў сваё Прылессе, да сваёй мамы. Ужо калі пераходзіла масток, адчула, што яе агортваюць цішыня, спакой. Усюды рассцілалася сонца задумнага верасня з павуціннем у паветры, якое асела нават на стагі. І да сэрца прыплывала, як заўсёды, радасная трывога: «Як там? Што там? Ці ўсе жывыя, здаровыя? Ці ўсё на месцы? Ці не пакрыўдзіў хто?» Лес за вёскаю ў золаце бяроз на ўскраіне і ў зелені калматых сосен у глыбіні — быццам млее пад праменнямі сонца — прыціхлы, дрымотны. «Ой, хутчэй усё пабачыць, пагаварыць з сваімі роднымі, блізкімі. Бо тады бачылася з мамаю толькі ў горадзе, па выхадзе з турмы. Мама пачула пра бai за горад і прыехала даведацца, ці жывая яе дачушка. «Ой, мама, мама, колькі ты пацярпела праз мяне!» І вось з нутра наплываюць, нагортваюцца яны — слёзы, горкія і шчаслівыя...

Вось і хатка. Яна трохі на адселі, бліжэй да Нёмана. За жэрдкавымі платамі агарода пачынаюцца паплавы. Роўнаю саламянай страхою, як градою, ад сенцаў хаты працягнуліся к паплавам дробныя хлявы: для каня, для каровы, для свіней, авечак, а потым катушок і курам. Хатка з краю вёскі глядзіць пярэднімі вокнамі на вуліцу, а бакавымі на шырокія сенажаці, за якімі ўжо аж пад небам грэецца на сонцы ўзгоркаватае поле, зелянеючы маладою рунню. Хрысціна, маці Лены, не раз скардзілася на такое месца хаты, бо зімою, як павеюць завеі-буры, ёй дасталася найбольш, чым усім хатам у вёсцы. Але затое ўлетку ўся навакольная прырода жыла ў яе вокнах. На падворку перад парогам узвышаліся дзве бярозы, а паміж імі разраслася рабіна. У кутку ад вуліцы ценем аддаваў разложысты, густалісны клён. Агародчык ад вуліцы Лена з старэйшай сястрою засеялі рознымі кветкамі. Усё было тут наладжана на той добры ашчадны лад — і

хата, і што ў хаце, і па-за хатай,— каб у жыцці на пясочна-балотнай зямлі можна было сяк-так звесці канцы з канцамі. Калі не даесці, калі не даспаць, калі пахадзіць і парабіць цераз сілу, калі і якому-небудзь чорту пакланіцца і часта-густа паплакаць над нядоляй.

...— Мама! Мамачка! — ускрыкнула Лена. І Хрысціна з дачкою абняліся ля парога. Нічога не гаварылі, толькі маўчалі ў абдымках, пускаючы слёзы. Лена адхапілася ўрэшце і, трымаючы маму за плечы, глядзела ў яе пастарэлы твар. Толькі шэрыя вочы яшчэ глядзелі жвава, з тою нястомнаю турботай, якая хоча ўсё абагрэць сабою. А мама стала гаварыць дачцэ, што яна, Лена, пахудзела, нават змарнела, на што Лена толькі ўсміхалася і гаварыла: «Няпраўда, мама, гэта табе толькі так здаецца. Я здаровая, моцная, вось магу цябе падняць». І сапраўды, абхапіла сваю маму ў паясніцы і падняла. А мама аж войкнула:

— Ой, ці ты здурэла? Вось шалёная. Бабахі мае хоча растрэсці.

І абедзве засмяяліся, абедзве ў момант пахарашэлі. Пайшлі ў хату.

У хаце не было нікога. Лена паставіла на лаву свой чамаданчык, скінула шэрую, штодзённую куртачку, рэзкім рухам рукі сарвала цемнаватую хустку з галавы і падышла да люстэрка на сцяне. Адтуль глянулі на яе чыстыя цёмна-шэрыя вочы з налётам смутку, праяснёнага ўсмешкай і нейкай прыхаванай задорнасцю, якая вось-вось, здаецца, чымсьці павінна сябе выявіць — можа ўскрыкам, ці рогатам, ці яшчэ чым. Глядзела непарушна і заўважыла, што яна сапраўды за апошні час змарнела. Гэта ўсё выбарчая кампанія ў Вярхоўны Савет. Столькі бяссонных начэй на дзяжурствах у выбарчай камісіі. Вось і нос, просценькі, невялікі, завастрыўся, і шчокі прывялі, пабялелі. Толькі напружанасць на лбе пад цёмнымі валасамі асталася непарушная. Яна не раз загаралася ў дзявочай зморшчцы паміж чарнаватымі бровамі, калі даводзілася з кім сярдзіта гаварыць.

Скочыла зараз жа да вядра, што стаяла на лаўцы ля дзвярэй, зачарпнула ў кубак вады, потым спахапілася, дастала з чамадана мыла, выбегла з ручніком на падворак памыцца. А Хрысціна грукала ўжо ў каморы, нешта рыхтавала на талерцы. Зараз яны — маці і дачка — войдуць у хату, і дачка дасць сваёй маме прыгожую хустку — моцную, бы канаплянку, цёмную ў белых гарошынах, дасць

тапкі — хадзіць па хаце — і ваўняны карычневы світэр. Хрысціна вельмі хапілася іменна за яго, сказала, што «гэта найлепш». Пасля Хрысціна сказала, што трэба пачакаць бацьку. Ён робіць мост на Нёмане, на вялікай дарозе. Павінен вось-вось прыйсці. Віця ў раёне на сельскагаспадарчых курсах, якія нядаўна адкрыліся. І трэба паклікаць Вольгу. Лена сказала, каб мама ішла па Вольгу, а яна пакорміць свіней, дасць курам, пасмажыць яечню з салам і каўбасой і падмяце хату.

— Колькі ж ты хочаш пабыць у нас? — спыталася Хрысціна.

— Дзянькоў пяць. На такі тэрмін у мяне камандзіроўка. Пахаджу тут па нашых сёлах, пабываю ў сельсавеце, пагавару з людзьмі.

Маці доўгім позіркам паглядзела на дачку і ціха паківала галавою, нібы дакараючы, што яна — гэтая «адукаваная ветраніца» — асталася такая самая, як і была. Усё ёй трэба знаць, да ўсяго дабрацца.

...Нядзеля. «Некалі мама называла: «Святая нядзелька»,— успомнілася Лене. Так хораша, спакойна, проста па-святочнаму свеціць сонца ў вокны і навявае хатнюю дрымоту. Паснедалі ўжо, хата чысценька падмецена, прыпек зацягнуты чыстай палатнінкай у кветках. На ёй трапечуць сонечныя зайчыкі. Гэта за акном ківаецца бяроза, і цені лісточкаў палахліва коўзаюцца па палатнінцы. Лена засцяліла ложак неяк па-новаму, бо падушкі ў абодвух канцах узвышаюцца старчком. У хаце толькі Лена з мамай, бацька паехаў у горад да сына. Лена з мамай нагаварыліся, здаецца, даволі і больш маўчаць, паглядаюць у вокны, калі за імі мільгне чый-небудзь цень. Хрысціна вачэй не зводзіць з Лены, проста сочыць за ёю, за яе шчуплаватай постаццю, калі Лена праходзіць па хаце — у цёмна-карычневай сукенцы з белым каўнерыкам, з маленькай брошкай на грудзях. Хрысціна ўпарта разглядае сваю Лену і нешта сама сабе разважае. Лена бачыць гэтую мамі ну «разведку» і непрыкметна ўсміхаецца.

Мама перакінулася на другое:

— То ты заходзіла да Банадыкоў?

— Ага, заходзіла.

— Што ж табе Дамяніся казала?

— Глянула і адвяла вочы, гаварыць не хацела. Памаў-

чала, а потым запрасіла сесці. Сама сядзела якраз за кроснамі — расхрыстаная, раскіданая...

— То бо ж так і жылі — усё захаплялі, усюды перліся, усё ім было мала. І каб хоць не было — столькі зямлі, сенакосу... усяго аж сорак дзесяцін... свет... І вечна палатаныя хадзілі, нямытыя...

— Значыць, зямельку Банадыка падзялілі? — спыталася Лена.

— Падзялілі. Сазончыку Рыбку далі шэсць дзесяцін. Апанасу Хвораму далі больш — нешта сем ці восем, бо ў яго толькі агарод свой і сямёра дзяцей. Петрусю Галавачу не ведаю колькі... Ну, а потым пад школу шмат адвялі.

Лена пабывала ў сельсавеце і даведалася пра падзел зямлі беззямельным і малазямельным. Але, паколькі мама згадала пра Банадыкоў, Лена зразумела, што маме хочацца пагаварыць пра гэтыя такія вялікія змены, і таму Лена толькі намякала гутарку, тым больш што маці расказала пра некаторыя дробязі, аб якіх яна не чула ў сельсавеце. Аб тым, напрыклад, як стары Банадык упаў на калені ў полі, калі мералі яго хутар, і клаў крыжы і бахаў лобам аб зямлю... Маліўся і кляў...

Хрысціна гаварыла далей:

— Яму жыта знайшлі ў яго, і тое пагноенае, нават коні не хацелі есці. А сама Дамяніся пагнала каровы ў лес і там начавала. Гэта каб не забралі... Усё роўна дзве каровы ўзялі для дзіцячага дома. Ім пакінулі чатыры...

— Яшчэ і так добра,— адказала глуха Лена, прыкрытая сваімі валасамі. Яна перавярнулася на другі бок, тварам да акна, а Хрысціна цягнула далей:

— Ды вось Сазончыку нашаму зноў бяда...

— Якая? — перабіла Лена і пачула, што мама смяецца.

— Якая... Дамяніся яму праходу не дае, ловіць на вуліцы і праклінае: «Забраў маю зямельку, каб ты ёй падавіўся». І да таго ўелася, што бедны Рыбка прыйшоў у сельсавет і прасіў, каб забралі ад яго зямлю назад.

Лена смяялася.

— А каб хоць ім не пакінулі. Пятнаццаць дзесяцін. Хіба ж гэта мала?.. Каб у нас было столькі, ці ж мы бы так бедавалі, што, бывала, вясною на адной заціркі і крапіве. А ім, бачыш, мала.

— Ой, мама, як гэта ўсё гадка, недарэчна. Не будзе больш гэтага!

Бацьку Лены прапанавалі тры гектары, а ён згадзіўся ўзяць толькі адзін, бо сваёй было нешта ля трох гектараў.

— Недарма не хацела вітацца са мною Дамяніся,— сказала Лена.

— Вядома,— адказала Хрысціна і ўздыхнула.

У шыбінку акна з лёту стукнуў верабейчык і затрапятаў на рамцы. Лена ціха назірала за птушачкай і паказала маме.

— О... то дзіва. Ад гэтай плоймы адгону няма,— адмахнулася Хрысціна. Яе ўжо зачапіла нейкая другая думка.— А скажы, дочка, вось што я здумала...

Лена насцярожылася — нешта новае.

— Ты ўжо немаладая...— пачала Хрысціна,— прайшла і арышты, і турму... Вось ужо і ўласць новая — бачыш, надзяляе зямлёю бедных. То можа які парадак зрабіла б ты з сабою, а то перарасцеш, то што тады з цябе будзе?

Лена заварушылася і хіхікнула ў падушку.

— Смяешся, як малая. Ці ж я няпраўду кажу? Падумай сама.

— Мама, пра што ты гаворыш?

— Як пра што? Маеш якога хлопца ці не? — адважылася кінуць Хрысціна.

Лена змоўкла і змоўкла надоўга. «Што сказаць? Мама настойлівая, не адвяжашся. Недарма яна мяне сягоння неяк асабліва разглядала. Ну і дыпламат мама». І Лена адказала так, каб маме не было крыўдна:

— Не, мама, не маю. Але, як захачу, буду мець.

Хрысціна маўчала, разбіралася з такім адказам дачкі — што і да чаго.

— Як гэта? Як захачу...

— Мама, такі трывожны час цяпер. Ну выйдзеш замуж, будзе дзіця — ну куды я з ім дзенуся? У мяне ж няма часу ні хвіліначкі. Што — няньку наймаць?

— Усё роўна трэба гадаваць, як яно ні ёсць. Я вас, як ні цяжка было, ▪ пагадавала. Вось бачыш, якая ты сама вырасла, і з мужыкамі гутаркі вядзеш...

— Цяжка, мама, вельмі будзе цяжка. Я яшчэ як след не падумала пра гэта. Баюся.

— Падгадуеш малое, а потым прывязеш да мяне, я пагадую. Толькі выберы сабе чалавека — каб, крый божа, не п'яніцу якога.

Лена смяллася на ўсе грудзі, падняла галаву, пацалавала маму, і на гэтым скончылася старая, былая мамiная ласка.

— Ой, мама, ты яшчэ многага не знаеш...

— То дзіва. Дзе мне знаць? Маладыя цяпер лепш за нас знаюць. А мы што? — неяк з адценнем суму адказала Хрысціна.

## Раздзел другі

## НЕАСТЫЛЫ ПАФАС

Мопраўскі з'езд адбыўся ў каралеўскім палацы XVIII стагоддзя, у мармуровай ружаватай залі, акантаванай па кутках пазалочанымі вензелямі. У ім пасля вызвалення размясціўся абком партыі.

З'езд сілай нейкай інерцыі аказаўся не абласным — выйшаў за берагі вобласці,— на яго без запрашэнняў злязелася нямала былых вязняў фашызму з усёй нядаўна вызваленай краіны.

За доўгім сталом, накрытым суконнай чырванню, сядзеў прэзідыум. Павел Верасовіч з застылай усмешкай аглядаў прысутных, якія размясціліся ў бліскучых крэслах. Гэта таварышы па зброі: многа яўрэяў — прадстаўнікоў горада, не ўступаюць па колькасці беларусы — прадстаўнікі вясковай галоты, і потым рабочыя — таварышы адпольскія, якіх меншасць. Павел па вопратцы пазнае, адкуль, з якой мясцовасці хлопцы і дзяўчаты. Вунь вылучаюцца збоку цэлай грамадкай саматканыя чорныя касцюмы, быццам толькі што ўзятыя з каморы — пругкія і гладкія. Гэта людзі з лясных мясцовасцей, адкуль далёка да горада. Гарадскія ў касцюмах спраўных, рознакалёрных — чорных, цёмна-сініх, шэрых. Але пры ўсёй стракатасці вопраткі ўсіх яднаў выраз вачэй — задуманы. Уся гісторыя барацьбы прывяла іх сюды.

Павел вярнуўся ад Хмыза, паспеў пабываць у Маскве, каб атрымаць білет дэпутата Вярхоўнага Савета СССР, і цяпер сядзіць са значком у кляпе шэрага касцюма. За ім у другім радзе глядзіць з-за яго пляча Лена. Яна, пасвяжэлая пасля адведзін мамы, таксама разглядае ўсіх. У яе прыцішэлых вачах і на мяккіх, амаль дзявочых, шчоках застыла задаволенне, супакаенне.

У залі цішыня. Так слухаюць даклад. Побач з трыбунай, абапёршыся на яе правай рукой, стаіць танклявая,

сярэдніх год жанчына ў цёмна-шэрым плацці. Твар у яе даўгаваты і далікатна-схуднелы. На ім пад навісам шатэнавых з сівінкай валос неяк высакародна вылучаецца лоб, адзначаны тым, што завецца натхненнем. Яна гаворыць. Голас гучыць з упэўненасцю, з літаратурнай дасканаласцю. Гучыць у ім пафас пераканання, рэвалюцыйнай эрудыцыі, яна намагаецца абхапіць усё людское, што церпіць на зямлі ў пакутах, у голадзе, у цемры, у змаганні за сваю вялікую свабоду.

Гэта гаворыць адзін з ідэалагічных кіраўнікоў палескага паўстання ў трыццатых гадах — былы сакратар акругкома КПЗБ таварыш Вяргіня. Яшчэ нават і цяпер, па вызваленні, не ўсе ведаюць яе прозвішча. Ведаюць толькі псеўданім — таварыш Вяргіня. І яшчэ тое, што яна адукаваная, верная партыі яўрэйская інтэлігентка. І што яна ў часе нападу гітлераўцаў на Польшчу вырвалася з турмы з-пад нямецкай граніцы і адтуль пад бамбёжкамі прыйшла ў наднёманскі горад. І яе тут назначылі старшынёю абласнога камітэта МОПРа. Заля затаіла дыханне, калі яна, адкрыта гледзячы, здаецца, кожнаму ў вочы, гаварыла аб муках, цярпеннях палітзняволеных у Іспаніі, аб трагедыі Іспанскай кампартыі. Допыты... Катаванні... Расстрэлы... Люты фашысцкі тэрор...

Ад яе профілю кідалася нешта падобнае да профілю Розы Люксембург.

Даклад не быў доўгім. У ім перад слухачамі чарадою праходзілі і лічбы — нават нямала лічбаў, але яны не нудзілі нікога. Яны гаварылі аб тысячах паняволеных камуністаў краін капіталу. Гэта былі лічбы колькасці прафсаюзаў і іх членаў. І тут жа яскрава асвятлялася буржуазная палітыка да іх — і тактыка прафсаюзаў у сваёй масавай барацьбе. Асвятляліся глыбінныя працэсы неспакойнага свету ў вялікім размаху класавай барацьбы, якія заўсёды адчуваюцца слухачамі і пра якія гаворыцца толькі потым, амаль на адзіноце.

Пачуццём трывогі поўніліся сэрцы слухачоў. Здавалася, што недзе над землямі, акіянамі гудзе набат і кліча на апошнюю рашучасць. А тон дакладчыцы якраз не крыклівы, а, наадварот, роўны, стрыманы, непаспешлівы — грунтоўны і просты.

Пачуццё набатнай трывогі добра знаёма слухачам. Яно нарадзілася ў іх у кайданных паходах пад паліцэйскімі штыкамі, у дэфензівах, дзе на грань жыцця і смерці ставілася іх існаванне...

Дакладчыца пачала гаварыць аб гітлераўскай навале, аб ролі сфашызаванай Германіі як авангарда сусветнай буржуазіі супроць заваёваў рабочага класа і яго авангарда ў маштабе ўсёй зямной планеты, у першую чаргу заваёваў рабочых і сялян на прасторах былой царскай Расіі. Сказаўшы аб масавых знішчэннях людзей у акупаваных краінах — у першую чаргу камуністаў, пачынаючы з самой Германіі,— таварыш Вяргіня хоць у асцярожных і кароткіх словах, але сказала, што напад гітлераўцаў на Савецкі Саюз магчымы, а па ходу падзей можа і непазбежны. На гэтым пункце ўнутраныя супярэчнасці буржуазіі могуць прыціхнуць.

Усё ясна, усё зразумела. Толькі дайце дарогу да дзеяння... У душах столькі запалу, непераможнага жадання — рабіць, тварыць, а значыць — любіць і ненавідзець.

У выступленнях пасля даклада некаторыя таварышы, хоць і скупа, гаварылі аб роспуску партыі і адзначалі, што хоць гэтая бяда і здарылася, аднак «тое, што мы перажылі, зрабілі, ніколі не забудзем і ідэі камунізму панясём далей, што б нам ні пагражала».

Павел Верасовіч у сваім выступленні заклікаў, што, нягледзячы на такое становішча, трэба вучыцца, авалодваць навукамі, не толькі палітычнымі, але і іншымі, каб быць ва ўзбраенні, як камуністы, каб не аслабець, а значыць — не памерці...

Дала волю свайму імпэту Лена Лесавічанка. Яна адкрыта сказала: «Я не хачу верыць у тое, што КПП [1] і яе філіялы — КПЗУ [2], КПЗБ [3] — вінаваты ў тым, у чым іх абвінавачваюць. Усё тварылася на нашых вачах. І ніхто лепш не ведае, як мы, як было, як рабілася. Мы схадзілі гэтую нашую зямлю сваімі нагамі, і няма таго кутка і куточка, дзе б мы не былі і не бачылі, як жывуць, як думаюць нашы людзі. Мы пазнавалі іх, хто з намі, а хто супроць нас. Ад нашага вока нічога не магло схавацца...»

У зале ўзняўся рух. Слухачы пераглядаліся, вясёлымі вачыма глядзелі на Лену, і часам дабротны смех спадарожнічаў ёй.

— Смеяцеся? — адказвала на смех Лена.— Добра цяпер смяяцца, а прыпомніце, як дэфензіўшчыкі выкідалі нашых хлопцаў, закатаваных насмерць, у канавы пры

---

[1] КПП — Камуністычная партыя Польшчы.
[2] КПЗУ — Камуністычная партыя Заходняй Украіны.
[3] КПЗБ — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі.

шляхах. Дзе гэта не было? Можна сказаць, усюды — ад Вільні і да Пінска, ад Брэста да Стоўбцаў, нямала нашых людзей, скалечаных у дэфензіве, потым памірала ў турмах. Ой, ды што гаварыць? Увесь наш народ гэта ведае...

Таварыш Вяргіня ўстала, падышла да Лены і нешта шапнула ёй на вуха. Лена кіўнула носікам і хутка закончыла.

Воплескі шумелі доўга...

Назаўтра з'езд закончыўся спевам «Інтэрнацыянала», і кожны адчуў, што гэты з'езд быў не толькі мопраўскім, але і з'ездам КПЗБ. Гэта падкрэслівалася не толькі тым, што на з'ездзе была пераважная большасць членаў КПЗБ, але і тым, што таварыш Вяргіня па сканчэнні з'езда склікала ў асобны пакой свайго роду актыў і гаварыла, як трымацца.

Бо кулацкія сынкі пралазяць у кааператывы, выкупляюцца ад ваеннай службы... Трэба іх як мага выкрываць у апоры зноў-такі на камуністаў, што прыехалі з усходу.

Таварыш Вяргіня ў канцы пацешыла ўсіх навінай, што не трэба думаць, што справы КПЗБ не будуць разглядацца. Не, яны ўжо разглядаюцца. Пры гэтых словах усе яшчэ цясней абступілі Вяргіню і востра напружылі слых, каб дзе чаго не прапусціць. Асабліва ўцешыла тое, калі таварыш Вяргіня сказала, што ёй з групай таварышаў, былых членаў КПЗБ, давялося пабываць у Маскве, у Камінтэрне, і гаварыць пра капэзэбоўскія справы. Усе непрыкметна з палёгкаю ўздыхнулі. Вяргіня, скончыўшы, кожнаму паціснула руку, пакідаючы таварыскія цёплыя словы на развітанне, і з усёй групы затрымала Лену Лесавічанку. Зычліва ўзяла яе пад руку, і яны пайшлі ў другія дзверы, каб прайсці кудысьці сярод гэтых незлічоных пакояў былога каралеўскага палаца.

Павел выйшаў на шырокі палацавы падворак і затрымаўся перад дошкай аб'яў, што бялела тут жа направа ля ганка. Вісела на ёй вялікая афіша, задрукаваная вялікімі чырвонымі літарамі. Яна абвяшчала, што прыехаў з Мінска беларускі драматычны тэатр і сягоння ставіць п'есу Кандрата Крапівы — «Партызаны». Трэба пачакаць Лену. Яна яшчэ гэтага твора на сцэне таксама не бачыла.

Недалёка побач цягнулася паласа бэзавых кустоў, і пад імі туліліся лаўкі. На адну з іх воддаль прысеў Павел. З задаволеннем абапёрся плячыма на спінку, адчуў стамленне. Хацелася вось так і сядзець, не зварухнуць нават пальцам. Глядзеў перад сабою на другі бок падворка, ба-

чыў, як праходзілі людзі, але нікога не хацелася пазнаваць. Недзе далёка ў глыбіні душы варушыліся адгалоскі, як пасля шуму натоўпу, які аддаляецца і аддаляецца. Але вось цяжкаю хадою зышоў са сходкаў ганка Веньямін Башкоўскі. Павел хацеў яго паклікаць, але — махнуў рукою. У Башкоўскага, як ён сам казаў учора, кепскі настрой. Павел правёў яго вачыма і падумаў: «А мы ў турме прарочылі яго іменна на старшыню камітэта прафсаюзаў — няхай і абласных. Башкоўскі — ёмкая, плячыстая постаць, крыху нахіленая наперад, асабліва пры яго грузнай хадзе. Башкоўскі — узор разважлівай сталасці, памяркоўнасці. Яго аналітычны розум здабыў сабе сімпатыю ўсіх, хто яго ведаў. Натхненнем яго жыцця стаў марксізм. Але разам з такімі паважнымі якасцямі ў гэтым грузным чалавеку, як нешта непатрэбнае, была наіўнасць. Можа гэта быў астатак яшчэ таго мурзатага, абарванага дзяцінства ў шматдзетнай яўрэйскай сям'і, якая гадавалася наўкол бацькоўскага шавецкага варштата ў задымленай, напаўцёмнай хібарцы на адной з ускраінных вуліц наднёманскага горада. А можа не выдыхалася яшчэ тая вечная прыгнечанасць, праз якую глядзелася на жыццё».

Павел выняў з партфеля блакнот і пачаў запісваць уражанні ад з'езда. Запісы закончыў фразамі, здаецца, не маючымі нічога супольнага са з'ездам. Гэтыя думкі даўно панавалі ў галаве. І даволі ўзяцца за аловак, каб яны выплылі наверх. Запісаў: «Трэба паплысці па Нёмане. Сапраўды, цяпер, пасля збройнага змагання, можна ўжо плыць. На прыстані стаяць два параходзікі — адзін «Пушкін», другі — «Лермантаў», гатовыя к плаванню. Гэта перайменаваная спадчына ад акупацыі, называліся: «Ягайла» і «Ядвіга».

...Блізка зашаргала трава ў кагосьці пад нагамі. Павел падняў галаву, сустрэўся вачыма з Ленай. Запрасіў сесці, сказаў аб прыездзе беларускага тэатра з Мінска.

— Я ўжо чытала,— адказала Лена і неяк загадкава змоўкла, гледзячы перад сабою. Гэтага не мог не заўважыць Павел.

— Чаму нічога не гаворыш? Можа сходзім у тэатр?

Лена ажывілася і раптам павярнула галаву да Паўла. На пачырванелых шчоках і цёмных вачах застылі сляды яшчэ няскончанага хвалявання, праз якое на вусны прабілася быццам няпрошаная ўсмешка.

— Сходзім, вядома, сходзім... Ой, гэта ж так добра. Мы ж ніколі не бачылі свайго тэатра. Апроч сваіх гурткоў, што самі стваралі. Дый тыя разам з Грамадою пайшлі ў прорву пад паліцыянцкімі штыкамі.

Лена ўздыхнула і змоўкла, неяк бязвольна апусціўшы рукі на калені. Павел глянуў на яе мяккі профіль і сцвердзіў (ужо каторы раз): «Яшчэ дзявочы... дзявочы». Глянуў на гадзіннік і звярнуўся да Лены:

— То можа сходзім паабедаем? Возьмем, як учора, блінцы з мачанкай. Бачу, ты рассумавалася чагосьці. Не варта. Нішто ў наш час не лёгка на свеце. Пойдзем.

Яны падняліся, пайшлі.

У рэстаране «Нёман» Лена разглядала меню і гаварыла да Паўла:

— Ты казаў — блінцы з мачанкаю. А што больш ці нічога?

— А што ты хочаш?

— Мне вельмі захацелася бульбы з селядцом. Я даўно гэтага не ела.

Павел затрымаў позірк на Лене і прамовіў:

— Да бульбы з селядцом патрэбна чарка. Хочаш чаркі?

Твар Лены зрабіўся жартоўным. Яна падняла вочы ад меню і праз зубы ціхенька працадзіла, падняўшы пальчык:

— Адну... малюсенькую... маміну...

Падышла маладая напудраная падавальшчыца з блакноцікам у руцэ, абдала густым пахам парфумы і звярнулася па-польску:

— Цо собе панове жычон? [1]

Павел з Ленай пераглянуліся — разанула іх па вушах гэтае «панове». Падавальшчыца-работніца і ўвесь рэстаран выглядалі неяк па-панску. Асабліва прыгажосцю пасуды: талерак, талерачак, нажоў, відэльцаў, гранёнасцю графінаў, адмысловых чарак, бакалаў... Усё аглядалася з прыемнасцю не толькі таму, што ўсе гэтыя рэчы сапраўды прыгожыя, але і таму, што цяпер, па вызваленні, і рабочы, і селянін могуць зайсці сюды без страху. Скончылася панская манаполія.

І сапраўды пачалі заходзіць «свае людзі» — то групамі, то па адным,— са скруткамі газет у руках, а некаторыя з кніжкамі пад пахамі. У таго-сяго з нагруднай кішэнькі пінжака або фрэнча тырчаў аловак. Гэта ўжо людзі для новага, у якіх сваім разуменнем і смакам заірдзелі ў душы

---

[1] Даслоўна: «Што сабе паны жадаюць?»

тыя іскры, якія рассеяла на свеце Кастрычніцкая рэвалюцыя.

Вунь прамільгнула між гасцямі шэраваласая энергічная галава Валодзі Саснаўца з непакорным чубком над ілбом — такім, што не паддаецца ніякаму грэбеню. Саснавец — парадны, зусім парадны, у чорным адпрасаваным касцюме, а пад ім ды яшчэ жылетка, а пад жылеткай — белая кашуля і чорны гальштук з накідам зеленаватых зорачак. У кляпе касцюма ў кругленькай металічнай абводцы вобраз Леніна. Адважныя шэрыя вочы пад русаватымі брывамі ўпэўнена разглядаюць залю. Ён сеў і паклаў рукі на стол разам з папкай.

Павел узяў яго на вока. Глядзіць і не адчувае, як яго вусны шэпчуць: «І дзе ён так убраўся? Што за постаць!» Уяўляе сабе гэтага ціхага і парывістага хлопца; калі кінулі яго ў камеру, дзе прабываў Павел, ён вельмі здзівіўся, што тут, у турме, пасля вячэрняй паверкі можна слухаць лекцыі па палітычнай эканоміі, па праграме Камінтэрна. Усе гэтыя вартасці перахоўваў вылучаны на такую функцыю адзін камсамолец, перахоўваў іх глыбока ў сцяне, апускаючы іх кожны вечар на шнурку ў тую вентыляцыйную аддушыну. Калі тога камсамольца вызвалілі — быць вартаўніком над гэтымі асветнымі вартасцямі папрасіўся камсамолец Валодзя Саснавец. Яму і даручылі. Потым бачылі яго спрыт, спрыт не толькі з вартасцямі, але і з пасылкай грыпсаў [1] шнурком («канём») і прадуктаў таксама «канём» — ці ўніз, ці ўверх, ці ў бакі — таварышам па няволі. Увечары, ужо цёмна, калі ўсе ляжалі на нарах, ён прыходзіў да Паўла паляжаць, паўтарыць лекцыю з памяці і пагаварыць аб розным — і смешным, і трагічным. Калі Павел рабіў ранкамі гімнастыку адзін, далучаўся Валодзя і пераймаў усе рухі Паўла. Гэты хлопец, які рваўся наперад, хацеў рабіць многае і немалое. Вызваленчыя ідэі яшчэ ў паўнаіўным успрыняцці былі ўжо для яго паклічам да храбрасці, подзвігу.

Вызваленне застала Валодзю Саснаўца ў Лукішскай турме ў Вільні. Ён даседжваў там свой сёмы камсамольскі год. Пасля трохгадовай «дзяжуркі» ў Гродзенскай турме, адкуль выйшаў, калі на плечы яму лягла дзевятнаццатая вясна, Валодзя праз год быў арыштаваны зноў і атрымаў ужо не «тройку», а «пяцёрку».

Калі ж прыйшло да таго, што камуністы, вырваўшыся

---

[1] Грыпс — назва турэмнай запіскі.

з Лукішскай турмы, узброіліся і хутка авалодалі становішчам у горадзе, Валодзю Саснаўца вылучылі камендантам горада. Ён хутка змяніў турэмную бадзягу на дыяганалевы фрэнч ахоўнага колеру, такое ж галіфэ, шапку і бліштчастыя афіцэрскія боты. Зазяў пояс з партупеяй цераз плячо, а на поясе ўрэшце павіснуў у жоўтай кабуры ён — той легендарны наган, які ў 19-м церабіў дарогу свабодзе праз натоўпы контррэвалюцыі — там, на неаглядных прасторах Расіі.

Вось і споўніўся сон у турэмную ноч. Вакзал, паштовыя ўстановы з тэлефонамі, адміністрацыйныя ўстановы, пачынаючы ад ваяводства, ваенныя, чыгуначныя склады, фабрыкі, заводы, магазіны, казармы, бальніцы, водаправод — словам, усе артэрыі горада і іх вузлы былі абстаўлены камісарамі з чырвонымі павязкамі на рукавах і, вядома, з вінтоўкамі ў руках. Валодзя Саснавец працаваў дваццаць чатыры гадзіны ў суткі, і нават здабытая недзе легкавая машына з шафёрам не памагла яму вылучыць хоць гадзінку для сну. Толькі ў сваім кабінеце, былым кабінеце ваяводы, расцягнуўшы рукі локцямі на стале, падаў на іх галавою і засынаў, наблізіўшы тэлефон да самага вуха. Вядома, не адбылося без арыштаў. Узброеныя групы за групамі, з рабочых і былых палітзняволеных, хадзілі па горадзе з тэрміновымі, экстраннымі заданнямі — абшукаць. І калі знойдзецца нязданая зброя — арыштаваць; калі на пытанні будуць нахабныя адказы — арыштаваць; калі знойдуцца палкоўнікі Пілсудскага — арыштаваць; калі ксяндзы будуць перахоўваць падазроных, ды яшчэ са зброяй, арыштаваць разам з ксяндзом. Лавіць правакатараў, якія зневажаюць рэлігійныя культы. Тут жа, зараз, пад наглядам камісараў аднавіць працу хлебапякарняў. Сабатажнікаў арыштоўваць... І ўсіх туды, туды, дзе гадамі гібелі «мы — маладое племя Заходняй Беларусі, Літвы, Заходняй Украіны і Польшчы».

Яны моўчкі з'елі абед, расплаціліся з напудранай падавальшчыцай, здаецца, абыякавай да ўсяго, і выйшлі.

Можна было ісці да сваіх устаноў. Але, так ці інакш, дзень ужо з'езд разабраў. Пайшлі павольна ўніз, у напрамку к Нёману, міма рыначнага трохкутніка, які ў скупленні крамаў і крамачак, якія помняць іх заснавальніка князя Вітаўта, рабіў уражанне нейкага цаглянага лому. Па беразе Нёмана зайшлі на тое самае ўзвышша, на якім сталі першы раз па вызваленні. Селі, быццам прытуліліся спінамі да сасонніку. Глядзелі на горад. Маўчалі...

## АДНА СТРУНА

Сакратар гаркома партыі Якаў Іванавіч Славінскі, калі з прыёмнай яму сказалі, што прыйшлі людзі, выйшаў з-за стала на сярэдзіну свайго кабінета, залітага сонцам, каб прыняць нібы асаблівую дэлегацыю. Вось яна і ўвайшла ў кабінет. Наперадзе таварыш Вяргіня ў шэрай «настаўніцкай» куртачцы, з невялікай чорнай сумачкай у руцэ. За ёю крочыць Павел Верасовіч, за ім Лена Лесавічанка. Шэсце замыкаў Веньямін Башкоўскі.

Сакратар усіх вітаў поціскам рукі і светлай усмешкай. Запрасіў сесці і ўрэшце сеў сам.

Усе з мясцовых камуністаў, і не толькі камуністаў, хто ведаў сакратара Славінскага, гаварылі пра яго з прызнаннем, пашанай — адчувалі ў ім разумнага чалавека. Так думалі і сябры, якія ўвайшлі ў кабінет, дзе можна было, як кажуць, сагрэць душу. За плячыма Якава Іванавіча было ўжо нямала год сакратарства па сельскіх раёнах усходняй часткі Беларусі ад першых дзён рэвалюцыі. Сябры, на чале з Вяргіняй, адчувалі ў ім дыханне сапраўднага камуніста. Рускую і беларускую літаратуры ён ведаў, і ведаў нядрэнна. Не раз у гутарцы ўспамінаў Гогаля і тады смяяўся ад душы, а з беларускай — яго цешылі навелы Якуба Коласа і байкі Крапівы. Відаць было, што Славінскі па-сапраўднаму адчуваў рытм народнага жыцця і ім на самай справе дыхаў, жыў.

Славінскі спакваля аглянуў прысутных вялікімі шэрымі вачыма на даўгаватым, крыху адзначаным рабацiннем, твары і пачаў гаварыць аб мопраўскім з'ездзе. Прасіў прабачэння, што не мог папрысутнічаць. Прычына: вымушаны быў паехаць на фанерную фабрыку. Расказаў Славінскі і пра іншыя заводы, фабрыкі, хваліў рабочых за прыхільнасць, за послух, цярплівасць.

— Мы вас, таварышы, будзем выкарыстоўваць як агітатараў, прапагандыстаў, будзем выбіраць, назначаць вас у розныя камісіі — для праверкі вытворчасці, школьных спраў і гэтак далей.

Уся чацвёрка сяброў злёгку ўсміхнулася, унутрана адабраючы Славінскага.

Раздзел трэці

## РОЗДУМ...

Яна — Лена Лесавічанка — усё ж такі адважылася паехаць у Маскву да Паўла Верасовіча. Павел у Маскве ўжо даўнавата. Так здаецца Лене, бо гэтае «даўнавата» нешта два месяцы. Ад'ехаў пасля вяселля, таго вяселля, на якім былі ўсе таварышы і таварышкі па турме і ўсе таварышы і таварышкі з усходу на чале з Якавам Славінскім. Ездзілі і да мамы ў тое паплаўное Прылессе. Усё зрабілі «па закону», па традыцыі. Так пакіравала Лена. Толькі замест царквы быў загс.

Трэба сказаць, што сапраўднае вяселле адбылося раней. Гэта было тады, калі Павел з Ленай, пасля з'езда, выйшлі з тэатра, дзе глядзелі п'есу Крапівы «Партызаны».

...Горад атульвала тонкая асенняя дымка, прасвечаная ліхтарамі. Над паркам спыніўся месяц — чысты, бліскучы — і, здаецца, разглядаў усе яго куткі і закуткі. І так вось, не саромячыся, разглядаў і Лену з Паўлам на аддаленай ад цэнтра парку лавачцы пад клёнамі, з якіх па адным асцярожна падалі пажоўклыя лісты.

Лена з Паўлам пераказвалі адно другому свае ўражанні ад п'есы Крапівы. Асабліва давала волю свайму захапленню Лена.

— Ой, я сядзела як прыкаваная... Я і цябе не бачыла, што ты сядзіш побач. Я глядзела толькі на сцэну і праз яе бачыла ўсё нашае беларускае жыццё.

Павел адказаў:

— Я вось таксама захапляўся п'есай, але разам з тым адчуваў і нават бачыў, што са мною побач сядзіць нейкае дзяўчо, па твары якога плывуць слёзы... плывуць і плывуць...

Сказаўшы так, зазірнуў у твар Лены, а яна далонню адхіліла яго і нават крыху пакрыўдзілася.

— Ух які ты... Такая я ўжо слязлівая. А можа я і не чула гэтых слёз?..

— Ну добра, не чула. Мусіць, сапраўды не чула. Веру, дзяўчынка,— неяк паважна, нават сухавата, гаварыў Павел і гладзіў «дзяўчынку» па валасах, туліў да сябе гэтую мілую дзявочую галоўку, якой нешта дваццаць тры ці дваццаць чатыры гадкі. Лена прыўзнімала галаву ад грудзей Паўла і прытулялася зноў да іх шчакою — слухала,

як б'ецца сэрца вось гэтага ветліва-спакойнага, няўступлівага сябра, які так мала гаворыць пра свае цярпенні.

Павел не помніў — цалаваў ён калі-небудзь жанчыну ці не... Не, нешта было некалі, нешта такое нясмелае, ружовае, але так даўно, што быццам яно зайшло за гару, як тое сонца вясною. А цяпер на руках тварык з простым, задзёртым носікам і з цёмнымі бліскучымі вачыма, якія Паўлу хочацца назваць зорачкамі. І Павел неяк няўмела туліць да сябе яе, ласкавую, дакранаецца вуснамі да яе вуснаў, нібы баіцца штосьці парушыць, папсаваць у гэтай жывой гармоніі пачуццяў.

Так... Вось гэта і было сапраўднае вяселле ў прысутнасці паркавай цішыні і таго бліскучага, чыстага вартаўніка-месяца, які спыніўся над імі і нікуды не хацеў плысці...

...Поезд імчаўся праз прасторы шэрых, прыціхлых палёў і праз цёмныя лясы, яшчэ прызалочаныя апошнім лістападам. Хоць пагрукваці колы на стыках рэек, на душы ў Лены было ціха. Можа ад таго, што здавалася ёй, што і на свеце, які яна бачыла з акна, усё прыціхла, каб паслухаць апошняе дыханне восені. Можа яшчэ ад таго, што Лена вынырнула з свайго заходняга закутка ў шырокі свет, якога яна яшчэ не бачыла. Цікавасць да нябачанага на першы позірк замінае ўсё, што было ўчора і што недзе робіцца і цяпер — там, над Нёманам, у віры непаголеных мужчын і твараў пад хусткамі і без хустак, без меры прысыпаных пудрай.

Такія вось снуюцца думкі ў Лены. Сядзіць яна, абапёршыся локцем аб столік, падпёршы шчаку далоняй, і снуе думку за думкай, як тая гаспадарная маці на сваёй гаспадарцы. Тое не так, тое не гэтак. А трэба вось так і так. Вось Павел запрасіў, каб прыехала, бо яна напісала яму пра сябе нешта такое, аб чым трэба параіцца. Пачынае ўжо часам нудзіць, падпіраць пад грудзі, і чамусьці вельмі хочацца сала. Яна і ўзяла яго на дарогу — духмянага мамінага падарунку. Няхай і Павел пацешыцца.

Едзе Лена і ўслухоўваецца ў самую сябе. Недзе нешта творыцца дзень за днём у гэтай шчуплаватай істоце, якая, нягледзячы ні на што, аддала сваю адменную даніну жыццю. Як сустрэне яе Павел? Як яна сама сустрэне Маскву? Як-ніяк, хоць за акном праплываюць рускія пейзажы — палі, лясы, лясныя паляны, рэкі — вядома, падобныя да беларускіх, але ўсё ж такі Лена адчувае сябе так, што едзе яна ў нешта невядомае, далёкае. Лена ніколі не бачыла Масквы — толькі чытала пра яе — у гісторыі, у аповесцях,

раманах. І ад гэтага, як і трэба чакаць, склалася сваё ўражанне аб ёй. Ці такая будзе Масква, як ёй яна ўяўляецца? Павінна быць такою — нейкай шырока-шумлівай, барадата-рускай, капялюшна-інтэлігенцкай, з прыгожай мовай — мовай... Тургенева, Талстога, Горкага. Пры такіх думках ахапляе Лену такое для яе прыгожае пачуццё, што ёй хацелася б вярнуцца ў тыя маскоўскія, студэнцкія часы і праспяваць з сябрамі, напрыклад, «Из страны, страны далекой»... І Лена тут жа ўспамінае, што гэтую песню добра часам спявае Павел.

Калі поезд праходзіў па былой савецка-польскай граніцы, Лена пільна ўглядалася праз шыбіну, прытуліўшы да яе свой носік. Бачыла, што нават захавалася яшчэ тая дэмаркацыйная мяжа, што столькі пакут нарабіла народу. «Каб хутчэй пабудаваўся сацыялізм — можа інакш пакіравалася б нашае жыццё, можа людзі з розных нацый больш давер'я набралі б да сябе,— думала Лена. — Сацыялізм — гэта ж так добра, чалавечна, без багатых і бедных, без гэтай адвечнай крыўды паміж класамі і народамі».

У Мінску Лена выходзіла з вагона. Прайшлася па пероне, зайшла ў вакзал, а потым выйшла і на плошчу. Хацелася пайсці ў гушчыню драўляных домікаў, што направа запалі ў даліну, схаваныя ў садках. Але на гэта няма часу — другім разам. Спадабалася ёй тое, што дыхнула ў душу ад Мінска — гэта подых чагосьці знаёмага, хатняга. Лена вярнулася ў вагон, села на сваё месца, і адразу думкі павялі ў Вільню. Лена была ў Вільні не раз — і зімою, і вясной. А ўсё па справах барацьбы за сваю свабоду. І Лена закахалася ў Вільню. Там кавалася вызваленчая думка, і прыдушаная сумная песня беларуская там выходзіла на прасторы.

Тоўсты грамадзянін у дыяганалевым фрэнчы ваеннага колеру, у скураным чорным плашчы, які ўвайшоў у купэ ў Баранавічах, нават адняў вочы ад газеты, якую чытаў, і доўгім позіркам спыніўся на Лене. Лена не глянула на грамадзяніна, хоць заўважыла яго такі рух. Чакала пытання ад гэтага незнаёмага, у якога пад носам размясціўся крылічок недагаленых вусоў. Пытання не было. Грамадзянін зноў уткнуўся ў газету, і Лене можна было далей снаваць мазаіку свайго роздуму. Але замест гэтага яна пасцяліла хустку на падушку, лягла, падкурчыўшы калені, і стуліла стомленыя вочы.

Поезд імчаў, поезд закалыхваў...

## СВАІМІ ВАЧЫМА

Лена не выйшла з вагона, а проста вырвалася, хоць і выходзіла апошняй. Не спяшалася — чакала, каб астоялася сэрца, каб яно спакойна ўспрыняло сустрэчу з Паўлам і з Масквою. Больш адчула, чым убачыла навочна, што яна ўжо ў вагоне адна, і тады пабегла з усіх ног. А ў душу ўжо наплыло крыху трывожнага смеху: «Павел, напэўна, паспее падумаць, што мяне няма». Але вось і прыступкі, ды такія няўклюдна-вузкія, што можна лёгка з іх саскаўзнуць. Яна з трывогай глядзіць сабе пад ногі, трымаючы чамадан у правай руцэ, а леваю ўчапіўшыся за парэнчу. Але, злазячы так, яна і не ўбачыла, як чыясьці рука выхапіла чамадан, а другая самую Лену схапіла ў абдымку. Перад Ленаю стаў — нос у нос — малады чалавек у акулярах. З-пад цёмна-шэрага капелюша ладна выглядаў бялявы, свежы твар. Праз акуляры Лена ўбачыла і пазнала тую насцярожаную, спакойную ўсмешку, якая нема гаворыць аб сабе,— усмешку Паўла. І тады схапіла яго за галаву, так знаёмую ў сваіх абрысах. Адважна і проста пацалавала ў губы. А ён, трымаючы чамадан у левай руцэ, праваю схапіў яе пад руку. І яны пайшлі па пероне пад навесам — доўгім, доўгім навесам. Павел па дарозе задаваў Лене тыя звычайныя пытанні, якія задаюцца пры сустрэчах: «Як ехалася? Ці задаволена дарогай? Як чуешся наогул?» І гэтак далей. Яна адказвала больш паўсловамі іківўкамі галавы, а сама ўжо аглядала яго добротнае цёмна-шэрае асенняе паліто, ды яшчэ з поясам, акуляры ў рагавой аправе — бліскучыя, сімпатычныя, ад іх і твар Паўла свяціўся сваёй адменнай вымовай: і старой Паўлавай — сумнавата-задуманай, і новай — усмешлівабадзёрай. Усё гэта для Лены было нова, бо Павел выехаў быў у Маскву ў летнім паношаным плашчы, што і было ў яго ўсяго багацця. А цяпер на ім такое дабранае, харошае паліто, капялюш і акуляры. Павел сапраўды падобны да тых маскоўскіх студэнтаў, пра якіх яна марыла ў поездзе.

Лена, вядома, не памылілася ў сваіх думках — Павел сапраўды стаў студэнтам, і студэнтам такога цікавага інстытута, які сабраў у сабе ўсю прыгожую філасофска-этычна-эстэтычную мудрасць чалавецтва. Павел стаў студэнтам ІФЛІ, што азначае «Институт философии, литературы, истории». І туфлі ў Паўла акуратныя, новыя і недарагія. Як і трэба студэнту. Лена задаволена Паўлам,

і сама не адчувае, як шпарка ідзе з ім у нагу. Здаецца, не датыкае зямлі.

Вось пераходзяць яны вакзал упоперак, каб выйсці на плошчу. Лена пытаецца ў Паўла, як завецца гэты вакзал. Паўлу ўжо дзіўна слухаць такое пытанне. Як можна не ведаць назвы гэтага вакзала чалавеку з Беларусі? Але вось Лена, яго Лена, не ведае. Павел адчуў, што быццам ён спатыкнуўся аб нешта — так перабіла Лена плынь дум так такім сваім пытаннем.

— Гэта і ёсць той самы Беларускі вакзал, аб якім ты, напэўна, чула.

— Дык гэта ён,— спынілася Лена,— ой, чула, вядома, але нешта выпала мне з галавы.

— Агляніся,— сказаў Павел. Лена аглянулася на вакзал і прачытала тое, што было напісана, аб чым ужо сказаў ёй Павел. Яна паводзіла вачыма па ўсім будынку, дзенідзе спыняючыся, каб разгледзець тую ці іншую дэталь.

— Гэта вакзал стары? — спыталася яна.

— Так, стары. Называўся да рэвалюцыі Аляксандраўскім — у чэсць цара. А пасля рэвалюцыі назвалі Беларускім.

Лена ўсміхнулася і адказала:

— Ну што ж... увага нашаму народу... Трэба толькі падзякаваць.— І ўсміхалася далей. Панукала Паўла ісці, стала ахвотлівай, рухавай. Ажыўляў і сам ранак. Ён быў ціхі, прымаразкавы, ружовы. Адчувалася нешта нават падобнае да ўрачыстага ззяння, павіслага над Масквой сваім неабдымным купалам. Шум то ўздымаўся з глыбінь, то раптам западаў, знікаў, як у прорву, і адтуль вяртаўся імклівым рокатам.

Калі таксі падвезла Лену і Паўла да гасцініцы «Прамень», Лена, выйшаўшы з машыны, утаропілася адразу ў перспектыву вуліцы, туды, аж у той яе канец, дзе на фоне ружовага ранкавага неба маячылі вастраверхія вежы Крамля і ў праёме канца вуліцы паміж каларытнымі будынкамі з чырвонай пацямнелай цэглы выяўляўся ўдалі сваімі пазалочанымі галовамі і крыжамі храм Васіля Блажэннага. Лена доўга глядзела на яго.

Павел расплаціўся з шафёрам і ціха дакрануўся да локця Лены. Яна глянула на Паўла так, нібы прачнулася ад сну.

— Ой, я так заглядзелася. Пойдзем.

Гасцініца «Прамень», старога класічнага тыпу, была жыллём для многіх дзеячаў камуністычнага руху. Другімі

словамі кажучы, яна была інтэрнацыянальнай. Тут атрымаў сабе кватэру і Павел Верасовіч, былы член КПЗБ, выбраны дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. Ён пасля дванаццаці год польска-фашысцкіх турмаў прыехаў у Маскву вучыцца філасофіі.

Павел месціўся ў невялічкім вуглавым пакоі, на трэцім паверсе, з балконам, які выходзіў на ўсход. Невялічкі пісьмовы стол быў прыпёрты да правай сцяны ад балконнага акна. Над ім вісеў партрэт Леніна, а вышэй — сярэдніх памераў карціна Саўрасава «Гракі прыляцелі». З левага боку пісьмовага прыладку стаяла статуэтка бязрукай Венеры Мілоскай, а справа ў маленькай жалезнай рамцы-завітушцы выглядаў крыху схілены набок не хто іншы, як той самы твар-тварык жанчыны, якая вось увайшла за Паўлам і дзёрзка ўжо скідае з сябе і хустку, і паліто, і світэр — і ўсё кідае на ложак. Адразу, не пытаючыся, увайшла ў той маленькі калідорчык пры дзвярах, дзе направа вешалка, і адчыніла дзверы налева. Адразу вырваўся вокрык: «Во якія ты маеш раскошы!» Гэта — захапленне ваннай. Вярнулася да чамадана, узяла ўсё патрэбнае і ляснула дзвярыма за сабою.

Павел пастаяў сярод пакоя, узяўшыся ўбокі. Разглядаўся навокал, не ведаючы, што рабіць, з чаго пачаць. Потым як быццам здагадаўся: «А-а-а» — і кінуўся развешваць адзежу Лены. Перш-наперш узяў паліто, паднёс да акна, разглядаў яго цёмна-карычневы колер, ужо злінялы, заначыў, што падкладка ў многіх месцах зашыта новым швом. Дзе ён бачыў гэтае звычайнае жаночае асенняе паліто? Спыніўся на некаторы час, глядзеў у акно, прыпамінаў. Перад вачыма стала плошча сярод белых турэмных будынкаў з закратаванымі вокнамі. Хлопцы глядзяць праз акно з другога паверха, а з імі і Павел. Бачаць — унізе, з тых цёмных, захляпаных дзвярэй, праз якія ўсе вязні трохпавярховага будынка выходзілі на двор, выскачыла дзяўчына ў шэрай суконнай куртачцы свайго вырабу і, глянуўшы ўверх на вокны, крыкнула: «Няхай жыве Чырвоная Армія-вызваліцельніца! Няхай жыве наша свабода!» І адказ «ура» рэхам патрос будынкі. А жанчыны, адна за адной, вылятаЛі з праёму дзвярэй. Гэта ўжо было сапраўднае вызваленне пасля трохдзённага бою за горад. Узброеная рабочая гвардыя, прыйшоўшая з горада, пачала вызваляць з трэцяга паверха жанчын. А потым Павел бачыў, як Лена перад турэмнай брамай на вуліцы брала з рук мамы, якая прыехала шукаць дачушку, а потым надзела

на сябе цёмна-карычневае паліто. Значыць, вось яно. «Можа ў музей?» — засмяяўся Павел, вешаючы «гістарычны экспанат» на вешалку.

...Гэты дзень... першы дзень сустрэчы пасля «доўгай разлукі» вырашылі нікуды не хадзіць. Лена на запросіны Паўла не хацела нават ісці паабедаць у рэстаран, які месціўся побач з гасцініцай. Прасіла, каб ён з каструляю пайшоў у буфет і прынёс адтуль супу і што-небудзь на другое. (Посуд у Паўла, як халасцяка, быў.) Павел не хапіўся да такой прапановы. Доўгім паглядам паглядзеў у вочы Лены, нібы з папрокам, і потым моўчкі падаў ёй хустку, каб накінула на плечы. Яна ўзяла хустку павольна, нехаця. І тут жа кінула, як збітая з тропу:

— Ты хочаш, каб пайшла? Ну што ж, пойдзем...

Такое стаўленне Лены да рэстарана галоўным чынам упіралася ў гэтыя самыя грошы, каб залішне іх не раскідаць — можна карміцца і буфетным супам. А потым і сам настрой яшчэ быў не падрыхтаваны для выхаду ў гэты, нязнаны ёй, «шырокі свет». Яна на адно імгненне глянула на сябе ў люстэрка і запытала ў Паўла:

— Ну як я? Ніякіх недахопаў?

Павел адразу пабажыўся:

— Ну, дальбог, ніякіх! — ускрыкнуў ён і абняў Лену за шыю. А яна вырвалася, баючыся, каб не папсаваў ёй прычоску.

Спускаліся па сходках усё ўніз і ўніз. Лена заўважыла, што нават парэнча, па якой яна коўзка вяла рукою, прызалочана вузкімі стужкамі па баках. Такія ж стужкі паблісквалі па кутках на сценах, як быццам хто правёў іх пальцам. І насустрач адбівалі ў сабе людзей вялікія, раскошныя, таксама не без пазалоты, люстры. Лена кожны раз пры паваротах бачыла сябе ўсю і інстынктыўна карожылася, хутчэй уцякала ад свайго адбітку. Вельмі ж ён да тонкасцей дакладны, і невядома, хто праўдзівейшы — ці аб'ект, ці яго адбітак. Пры апошніх сходках па баках на адмысловых падстаўках цалаваліся міфалагічныя амурчыкі з крылцамі, таксама залатыя. І яны так бессаромна, агіста адбіваліся ў такіх жа бакавых раскошных люстрах.

Лена не на жарт задумана, нават прыгнечана гэтымі пазалотамі. А ёсць жа людзі, якія свабодна паводзяць сябе сярод гэтай пышнасці, лічаць усё натуральным. Чаму так? Што гэта — справа прывычкі ці свядомае ўспрынянцце залатога хараства як хараства сапраўднага? Трэба дасягнуць натуральнага ўспрынянцця вось такога хараства? Нешта

не ладзіцца ў Лены з такім пытаннем, бо ўся яе істота чамусьці не хоча адказаць на яго станоўча. Але... Павел ужо адсунуў крэсла ад стала для Лены, сеў сам і адразу перадаў ёй меню. Лена разгледзела яго падрабязненька і сказала:

— Давай возьмем шынкі з хрэнам. Яна павінна быць тут харошая. Пабачым. Давай возьмем адну порцыю ласося. Я яго не толькі не ела і не думала пра гэта, але і не бачыла. З гарачага мне хочацца кіслага. Давай возьмем рускі боршч. Ён, відаць, будзе падобны да нашай кіслай капусты.

— А на другое? — уставіўся на Лену Павел.

— Выбірай ты сам. Я не ведаю гэтых біфштэксаў, рамштэксаў — што гэта за звяры?

Павел спыніўся на «рагу з бараніны». Падумаў: гэта будзе падобна да мяса, зваранага ў капусце, так, як вараць капусныя баршчы па беларускіх вёсках.

— Ну а з напіткаў? — спытаўся Павел.

— Што хочаш, толькі піва не бяры.

Калі падышоў афіцыянт браць заказ, Павел, падаючы назвы страў, замовіў пяцьдзесят грамаў гарэлкі і па шклянцы «цынандалі». Калі афіцыянт адышоў, Лена з задаволеннем паглядзела на Паўла, нешта хочучы адобрыць. Павел гэта прыкмеціў і сказаў:

— Не бойся, я верны тваёй мамінай...

— А вось калі былі ў мамы з нашым вяселлем, ты ўсё-такі напіўся. На двары восень, халодныя прымаразкі, а ён расхрыстаны пабег у Нёман купацца. Мы ж з бацькам стаялі на беразе, чакалі, пакуль ты вылезеш [illegible] ракі.

— Гм... Дзівачка ты, Лянок,— я ўжо даўно так купаюся. Мяне ўжо не бяруць ніякія халады. Я табе казаў пра гэта не раз, а ты думаеш, што я выхваляюся. Можна сказаць, усю сваю турэмную дарогу дружыў з халоднай вадою. Ну што — верыш цяпер?

— Веру, веру... Але каб не напіўся, то ў Нёман не пайшоў бы.

— Дзівачка, ты хочаш, каб я на сваім вяселлі быў як той гандляр за прылаўкам: гарэлку прадае, а сам не п'е і расінкі ў рот не бярэ. Вось дзе святасць!

— Ну, паехаў ужо... А мама мяне адразу заатакавала — ці не п'яніца ён?

Абое засмяяліся. Павел устаў, пайшоў у вестыбюль купіць газету.

Лена адна разглядала, па залі павольна, як украдкам, паводзіла вачыма. Людзей было яшчэ малавата, і стрыманы гаманок над сталамі ў беласнежных абрусах навяваў супакаенне. А з калоны, пры якой стаяў іх столік, над галавою Лены навісала нешта, да чаго трэба прыгледзецца. Сярод лісцяў — залатых ці залацістых — дубовых, кляновых, гронкаў вінаграда з лісцямі раскашаваўся бюст-барэльеф жанчыны-багіні з раскошнымі адкрытымі грудзьмі, выстаўленымі наперад, як напаказ. Адкуль яна прыйшла сюды такая надзвычайная, з якіх вышынь-вяршынь? Яна прыйшла адтуль, з далёкай старажытнай Грэцыі з культам пладавітасці, урадлівасці, з культам свайго хараства, але хараства не зямнога, а такога, што людзі называюць боскім. Няўжо людзі павінны быць багамі? Багі ж нічога не робяць. Яны вякамі ў ляноцтве і раскошы...

Лена атрахаецца ад такіх думак, неяк баіцца іх шырокага выяўлення... Адкуль іх такое ажыўленне? Быццам нехта дакрануўся пярстом да нязначнай дагэтуль жылкі і яна пачала пульсаваць. Не, трэба стрымаць гэты пульс, хоць бы крыху яго прыцішыць. Але нікуды не дзенешся — багі нічога не робяць. Біблейскі бог пастараўся стварыць свет за сем дзён, а пасля і дагэтуль нічога не творыць...

Лена ўсміхнулася гэтай думцы. Дзе ж яна яе прачытала? Так, так — прачытала там, за кратамі, у кніжачцы. Словы пра біблейскага бога ёй так былі спадабаліся, што яна забегала па камеры і заляскала ў далоні, прымаўляючы: «Ой, як гэта добра сказана!» Яе сяброўкі па камеры здзівіліся такім пачуццям, пакуль не даведаліся, у чым справа, пакуль не ахапіла ўсіх захапленне. З таго часу ідэя бога — вечнага гультая — не пакідала Лены, стала сваістым ды такім рэальным арыенцірам для навакольных з'яў, што для Лены лепшай палёгкі ў жыццёвым падарожжы, здаецца, і не было. Аднаго разу яна падзялілася гэтай думкай са сваёй мамай. Мама, калі пачула, што бог гультай, спыніла засоўваць гаршчок у печ і зірнула на Лену нават грозна.

— Ты што — ужо з розуму зышла? Хочаш, каб бог ды яшчэ рабіў? На тое ён бог...

«Ох, якая яшчэ далёкая дарога, каб ачысціцца ўсім людзям на зямлі ад фальшу»,— падумала Лена і прыкрыла вочы.

Вярнуўся Павел, неяк размашыста сеў на крэсла і разгарнуў газету.

...Вярнуўшыся з рэстарана, Лена занялася Паўлавай бібліятэкаю. Яна была невялікай і месцілася ў сцяне над канапкаю. Там было чатыры палічкі. Адну з іх, самую верхнюю, займала філасофія. Тут віднеўся і «Капітал» Маркса, і іншыя працы Маркса і Энгельса. Лена працягнула руку да гэтай палічкі. Прагляпуўшы па назвах — Гельмгольц, Бэкан, Шэлі, Гекель, Кант, Лейбніц, Дэкарт, Гегель... дайшла да Мантэня — «Вопыты», патрымала іх, але паклала назад, падумаўшы — «потым». Затрымала «Убоства філасофіі. Адказ на «Філасофію ўбоства» п. Прудона» і тут жа з гэтай кніжачкай прылягла на канапу. Гэтая праца Маркса даўно клікала яе к сабе. Яна не ведала яе зместу. Яе інтрыгавала сама назва, асабліва слова «ўбоства».

Павел сядзеў за сталом над сшыткам, заглядаў у расхіленую «Этыку» Спінозы і запісваў, запісваў. Дзеля Лены ён не пайшоў сягоння ў інстытут. Не прайшло і дванцаці хвілін, як на канапе пачуўся храп, ды такі ахвотны, разлівісты, ціхавата-песенны, спакойны — без надрыву. Павел агляпуўся. Раскрытае «Убоства філасофіі...» ляжала на грудзях Лены, твар-тварык затапіўся ў падушачку, і тая прычоска, за якую так хвалявалася, заблытаная, распаўзлася наўкола. Павел як мага ціха ўстаў і ціха падышоў да Лены. Паглядзеў на гэтую шчуплаватую «дзяўчынку» дванцаці чатырох гадоў, і спагадлівая ўсмешка разлілася на яго твары. Знікла тая, падчас робленая, абыякавасць, халоднасць. Хацелася ўзяць на рукі гэтае дзіця, якое ўсё хоча ведаць і ўсё перарабіць на свеце. Вось філасофія Маркса магутнасцю сваіх аргументаў так хутка напаіла яе ўспрыімлівыя мазгочкі. Згусткі думак Маркса... Згусткі думак... А ў іх крыюцца жорсткасць зямлі і яе ласка. Вось гэтая дзяўчына, якая, апрача Нёмана, нідзе на свеце пе была, шукае ласкі для сваіх паплавоў і пяскоў у Маркса. Пошукі згусціліся там, дзе злёгку насупілася маленькая маршчынка паміж мяккімі лагоднымі бровамі, якія здольны быць вострымі, наёжанымі, калі надыходзіць сутычка за тую ласку для ўсіх. Павел ціха выцягнуў з-пад рукі «Убоства філасофіі...» Маркса — высмяваццеля Прудона і паклаў на палічку. Потым сцягнуў посцілку з ложка і прыкрыў Лену — ціхую, безмяцежную ў абдымках сну.

* * *

Ізноў месячная ноч. Але ўжо над вялікім горадам — над Масквою, якую адзін з замежных дзеячаў (Петру Гро-

за), прыехаўшы, назваў «метраполіяй вялікіх рухаў». Ціхія бляскі разліваюцца па стрэхах, прыцярушаных іскрамі замаразку, коўзаюцца па цёмных вокнах. Толькі шырыня вуліцы на незацененым баку аднастайна светлая, як застылая ў полымі. І найсвятлей там... там, дзе Красная плошча. Там адкрытая прастора для святла. Там у глыбокім маўчанні застылі часы. І ў гэтай цішыні толькі ён адзін у Маўзалеі прадаўжае-вядзе свой непрымірымы дыялог са светам — гэтым і тым, які курчыцца-кіпіць там, за мяжою. Той свет, вядома, будуе змовы... Захлёбваецца нянавісцю... Ходзіць тыгравымі, нячутнымі крокамі. Але час ідзе, няўхільны, няўмольны час... Яго выбіваюць Крамлёўскія куранты. Іх слухае ўся зямля — ад мільённых гарадоў да дрымучых джунгляў.

Павел з Ленай стаяць ля балконнага акна, якое разам з выступам сцяны глядзіць па вуліцы ўдаль — якраз па асвечаным яе баку. Яны пагасілі святло і сталі, каб, нікім не бачныя, сузіраць і адчуваць дыханне Масквы — вось так, па-свойму, калі месячны бляск расплыўся над веліччу і шырынёй, якая недзе аддаляецца ледзь чутным глухім звонам.

Павел з Ленаю маўчаць. Толькі час ад часу пазіраюць адно на другое. Гэта тады, калі да сэрца падплываюць адчуванні нясцерпнага, таямнічага хараства. Вунь там, крыху за лобам плошчы, мігцяць іскрамі — залаціста-сінявагымі — главы Васіля Блажэннага. Яны ў вачах то робяцца сонечнымі, як удзень, то пацямнеюць, як пад хмарамі, то зусім нібы заходзяць за гару, каб потым паказацца ў чыстым зорным ззянні. І таму Лена паварочвае сваю галоўку ў бок маўкліва-насупленага Паўла, хоча нешта сказаць, але... баіцца спалахнуць хвіліны дарагога сузірання.

А там, направа, віднеецца-пануе над дамамі, увесь час хвалюецца — плыве і плыве ўдалячынь, ён, абстрэляны, непераможны дарагі таварыш Чырвоны сцяг. Ён узняты над Крамлём, гаворыць свету, што яго ўмацавалі тут напластаванні рускіх стагоддзяў.

Лена ўрэшце паклікала Паўла, паклікала стомленым шэптам, пагладзіўшы па яго руцэ ўздоўж ад пляча,— прамовіла: «Хадзем». Павел адвярнуўся ад акна і хацеў запаліць святло. Лена палахліва стрымала: «Нашто? І так светла». Павел нічога не сказаў. Толькі папракнуў сябе за нейкую неахайнасць да чагосьці, міма якога нельга праходзіць спакойна. І тады агарнула душу тое... Хлынула хваля гэтай несціханай ласкі, у якой хочацца растапіцца. Яму

заўсёды здавалася, што чалавек у такім стане стаіць не на сонечнай лясной паляне, а над безданню прорвы. І таму як мага спакойна, ціха ўзяў яе на свае мужчынскія рукі і данёс у цёмны куток. А яна тонам трывогі прашаптала: «Ой... Асцярожна...»



Ранак пачаўся ціхай, маўклівай прозай. Быццам яны — Павел і Лена — баяліся парваць нейкую дарагую плынь, якая пульсавала ў абаіх. Толькі пагляды, павароты, жэсты гаварылі аб цеплыні, аб утойванні нечага, чаго нікому на свеце паказаць нельга. Снедалі ў буфеце таксама маўкліва, адкладаючы свае думкі на другі раз — на нейкі яшчэ невядомы другі раз. Неяк здарылася так, што Павел з буфета выйшаў першым. І Лена, нечакана для сябе, раптам аглянула Паўла з галавы да ног і адчула, чаго яшчэ не адчувала — што постаць яго, выбранца, не толькі зграбная, але і шляхетная, поўная свайго жыццёвага рытму, які стварыўся за гады... у барацьбе за ўсё прыгожае на свеце. Яна не спяшалася даганяць Паўла — наўмысна ішла ў аддаленні за крок і, здаецца, убірала яго ў сябе. Тады толькі параўнялася з ім, калі раптам апаліла думка, што праз пару дзён трэба будзе расстацца...

Павел збіраўся ў інстытут. І калі, стоячы ўжо ў капелюшы, зашпільваў пояс на сваім паліто, Лена падышла і палажыла яму рукі на плечы. На імгненне вочы іх спыніліся.

— Што хочаш? — спытаўся Павел.

— Паўлік...— азвалася Лена,— значыць, павінна быць яно... павінна ўбачыць свет? Кажы, не хлусі.

— Дзівачка! Я ж табе ўжо казаў і скажу столькі разоў, колькі ты захочаш.

— Бачыш, дарагі, ты вучышся. Вучыся. А я панясу гэты скарб, каб ён нас пацешыў у жыцці. А можа не хочаш, скажы адкрыта. Тады астануся ў Маскве, пайду да лекараў.

Вочы ў Паўла маланкава бліснулі пад акулярамі. Ён ліхаманкава прытуліў Лену да сваіх грудзей, быццам баяўся, што яна, гэтае няўрымслівае стварэнне, зараз схопіць паліто і бахне за сабою дзвярыма.

— Што ты? Што ты? Ты ашалела! Не, ні ў якім разе такіх думак слухаць не хачу! Разумееш? Не хачу!

Іх вусны стуліліся. Лена лёгка правяла далонню па

яго шчацэ, направіла капялюш і з пагодліва-турботным выразам на твары сказала:

— Ідзі, а то спознішся...

Дзверы зачыніліся за Паўлам, і стала ціха і неяк незразумела сумна. Недзе была нацягнулася струна да апошняга напружання, і цяпер цяжка адчуваць, як яна адыходзіць. Недзе нешта ломіцца, скрыгоча. Лена стаіць і бязмэтна глядзіць у тое самае балконнае акно, з якога ва ўтульным змроку ўчора сузіраліся маскоўскія стагоддзі. Нешта неспакойна. «Мусіць, я ў чымсьці бязбожна перабольшыла ў сваіх адносінах да Паўла з такой настойлівасцю... з такой настойлівасцю... Ці ж можна так?» — думала Лена. Села за столік і, абапёршыся локцямі, закрыла твар далонямі. Глядзела недзе ўслед Паўлу. Бачыла яго на вуліцы з жоўтым партфелем у руцэ, незалежнага і задуманага. Потым ён едзе ў той электрычцы-метро, якой яна яшчэ не бачыла. Відаць, думае з трывогай аб справах у наднёманскім горадзе, якія нашушукала яму ўсё яна — Лена.

Лена без просьбы пачала рэвізаваць студэнцкую гаспадарку Паўла да апошняй нітачкі. Адкрыла шафу і выцягнула чамадан на сярэдзіну пакоя. Падняла незамкнёнае века, і шушвалы брудных кашуль старчком падняліся перад ёю, як жывыя. Іх было тры — белая, шэрая і жоўтая. Потым разглядала шкарпэткі, насавыя хустачкі, сінія шаравары, адну пару бялізны. Падумала: так мала? Пасля знайшла скрутак фотаздымкаў, закручаных у газету, і, ажыўленая ўсмешкай, пачала іх разглядаць. Гэта былі інстытуцкія фотаздымкі. І з усіх толькі адна была, на якой Павел сфатаграфаваны адзін. У капелюшы, з рукамі ў кішэнях паліто на плошчы інстытуцкага скверыка ля бюста Чарнышэўскага, імем якога і завецца інстытут. Лена доўга глядзела на Паўла, хавала ўсмешку, якая прарывалася, нібы расквітала. Паклала фота на стол. Дадала яшчэ адно, на якім Павел, гледзячы задумна ў зямлю, стаіць ля куста з маладой, усмехненай жанчынай у белай кофце і чорнай спадніцы. У правай руцэ яна трымае кніжку. А ўся вялікая рэшта фотаздымкаў былі масавыя. Лена іх пакінула ў чамадане.

Паставіўшы чамадан назад у шафу, Лена падабрала бярэмя Паўлавай гаспадаркі і пайшла ў ванну, дзе адкрыла краны і ўсё кінула ў яе. Там жа разам з мылам для твару ляжаў недамылены кавалак мыла гаспадарскага. Лена ўзялася мыць-аджымаць, а па праўдзе кажучы, раска-

шавацца. Бо з крана цякла такая цёплая, проста харошая вада — і цякла столькі, колькі хочаш. І гэта на трэцім паверсе. Чыста, цёпла, ухожліва. «Вось каб маю маму сюды,— падумала Лена,— яна б тут затанцавала. А то ўвесь свой век цягай чыгуны са зрэбнай бялізнай — то ў печ, то з печы, адпачынку няма...»

* * *

Спускаліся па эскалатары. Павел, ідучы ззаду, падтрымліваў Лену за левы рукаў, каб, ступаючы на эскалатар, чаго добрага, не ўпала. Ды яно так, мусіць, і было б — Лена ўсё ж такі напаткнулася і пахілілася назад на Паўла. Ехалі з асалодай. Лена, гледзячы ўніз па-над галовы людзей, сачыла, як яны зыходзяць на роўнядзь, калі эскалатар канчаўся. З шумлівым рэхам з глыбінь тунеля вырваўся поезд — свежы, асветлены — і зашыпеў, спыняючыся. Лена глянула на Паўла з нямым запытаннем. Ён адказаў: «Не, зараз садзіцца не будзем, паглядзім тут, а потым сядзем. Гэтая станцыя завецца — Плошча рэвалюцыі. Хадзем». І, праходзячы павольненька ад скульптуры да скульптуры, Лена нямела душою. Яе левая рука падымалася і павісала ў паветры, шукаючы пляча Паўла, каб абаперціся. А правая цягнулася да скульптуры, каб паказаць тую ці іншую дэталь. І час ад часу глуха вырывалася: «Ой...» Вочы зрабіліся іскрыстымі, распаленымі. Спынілася ля селяніна з вінтоўкаю, абапёртага на адно калена, аглядала яго з нейкай турботай, як там у сваім Наднямонні некалі глядзела на свайго дзеда з такімі ж доўгімі валасамі і нахмураным лобам. Хацелася пагладзіць дзеда па валасах, сказаць нешта ласкавае — такое, што паблісквае ў ранішніх сонечных росах. Толькі ў гэтага «дзеда» лапці не такія, як у тога наднямонскага, дый асанка іншая — нейкая сцяпана-разінаўская. Пасля селяніна неспадзявана стала перад ёю маладзічка ў сваёй хатняй гаспадарскай красе — з фартушка бярэ зярняты і сыпле курачкам — так, як на парозе сваёй хаты сыпала яе мама дый яна сама. Але чаго маладзічка прыйшла сюды, дзе матросы з патроннымі стужкамі, скрыжаванымі на грудзях, дзе пагранічнік са сваім вартаўніком — шэрым і паслухмяна насцярожаным? Ды як жа? Без яе нельга. За яе ж і яе курачак былі вялікія матроскія маршы — бітвы, баі чырвонаармейцаў, абпаленых усякімі сонцамі і вятрамі ў сваіх вялікіх паходах. За яе... Вунь ён стаіць — ся-

ляпскі сын, як жывы, абапёрты па вінтоўку з вострым, гранёным штыком, у будзёнаўцы, быццам урослы па калені ў зямлю, непрымірымы. А вось студэнт з цыркулем. Лена глянула на Паўла. Ён жа таксама студэнт. І за яго біліся матросы, як вунь той у кепцы і скуранцы, сялянскія сыны і бацькі. Яны ўсе тут падапы мастаком людскому сэрцу ў вялікім, эпапейным народным руху, імя якому — подзвіг...

Лена вярнулася да маладзічкі з курачкамі. Яе раптам штурхнула вярнуцца тая, пазалочаная, што заняла яе ўвагу ў рэстаране. Каторая ж з іх аснова зямлі?..

Недалёкае шараханне ў падзямеллі абвясціла набліжэнне поезда. Павел падхапіў Лену пад руку. Вось поезд і вынырнуў на свет — прыгажун у агнях. Лаўкі ў вагоне мяккія, пакрытыя цёмна-карычневай бліпчастай скурай. Лена нават памацала рукою. І зараз жа падумала: «Гэта больш чым добра. Гэта ўжо роскаш. Тут хапіла б драўлянай лаўкі. Зайшоў і выйшаў. І ўсё...» Разглядала сцены, столь, людзей, дзетак, што туліліся да сваіх матак. І ўжо забылася пра свой папрок адносна лаўкі. Поезд імчаў яе з Паўлам у тое, што Павел ведае, а яна — не. Любавалася станцыяй Арбацкая. Сказала: «Вельмі прыгожа, вельмі дорага». Даўжэй затрымаліся на Новаслабодскай. Асветленыя недзе знутры народныя кветачныя замалёўкі — нешта ад рускіх драўляных лыжак, кубельчыкаў, місачак, ад колераў іканапісу. Нешта ад народнага ўсмешлівага лубка. Лена хадзіла тут, як кветачніца ў агародзе ружаў — тым больш што на пероне ўжо было пуста, датыкалася да некаторых малюнкаў, каб нібы паправіць бутоны, змахнуць пыл, хоць уся чырвань напамінала не што іншае, як рускую круглабярвеністую хату з яе традыцыйна-патрыярхальным укладам.

На станцыі Кіеўская Лена ўскрыкнула: «Ой, якая ж багатая, змястоўная і раскошная ў меру!» На «Маякоўскай» змоўкла Лена ад захаплення перад нейкім нябачаным дзівам пад зямлёю. Часам у пячорах прырода вырабляе свае нечаканыя дзівы. Іх завуць сталактыты. Нешта тут ёсць ад іх. Але разам з тым усё проста ў свабоднай закамянеласці красы. Станцыя нержавеючай сталі-красы.

Праехалі да станцыі Ахотны рад і выйшлі на плошчу Свярдлова. Часу да вечара яшчэ хапае, каб адведаць штонебудзь. Лена паглядае туды, на сваё сузіранне — на Васіля Блажэннага, а Павел расказвае ёй, чаму станцыя, з якой выйшлі, завецца Ахотны рад.

Павел падхапіў яе пад руку і сказаў:

— Пойдзем у Гістарычны музей, вось ён недалёка,— кіўнуў галавою цераз вуліцу Павел, паказваючы гэтым адмысловую, у старажытна-рускім стылі будыніну прыгожай мастацкай кладкі з чырвона-цьмянай цэглы.— Толькі не адрывайся ад мяне, а то трапіш пад машыну і ляснешся. І тады што?

— Глядзі, каб ты не ляснуўся,— «абурылася» Лена.

Паток машын рушыў якраз тады, калі яны выйшлі на сярэдзіну вуліцы, і Лена адчула, што сапраўды можна «ляснуцца». Трымалася Паўла, чакала канца патоку і не бачыла, хто ж яго спыніць, аж пакуль Павел не паказаў ёй міліцыянера, кіраўніка руху. І гэта была невялікага росту дзяўчына — ну проста дзяўчынка — у берэціку з кукардай, у кароткай зграбнай спаднічцы такога ж колеру, як яе міліцыянерскі мундзірчык. Яна спрытна паварочвалася, як на адной пяце, як лялька на спружынах, і карцінна па-камандзірску накіроўвала сваю белую палачку, паказваючы напрамак шырокаму патоку.

Лена здзівілася. Ніколі ёй не прыходзіла ў галаву, каб дзяўчына ды была міліцыянерам, а тут бачыш, што вытварае гэтае малое. Лена за час стаянкі пасярэдзіне вуліцы паспела палюбіць гэтую дзяўчыну, і да сэрца прыплыло такое, што можна было б назваць гордасцю за «жаночую нацыю». Калі выбрылі на тратуар, яна і пад'ехала з гэтым да Паўла:

— Вось ты, напэўна, не ўстояў бы так, як гэтая малая. Заснуў бы стоячы.

— Ты мяне так добра ведаеш, што мне няма чаго казаць. Ну а ты патрапіла б?

Лена маўчала. А потым падняла голас:

— А што — не? Патрапіла б! Прайшла б школу і патрапіла б!

Перайшлі ўпоперак вуліцу Гістарычны праезд і апынуліся на рагу будынка, дзе месціцца Гістарычны музей.

— Добра, добра,— спыняў Лену Павел.— Багаслаўляю цябе на міліцыянера. Слухай, што я скажу. Пры царызме вось тут, на гэтым рагу, стаяў вобраз маткі боскай Іверскай. Ты чытала пра студэнта Каляева?

— Чытала,— адказала Лена.— Дык гэта тут ён кінуў бомбу ў тога князя, што быў міністрам?

— Вось іменна з гэтага месца. Шкло, за якім месцілася матка боская, было для Каляева люстрам. Ён глядзеў у яго і бачыў увесь рух на вуліцы. І бачыў, як ехаў князь.

Лена стала на месцы маткі боскай Іверскай і паводзіла вачыма па плошчы. З старога, мінулага пазнавала манеж, пра які недзе чытала. Потым Павел паказаў ёй будынак універсітэта і гасцініцу «Нацыяналь».

— Усё ж такі ўбавілася старыны,— прамовіла Лена.

— Што? Шкадуеш?

— А нават крыху і шкадую. Тое, што ўелася ў зямлю і доўга жыло, з памяці не хутка ўцякае. Ну, хадзем у твой музей.

Агледзелі ў музеі ўсё, пачынаючы ад «Пахавання руса» і канчаючы таежным шаманам — словам, усе рэспублікі Саюза. Выйшаўшы, наблізіліся да Маўзалея Леніна, дзе пастаялі моўчкі. Куранты прабілі шэсць разоў.

— Гэта вось тыя куранты, пра якія напісаў п'есу Пагодзін,— сказаў Павел.— Будзем ісці назад у гасцініцу, зойдзем у тэатр — можа ўдасца ўзяць білеты на «Куранты». Паглядзіш.

На храм Васіля Блажэннага глядзелі зводдалі. Здаецца, нічога тут такога няма, а ўсё роўна ільгне да сэрца. Вялікі мастацкі сакрэт схаваны ў ім. Гэта ён і туліцца да сэрца, быццам просіць любіць красу. А яна сама без просьбы ўліваецца ў жылы...

Падышлі да помніка Мініну і Пажарскаму, і Павел сказаў:

— Бачыш, князь Пажарскі сядзіць, купец Мінін стаіць.

— Ну і што? — кінула Лена.

— Што? Разам жа падымалі народ на паўстанне за Русь, то трэба было б, каб разам або стаялі, або сядзелі. А то не, бачыш — Пажарскі сядзіць, бо ён князь, а Мінін не мае права сядзець з ім, бо ён не князь, а купец.

— Вось што-о-о...— працягнула Лена.— Вядома, паны заўсёды сябе аддзялялі ад народа.— Пасля гэтых слоў пільней прыгледзелася да абодвух ноўгарадскіх герояў гісторыі.

— Вядома, Мінін бліжэй падыходзіць да мужыка. Без яго князь Пажарскі быў бы нуль. Сіла большая ўсё ж такі ў Мініна... Добра, няхай ён не сядзіць, а стаіць на здароўе. Хто стаіць, той бачыць далей.

Тут стаў на дыбкі Павел, кажучы:

— Адкуль у цябе такая хватка?

Лена смешлівымі вачыма абдала Паўла і жартаўліва кіўнула:

— Яе мне дала мая хатка. Зразумеў?

— Ты, відаць, гэтую сваю хатку ў кішэні носіш?

— А і нашу. Каму ад гэтага баліць галава? А каму баліць, няхай палечыцца. Нават жывёліна не чураецца свайго хлява. А чалавек...

— Як які чалавек,— сказаў Павел ужо сур'ёзна.— Па свеце праплываюць вялікія плыні фальшу, дзе хаваецца ўсякая пошасць: здрада, подкуп, ашуканства, забойства, дзе няма месца пачуццю Радзімы. І ўсё гэта разам прасочана садызмам і цынізмам. Гэта ўсё так. Але мала адной сваёй хаткі, каб змагацца і перамагаць гэтую сусветную навалач.

— Гэта ты пра капіталізм?

Павел задаволена засмяяўся. Але ўсё ж такі з такім тонам, што быццам ён выслухаў здольную вучаніцу.

Лена яшчэ раз з любасцю аглянула храм Васіля Блажэннага, і яны пайшлі да Лобнага месца. Паўла вельмі цікавіла, што яна скажа. Лена яшчэ пры помніку Мініну і Пажарскаму быццам няўзнак пазірала на аддаленае Лобнае месца. А калі падышлі да яго, доўга маўчала, аглядаючы наваколле, пераводзячы позірк ад Лобнага месца на храм Васіля Блажэннага і наадварот. Быццам адчуваючы нейкую сувязь між адным і другім. Павел не спускаў з яе вачэй, хоць удаваў з сябе поўную абыякавасць да ўсяго.

— Храм і побач Лобнае месца...— загаварыла Лена.— Чаму так? Няўжо між імі ёсць сувязь? — Паказала рукою на храм.— Гэта ж узвышанасць, яна выклікае лепшыя пачуцці ў чалавека. А гэта? — паказала на Лобнае месца.

— А гэта выклікае, вядома, не лепшыя пачуцці,— перабіў Павел.— Але сувязь між імі ёсць.

— Якая? — тонам пратэсту спытала Лена.

— А такая — імя ёй сякера. Вось табе і сувязь. Цар з кліram прымалі рашэнне аб сякеры. А значыць, храм — сімвал згоды, адабрэння сякеры. Так ці не?

— Ты нейкую тут проста арыфметыку выкладаеш — адно плюс другое. Штосьці вельмі проста.

— Не арыфметыку, Лена, а дыялектыку. Залежнасць аднаго ад другога.

— Не, гэта запроста. Не згаджаюся. Не хачу храма пляміць кроўю.

Павел усміхнуўся:

— Усе храмы, Лена, пачынаючы ад язычаскіх, аплямлены кроўю. Гэтага жадалі багі.

Лена задумалася. Нічога не адказала. Апусціла галаву. Потым павяла вачыма па плошчы і тонам з адценнем жудасці прамовіла:

— Тут страшна завявае пусташшу. Мусіць, падчас завеі тут свішчуць чэрці, як на скрыжаванні дарог у нас на Беларусі.

Павел падхапіў:

— І там стаіць крыж...— Памаўчаўшы, дадаў: — Лена, храм цяпер таксама пусташ. Ад яго асталася колішняя краса, якая чаруе нас і цяпер. Нешта агульначалавечае, відаць, ёсць у ёй, калі яна, як ты кажаш, ільгне да сэрца. А ад Лобнага месца асталася толькі пусташ.

Лена пачулася як звязаная,— ні туды і ні сюды. Якніяк, не хацела паменшваць значэння храма Васіля Блажэннага — як можна так празаічна гаварыць аб ім?

— Не... Аб храме мы яшчэ пагаворым,— адказала яна і рушыла з месца, каб ісці.

Пагодлівы асенні дзень павольна хіліўся к вечару. Сонца спускалася над дамамі і, здавалася, хацела апусціцца недзе ў іх гушчу на захадзе. Яго спакойнае ззянне шырокім покрывам абдымала надмаскоўскія прасторы і гаварыла, што недзе за імі разыдуцца дарогі ва ўсе бакі, як у даўнім, старажытным Рыме.

«Вандроўнікі» падышлі да парку пры Крамлёўскай сцяне. Павел паказаў Лене шэры, каменны, шаршавы слуп — храналагічную дошку марксізму, пачынаючы ад утапістаў. У самым нізе Лена прачытала — «Плеханов». Абаяльнасць культуры Пляханава ўжо даўно стала яе здабыткам. Яна прачытала яго дзве кнігі: «Асноўныя пытанні марксізму» і кнігу артыкулаў пра літаратуру — «Сіла салому ломіць». Можна сказаць, што апошняя кніга адкрыла ёй дзверы ў разуменне мастацкай літаратуры.

Сядзелі на лавачцы сярод пазалочаных клёнаў, каштанаў, ясеняў і іншых выключна лісцістых дрэў у гэтым, некалі царскім, парку.

Добра вось так пасядзець, калі за плячыма, там, на вуліцы, мякчэе шум і часам нібы глухне зусім. У парку пройдзе рэдкі чалавек, шалешчучы лістамі пад нагой. Адпачываюць не толькі ногі, але і ўся істота, увабраўшы ў сябе ўражанняў ад усяго, што пакінулі патомкам продкі. Вось прасвечвае праз дрэвы цьмянай, застарэлай чырванню Крамлёўская сцяна, расцягнутая крыху на ўзвышшы ўздоўж усяго парку. Бляскі сонца скупа падаюць на яе разам з ценямі дрэваў. Чымсьці непрыступным вее ад сцяны. У старажытнасці за ёю панавала баярскае маўчанне на мяккіх лаўках навокал пры сценах, і цар пад купалам трона цярпліва чакаў адказаў. Павольна цякла вада ў Ма-

скве-рацэ, і серабрыстыя галубы фыркалі за мастацкі выразаным акном.

Лена, стомленая, прытулілася плячом да пляча Паўла, суцішылася, адчуваючы сябе ў нейкім казачным свеце старыны. Яе настрою дапамагалі крыкі галак недзе ў аддаленай гушчыні парку. Яны, вядома, таксама крычалі тады, даўно, калі князь Дзімітрый выходзіў яшчэ з драўлянага Крамля, каб дабрацца з дружынай на прыволжскія стэпы і там знайсці татар на Куліковым полі... або Іван Грозны на Казань.

Павел сядзеў і з прыемнасцю курыў папяросу, адчуваючы на сваім плячы галаву Лены ў карычневай хустачцы з чырвонымі кветкамі. Павел ужо мог бы ўстаць і ісці — сядзіць толькі дзеля яе. Няхай адпачне. А яна, то адкрываючы вочы, то закрываючы, гаворыць аб Гістарычным музеі: вісіць адзін слуцкі пояс і пры ім страфа Максіма Багдановіча з верша «Слуцкія ткачыхі» — «Ад родных ніў, ад роднай хаты...». А рэшта — карціны. На адной з іх сярод поля стаіць беларускі селянін без шапкі, засадзіўшы рукі за пояс, і коса, безнадзейна глядзіць уніз. Пад ім цытата Герцэна аб тым, як «дзесяць пакаленняў, замучаных на паншчыне, стварылі такога парыя».

— Вось гэта трэба было б перапісаць, Павел, або адшукай кнігу Герцэна.

— Займуся, Лена... Можа пойдзем ужо?

— Не, пасядзім. Я б тут крыху падрамала. Вось, бачыш, і стамілася. Нічога ты, Паўлік, не заўважаеш, не разумееш. Эх вы — мужчыны...— уздыхнула Лена і шчыльней прытулілася галавою да пляча Паўла.

Павел і сапраўды не меў у галаве гэтай «дэталі». Думалася аб тым, што заўтра трэба выступаць з рэфератам на гістарычным семінары і гаварыць пра св. Аўгусціна — гэта значыць аб пераходзе ад старажытна-рымскіх (язычаскіх) часоў да новых, феадальна-хрысціянскіх, і якую ролю адыграў у гэтым Аўгусцін — тэарэтык-арганізатар хрысціянскай царквы. Рэферат ляжыць гатовы. Павел паўтарае яго мысленна. І наплываюць месцы, якія патрабуюць дадатковага прагляду...

А тут вось яна закукукала сабе. Павел зазірнуў у твар-тварык з закрытымі вачыма і, нахіліўшыся, дакрануўся вуснамі да лобіка ў вянку цёмных валос, пакрытых хустачкай. Па твары-тварыку прабег лёгкі цень, як подых ветрыку, і прасвятлела бялявасць, поўная спакою. Да сэрца Паўла падплывала зноў тая несціханая ласка...

Хвіліны плылі разам з ветрыкам па алеі. Заціхнуў крык галак. На Крамлёўскай сцяне пачалі згушчацца цені. Водбліскі сонца недзе ўжо з-за Масквы кідалі развітальныя скупыя прамені.

Раптам Лена падняла галаву.

— Ой... Ці ж то мне прыдалося?

— А што? — занепакоіўся Павел.

— Я ўбачыла, быццам там уздоўж сцяны ішоў павольна, абапіраючыся на посах, Іван Грозны ў чорнай расе і ў чорнай скуфіі. На грудзях жалезны крыж... Вось гэта дык прыгода.

— Гэта можна ўбачыць і так, без сну. Даволі толькі даўжэй угледзецца ў сцяну, у цішыні.

— Кажаш так... А вось ты ні разу і не пабачыў. А мне вось даволі было толькі стуліць вочы...

— Гэта табе дадатак да Гістарычнага музея,— не сунімаўся Павел.

— Ага... Дадатак, дадатак... Пойдзем. Бачыш, насоўваецца вечар.

І яна, ужо бадзёрая пасля «гістарычнага сну», устала і ўзяла Паўла пад руку.

...Праз дзень пасля агледзін музея Леніна і Траццякоўскай галерэі, як пабывалі ў Мастацкім тэатры, на «Крамлёўскіх курантах» Пагодзіна, Павел увечары правёў Лену на Беларускі вакзал. Яна яму на развітанні сказала, каб не забыўся, адшукаў цытату Герцэна, а ён прасіў, калі яна што пачуе пра Валодзю Саснаўца, каб хуценька напісала.

Часу яшчэ пяць хвілін да адыходу поезда. І невядома, што казаць адно аднаму. Павел у цьмяным бляску ліхтара глянуў у цёмныя арбіты яе вачэй і з прылівам да сэрца той жа «несціханай» прытуліў галаву Лены да сваіх грудзей і зашаптаў:

— Помні аб сабе, шануйся. Не задзірайся з людзьмі. Задзіра ты! Убачыш Башкоўскага, перадай прывітанне. Хацелася б атрымаць пісьмо ад Славінскага. Але я напішу яму сам. А ты сама патроху вучыся гісторыі. Хоць гадзіну ў дзень. А я пагавару з рэктарам і пастараюся прыехаць к новаму году. Ну, бывай.

— Бывай,— шапнула яму ў вусны Лена.

Раздзел чацвёрты

## АГЕНЬЧЫК У АКНЕ

...«А ўсё ж такі гэта не сон. Не, не сон — гэта ява, яна, сапраўдная. Бо, калі выходжу з хаты на падворак, перад вачыма за драўляным плоцікам бачу халодны, асенні, нібы ўсімі забыты стары канал. А за ім ківаюць вяршынямі шумлівыя сосны. Яны шчыльна спляліся, стуліліся іглістымі галінамі і такім вось асобным натоўпам выбіліся на ўскраіну лесу. Не, гэта не сон... хоць хочацца вобмацкам праверыць бярвеністыя сцены вось гэтай хаты пад ампэлай гонтавай страхою. Ганачак ужо стары, падупаў на адну падпору, скасабочыўся. Не, усё гэта праўда... Нічога не парадзіш. Зараз вернецца з возера гаспадыня хаты — старэнькая, ласкавая Яхіміха, як завуць яе суседзі, і прынясе ад рыбакоў у кошычку рыбкі... Ой, што я чаўпу? Я ж сама папрасіла яе, каб раздабыла рыбкі... Не, усё праўда, нічога не адкінеш... Не адкінеш і таго, што прыйшло нечакана і ашаламіла душу такою радасцю, хоць і не такой, якой трэба было быць. Але не гладкая дарога, па якой ідзём. Пачатак зроблены. Таварыш Вяргіня прыехала з Масквы, з Камінтэрна, і прывезла дарагую вестку: ёсць рашэнне аб прыёме ў партыю былых членаў КПЗБ. І вось яна, Лена Лесавічанка, ужо аднаўлена ў партыі, у Камуністычнай партыі, вынашанай у душы за гады падпольшчыны. Яна зноў — дачка партыі. Рэкамендацыі далі Вяргіня, Веньямін Башкоўскі і ён — такі разумны і чэсны Якаў Славінскі.

...Не, усё гэта праўда. І тое, што так даносяць свой пошум сюды ў хату сосны з-за канала, таксама праўда. І ён, гэты пошум, пераклікаецца з настроем душы. Нейкія далёкія адгалоскі, недзе некалі чутыя, напамінаюць аб сабе, клічуць — не забыць кагосьці дарагога, нічым не заменнага...»

Лена ўстала з старога самаробнага крэсла, якое раптам востра зарыпела, і падняла вочы на карычневую пастарэлую шафу, якая, нібы прыхаваная ў кутку, стаяла, прытуліўшыся да пабеленай сцяны, што адгароджвала пярэдні пакой ад кухні. На шафе стаяла звычайная лямпа, якую Лена зняла і паставіла на падаконнік. Трэба наліць у яе газы, выцерці шкло і наогул усю яе пачысціць ад пылу. Пры гэтай лямпе трэба будзе працаваць увесь доўгі вечар,

калі па вуліцах і вулачках маўклівага на палескі лад мястэчка будуць поўзаць туманы і повалакам заглядаць у вокны.

Хоць ужо чацвёрты дзень, як Лена апынулася ў гэтай хаце, а роздум не пакідае яе. І ў душы шуміць цішыня. Можа гэта ад тых сосен, што вось недалёка за каналам? Бо часам шум цішэе, і тады чамусьці жаль сціскае за сэрца і хочацца сплакнуць — ціханька, непрыкметна нават для самой сябе.

Ужо мінула месяц часу, як Лена вярнулася ад Паўла з Масквы, у Наднямонне, і вось такая неспадзяванка: палеская хатка ў палескім мястэчку — ціхім і драўляным.

Лена мяккаю кужэльнай анучкай павольна чысціць лямпу, не спяшаецца. Хоць справа не ў лямпе — Лена нібы затрымлівае тэмп свайго сэрца, каб нешта ў сабе супакоіць. Лямпа ўжо бліпчыць — прыемная, харошая. І кнот падрэзаны роўненька — так, як некалі падрэзвала мама — там, у Наднямонні, якое для Лены цяпер заплыло неабсяжнымі прасторамі, што і голасу не падасі.

...Лену выклікаў ЦК у Мінск і накіраваў у глыбокае Палессе, у раённае мястэчка, у аддзел прапаганды райкома партыі. І вось яна сядзіць ля акна ў шэрай хаце і чысціць лямпу, каб можна было працаваць доўгі вечар пры ачышчанай лямпе, бо электрыкі ў гэтым мястэчку яшчэ няма.

Лена думае пра сваё назначэнне сюды кожны дзень. Паставіўшы лямпу на стол, пайшла на кухню, каб пачысціць бульбы на вячэру.

Нямала спраў наплыло ў рукі Лены на новым месцы. Даручана займацца мясцовай раённай газетай, якую вырашылі назваць «Сталінскі шлях». Такая работа Лене дагаджала. Прыехаўшыя для працы ў рэдакцыі недзе з Магілёўшчыны два хлопцы рабілі добрае ўражанне — маладыя, але ў курсе газетнай тэхнікі. Яны паслухмяна ставіліся да Лены. Трэба было стварыць сетку карэспандэнтаў з месц, дабраць талковых, пісьменных. Карэспандэнцыі ўжо надыходзяць стыхійна. Вось на стале ляжыць іх пухкая папка.

Па даручэнню райкома Лена пабывала ў адной хаце. У ёй жывуць дзве сям'і — старая маці з малодшай дачкой і сын з жонкаю, у якіх бегае па хаце хлопчык год чатырох. Гэтыя сем'і харчуюцца паасобку і не могуць зжыцца, не могуць змясціцца ў гэтай хаце. А хата вялікая, старынная, з глінянай падлогай і, што здзівіла Лену — з дзвю-

ма паасобнымі печамі. Гэтыя печы стаялі побач — сцяна пры сцяне, комін пры коміне, толькі адвернуты яны чарэнямі ў процілежныя бакі. Старая вінавакіць нявестку, нявестка — старую. І дайшло да таго, што нявестка выкінула на двор кросны старое, бо старая паставіла іх на той палавіне хаты, дзе жылі сын з нявесткай. (Перагародкі ў хаце не было.)

І тады старая пайшла хадзіць па ўстановах. Яе супакоілі, паабяцалі ўсё ўладзіць. І вось вырашылі паслаць Лену даследаваць гэтую справу. Лена хадзіла два разы і прыйшла да пераканання, што «калоціць жыццё» старая, не лічыцца з нявесткай, правакуе, як хоча. Калатня да таго завастрылася, што сын з нявесткаю вымушаны былі пабудаваць сабе асобную печ. Старая на нейкі час прыціхла, а потым распачала «атакі» нанова. Лена прыйшла к вываду, што адной з гэтых сем'яў патрэбна кватэра. Так і сказала яна старшыні гарсавета, і той задумаўся не на жарты. Дзе ж узяць тую кватэру?

Глухое і густое мястэчка Лахі па традыцыі кладзецца спаць не пазней дванаццатай. Толькі гаманок чуецца ля ганка райкома, дзе, як заўсёды, стаяць машыны, так, як і перад райвыканкомам. Але ненадоўга. Хутка і яны раз'язджаюцца, і тады гаснуць вокны і ў райкоме, атуленым высокімі таполямі. На нейкі час астаецца першы сакратар, завесіўшы акно наглуха, каб не прасочвалася святло. Але і ён хутка адыходзіць на адпачынак, развітаўшыся з паставым міліцыянерам.

Тады павольна, дрымотна расплываюцца па вуліцах туманы. Ім ужо ніхто і ніщто не перашкаджае снаваць свае начныя, таямнічыя шаты. Яны прыплываюць здалёк, з балотна-неабсяжнай ночы, дзе хмызы і чароты, тоячы сябе, маўчаць адны...

Калі ўрэшце пагаснуць усе агні і чорная, як торф, цемра павісне над бясконцым спляценнем стрэх, астаецца, як вартаўнік, толькі адзін светлячок — гэта агеньчык у акне Лены. Яна сядзіць, схіленая над паперамі, і штосьці адкладае ўбок, сартуе, то датыкаецца алоўкам да пэўных мясцін рукапісу на разлінаваным лістку з школьнага сшытка, каб дзе што падкрэсліць або на ўзбоччы паставіць «птушачку» ці знак запытання. У іх напісаны вясковыя трывогі і радасці, дзе струменем б'е вялікая даверлівасць да сваёй улады, якую прынесла Чырвоная Армія на сваіх сцягах. Лена думае, абапёршыся шчокамі на далоні, і сумна ківае галавою, як вось тая маладжавая бярозка за ак-

ном у час вячэрняй цішыні, ужо губляючы пажоўклыя лісці. Потым ачнецца ад задумы.

Бабка Гануля сядзіць тут жа пры сцяне на вузкім услончыку (яна прынесла яго з кухні) і, пільна ўглядаючыся ў бараду кудзелі, вядзе ваўняную нітку за ніткай. На кухні ля печы спіць унучка Надзя. У дачкі аж нешта шасцёра дзяцей, і бабка Гануля самую меншую ўзяла сабе гадаваць. Унучка ходзіць у школу ў першы клас, і бабка кожны дзень пытаецца, ці не сварылася настаўніца за штонебудзь. Бабка, здаецца, не спускае з унучкі вачэй — то носік ёй вытра, то хустачку паправіць і скажа, калі ўнучка прыйдзе з школы:

— Бяры ў печы, блізка за засланкай, капусту, скварачка ў скавародцы, хлеб у століку, а я пайду дам парсюку, а то ён ужо захацеў есці, бедны...

— Бабка, і я пайду...— просіць унучка.

— Паабедай, пойдзеш увечары...

Унучка любіць карміць парсючка, яна яму збірае ўсякія недаедкі — і хлебныя, і ад супу, баршчу — і цешыцца, як аблавухі белячок стараецца ля яды. Надзя пагладзіць яго па хрыбціне. А бабка, стоячы побач, упарта, нават сурова маўчыць, баіцца выявіць сваё захапленне — і ўнучкаю, і парсючком.

Лена пазнаёмілася з гэтым укладам жыцця, і нейкая свая, як у хаце ў мамы, ласка прыплывала ў душу. Кожны вечар яна правярала ўрокі Надзюські, ад чаго Яхіміха адчувала сябе на сёмым небе ад радасці. З Ленаю гаварыла ласкавымі словамі, называла яе то «котка», то «саколка» і часам, вядома, расказвала і пра сябе, і пра іншых з старога, мінулага. Так і праседжвалі вечары пры ачышчанай, вясёлай лямпе з шырокім агнявым язычком ад шырокага кнота ў чыстым бліскучым шкле, на якое Лена надзела самаробны капялюшык з ружовай паперы. А потым, калі бабка адыдзе з уздыхамі на спакой, для Лены яшчэ доўжыцца час у цішыні і адзіноце. І ў цёмным, заснуўшым мястэчку толькі ў адзіным акне сочыцца агеньчык, быццам чакае госця з вялікай дарогі.

## ПЯРСЦЁНАК

Дзяўчынкі прыйшлі яшчэ завідна, хоць у хаце пачалі ўжо згушчацца вячэрнія змрокі. Але лямпы не запальвалі. Лена, прыйшоўшы з райкома, паабедала гарачай ка-

пусты з грыбамі, закусіла малаком з бульбай і прылегла ўздрамнуць, аж пакуль не навісла шэрая гадзіна.

Дзяўчатак было тры. Лена і не разабралася адразу, колькі іх, запрасіла іх сесці, а яны ніяк не хацелі. «Пастаім»,— адказвалі. Прытуліліся да дзвярэй, як ягняты, і стаялі гурточкам, палахліва бліскаючы вачанятамі. Лена больш не прасіла, ведала, што значыць — «пастаім». Тут і нясмеласць, і боязь, каб не «ўлезці не ў сваё», бо яны ж гэтай таварышцы інструктаршы нераўня. Лена павольна, нават з пацяжкай, ставіла лямпу на стол, каб урэшце яе запаліць. Чаму ўрэшце? Бо ў мястэчку яшчэ нідзе не бліскаў агеньчык — людзі як мага эканомна расходуюць газу. Лена не хацела выбівацца з гэтага ўкладу, каб не наклікаць на сваё акно лішніх дакорлівых позіркаў. Другая справа ўстановы — ім, як кажуць, і бог бацька.

Лямпа раптам асвяціла ўсе куткі — ад шафы да ложка і да століка з кніжнай этажэркай у пярэднім кутку, дзе пад столлю змрочнай плямай з-пад шкла праглядаў Хрыстос. Лена перастаўляла бабчын услончык да свайго століка і амаль што сілком пасадзіла дзяўчатак. І сядзелі яны, як тыя ластавачкі на жэрдцы, і нясмела стрыглі вачыма.

Лена не ведала, чаго прытупалі да яе гэтыя маленствы, думала — відаць, нехта прыслаў.

— Ну што ж, дзяўчаткі, скажаце?

Дзяўчаткі маўчалі, пераглядваліся і зноў маўчалі.

— У якім класе вучыцеся?

Усе амаль адначасова адказалі:

— У трэцім.

— І як вы вучыцеся — добра ці кепска?

Маленствы пацiснулі плячыма. Адна прамовіла:

— Як хто. Вось Ганна сягоння палучыла пяць за задачкі,— і паказала на чарнявую дзяўчынку з цёмнымі вачыма.

— А ты колькі? — раптам захіхікала другая, а трэцяя апусціла вочы. Стала няёмка. Лена зразумела — у той адзнака, відаць, раўнялася двойцы.

— Ну... не трэба так,— загаварыла яна,— бывае ўсяк, калі з хлебам, а калі і без хлеба.

Шэсць вачанят на нейкую хвіліну ўставіліся на Лену па-сур'ёзнаму, быццам разважаючы — адкуль яна ведае такое, гэтая маладая цёця ў цёмным плацці з белым каўнерыкам. А плечы атульвала шэрая ваўняная хустка. Гэта мы ведаем, што значыць з хлебам і без хлеба.

— Вас хто-небудзь прыслаў ці самі прыйшлі?

— Нас прыслала настаўніца,— сказала зноў Ганна,— каб вы нам далі павырэзваць абразкі і патрэцікі з кніжак. І мы просім...

Лена не чакала такой просьбы і міжволі ўзрадавалася. Стала папраўляць хустку на плечах — і на безыменным пальцы правай рукі раптам блiснуў пярсцёнак з цьмяна-сіняватым вочкам у пазалочанай абводцы. Вочы дзяўчатак прагна застылі на пярсцёнку.

Здзіўленне ў палахлівым захапленні задрыжала ў вачах. Дзяўчаткі імкнённа пераглянуліся, і пад услончыкам зарухаліся іх ногі. Лена гэтага не заўважыла. Яна працягнула руку, каб узяць часопіс «Огонек». Усе шэсць вачанят плылі за яе рукою, спыняліся на пярсцёнку. Вочкі гарэлі, вусны ўсміхаліся, а ногі амаль што не стукалі пад услончыкам. Лена спахапіла іх погляды, і сэрца зашчымела прылівам чагосьці цёплага. Так расце на лясной палянцы, нікім не крануты, тонка-сіненькі званочак і з гушчыні лесу сваім вочкам шукае і знаходзіць сонца ў высокім небе. Можа ў тым пярсцёнку і схаваўся гэты званочак, бо вельмі да яго падобны. Калі Лена набліжала «Огонек» да сябе, вачаняты праводзілі руку.

Лена разгарнула пейзажныя старонкі часопіса і так адкрытым паклала яго перад дзяўчаткамі. І тады малыя рукі-пальчыкі захапілі яго, і застылі вочы зноў-такі ў захапленні. Бо як жа тут не захапляцца, калі вось садок і над ім тырчыць шпакоўня, а на ёй сядзіць чорненькі, з тонкай дзюбкаю шпачок. Ён, здаецца, вось-вось паляціць некуды, бо разглядаецца навокал. На другой старонцы пушыстая зіма ў лесе пры дарозе і на пярэдняй галіне сасны сядзіць ён — чырванагруды снягір. Адна дзяўчынка аж выкрыкнула: «А я яго бачыла летась! Ён прылятаў у наш агародчык». Другая не верыць, бо кажа: «Як ён мог прылятаць, хіба ён не баіцца? Гэта ж не лес, а агародчык». Першая бароніцца: «А ён сядзеў на яблынцы. Гэта ўсё роўна як у лесе». Лена суцішала іх спрэчку і, каб перабіць, спыталася:

— А што вы думаеце рабіць з гэтых абразкоў?

— Марыя Іванаўна казала, што зробім... Зробім...— запнулася курносая двоечніца,— ой, я забылася...

— Музей,— адказала пяцёрачніца Ганна.

— Гэта добра, дзяўчаткі. Малайцы, што вы прыйшлі. Я вам назбіраю і абразкоў, і партрэтаў. Толькі вучыцеся добра. А як зробіце свой музей, то запросіце мяне пагля-дзець ці не?

— Запросім! — гукнулі маленствы.

Лена назбірала ім ужо старых часопісаў, хоць іх яшчэ было мала, звязала ніткаю і перадала двоечніцы. Двоечніца брала з такою радасцю і гордасцю, што аж затаіла дыханне. А тыя дзве глядзелі на яе, і кожная думала: «Ой, чаму ж гэтая цёця не аддала мне?»

Лена прыкмеціла гэты рух і папракнула сябе за памылку. Трэба было спытацца, каму з іх перадаць. Безумоўна, яны сказалі б можа і гэтай выглядаючай больш дарослай за іх двоечніцы. А так тыя дзве пойдуць дахаты з пачуццём крыўды. «Што я нарабіла!» І Лена ласкава багаслаўляла іх ля дзвярэй на дарогу, казала, каб пазашпільвалі гузікі на сваіх заношаных каптаніках, каб паправілі хусткі. Яны ўсё гэта ахвотна выконвалі і ўсё яшчэ чагосьці астойваліся, пераглядваліся. І ўрэшце тая Леніна выбранніца — двоечніца ступіла адзін крочак да Лены і з хваляваннем прамовіла:

— Цёця... дайце нам паглядзець на ваш пярсцёнак.

Лена бадзёра зарагатала, усіх абняла, прыгарнула да сябе і потым дала ім для аглядання сваю руку. Дзяўчаткі раптам прыціхлі, быццам нічога перад гэтым не адбылося, і глядзелі стаіўшы дыханне на гэты цуд...

— Ой, харошы...— шапталі. Ім хацелася глядзець на яго даўжэй, але палеская ноч з агеньчыкамі ў акенцах ужо клікала іх дахаты.

* * *

Адведанне Ленай хаты з дзвюма печамі не прайшло без увагі местачкоўцаў. Да Яхіміхі вечарамі пачалі прыходзіць суседкі з кудзелямі, як тут кажуць — на папрадухі. У першы вечар прыйшло дзве цёці, а ў наступны ўжо чатыры. Бабка Яхіміха вымушана была запаліць сваю кухонную газнічку, паставіць яе на карнізе коміна, каб яна хоць крыху ахоплівала падбароддзі кудзеляў. Праца спорылася ў здаровых, працавітых руках, засліненыя пальцы з прысвістам коўзаліся па нітках, і са спрытам ніткі накручваліся на верацёны. Лілася жвавая гутарка пра новае, што павінна прыйсці ў іхняе мястэчка Лахі. Кажуць, што будуць будаваць дарогу да павета праз дрыгвяныя балоты, перарэзаныя ляснымі ўзвышшамі — «градамі», як называюць іх тутэйшыя людзі; што будуць будаваць вялікую школу ў два паверхі і што «але́ктрыку правядуць».

Немалое месца ў гутарцы займала і тое, што старой Камарысе дадуць новую кватэру. Кажуць, што ў старога Ахрэма Балабона забяруць хату пад кніжкі. Жанчыны хочуць прыпомніць, як завецца такая хата, дзе перахоўваюцца кніжкі, гэта значыць — бібліятэка, але ніяк не могуць вымавіць гэтае мудрае слова. І ўсе намаганні канчаюцца смехам, бо з слова «бібліятэка» ў іх выходзіць нешта падобнае да слова «бутэлька». Аднак не вераць гэтаму слову і смяюцца. У перапытках паглядаюць на дзверы ў пярэднюю палавіну хаты, нават нібы крыху прыслухоўваюцца. Там сядзіць яна — новая маладзіца, што ў райком прыехала і, як казала Камарысіна нявестка, што вельмі ўважлівая і «хороша», пра ўсё пытаецца, пыталася нават і пра другую печ, што зрабіў сын, каб уцішыць маці — Камарыху. Калі штосьці там, за дзвярыма, загрукае, усе спыняць цягнуць ніткі і насцярожацца — вось можа выйдзе гэтая царыца з свайго пакоя і пакажацца ім у сваёй красе. Але стук заціхаў, і царыца не выходзіла. Цень лёгкага расчаравання прабягаў па іх тварах, і ўвішныя рукі зноў браліся за працу. Калі ж Яхіміха ўстане і адчыніць дзверы, каб увайсці па якую-небудзь патрэбу, галовы папрадух ураз стуляюцца ў адным руху і пільна ўглядаюцца, каб як мага больш разглядзець царыцу. Дзверы зачыняюцца, і тут жа пошапкам пачынаюць вылятаць заўвагі: «Хороша»... «А якое валоссе кучаравае»... «Плацце з каўнерыкам»... «Як лялька»...

І ўсе згаджаюцца, што харошая.

Калі кудзельніц стала збірацца ў Яхіміхі ўсё больш і больш, што ўжо ледзь умяшчала кухня, Лена аднаго вечара вырашыла выйсці да іх. Не магла не выйсці. Сэрца білася, калі яна праз дзверы чула выбухі іх смеху і потым палахлівае заціханне. Ведала, што «каяліся», што можа парушылі Леніну цішыню. І Лена выйшла. Выйшла не адна. У руцэ несла бліскучую лямпу і бачыла, як ліхаманкава рассоўваліся ў бакі ўслоны і ўслончыкі, каб даць прасторы доўгачаканай «царыцы». А яна, гэтая Лена, нават не магла авалодаць сваімі пачуццямі, калі ў пацёмках убачыла жаночае зборышча, дзе, як лес, тырчалі прасніцы. Пачуцці выклікалі яе сюды і так змяшаліся, што Лена стаяла, як бездапаможная, з лямпаю ў руцэ. Потым спахапілася і паставіла лямпу побач з газнічкай на прыступах коміна.

— Ну то як — святлей трохі? — спыталася жартаўліва.

— О, яшчэ як! — загудзелі жанчыны.

І вось гэтая пераклічка паставіла Лену на ногі. Яна

хацела пайсці ў сваю палавіну і прынесці крэсла, але, агляну ўшыся, убачыла, што крэсла ўжо стаіць. І яна села.

— Усе вы прадзяце. І я таксама ўмею прасці. Дайце, бабка, і мне кудзелю,— звярнулася Лена да Яхіміхі. А жанчыны ўголас: «А нашто вам тая кудзеля? Яшчэ вам не хватала гэтага! Кудзеля — гэта пакута!» І пайшлі і пайшлі — гоманам і не ўбачылі, як Яхіміха нясла з каморы прасніцу з кудзеляй — толькі не з ваўнянай, а з ільну. Гэта нейкі леташні недапрадак заваляўся ў каморы.

Лена ўмясціла на крэсле яе, старую, прапахлую пылам і холадам, кудзелю і села. Да свядомасці вярнулася тое даўняе мамінае, дзявочае, і рука сягнула на адваротны бок прасніцы і выцягнула з-пад прывязі верацяно. Жанчыны цішэй павялі свае ніткі, каб патрапіць заўважыць усё да кальвячка, што рабіла Лена. І калі Лена, пасліні ўшы пальцы, уваткнула вастрыё верацяна ў бараду кудзелі, усе прыціхлі і перасталі прасці. А яно, гэтае бывалае, абслізганае верацяно, крутнулася ў руках Лены, і нітачка віркам павілася з кудзелі. Усе ўздыхнулі з палёгкай. Былі задаволены, але і азадачаны. Бо ж як гэта можна — такая пісьменная, як пані, і вось — прадзе? На нейкую долю хвіліны ў тварах прамільгнуў пратэст — можа каторай хацелася сказаць (а напэўна хацелася), каб Лена не прала, каб сядзела так перад імі, каб можна было аглядаць яе. Прадзіва — гэта работа наша, бабская, бо да чаго ж мы больш здольныя? — толькі поўзаць па зямлі і смактаць кудзелю. Але такое думанне толькі на момант агарнула кудзельніц — яго замяніла ўсё ж такі радасць — такая харошая, граматная і ўсё роўна нашу работу знае. Значыць, яна не панская, а свая, наша. І павольна весялелі іх жаночыя, заўсёды руплівыя, вочы. Адна, смялейшая, запыталася: адкуль яна, Лена? І ўсе слухалі яе расказ пра сябе. І ўсе даведаліся, што Лена не гарадская, а з такога ж самага гнязда, як і яны. І ўцеха разлівалася на тварах — кожнай думалася з асалодай, што вось гэтая Лена — ні то яе дачка, ні то сястра. А калі Лена пачала расказ пра свае турэмныя гады, спыніліся прасці кудзельніцы і слухалі, як добрыя вучні ў школе, толькі лёгкі цень смутку часам набягаў на твары. Пацярпелі людцы пры панах, ой пацярпелі. І дзякуй богу, гэта мінулася, што такая вось Лена асталася жывая і сядзіць з намі і так хораша расказвае. І, відаць, сапраўды хораша, бо гаспадыня хаты Ганулля Яхіміха нават забылася патушыць газнічку, і яна гарыць ціхань-

ка — паблісквае, як свечка, нібы туліцца да гэтай — ох як жа светлай і вялікай лямпы!

Не прамінулі кудзельніцы, каб не спытацца, ці то праўда, што старая Камарыха палучыць кватэру. Абвінавачвалі цёткі Камарыху, што яна і заядлая, і шкодная, і паскудная і што не варта таго, каб ёй даваць кватэру — лепш ужо сыну даць, а не ёй, няхай гібела б у сваёй старой «кватэры», калі так ёй яе не хватала. Няхай ляжала б на дзвёх печах. Лена тлумачыла, што местачковае начальства ўзяло пад увагу тое, што Камарыха ўжо старая, а значыць, трэба ўважыць ёй. Кудзельніцы змоўклі, зашчаміўшы губы, насупленыя, але больш пратэстаў не ўзнімалі. Гутарка рабілася цікавай.

## Раздзел пяты

## РАШЭННЕ

Залаты лістапад быў у самай сваёй пары, калі дажджавыя дні мяняліся сонечнымі — ды такімі ціхімі, ласкавымі, што шырокія балотныя прасторы застывалі ў марыве пад небасхіламі, і тонка, задумна пашумліваў лес, падставіўшы свае вяршыні і сонцу, і небу. Але глухла рэха ў баравых гушчарах, у хмызах балотных і на лясных дарогах пад старымі каранастымі дубамі. Ішла яна — восень — і таймавала, прыцішала гукі.

А дажджы — гэта не дажджы, а дожджыкі — уборыстыя, спорныя — марасяць, як праз сітка, і морась, спавітая лёгкім туманам, тоне ў калматых соснах, пачарнелых алешніках на прырэчных, канальных нізінах.

Лена рана прыйшла з райкома. Націснула на сенцавыя дзверы, каб адчыніць, але яны не адчыняліся. Тады яна адышла да акна кухні і пад страхою, пад латай, знайшла адмысловы ключ — жалезны, доўгі, з кароткай, рухавай планачкай на канцы — і вярнулася да дзвярэй. У сасновым, скамянелым ад часу, тоўстым слупку, на якім, нягледзячы на старасць, усё роўна яшчэ сачылася жылкай смала, чарнела круглая дзірка, як вочка. Праз яе праткнула Лена сцяну гэтай дзіўнай прапрадзедаўскай прыладай, каб планачкай-язычком патрапіць зачапіць там у сенцах драўляную засаўку, зачапіць у тым месцы, дзе радочкам размешчаны прарэзы. Даволі язычку ўпасці ў адзін прарэз, і

засаўка ўжо ў палоне — крутнуў у бок ад дзвярэй, і яны ахвотна адчыняюцца. Улетку гэтыя сенцы абдаюць чалавека прыемным гаспадарскім подыхам, запрашаюць прысесці за звычайны сасновы столік ля бярвенiстай сцяны і ўздыхнуць з палёгкай. Вось і прыпынак з далёкай ці блізкай дарогі. Пасядзі, падарожны — свой ці чужы,— тут цябе пачастуюць духмяным бярозавым квасам. Ты вып'еш, і спакой напоўніць тваю душу, каб расказаць гасцінным гаспадарам пра сваю жыццёвую дарогу.

Лена, калі адчыняла сенцы, заўсёды ўспамінала сваю маму ў тых сенцах, што над Нёманам. І не раз прысядала ля століка, каб па старой, любімай звычцы глядзець праз адчыненыя дзверы на вуліцу і бачыць, як праходзяць жанчыны, мужчыны, бегаюць дзецi, як спакойна дзяўбуцца куры, слухаць глухія галасы і пераклічкі пеўняў. Людзі, хто ў хаце, хто на полі, а хто ў лесе, заняты сваімі жыццёвымі справамі.

Так яно адбывалася і ў гэтым глухім мястэчку, куды лёс закінуў Лену. Яна даўгавата пастаяла ў сенцах, у роздуме гледзячы на вуліцу, і адзначала падобнасць жыцця мястэчка са сваёй наднёманскай вёскай Прылессе. Але падобнасць была не ва ўсім. Мястэчка Лахі цесна абступаў лес, нібы хацеў, каб у гэты густы пераплёт хат ніхто не прабіўся. Тут людзі замкнутыя ў сабе, не хутка вераць чужому чалавеку, тут людзі лясныя, і на іх усё саматканае — сарочка, кашуля, куртка. А кажушкі ў вышыўках. Лапці з дубовых палосак. А над Нёманам больш ветру, ды такога гулліва-палявога! Гэта ж ад яго дотыку так прыгожа хвалюецца каласістае жыта на шырокіх палетках. Хвалі чарадою набягаюць адна на адну і не спыняюцца. Людзі з прыемнасцю падстаўляюць яму свае твары, каб ён, гуллівец, сагнаў стомленасць, каб удыхнуў бадзёрасць і выклікаў усмешку да загаруненых прастораў. А тут маўклівасць, цяжкая задума ў лясных перакатах. І ўлада глушыні хмызоў і чаротаў. І чалавек робіцца падобным да прыроды. Недзіўна — ён жа яе сын.

Дзень шэры. Неба, як воўна, цяжка павісла над хатамі, над балотамі за каналам. Вось-вось павінен пырснуць дождж. Нявесела на душы ў Лены. У руцэ павісла сетка — торбачка, поўная скрутачкаў: у адным — кавалачак сала, у другім — масла, адна рыбная кансерва, пачак пячэння. Хлеба няма. Хлеб, відаць, яшчэ ў печы. Каля яго гаспадыня — бабка Гануля. Буханачку яго Лена возьме з сабою. Куды? У дарогу, толькі ў дарогу. Заўтра... Заўтра...

Тупат на падворку абудзіў Лену ад задумы. Увайшла бабка Ганула Яхіміха з поўным кошыкам баравікоў. І абедзве — і старая, і маладая — любаваліся імі, цешыліся, дзякавалі задуманай восені з яе дожджыкамі і скупымі сонечнымі ўсмешкамі. Як толькі ўвайшлі ў кухню, Яхіміха адразу пра хлеб: «Я спяшалася... як ён тут?» Калі адчыніла засланку, акенца асвяціла на разасланым аерным лісці запечаныя горбікі, якія рассяяліся на чарэні.

Яхіміха вопытным вокам агледзела іх з кутка ў куток і сказала: «Пара... Пара, мая саколка, пара»,— паўтарыла яна не раз, каб пераканаць Лену, бо Лене хацелася, каб горбікі пасядзелі яшчэ, каб крыху прычарнелі. Не, Яхіміха паставіла на сваім — пераканала. Жвава схапіла качаргу, і горбікі пачалі смыкацца на прыпек і ў руках Яхіміхі, гарачыя, ачышчаліся ад лістоў аеру, кладліся на ўслон. Потым іх Яхіміха апырсквала вадою, і пахучае парнае цяпло рассайвала пад столлю.

...Значыць, так... у дарогу. Лена прывыкла збірацца ў дарогу. Заўсёды пры гэтым агортвала такое пачуццё, што ідзе яна ў нешта новае, свежае, дзе трэба будзе зрабіць нешта такое, што закране людзей за душу, ускалыхне, дадасць надзеі. І тады ў вачах хоць на момант, а бліснё радасць. Але цяпер пасля нарады ў райкоме Лену трывожыць адно пытанне, якое задаў ёй сакратар райкома:

— Таварыш Лесавічанка-Верасовіч,— звярнуўся ён,— то да вас яшчэ і дагэтуль прыходзяць людзі са сваімі скаргамі?

— Прыходзяць...— адказала Лена.

— То можа райком перанесці да вас? — засмяяўся сакратар.

Лена зразумела такі падыход, усміхнулася і насцярожылася — нешта неспадзявана новае адчула яна ў такім звароце сакратара, у яго смеху, якім ён прыкрыў нешта. Няўжо? Няўжо так? Гэта было б крыўдна. «Але можа я памыляюся?» — падумала яна і сказала:

— Усіх людзей, хто да мяне прыходзіць, я накіроўваю ў райком.

— Мы гэта ведаем, але...— сакратар не дагаварыў і перакінуўся на другое, аб чым, уласна, ішла гутарка на нарадзе — каго паслаць у далейшыя палескія нетры для арганізацыі калгасаў. І вырашылі паслаць іменна Лену, нягледзячы на тое, што Лена загружана агульнай прапагандысцкай працай у райкоме і яшчэ к таму — на ёй ляжыць праца ў рэдакцыі газеты «Сталінскі шлях».

У райкоме толькі адна машына — «газік», і ён, бедны, увесь дзень у руху, няма яму прыпыну. На чым жа рушыць у палескія нетры Лена? Думалі, думалі і да нічога не прыходзілі. Многа гаварылі пра тое, каб канфіскаваць каня і калёсы ў Ахрэма Балабона, бо ў яго двое коней, але адставілі — і адставілі дзякуючы настойлівасці Лены — гэта зробіць дрэннае ўражанне на ўсё мястэчка. Гэта можа нават пасеяць паніку, бо знойдуцца такія, каб такое наша «мерапрыемства» раздуць у скандал. І ўсё ж такі выхад знайшлі. На базе былой купецкай лесапільні пачаў устатковувацца леспрамгас. Вось там і трэба пазычыць каня з калёсамі, даць Лене фурмана, і справа будзе вырашана. Сказалі, пастанавілі. «Збірайся, таварыш Лесавічанка-Верасовіч, і заўтра ў дарогу». Фурманам аказаўся намеснік рэдактара газеты — Юрка Точань. Аб гэтым сказалі Лене толькі ў апошнюю хвіліну.

Нарада скончылася. Усе разышліся да месц сваёй працы. Лена пайшла на сваю кватэру над каналам да бабулі Ганулі Яхіміхі, каб сабрацца ў дарогу з рэчамі і думкамі.

— Куды ж ты, саколка?.. Нашто яны цябе такую... у дарогу?

Лена смяялася, запэўнівала бабку, што можа ехаць нават за мора, нічога не станецца. А бабка стаяла, скрыжаваўшы рукі на жываце, не адыходзячы ад Лены, і ўсё ківала галавою. Моўчкі адышла на кухню і хутка паставіла на стол міску капусты са здорам.

## ТАЁМКА

Гэта не рака і не рэчка — гэта нястомная лясная ручаіна. Яна, здаецца, нязначна для вока прабіваецца і праз баравыя сосны, дзе толькі трава-круглiца сцелецца кусцікамі — заўсёды як пасівелая. У такіх месцах ручаіна струмочкам нават шчабеча, адкрытая для свету, паказваючы сваё, усыпанае жвіровымі каменьчыкамі, дно. А потым зноў нырае — хаваецца ў гушчары — то арэхавыя, то альхова-крушынавыя,— віецца між абмытымі карчамі, то ўліваецца ў зараснікі маліны, ажыны, пamешаных з лапушыстай крапівой. І там знікае. Яна прыціхла, стаілася, ледзь паблісквваючы цяністым бляскам там, дзе лісцястыя травы-ўюны расхіліліся над ёю, каб даць магчымасць сонечным праменьчыкам дакрануцца да патаемных, нябачных струмочкаў крынічнай плыні.

З травяных і ягадных гушчароў вытыркаюцца розныя

кветкі, узгадаваныя ранкавымі росамі, якія, відаць, і далі ім колеры — то чырвона-макавыя, то ціха-васільковыя, то пушыста-белыя, то цёмна-сінія, то жоўтыя, як лотаць. Гэта колеры сонечнай вясёлкі. Гадуюць іх не толькі вясна і лета. Залатая восень не хоча расставацца з імі, і калі тыя, што ўзраслі для вясны і лета, пачынаюць нікнуць, на іх месцы расквітаюць асеннія ў сваёй непазнанай стракатасці. І ўвосень разам з імі, калёрыстымі, чалавечае вока спыняецца найбольш на такіх спадарожніках упартай ручаіны, як клёны, ясені, грабы, вязы і рабіны са сваімі гронкамі чырвані. Усе яны кожны дзень абсыпаюць нястомную крынічную плынь залатым россыпам сваіх лісцяў. І цішыня лясная сочыць за ціхім, нязведаным, неўміручым шорахам лясных таямніц... Спытайцеся ў людзей, куды ўліваецца гэтая ручаіна, людзі скажуць: «А бог яе ведае...» А як завецца, скажуць: «Таёмка».

Такая вось ручаіна і суправаджае Лену Лесавічанку і фурмана Юрку Точаня. Юрка яшчэ малады, з чорнымі шорсткімі валасамі, якія не слухаюцца грэбеня, будзе пісаць карэспандэнцыі, нарысы, як насельніцтва ўспрымае ідэі калектывізацыі, як любіць ён напышліва паўтараць. Сяло — першы іх прыпынак — адстаіць ад райцэнтра на сорак кіламетраў. Юрка, як той тапаграфіст, мае ў сваёй торбе і геаграфічную карту Беларусі. Калі лясная дарога ўздоўж ручаіны пачала здавацца бясконцай, Юрку кранула сумненне — а можа едзецца не той дарогаю. І ён дастаў карту, разгарнуў. Нахіліла галаву да карты і Лена. Шукалі. Знайшлі свой райцэнтр Лахі і пачалі кружыць пальцамі навокал яго. І вось урэшце — нават тлуставатымі літарамі — кінулася ў вочы слова «Ракі». Вось гэта і ёсць яно — сяло Ракі. Нават крыху пасмяяліся з такой назвы. Ну што ж, Палессе мае свае адмысловыя назвы. Яны не скінуты з неба, яны народжаны тут, у лясным жыцці, самім народам. І Лена дакончыла:

— І гэта хараша!

Колы выстуквалі дроб па карэнні, усё больш па карэнні і ўсё больш пад навесам старажытных дубоў. І невядома, хто ад каго не адставаў — ці ручаіна ад іх, ці яны ад ручаіны. Бо, калі яна заломам наблізіцца да дарогі і сваёй неўтаймаванай плынню бліснe перад вачыма, Лене хочацца саскочыць з калёс, набраць у прыгаршчы яе, халоднай, празрыстай, і напіцца. Але яшчэ немалы кавалак дарогі астаўся да тога невядомага сяла, дзе чымсьці некалі адзначыліся Ракі.

Дарога паступова спускала падарожных усё ніжэй і ніжэй. Яна рабілася ўжо чорнай, нават дзе-ндзе гразкай. Па баках праглядаўся больш альховы лес. Можна чакаць, што блізка або ляслая лугавая даліна, або рэчка. Не, выехалі на невялікую гразкую грэблю, і конь ступіў на той абыякавы мосцік, які ўсюды складаецца нібы з выпадкова накіданых круглякоў, з якіх заўсёды аднаго або двух не хапае. Так яно было і тут. Не хапала аднаго бервянка, і конь на момант спыніўся. Нагнуўшыся, нюхнуў і, як разумны следапыт, вошчупам пераступіў маставую правалінку. Вачам падарожных адкрылася вялікае сяло на некалькі вуліц. Пад мосцікам бруілася іх спадарожніца-ручаінка, якая кіравалася ў далінавыя хмызы, у толькі ёй адной вядомыя сховы. Уехалі ў шырокую пескавую вуліцу, узначаленую высокім плячыстым крыжам. Ён тварам глядзеў на грэблю, насустрач усякім падарожным — і пешым, і конным. Колы ўядаліся ў пясок, цяжка шуршэлі, і конік старанна перабіраў нагамі — напружаны і ўжо ўспатнелы. Падарожным трэба спыніцца перад сельсаветам. Узняліся на горку і ўбачылі, як у аддаленні высока над сялом віхрыўся чырвоны сцяг. Там павінен быць сельсавет.

Яшчэ здалёк Лена і Юрка ўбачылі нечаканае відовішча. Ля ганка сельсавета стаяў натоўп мужчын, жанчын і дзяцей. Мужчыны розных узростаў былі ў карычневых, з валенага сукна, куртках, у пакамечаных кепках і найбольш у лапцях. Жанчыны ў квяцістых хустках, у суконных, таксама карычневых, камізэльках з выкраенымі шыямі, адкуль віднеліся саматканыя белыя сарочкі ў зборках навокал каўняра. Там красаваліся пацеркі. Калі б зняць з галоў хусткі, вачам людзей адкрыліся б жаночыя злёгку загарэлыя шыі. Але самым адменным і нечаканым для Лены і Юркі было тое, што наперадзе натоўпу стаялі музыкі — два са скрыпкамі, адзін з флейтай і адзін з гармонікам. Ну і барабаншчык з бубнам. Як толькі фурманка стала набліжацца да натоўпу, ад яго адарваўся мужчына год за сорак і накіраваўся насустрач фурманцы. Гэта быў старшыня сельсавета. Фурманка спынілася, і старшыня, зняўшы шапку, распачаў прывітальную прамову. Ён называў прыбылых «дарагімі савецкімі гасцямі», што «народ чакаў вас даўно. І вось вы прыехалі да нас. Дзякуем». Старшыня пакланіўся Лене і Юрку, і тады грымнуў «аркестр». Лена з Юркам якраз злазілі з калёс, калі музыкі зайгралі не што-небудзь з маршу або меладыйна-фальклорнае. Не, яны ўдарылі, іменна ўдарылі «Інтэрнацыянал».

Стаяў без шапкі старшыня, трымаючы каня за аброць, стаялі без шапак мужчыны. А пасланнікі райкома, збянтэжаныя такою неспадзяванай сустрэчай, чакалі канца. Лена мацавалася — што тут рабіць? Вядома, трэба выступіць з прамовай. На імгненне ў памяці мільгануў вобраз мамы, а потым родныя наднёманскія прасторы ў паплавах, і яна была ўжо гатова. Скончылася музыка, Лена павольна падышла да натоўпу. Пры ёй стаў старшыня сельсавета ў афіцыяльнай позе і ўсё без шапкі. Юрка астаўся пры фурманцы. Людзі, асабліва жанчыны, разглядалі Лену — шчуплую маладую жанчынку ў шэрай хустачцы з вузялком пад барадою. Павольна смялелі яе цёмна-шэрыя вочы. Галасок гаварыў пра панскую няволю, якой ужо няма, пра Савецкую ўладу, пра Чырвоную Армію, якая прынесла свабоду, пра школьніцтва, пра непісьменнасць, і закончыла заклікам: «Няхай жыве наша народная, Савецкая ўлада! Будзем разам будаваць наша новае, сацыялістычнае жыццё, без паноў, без буржуяў!» Скончыла Лена і слухала аж да звону ў вушах гэтае голаснае «Ура!», і музыкі ўдарылі смыкамі па струнах, і зайграў гармонік.

У сельсавеце — вялікай хаце з глінянай падлогай — стаяў адзін-адзінюткі, нібы пакінуты ўсімі, драўляны стол на крыжаках, а навокал, як прыбітыя да сцяны, лавы. Там, дзе быў сямейны ложак з дошак — палок, гэта паміж печчу і акном на вуліцу,— пры акне стаяла на двух падкладахпаленах скрыня з жалезным прабоем, на якім вісеў замок. Гэта замена шафы для канцылярскіх прылад, а ўздоўж аж да абшарпанай печы — шырокая, новая лава. Сцены пабелены вапнай.

Свой паходны чамаданчык, акованы па загібах бліскучымі бляшкамі, Лена паставіла на покуць і села за стол. Глянула направа і пазнала на сцяне пад шклом у вялікіх дабротных, нейкіх, відаць, ясянёвых, рамках Фрыдрыха Энгельса з раскошнай хвалістай барадой. На душы стала неяк добра, надзейна. Калі глянуць налева на дзверы, то пры іх на лавачцы стаяла драўлянае вядро з вадою. Пры вядры стаяў чамусьці медны кубак. Старшыня з шэрымі вусамі на просьбу Лены сказаў сваё прозвішча, імя і па бацьку. Ён назваў сябе Крот Мікодым, а бацьку — Антон. Так і сказаў старшыня: «Бацька называўся Антон» — і дадаў год яго смерці, пажадаў яму царства нябеснага, пачасаў за вухам і, выняўшы кісет з кішэні штаноў, пачаў круціць у газетнай паперы папяросу з самасаду.

— А вы, калі можна ведаць, як называецеся? — кашлянуўшы для смеласці, запытаўся старшыня.

Лена сказала:

— Будзеце называць мяне Лена Сцяпанаўна Лесавічанка.

— Лесавічанка. То вы можа з Палесся?

— Не, я крыху здалёк. Ведаеце раку Нёман?

— Нёман ведаю... Як не ведаць? У нямецкую вайну пераходзілі Нёман. Ох жа і біў па нас немец...— І старшыня пакруціў галавою.

Пасля гутаркі ён устаў, узяў кій з таго месца, дзе некалі стаялі качэргі, сказаў, што пойдзе праверыць, як падрыхтавана кватэра для Лены. «Пачакайце трохі, я хутка...» — прамовіў ён і знік за дзвярыма.

Калі старшыня выйшаў, Лена перанесла свой чамаданчык на стол і адкрыла яго. Там разам з іншымі рэчамі ляжала папка з тоўстым сшыткам і канверты з паперай. Раскладаючы рэчы, пачула, як нешта стукнула па вокнах. Глянула: да шыбак прытуліліся насамі дзеці — і чарнавокія, і шэравокія — у расхрыстаных сарочках, у неданошаных бацькоўскіх кепках, у пачарнелых, сплеценых з тоўстай саломы капелюшах. Лена падышла да акна, і вочы-дзічкі перасталі ўсміхацца — застылі спалохана, насцярожаныя. Лена паклікала: «Заходзьце ў хату». Яны здзівіліся. Твары расплыліся ва ўсмешках, няўпэўненыя, з запытаннем — што рабіць? Лена паклікала яшчэ раз. Тады адзін штурхануў другога, сарваліся і пайшлі да дзвярэй. Увайшлі і адразу паздымалі свае ўборы з неастрыжаных галоў і сталі ля парога. Лена запрасіла іх падысці бліжэй, і гэта ўдалося не так лёгка. Падышлі да стала і ўтаропіліся ў чамаданчык. Ён быў карычневы, зграбны — і, галоўнае, як хараша блішчэлі бляшкі на загібах. Лена бачыла захапленне дзяцей, задавала ім розныя пытанні — то пра школу, то пра кароў (усе прысутныя былі пастушкамі), і пра ваўкоў спыталася. На гэта яны адказалі ўсе разам, усхваляваныя. Так, летась ваўкі выграблі яму пад падрубай хлява ў аднаго дзядзькі і ўкралі авечку. Добра, што ў дзядзькі харошы сабака, і ён моцна брахаў і скакаў да акна... Выйшаў гаспадар з ліхтаром, і тады ваўкі ўцяклі, але авечку пацягнулі з сабою. Адзін з хлопчыкаў адважыўся дакрануцца пальцамі да гэтай блішчастай бляшкі, што была найбліжэй ад яго. Дакрануўся і хутка адхапіў руку, глянуўшы на Лену — што яна будзе казаць? Лена ледзь усміхнулася, замкнула чамаданчык і сказала:

— Бачу, што вам падабаюцца гэтыя бляшачкі?

Усе кіўнулі насамі.

— Ну то паглядзіце...— Лена падсунула ім чамаданчык і адышлася да вядра з вадою. Сярод хлопцаў пачалася мітусня. Кожны хацеў захапіць чамаданчык толькі сабе. Лена, каштуючы ваду, з-пад кубка назірала.

Увайшоў старшыня. Выпрастаўся перад Ленай, як салдат, і прамовіў неяк нават урачыста:

— Пойдзем на кватэру. Вам трэба адпачыць.

Потым глянуў па хаце і цыкнуў на дзяцей:

— А вы чаго тут пазбіраліся? Ану, кыш адгэтуль!

Дзеці з тупатам пабеглі да дзвярэй.

* * *

На Беларусі ёсць нямала моўных гнёздаў, якія навука называе дыялектамі. У мове старшыні сельсавета і ў мове дзяцей Лена зразумела, што тут, у Раках, жывуць сакуны. У сваю чаргу гэта азначае, што недзе суседнічае шляхецкі засценак, бо вымова сакуноў з'явілася супрацьстаўленнем, свайго роду пратэстам, сялянскай рэакцыяй мове шляхты. Калі ў засценку такія словы, як, напрыклад, «умыўся», «пакаціўся», вымаўлялі — «умыўсё», «пакаціўсё», то сяляне насуперак засцянкоўцам збайкатавалі гэтае «сё», змянілі яго на «са» — «умыўса», «пакаціўса». Адсюль і празвалі іх — сакуны. Недалёка мяжа ўкраінскага Палесся, і таму мовы тут яшчэ труцца адна аб адну — дзе пераважае вымова ўкраінская, а дзе беларуская. У сяле Ракі ад украінскага суседства прысвоілася толькі адно «оканне», «аканне» тут адсутнічала. Танальнасць у гутарцы жанчын, асабліва ў бедаванні, разліўная, напеўная, са сваім мясцовым налётам у змрочных адценнях. Сярод моладзі такой танальнасці ўжо не пачуеш. У яе пануе больш тон балагурны, рэзкі, наступальны.

Лена праз сон чуе гаманлівую гутарку і не можа ўсвядоміць, адкуль яна. Яе ўчора добра пачаставалі бульбай з квашанай капустай і малаком, палажылі ў ложак за загарадкай, якая сценкаю ўпіраецца ў печ. Напхалі сяннік свежай саломай, гаспадыня прынесла з каморы новую саматканую коўдру і посцілку ў розных колерах, дзве падушкі пад галаву. Прапанавалі спачатку: можа госця захоча легчы ў каморы — там ложак з пярынамі. Лена нават заглянула ў камору, бачыла маленькае аконечка, а навакол цемру і адмовілася. Лена не ведала, што тут пануе такі звы-

чай — спаць у каморы не толькі вясною, улетку, увосень, але і зімою.

— Не, давайце пераспім у хаце, а там пабачым,— сказала Лена.— Я ж з каморамі незнаёма.

Лена лыпнула вачыма і абудзілася. Вочы ўбачылі перад сабою печ, дзе пад столлю на тонкіх тычках віселі скруткі часнаку. І тут ад гаворкі, што даносілася з-за дзвярэй, ударыла аб вушы жаночае, з рогатам, гуллівае: «Давай ожэнімоса, каб ты лопнуў!» Гэта голас гаспадынінай дачкі, ужо дарослай, так што з першага погляду можна нават прызнаць за маладзіцу. У хаце жывуць толькі маці з дачкою. Відаць, прыйшоў нейкі хлапчына, і вось адкуль такі сакавіты выкрык. Лена глядзела на печ, туды, на часнок, з застылай усмешкай і думала, колькі сілы, гарэзлівасці ў гэтым дзявочым выкрыку. Хацелася глянуць на хлапчыну, басок якога глухавата гучаў за сцяною.

Але... трэба ўставаць, хоць так прыемна паляжаць на гэтым сенніку, напханым свежай саломай...

Пасля снедання прыйшоў Юрка Точань. Размахваючы партфелем, поўнай хадою дайшоў да стала, паціснуў Лене руку і сеў на лаву. Зняў шапку, паклаў пры сабе, і непакорлівыя космы паўставалі, як восці.

Першым чынам расказаў, чаму сяло завецца Ракі. Гісторыя такая. Першымі пасяленцамі, жыхарамі пушчы ў гэтым месцы былі два браты. І абодва яны былі краўцамі, шылі людзям кажухі і курткі.

— Ну то пры чым тут ракі? — перабіла Лена.

— Пачакай... На Палессі, аказваецца, ёсць такое павер'е, што ракі — гэта божыя краўцы. Вось так людзі і празвалі гэтых братоў ракамі, а потым і сяло.

Лена смяялася. Абое былі ў добрым настроі. Юрка пасяліўся ў старшыні, які яму і расказаў пра гэтых божых краўцоў. Такім чынам, Юрка пачаў быць ужо нібы збірацелем фальклору. Ого, няма жартаў! Ён зараз пойдзе падслухваць усякія гутаркі і песні, апісваць буславыя гнёзды на дрэвах і гумнах, хоць ведае, што газета «Сталінскі шлях» такіх запісаў друкаваць не захоча. А галоўнае — Юрку трэба сачыць за тым, як будзе вясціся, як ён кажа, праца на «тэму калектывізацыі». Гэта ж вялікая дзяржаўная работа, і на яго, Юрку Точаня, ускладзена адказнасць за яе выкананне тут.

А яна, Лена, якраз і пачала гутарку аб плане работы ў гэтых Раках — з чаго пачаць? Тут людзі буднямі занятыя, трэба сход зрабіць у нядзелю. А нядзеля — заўтра.

— Так што ты, Юрка, падрыхтуйся выступіць, трэба ўмець адказаць на пытанні, бо пытанняў будзе многа. Калектывізацыя — гэта падзея, ды яшчэ для тутэйшых людзей — невядомая.

— Я яшчэ не думаў пра гэта. Не бойся, зробім. Толькі ты каб добра падхапіла гэтых вусатых дзядзькоў.— Юрка гатоў быў ужо інструктаваць Лену. Лена гэта адчула з першых слоў і перабіла.

Юрка пахмурыўся. Хацеў нешта сказаць, але за акном мільгануў цень. Нехта прайшоў, і хутка пачулася, як зарыпелі дзверы ў кухні.

— Ну, я пайду ў сельсавет,— сказаў Юрка.

— У дзве гадзіны буду і я,— адказала Лена.

У хату ўвайшоў высакаваты, сярэдніх год чалавек у доўгім гарадскім паношаным плашчы невядомага колеру, які найхутчэй можна б назваць шэра-зеленаватым. Ён стаў ля парога і не рухаўся з месца, не скідаў кепкі і рук не вымаў з кішэняў плашча. Глядзела на яго Лена. Што за чалавек — стаіць і не вітаецца, стаіць, як укопаны, у дабротных сялянскіх ботах.

— Праходзьце, што вы стаіце?

Чалавек адытхнуў. Было такое ўражанне, што ён набраў у сябе паветра і, затрымаўшы, не паспеў яго выдыхнуць. І вось, калі Лена запрасіла прайсці, ён адытхнуў на поўную душу і рушыў з месца. Ідучы, прамовіў, нібы сам сабе: «Не пазнала...» І вось ён стаў перад Ленай, усмехнены, радасны. Ці пазнае? Чалавек, пачакаўшы, пачаў гаварыць: турма... мама... паліто... Пачуўшы такое, Лена ўспыхнула, устала і паклала госцю рукі на плечы. «Гэта ж Косця Коршак — па псеўданіму «Палескі». Гэта той, што нам пісаў грыпсы. Гэта той, што перадаў мне паліто ад мамы, калі выходзілі з турмы. Ён, Косця!» Яна патрасла яго ў сваіх абдымках і пасадзіла на лаву.

— Нашто ж ты так аброс барадою? Ты ж яшчэ не стары. Запусціўся тут у Палессі. Дык Ракі гэта тваё сяло?

— Маё, Лена Лесавічанка. Бачыш, сяло, як пушча, абрасла амшэлымі стрэхамі, буславымі гнёздамі. Я пачуў ад старшыні, ад Мікодыма, што ты тут. І вось бачу цяпер. Тая самая, толькі пасталела.

— Ну што ты хочаш? Час...

— Пытаешся, чаму аброс барадою? — пачаў Коршак, на хвіліну задумаўся.

— Яшчэ пагаворым. Пайду ў сельсавет. Заўтра сход. Трэба рыхтавацца. І ты, дарагі, арганізуй свой капэзэбоўскі

актыў, будзем пачынаць будову сацыялізму ў тваіх Раках і ў наваколлі. Без гэтага мы не жыльцы на свеце.

Коршак яспеў на твары і маўчаў. Вочы бліскалі ўцехай. Але ён маўчаў. Устаў, ужо закамянелы на твары, сціскаліся пашчакі. Зашпіляў плашч і маўчаў. Адытхнуў з палёгкай і толькі кінуў адно слова з дадаткам «ну» наперадзе:

— Ну, пайду...

Лена ўстала, каб з ім развітацца. Твар яго быў пагодлівы. Ігралі ўсмешкі ў вачах, быццам баялі нешта нявыказанае. І яна, таймуючы ўсмешку, усё ж такі сказала:

— Пагалі ты сваю затужаную бараду...

* * *

Так, гэта яна — школа. Яна і цяпер неяк вылучаецца ад усяго сяла. Не толькі таму, што стаіць на ўскраіне, крыху воддалі, але і сваім выглядам. Пачарнелыя ад часу шырачэзныя бярвенні выглядаюць абчэсанымі на плаз і пагаблёванымі даўнімі майстрамі недзе можа ў пачатку другой палавіны мінулага стагоддзя, па царскім вызваленні ад паншчыны. Яна мае шырокі ганак, над якім чатырохкутнік страхі, абапёрты на двух чатырохкантовых слупах — вядома, ужо некалі рамантаваны, бо слупы на нейкую адцень святлейшыя за сцены. А сцены, некалькі амшэлыя, крануты дзірачкамі ад нейкіх дрэваедаў, з іх сыплецца парахня.

Але ў сваёй такой «гістарычнай» старасці школы найбольш прыкоўвае вока страха. Яна амшэлая і таму выглядае, як зялёны замш, разасланы на латах. І на пуховым яго пасланні знайшлі сабе месца травінкі. Яны, тонкія, квола вытыркаюцца з кволымі квяцінкамі — белымі, чырвонымі і іншымі. А дзе чарнеюць дажджавыя правалыдзіркі, навокал іх яны гуртуюцца пучкамі. А комін... ледзь відзён паміж іх, як агрызак пня ў лесе. Пакрыўленым вокнам не хапае шкляных шыбак, і замест іх няўклюдна, абы-як — дзе картаніна, а дзе кавалачкі бітага шкла, счэпленыя драначкамі. Словам, школа — як крыўда веку, у якім знайшло свой выраз запярэчанне гасподскім і панскім размовам пра культуру.

Калі краіна была пад панаваннем пілсудчыны, прыязджалі некалькі разоў два паны, аглядалі гэтую змрочную «прыгажуню» і ад'язджалі ні з чым. Толькі загадвалі солтысу, каб аберагаў яе, не дапускаў да разбурэння. Навучанне дзяцей усё ж такі было. Яно засноўвалася стыхійна. Знаходзіўся настаўнік, збіралі дзе ў каго ўсякія кніжкі. Былі і дзіцячыя. Сам настаўнік школьным пяром друкаваў

літары алфавіта. Бацькі складалі грошы на паперу. А настаўніку плацілі натурай: як хто — хто жытам, хто ячменем, а хто грэчкай. У дадатак давалі па кавалачку сала, як тугасцінец. Хата выбіралася вялікая. Гаспадар з сям'ёю туліліся за загарадкай на кухні, хоць нанач сямейнікі сцялілі сабе на лавах у «школе» і адпачывалі да ранку ў суседстве са школьнымі сталамі на крыжаках і ўслонамі. Вучнямі былі адны хлопчыкі. Іх набіралася не больш пятнаццаці. Дзяўчат не было. Яны праходзілі іншую «навуку» — вучыліся ад сваіх мам прасці гаротніцу-кудзелю.

Так вось у гэтую «крыўду веку» — урослую ў зямлю, амшэлую старую школу — прыйшлі праводзіць сход. Прыйшоў сам старшыня сельсавета Мікодым Крот, а з ім інструктар райкома Лена Лесавічанка і той — «не вучы вучонага» — Юрка Точань. Побач з Ленай ішоў і Косця Коршак, яшчэ не паголены. А з Юркам у пары крочыў ні то хлопец, ні то ўжо дарослы. Можа, яму было ўжо гадоў пад трыццаць, але на смуглявым птушыным твары разлівалася нейкая амаль дзіцячая ўсмешка. І гэтыя карыя вочы з доўгімі вейкамі глядзелі па-дзіцячы. З-пад памятай кепкі вытыркаліся непадстрыжаныя валасы. Старая пацёртая куртка на ім, зашпіленая на адзін гузік, сюд-туд расшпілялася, і ён клопатна яе зашпіляў, быццам баяўся, каб людзі не заўважылі такога недагляду ў яго вопратцы. Гэта — Сымонка Жучок. Гэта ж ён сустракаў Лену Лесавічанку і вось гэтага даўганогага хлопца там, ля сельсавета, у складзе аркестра з гармонікам у руках. Гэта ж у яго таксама турэмнае мінулае. Камсамольчык Жучок вывесіў некалі чырвоны сцяг на скрыжаванні сваіх палескіх дарог, якія найбольш тонуць у пушчы, і, вядома, трапіў у турму са сваёй песенькай, якую ён спяваў па-свойму. Гэта песенька камсамольская. Яна гаварыла на рускай мове: «КИМ, бей по разрухе, строй жизнь в новом духе». Падабалася яна Жучку, але ў першую чаргу, мусіць, сваім матывам, бо з адным слоўцам у гэтай песні ён не разабраўся, ён яго не разумеў. Яму здавалася, што ў такім, напрыклад, слове, як «разруха», бог яго ведае, што крыецца. І ён пачаў песеньку спяваць па-свойму, як яму падыктавала яго натхненне. І Жучок часта спявае яе сам сабе: «Кіем бі праміз вухаў, строй жысць у новым духу...»

Ну чым жа можна біць «праміз вухаў»? Вядома, толькі кіем. А што такое КІМ — ах, доля горкая,— камсамольчык Жучок не ведаў. Ніхто яму ў палескай глушыні не растлумачыў. Так і ішоў праз свае пастушыя паляны і лясныя

дарогі-сцежкі камсамольчык Сымонка Жучок і цешыў сябе песенькай: «Кіем бі праміз вухаў, строй жысць у новым духу...» З ёю ён і прыйшоў у турму. Калі хлопцы, таварышы па камеры, азнаёміліся з ім і ён асвойтаўся з усімі, аднаго разу пасля паверкі яны, ужо лежачы на сенніках, запыталіся ў Жучка: «А якія ты знаеш песні, Жучок? Праспявай нам хоць адну». І Жучок доўга набіраў адвагі, вельмі саромеўся. І ўрэшце ўступіў намаганням хлопцаў і ўшпарыў, як кажуць, сваім тэнаравым голасам: «Кіем бі праміз вухаў...» Хлопцы праслухалі спеў Жучка, і пасля ў камеры была нават доўгая цішыня. А потым... А потым раптам выбухнуў такі ўзрыў смеху, што аж галубы за кратамі залапаталі крыллем і адляцелі. А Жучок глядзіць як ашпараны, думае: «Ну чаго ж яны смяюцца? Хіба ж я не так спяваю? Я ж яе чуў ад таго разумнага таварыша, які хаваўся ў нас на гарышчы і вельмі кашляў. Маці лазіла да яго кожны дзень па драбіне са збанком, з якога тырчала драўляная лыжка. У збанку быў крупнік з малаком. Маці яшчэ парыла яму нейкае зелле ад кашлю. А потым аднаго разу крыкнула на гарышча: «Паліцыя ў сяле!» І той таварыш уцёк у лес...»

Усё гэта прабегла ў галаве Жучка. І ён урэшце адважыўся спытацца: «А чаго вы смеяцеся?» І тут хлопцы, спачуваючы яму, ахвотна растлумачылі ўсю песеньку. Даведаўся Жучок, што такое КІМ і што такое «разруха».

Нямала гадоў мінула з таго часу. Жучок вырас у мужчыну. Таварышы ў турме навучылі яго пісаць, а чытаць ён трошкі ўмеў, далі яму веды пра зямлю і пра неба, пра сваю краіну і пра класы, якія змагаюцца паміж сабою, і тое, што на свеце павінен перамагчы і пераможа буржуяў рабочы клас, ды разам з бедным сялянствам. Сымонка Жучок ужо не Сымонка, а Сымон-гарманіст, паляўнічы і рыбак на ўсе Ракі. Працуе ляснікам і хоча вучыцца на лясных курсах, якія маюць адкрыцца ў Лахах. Ідзе на сход, каб памагчы стварыць пачаткі новага жыцця ў сваіх родных Раках. Вось дзе вынашаная песенька прыйшла на дапамогу — «КИМ, бей по разрухе, строй жизнь в новом духе, трактором мы вспашем будущее наше». Усё зразумела цяпер для Сымона Жучка, і зусім адчувальна зразумелай робіцца яго ўласная куртка на плячах, з адным гузікам, з якое ён ніяк вылезці не можа. Бог даў Сымону Жучку жонку і двое дзетак. Усё гэта добра. Але гэты такі несправядлівы бог выдзеліў яму вузкую палоску балотнай зямлі, на якой трэба садзіць бульбу на градах, як капусту, каб

у разоры сцякала вада, бо інакш і бульбінкі не збярэш — усё вымакне.

Лены Лесавічанкі Жучок не ведае — у іншай турме яму даводзілася быць. Але, мусіць, расказаў яму пра яе Коршак, бо Сымон, ідучы, сюд-туд паварочвае галаву назад, каб гляпуць на Лену. Точань гаворыць яму не толькі пра калгасы — ён палічыў патрэбным гаварыць пра адсталасць Палесся, пра яго дзікасць і абнадзейваць Сымона, што не пройдзе і года, як многае зменіцца на лепшае.

— Атрымаеце трактары, машыны, і дзела пойдзе як па маслу. Толькі арганізаванасць, толькі згуртаванасць...

Сымон маўчаў і толькі неяк азадачана час ад часу ўскідваў вачыма на Юрку. Нешта яму, відаць, не падабалася ў яго гутаркі. Бо нашто, напрыклад, высмейваць, як у Раках людзі гавораць? «Забіўса, памачыўса... Такі ўжэ ён пан. Відаць, сам нядаўна з лапцёў вылез... Вось каб ён паглядзеў, як я птушак страляю, якія ў мяне вуды, кручкі і колькі шкурак заячых вісіць на гарышчы, нябось бы так не гаварыў. Але пра гэта прамаўчым...»

Вось і ўскраіна. Навокал лугавое балота адным канцом паплыло далёка на поўдзень, а другім уздоўж Таёмкі бліжэй на поўнач. Ад школы да ручаіны рукой падаць.

У школе гучала, як у вуллі. За крыжаковымі сталамі і на саміх сталах густа сядзелі мужчыны і жанчыны. Апошніх было менш. Кідалася ў вочы немалая прысутнасць старых жанчын. Пры ўваходзе «начальства» ўсе прыціхлі да апошняга чалавека, і пад спарахнелай столлю перастала хвалявацца павуціннне, якое звісала дзе клоччам, а дзе ніткамі. Адзін стол быў незаняты. З-за яго ўстаў і ступіў насустрач увайшоўшым ён — старшыня сельсавета Мікодым Крот, выпраставаны, з узнятай пасівелай галавой. Загарэлы твар застыў, як у чаканні чагосьці невядомага. Лена і Юрка прывіталіся з усімі лёгкім паклонам, і Юрка пачаў вымаць з свайго партфеля паперу, аловак, чарніліцу з чарнілам і дзве школьныя ручкі з асаджанымі пёрамі. Косця Коршак і Сымон Жучок людзям не кланяліся — бо й нашто гэта: бачацца ж амаль кожны дзень. Яны прытуліліся да суседняга стала. Што першае кінулася ў вочы Лене — гэта тое, што ў маладых жанчын на галовах новыя хусткі, а у старых наадварот — як знарок, старыя, пакамечаныя, на некаторых дзе прыліплыя, а ў каго звісалі па адной ільняныя валасінкі, што азначала, што бабкі старанна смокчуць кудзелькі. Мужчыны, апрача маладых, былі аброслыя барадамі. У некаторых яны былі такія купчастыя,

што вочы выглядалі з іх, як з кустоў, а ў другіх, паадварот, вытыркаліся кволыя валасінкі, як, напрыклад, у самога старшыні Крата. Вось ён пасля перашэптаў з Ленай устаў і акінуў вокам усё зборышча, кінуўшы зрок нават у той цёмны куток за печкай. Лена сачыла за яго паваротамі, адначасова адзначаючы, што ў гэтай школе няма ні адной парты і што дошкі, з якіх зроблены гэтыя крыжаковыя сталы, нават не пагаблёваны і ў некаторых замест дошак прыбіты аполкі. Між імі дзіркі. Балюча стала на душы. Але што зробіш, потым пагаворым і пра гэта, а зараз паслухаем старшыні. Вось ён ужо адкрыў сход і нешта гаворыць нават у лад і гаворыць па-свойму на «о» і на «са», дзе-нідзе ўстаўляючы рускія словы, якія ён здабыў на ваеннай службе.

Пасля выбару прэзідыума, у які ўвайшлі Крот, Лесавічанка, Точань і Кастусь Коршак, Крот пачаў гаварыць:

— ...Ось у Расіі ёсць цяпер гэтыя колхозы. Гэта яшчэ Ленін іх заўёў, сказаў, коб разом араці, сеяці, косіці, коб од того большая прыбыль була, коб кожны богаты буў. От нашчо тыя колхозы! А хто не будзе слухаціса, будзе зазнаваціса, носа крывіці, то того по шапцы і за ворота. Няхай поскача адзін. Ось у нас пан буў Копылянскі. Вы ж знаеце, колькі ў ёго зямлі було — поўсвету. А цяпер вона будзе наша. Ось прыехалі товарышы совецкія, яны нам раскажуць. Ось товарыш начальніца з раёна, з Лахаў, яна нам раскажа. Толькі прошу добро слухаці, не перабрэхваціса.

Лена павольна ўстала. Бачыла, як многа вачэй жаночых і мужчынскіх аглядалі яе. Нейкая адцень давер'я да яе відна была ў вачах жанчын. А вось мужчыны нават прыхавалі ўсмешкі пад вусамі. Іх позіркі гаварылі: «Ну што можа сказаць гэтае дзяўчо — ці яно калі жало, капало, што яно можа ведаць?» А Лена якраз, як бы чула ўслых такое пра сябе, і павяла гутарку пра сваё жыццё:

— Вось мяне прыслаў райком партыі пагаварыць з вамі аб калгасах, як іх тут у вас арганізаваць. Вы, напэўна, думаеце, што я нічога не ведаю пра зямлю, што я на ёй не рабіла. Не, дарагія таварышы, я вырасла ў такой жа хаце, у якіх жывяце вы, на трох дзесяцінах зямлі, рабіла ўсё, што мне казалі і як вучылі мая маці і бацька — і жаць умею, і капаць, і садзіць, і кудзелю прасці...

Нехта вохкнуў у натоўпе, і пасля паднялася рука. Лена прамовіла:

— Кажэце, я вас слухаю.

Старэнькая бабка падышла наперад і трохі хрыпатым голасам загаварыла па «о»:

— Вы ж такая молодзенькая, чысценькая, а мы, бачыце, як з пекла... Ну як вам тую кудзелю прасці?

— Не, бабка, цяпер я не праду. Цяпер іншымі справамі займаюся. Вось чаму я і прыехала да вас. А быў час, што і я так жыла, як і вы. І хлеба не хватала ў хаце, і ў заробкі да пана ў маёнтак хадзіла. Потым бацька аддаў мяне ў навуку. Потым трапіла ў панскую турму за палітыку і прабыла ў турме пяць гадоў — вось разам з вашым Косцем Коршакам у адной турме былі...

З кутка моладзь заляскала ў далоні, і ўся амшэлая школа здрыганулася ад воплескаў. Тая самая бабка зноў падняла руку:

— То выбач мяне, старую, галубка, што я так сказала. Я думала, што вы аднекуль, а вы — наша. Тады вы ўсю нашу бяду ведаеце...

— Ведаем, бабка, ведаем... Аж надта ведаем... У ёй жылі, у ёй купаліся.— Лена перачакала і сказала: — Ну а цяпер пагаворым пра калгасы.

Лена пачала ад таго, што «нам, заходнікам, трэба выраўняцца з усходняй часткай Беларусі, якая ўжо больш дзесяці год жыве калгасным ладам. Так што і нам адставаць не трэба. Хай будзе ў адно. Лягчэй будзе кіраваць усёй дзяржаўнай гаспадаркай і ісці яшчэ да лепшых дзён...»

Даўгавата гаварыла Лена і скончыла гэтай гаротніцай школай. Нават кідала пытанні, якія мелі характар папроку: «Ну як вы, таварышы, можаце цярпець такую школу? Вы б хоць яе як-небудзь адрамантавалі. Калі пойдзе дожджык, то, напэўна, вада льецца на галовы вашых дзетак...»

— Льецца, а як жа! — гукнулі жанчыны.— Ды што ты зробіш, калі сілы німа!

Мужчыны маўчалі. Яны не вельмі падатныя.

Скончыла Лена. Мікодым Крот устаў, каб сказаць:

— Можа хто хоча чого запытаціса?

Пасля нядоўгага маўчання з кутка пачуўся старэчы голас бабкі:

— То по колькі ж дадуць цяпер тае зямлі на кожного?

Моладзь фыркнула смехам, нават маладзіцы засмяяліся і ажывіліся твары старых. Голас аднаго мужчыны звярнуўся да бабкі:

— А колькі б ты хацела, Дамяніся?

Дамяніся азірнулася, каб пазнаць, хто гаворыць, і адразу прагучала з яе сухіх вуснаў мяккае, з падгалоскам:

— Цьфу! Усюды ты мяне напаткаеш. Ты солому мою аддай, што за хлявом забраў.

— Каб ты так дажыла до вэчора, як я твою солому браў. Гэта ж падумаці.

Старшыня Крот застукаў па стале:

— Не тут вам сварыціса. Колі вам хочацца сварыціса, то ідзеце на двор і там....

— А ці ж я яго чапала?

Было зразумела для ўсіх, што для бабкі Дамянісі гутарка аб калгасах прайшла міма вушэй. Як гарох аб сценку. Відаць, трэба ёй тлумачыць усё спачатку. За гэта ўзяўся Косця Коршак. Ён коратка і хутка выклаў ёй усё — як на далоні. Калі бабцы Дамянісе дайшло да свядомасці, што і яе валока зямлі пойдзе пад калгас, галасок на тонкай ноце завыў:

— Ого-о!.. Бачыш ты які! То ты мне даў гэтую зямельку, што хочаш адабраці?

Смех ізноў страсянуў амшэлай школаю.

— Смейцеса собе, а я свое зямлі не дам! — закрычала бабка Дамяніся і, стукнуўшы ляшчынавым кіем аб падлогу, накіравалася да дзвярэй.

Як толькі яна выйшла, з натоўпу паднялася рука мужчыны. Старшыня Мікодым кіўнуў галавою:

— Говоры, Мусей!

Мусей (гэта значыць Майсей) устаў, пачухаў на патыліцы калматую кучму сваіх валос і пачаў:

— От, пана Копылянского німа, уцёк, кажуць, у Румынію, а зямля яго ляжыць, і чомусьці ніхто не робіць з ёю ніякого толку. Колькі было ў пана кароў, то наш комітэт параздаваў людзям. От жа Кастусь быў старшынёю комітэта...— Мусей паказаў на Коршака.— А з зямлёю панскай так нічога і не робіцца.

Тут даў адказ сам старшыня Мікодым Крот:

— Чого ты горачку прэш з гэтай панскай зямлёю? Не думай, што пра яе ніхто не думае, а толькі ты адзін. Беззямельным дадуць і самым бедным. А так усю зямлю, што астанецца, под колхоз. Ужэ паперы прыйшлі, хутка будзем надзяляці.

Пасыпаліся пытанні, як што здаваць у калгас, хоць пра гэта высвятлялася, а ці трэба будзе здаваць авечкі, куры. Адзін адважыўся спытацца: «А як з катамі і кошкамі — таксама здаваць?» Нехта падхапіў: «А як з сабака-

мі?» Нехта заскочыў наперад: «А хто будзе старшынёю колхоза?» Высокі мужчына з сіваватымі валасамі, падстрыжанымі пад «гаршчок», у расхрыстанай куртцы наблізіўся да стала і з балючай мінай стаў выкладваць: «У мяне двое коней і абое хворыя, так што я здаць іх у колхоз не змогу... Прошу запісаць...» У адказ яму крыкнула некалькі маладых галасоў: «Ветэнара з Лахаў прывязём, то палечыць!» — «Якія вы добрыя!» — агрызнуўся высокі дзядзька. Ён хацеў гаварыць далей, але яго перабіў Юрка Точань: «Вам жа сказалі пра ветэрынара...» Дзядзька насупіўся і адышоў.

Лена зразумела, што гэта, відаць, кулак. Калі гамана на крык Крата стала заціхаць, слова папрасіў Сымон Жучок. Голас у Сымона тэнарысты, пераліўны, і ён яго не шкадаваў для гэтых людзей, што паблісквалі вачыма ў нерашучасці і нецярплівасці — што ж тут будзе далей?

— Болото вы, болото,— пачаў Жучок.— Вы не разумееце, што Совецкая ўласць вам добра хоча — каб не було бядоты на свеце, каб кожны меў хлеб і да хлеба. А ось Дамяніся мае волоку зямлі, а хоча, каб ёй яшчэ больш далі, а про тое не думае, што ў нас у сяле ўсё больш адна бядота. То яна хоча собе яшчэ больш, а пра беднату і не думае. То як можна з гэтым погодзіціса?! — ускрыкнуў Жучок і на момант спыніўся, а потым адказаў: — Не, з гэтым погодзіціса няможна, бо гэта покрыўдзіць людзей, што ў беднасці. А іх, гэтых людзей, больш на свеце. Ось яно як!

Жучок не мог прамаўчаць і пра таго дзядзьку, які казаў, што ў яго коні пахварэлі.

— ...У яго, бач, раптам коні похварэлі. Чуеце? Колі тое було, каб у Апанаса Мядзведзя коні хварэлі? Праўда, у яго була калісь старая кабыла, яна кашляла, а ён жа яе да ветэнара не поўеў. Кабыла ў плузі ішла, на колені падала. А ён знай однэ — пугою да пугою — яна ўставала і цягнула плуга далей. А да ветэнара не поўеў, добіваў старую кобылку і добіў, каб шкуру здзерці. То ён цяпер хворобу накідае на здоровых коней, каб у колхоз не ўзялі. Думае, што яму повераць.

Апанас Мядзведзь хмурыў лоб, ціха пазіраў злосліва навокал і ўрэшце перабіў Жучка:

— Я з табою, галадранцам, у гэты колхоз і не пойду!

— Яшчэ невядома, ці цябе прымуць, каб ты і хацеў,— адказаў разгарачаны Жучок і тут жа звярнуўся да стар-

шыні Мікодыма: — Дзядзька Мікодым! Запісвай мяне першага ў колхоз!

Косця Коршак жвава раскрыў папку з паперамі і першага запісаў Сымона Жучка. Запісаўшы, агляну ўсіх і спытаўся:

— Хто яшчэ? Запісвайцеся!

З двара пачуўся гудок машыны. Нехта прыехаў і хутка павінен увайсці. Вочы ўсіх наставіліся на дзверы. І сапраўды, увайшоў... увайшоў не хто іншы, а ўжо ўсім тут знаёмы старшыня Лахскага райвыканкома Сідарук Пракоп. Хоць ён і не з Ракаў, але яго сёй-той з тутэйшых ведаў. Сідарук вылучаўся ад сваіх землякоў — ён быў апранены ў ахоўнага колеру фрэнч, каўнер якога падпіраў яму ў падбародак. На галаве такога ж колеру шапка з шырокім верхам, нацягнутым спружынай. Яна па-вухарску нахілялася на правае вуха, сядзела набакір. Дапаўнялі выгляд жаўтаватыя вусы на паголеным твары. Увайшоўшы, ён размашыста пакланіўся ўсяму сходу і павітаўся за руку з членамі прэзідыума, з кожным паасобку. Старшыня сельсавета Мікодым Крот пачаў яму ўпаўголаса дакладваць аб сходзе, што вось пачынаецца запіс жадаючых уступіць у калгас.

— Спісу мала. Трэба, каб кожны падаў заяву.

— Кожны? — Крот пакачаў галавою.— Таварыш Сідарук, з гэтага нічога не выйдзе. У нас паперы столькі німа, каб усіх задаволіці. А глаўнае, што пакуль адны будуць пісаць, то другія разыдуцца. А штоб, скажам, адзін лісточак на дзесяць, дваццаць чалавек?..

Сідарук цмокнуў губамі пад вусам і закруціў галавою.

— Сакратар Ярмілаў казаў, каб кожны паасобку.

Абодва звярнуліся да Лены. А Лена падумала, аглянула сход і адчула, што трэба каваць жалеза, пакуль яно гарачае, і далучылася да прапановы. Мікодыма Крата. Сідарук кіўнуў галавою ў знак згоды.

Косця Коршак праверыў запас паперы. Запрошаны Сымон Жучок узброіўся нажом і пачаў рэзаць яе на чацвярцінкі. Сідарук стаў у позу аратара і гаварыў:

— ...Вось я толькі што з Ракітніцы. Там большасць запісалася ў калгас. Чым вы горшыя за іх?

Людзі думалі і гаварылі: «Ну, раз нейкая там Ракітніца запісалася, то мы што — горшыя?» Сталі падыходзіць да стала, браць паперкі і прасіць Жучка напісаць заяву. Жучок нанізваў на заяву па дзесяць — пятнаццаць чалавек і даваў падпісвацца. Непісьменным казаў паставіць побач

са сваім прозвішчам тры крыжыкі. Тое самае рабілі Лена, Коршак, і нарэшце ўключыўся ў работу сам Сідарук. Яго пузурыстыя, таўстаскурыя пальцы трымалі ручку, як нешта для іх неадчувальнае. Вось-вось выкаўзнецца. Але ўсё роўна пяро з трэскам выпісвала тлустыя літары. Яны займалі месца на паперы, як тыя калы ў плоце, адна ад адной на адлегласці. Не, калі быў камандзірам узвода ў дывізіі Чапаева, пісаў лепш. Даўно гэта было... За плугам, за касою на палескіх балотах падзеравянелі далоні, пальцы.

Старшынёю выбралі Кастуся Коршака. Ніхто не згледзеў, калі і як Апанас Мядзведзь знік са сходу.

## Раздзел шосты

## НА КАНАЛЕ

Вярнуўшыся з сяла Ракі, Лена, як толькі ўвайшла ў сваю кватэру, заўважыла на століку блакітны канверт. Цюкнула — а можа ад... Так, гэта было пісьмо ад яго, ад Паўла. Не распранаючыся, села на крэсла і ўскрыла пісьмо. Заглыбілася ў чытанне. Кожнае слова гучала, як адкрыццё. Праз радкі пісьма праглядаў твар Паўла, які Лене выдаваўся стомленым. Павел піша аб сваіх філасофскіх поспехах, аб пагодзе ў Маскве, аб тым, што нядаўна хадзіў у МХАТ, глядзеў кароннную Горкага «На дне». І піша: «Дзіўная, неўміручая п'еса, такой на свеце няма». Пытаецца пра здароўе Лены, аб рабоце і раіць ёй наведаць Івана Хмыза, абавязкова з ім пазнаёміцца, калі на гэта ёсць магчымасць.

Увайшла бабка Ганулі і пляснула ў далоні:

— Ой, а я затрымалася ў хляве і не бачыла, як вы ўвайшлі. Чытаеце пісьмо? Учора паштальёнка прынясла. Як вам ездзілася?

— Добра. Калгас заснавалі ў Раках.

— О, гэта далёка. Там жывуць сакуны. Вось тут і ў нас пагаворваюць аб калхозах. Добра гэта, саколка, ці не — скажэце?

— Добра, бабка. Як наладзяць работу, будзе вельмі добра.

— Каб то ж бог даў. А то вось Ахрэм Балабон хоча коні прадаваць.

— А-а... Ад такіх можна гэтага чакаць. Няхай прадае, потым будзе каяцца.

Бабка загаварыла пра абед і пайшла на кухню. Лена распранулася, глянула на сябе ў люстэрка. Абветранасць, нават з загарам, глядзела з твару. Падрыхтавала мыла, ручнік, але чамусьці не ішла па кухню. Аглядала, стоячы, пакой — кнігі на этажэрцы, паперы на стале, партрэт Леніна без рамак, прымацаваны кнопкамі да сцяны, і карціна Макоўскага з часопіса «Крестьянка» — «Дзеці ўцякаюць ад навальніцы». І стала чагосьці шкада, сумнота дыхнула ў душу. Ад чаго б гэта? Адзінота. Няйначай, гэта яна прынесла задуму, захацелася камусьці расказаць нешта толькі сваё, сакрэтнае, і абняць, прытуліць чыюсьці сумленную, гордую душу. Можа ўпершыню яна адчула, наколькі цяжкая яе праца. У чым яе поспех, трываласць? Вядома, у веданні справы. Гэта — адно. А яшчэ што? Гэта ж не ўсё. Народу трэба выкладаць новы лад проста, зразумела.

Лена аж да вечара хадзіла задуманая. Нават бабка Ганулявгэта прыкмеціла і падумала: «Мусіць, нешта няладна выйшла». Выехалі з Ракаў яшчэ зацемна і натрэсліся па карэннях даволі, але легчы адпачыць няма ахвоты. Вабіць нешта некуды ісці. Можа хочацца яшчэ раз глянуць на недалёкі лес за каналам, на цудоўную сумесь сосен і бярозаў — такіх ціхіх і задумных, што хацелася злезці з калёс і астацца. І Лена, узяўшы кошычак, пайшла. Бабка Ганулявглянула ў акно і хутка выбегла на парог. Крыкнула ўслед:

— Калі ў лес, то трэба боты абуць!

Лена глянула на свае ногі і адразу павярнула назад — на нагах былі звычайныя паношаныя туфелькі. Вярнулася, была ўдзячна бабцы, абула ўрэшце боцікі, і разам з гэтым прыйшло да галавы нейкае праясненне. Стала лягчэй. Ішлося лёгка ўздоўж канала. Ішла, снавала думкі — што рабіць, з чаго пачаць? Ну вядома. Трэба напісаць Паўлу. Трэба наблізіцца да старшыні райвыканкома Сідарука, каб і ён не спускаў з вока гэтай школы. Лена ўсміхнулася, успомніўшы пра яго. Цікавы чалавек, сын грамадзянскай вайны, ён ёю жыў праз увесь час акупацыі, жыве і цяпер. Загартоўка прыгожая. Ёсць жа ў народзе такая прымаўка: «І да танца, і да ружанца». Але паны, шляхта насуперак ёй стварылі іншую прымаўку: «Не да танцу галадранцу». Не, яго жыццё паказала, што іх прымаўка аказалася фальшывай. Лену пры ўспаміне вячэры

ў старшыні Крата аж падымае на смех. Пераліваюцца, скачуць гукі гармоніка ў руках Сымона Жучка, і ў такт ім угінаецца, дрыжыць падлога пад нагамі Сідарука. Хмель ударыў пад чупрыну, і пайшло яно, разудалае:

Ой, казала Кацярына,
Што я замуж не пайду,
Сама выйду на вуліцу,
Схаваюся ў лебяду...

І пайшоў драбніць Сідарук на насочках няўклюдных ботаў. А з-пад чупрыны дым... Вось вам чапаеўская задрадка! Як жа многа гаротна-закамянелага ў гэтай адцятай ад свету палескай глушыні! І як яшчэ густа караніцца яна — спадарожніца няшчасцяў,— забабоннасць. Вось дачка гаспадыні, дзе кватаравала Лена, гаворыць сваёй маці, што рэшата парвалася, што трэба ісці пазычыць у суседзяў. А маці зморшчыла лоб, быццам нешта прыпамінаючы раптам:

— А які сёння дзень?

— Пятніца,— адказвае дачка.

— Не, няможна пазычаць рэшата ў пятніцу.

— Чаму? — здзіўляецца дачка.

— А таму, што ўсё будзе ўцякаць з тваіх рук, як вада з рэшата. Нават курыцы не зловіш.

Лена не можа не ўспомніць без горкай усмешкі, як прыйшла да яе жанчына, ды з такою незвычайнай справай, што людзі ў звычайным сэнсе могуць і не паверыць. Яна жалілася, што нешта варушыцца ў яе жываце і не дае ёй жыць. І жанчына прасіла дапамогі-парады, як пазбыцца гэтага няшчасця. А потым дадала яшчэ адну таямніцу, што яе муж праз гэта «не хоча з ёю спаць».

— Голубанько, ніяк не хоча,— тужліва пакачвала галавою схуднелая, з васковым тварам жанчына.

— А ў доктара вы былі?

— Адзін раз была, але я баюся доктара, бо ён можа даць чаго пад нос, то і ногі выцягнеш.

«Ох, якая цемра... дапатопная»,— падумала Лена, гледзячы на гэтую жанчыну.

— Без доктара нічога не будзе. Не трэба баяцца доктара. Вось у вашых Раках хутка будзе адкрыты лекарскі пункт. І тады вас вылечаць.

Невядома, ці што зразумела з гэтага жанчына, але падзякавала і адышла, выціраючы слязу.

Жанчына прыходзіла ранепька, каб застаць Лену дома, а вось увечары прыйшоў сярэдніх год валасаты муж-

чына ў расхрыстанай карычневай куртцы, у бруднай саматканай кашулі, завязанай на каўняры суконнай чырвонай жычкай. Таропкі ў руках, неспакойныя рудавыя вочы.

— Я да вас, таварышка...— звярнуўся ён да Лены, не хочучы сесці на запрашэнне.— Ну дзе мне знайсці ратунак? Жонка забівае дзяцей. Ну чым жа яны вінаваты?

— А за што яна іх б'е? — спыталася Лена, нахмурыўшыся.

— Прычапілася, што я хаджу да другое бабы...

Лена не вытрымала і засмяялася.

— А вы перастаньце хадзіць, тады жонка будзе спакойная.

— То каб я хадзіў... А гэта ж выдумка, людзі набрахалі... То няхай бы яна біла мяне, а то дзяцей... Чым жа яны...

Смяяліся ўсе, хто быў у хаце — і гаспадыня з дачкою, і Точань Юрка. Ён ужо нешта ў блакнот запісваў. Вось трапіў чалавек у бяду — жонка выдумала ж яму такую кару, што тут ніякі Саламон не разбярэцца.

— То што вы хочаце? — спыталася ўрэшце Лена.

— Я хачу, каб яе забралі міліцынеры і папалохалі.

— Тады ідзіце ў міліцыю.

— А каб вы з ёю пагаварылі. Можа б яна...

— Не, я тут нічога не змагу вам памагчы.

— Ох, ох,— уздыхнуў мужчына і, махнуўшы шапкаю, бягом вылецеў за парог.

Калі кладліся спаць, гаспадыня ціха ўвайшла за загарадку да Лены і паўшэптам расказала пра гэтага «нясшчаснага» мужчыну, што ён хадзіў да адной удавіцы і жонка застала яго ў яе хаце. Пабіла вокны ўдавіцы і сапраўды пачала біць дзяцей. А ці ходзіць ён цяпер да ўдавы, чорт яго ведае.

Лена затапілася галавой у падушку і думала, што недзе некалі ў жыцці людзей было нешта такое падобнае. Тады людзі жылі яшчэ ў пяшчэрах...

Так раздумваючы, Лена дайшла да возера. Яно невялікае — да двух кіламетраў даўжыні і столькі ж шырыні і таму круглае, як міска. Нічым не патрывожанае, яно застыла ў асенняй дрэме пад ціхім сонцам. З аднаго боку на ўзвышшы раскінулася вёска. Іменна раскінулася, бо адны хаты спускаліся бліжэй да возера, а другія аддаляліся ад яго. З другога боку наступаў сасновы лес, і вяршыні яго акуналіся ў празрыстыя тоні. Далёка на процілежным

паўночным беразе ледзь маячыла лодка з рыбаком. І як ні прыгожа навокал, Лена не адчувала дыхання таго, што завецца прыволлем. Куды ні кінь вокам, усё ў абдымках лясной глушыні, і здаецца, што і неба абмежавана ёю — гэтае чыстае, спакойнае неба. Нават налятае ў душу нешта такое, што можна было б назваць пачуццём прыгнёту. Нельга ніяк раскінуць плячыма, каб уздыхнуць грудзьмі на ўсю моц, як гэта лёгка бывае на адкрытых прасторах.

Землі-палеткі — малыя яны ці вялікія — усё роўна туляцца ў лясах. Аднак бярэ ў палон прыгажосць першабытнасці прыроды, нават вось гэтага азерца, якое асталося, можа быць, яшчэ ад Герадотавага мора. І ў гэтай сосечнай азёрна-лясной цішыні Лена яшчэ больш, чым у хаце, адчула сябе адзінокай. Няма пры ёй таго пляча, на якое можна было б надзейна палажыць руку. «Павел, Павел,— зашапталі вусны,— цяпер далёка, далёка ад мяне... Як прыедзе сюды, я яго абую ў мужыцкія боты, адзену ў палескую суконную куртку, дам у рукі сякеру — будзе секчы дровы, будзе насіць ваду, потым павяду яго ў тую хату з дзвюма печамі, дзе я галаву ламала, як над алгебраічнай задачай. А потым на сялянскія сходы. Без гэтага наш філосаф не філосаф...»

Лена фыркнула смехам над возерам, як быццам выспавядалася перад ім, і, неяк засаромеўшыся сама перад сабою, хутка пайшла, аддаляючыся ад возера і ад канала направа — у лес і ў лес.

«Грыбочкі-галубочкі,— паўтаралася ў галаве Лены,— з вамі можна забыць пра ўсе спякоты і турботы». А яны — «грыбочкі-галубочкі» — не ўцякалі, не хаваліся — ці то за сосны, ці за дубкі, дубы, не танулі ў мхах і верасах. Наадварот, адкрыта выглядалі на свет, нават выскаквалі на пескавую дарожку і рассядаліся ў пераплётах карэння ў сваёй бураватай свежасці, маладыя і, здавалася, жывыя, жвавыя — грыбкі-баравічкі. Лена акідвала іх сямейкі вокам і не спяшалася хватаць іх, згортваць усе адразу. Не, яе рука павольненька, стараненька, асцярожненька датыкалася да кожнага з іх, паціху зрэзвала ножыкам паўскрай чорнай рассыпістай зямлі, пакідала карэньчыкі на насенне, а яго самога, абласканага, клала ў бабчын палавенькі кошык, зграбна сплецены з ачышчаных ядлоўцавых карэнняў. Гэта было свяшчэннае дзеянне над цудоўнымі дарамі свяшчэннага лесу, прывандраваўшага сюды недзе з першабытных былін, у якім, як закінутая вятра-



Піліп Пестрак і Іван Шамякін
у аэрапорце г. Катавіцы.
*1955 г.*

мі, ходзіць у адзіноце наднёманская дачка і ўсміхаецца сваёй маме. Усміхаецца і сябрам наднёманскага горада, з якімі не мае ніякіх зносін. Хацелася б усіх іх перанесці вось сюды, каб яны пабывалі ў нязнаным для іх царстве прыроды, якая тут мацнейшая за чалавека.

Ішла дахаты адпачыўшая, спакойная, з пачуццём гордасці за штосьці, што і сказаць цяжка. Можа за тое, што ты жывеш сярод цудаў зямлі і бачыш іх красу, якая заўсёды і ўсюды бывае толькі ласкавай. Можа і за тое, што ты, чалавек, ідучы насустрач, умееш узаемна абласкаць яе, праз што робішся моцным, бачаным у сваім жыццёвым паходзе — непераможным. Як хораша ісці і глядзець на свет і цешыцца, што ён ёсць, што ён мой.

Лена спынілася, паставіла на зямлю кошык з грыбамі, каб разгладзіць шорсткае лісце папараці, якім яны былі прыкрыты. Разгладзіўшы, выпрасталася, глянула навокал. З ускраін лесу пачалі выглядаць першыя хаты мястэчка. Самая блізкая з іх вось недалёка ад Лены — старая, урослая падрубамі ў зямлю, сляпыя ваконцы амаль што дакранаюцца пяску. Здавалася б, такі выгляд старога, бывалага павінен быў узбудзіць літасць. Аднак хата выклікала ў Лены насцярожанасць. З яе выйшла абапёртая на кій, згорбленая старая з неймаверна пабурэўшым, жорсткім тварам. Вочы ўпалыя, круглыя, як у савы. Старая з нейкай злосцю адкінула нагою трэску ўбок так, што яна ўдарылася аб сцяну, і падалася, як прывід, па пераўлачку ў гушчыню хат. Лена правяла яе вачыма і ўжо хацела падняць кошык і ісці сваёй дарогай, аж вочы прыкавала нешта такое, што паўзло па зямлі. Не, яно не зусім паўзло. Яно час ад часу падскаквала — цяжкае, грузнае, з чорным рабаціннем на зямлістым плоскім хрыбце. Яно падымала шырокі азадак на сагнутых лапах, як на спружынах, і рабіла павольныя скокі, утаропіўшы наперад круглыя вочы-буркалы. Яно часам спынялася, і тады можна было зразумець, што яно прыслухоўваецца да наваколля. Лена, як толькі ўбачыла гэтае нешта, аж войкнула і замерла на месцы, не зводзячы з яго вачэй. «Ой... некалі ж мама расказвала пра такіх. Гэта жаба-падрубніца». Лена, падхапіўшы кошык на руку, борзда пакрочыла па надканальнай сцежцы.

Пры хуткай хадзе захляснула яшчэ адно: увечары трэба будзе здаць справу ці інакш — даклад сакратару райкома Ярмілаву аб сваёй паездцы ў Ракі. «Я ж інструктар райкома па прапагандзе...»

# РОЗНЫЯ ВЕСТКІ

Адбываецца перапіска не толькі між такімі, як Павел і Лена. Аказваецца, у Наднямонне даходзяць пісьмы і з далёкай Брэстчыны, з Навагрудчыны. Усё гэта ідзе найбольш ад турэмных знаёмстваў. У паўтарапакаёвай кватэры Веньяміна Башкоўскага звісае са столі светлая лямпачка — адна-адзіная на ўсе чатыры куткі. Настольнай лямпы няма. Па сутнасці, няма і стала. Ёсць такія звычайныя стэлажы для кніг. Гэта нешта тры палічкі. Але яны ўмацаваны на шырэйшай плошчы, якая выступам шырокай дошкі высоўваецца наперад, пакрываючы ніжнюю шафку, у якой месціцца посуд — не толькі чайны, але нават і кухонны, хоць асноўнае, вядома, на паліцы ў кухні.

Гэты выступ з-пад стэлажу з кніжкамі і ёсць пісьмовы стол Веньяміна Башкоўскага. Калі трэба што пісаць, ён ставіць крэсла перад гэтым кніжным «арэолам», упіраецца каленьмі, растапырыўшы іх, у дзвёркі ніжняй шафкі, а грудзьмі ў выступ. І піша. Цярпліва піша. Ніколі не залуе на такую, як сапраўды прымусовую, невыгоду, калі чалавек сядзіць як звязаны. У куточку пад самым ніжнім стэлажом ён складае пісьмы, складае цярпліва, акуратненька, што хоць ты любуйся.

У святле гэтай адзінай лямпачкі за невялічкім сталом для абеду сядзяць Веньямін Башкоўскі і госць Павел Верасовіч. Ён завітаў сюды, калі стала цямнець, зацярушаны вільготным наднёманскім снегам пачынаючы ад валасатай вушанкі з акулярамі і канчаючы суконнымі камашамі на нагах. Сустрэча для Башкоўскага была нечаканай. Ён якраз чытаў газету. З ёю ў руцэ і адчыніў дзверы і нават доўга разглядаў госця. Пазнаў толькі тады, як госць зняў акуляры з носа.

— А-а... вось хто,— працягнуў доўгім тонам. І яны абняліся. Выпусціўшы газету з рукі, Башкоўскі памог Паўлу распрануцца, абтрос куртку, шапку ад снегу і, схапіўшы пад руку, павёў да стала. У пакоі было цёпла. Павел пачаў выціраць акуляры, яшчэ нічога не гаворачы. У яго застылай усмешцы нешта хавалася, але не спяшала сябе выяўляць. А Башкоўскі глядзеў на Паўла неяк крытычна, нібы хацеў адгадаць, што ж ён зараз скажа. І ўсё ж такі запытаўся:

— Ты не змёрз?

— Ды не. У вагоне цёпла. Ну а што завірушка ў вас — гэта нічога.

Башкоўскі павольна павёў вачыма па пакоі і спыніўся на карычневых, застарэлых дзвярах, за якімі была куханька. Няма жонкі — пайшла да прыяцельніцы, а сын, яшчэ вучань, пайшоў да таварыша рыхтаваць урокі. Трэба нешта зрабіць — вядома, чаю. Ну і пакуль што ўсё. Гэта галоўнае. І, цяжкі на пад'ём для такіх спраў, Башкоўскі падымаецца, паказвае жэстам рукі Паўлу на сваю бібліятэку.

— Ты пасядзі пару хвілін адзін. Вось на тваю ахвоту выбер сабе кніжку, каб не сумаваць, а я пайду на кухню пастаўлю чаю.

Пад нагамі рыпнула падлога, тоненька рыпнулі дзверы, і шырокая спіна Башкоўскага ў чорнай блішчастай жылетцы знікла за дзвярыма.

Павел падняўся, распраставіў плечы і падышоў да кніг. Думаў знайсці што-небудзь лёгкае для правядзення часу. І — не знайшоў. Адна эканоміка і палітыка, пачынаючы ад «Капітала» Маркса, «Дыялектыкі прыроды» Энгельса, двух тоўстых тамоў выбраных твораў Леніна і канчаючы «Гісторыяй ВКП(б)», яшчэ зусім новенькай,— відаць, нядаўна здабытай. Шмат месца займаюць брашуры — на актуальныя тэмы. Так перабіраючы, набрыў на пастарэлую тоўстую кнігу. Прачытаў загаловак: «Тры мушкецёры» — і ўсміхнуўся. З кнігі тырчала паперная закладка. «Значыць, чытае»,— падумаў госць і сеў у крэсла, разгарнуў кнігу. У галаве пачалі ўкладацца меркаванні аб Башкоўскім, як аб чалавеку сваіх навыкаў, сваёй унутранай стратэгіі. «Пагаворым»,— падумаў і заглыбіўся ў чытанне. Нешта з паўгадзіны давялося чакаць чай. Ён з'явіўся ў руках Башкоўскага на падносе ў невялікім цёмна-сінім чайніку і белым чайнічку. У талерках былі парэзаны хлеб, з адкрытай шкляной маслянкі выглядала масла, і ў сподачку падрыхтаваны селядзец з цыбуляй. На апошнім «меню» ляжалі відэльцы. Два фарфоравыя кубачкі са сподачкамі Башкоўскі ўзяў з шкафчыка пад кнігамі.

Усё пастаўлена на стол, і гаспадар пачаў разліваць гарачы, пахучы чай. Павел паклаў «Мушкецёраў» на пісьмовы стол Башкоўскага і ў паставе нерашучасці спыніўся поглядам на стале. Потым звярнуўся да гаспадара:

— Ведаеш што, Веньямін...

— А што?

— Ты нічога не будзеш мець супроць, калі я што-небудзь дадам на стол?

Башкоўскі адказаў не адразу. Спярша націснуў плячыма, потым глянуў на Паўла і адказаў:

— Ну... Як хочаш. А можа хопіць на вячэру і гэтага?

Павел, нічога не кажучы, пайшоў да свайго чамадана. Адтуль прынёс бутэльку гарэлкі і кавалак харошай вэндзонай каўбасы.

Башкоўскі стуліў плечы, быццам баяўся, каб хто яго не ўдарыў, і прытаіў дыханне. Такія з'явы не ўваходзілі ў парадак яго хатняга жыцця. Ну, калі ўжо, скажам, нагадзе гадавіна Кастрычніка або Новы год — тады справа іншая, гэта законна. А так, у вечар будзённы... Але ж гэта Павел Верасовіч, з якім не бачыліся нешта чатыры месяцы,— трэба пагадзіцца з чаркай. Адкрыў буфецік пад кніжкамі і выняў дзве невялічкія чаркі.

І так, не спяшаючыся, выпівалі, намазвалі маслам кавалачкі чорнага хлеба, дадавалі зацыбуленага і заперчанага селядца з пахам воцату і запівалі густым, духмяным чаем.

Распытвалі адзін у аднаго, што чуваць. Павел пытаўся пра становішча на заводах, такіх, як скураны, як справы на фанернай фабрыцы.

* * *

Першы візіт, каму зрабіў Павел назаўтра,— гэта быў Якаў Іванавіч Славінскі — візіт не на кватэры, а ў кабінеце райкома партыі. Радасці ў Славінскага не было канца.

— Канчай, канчай свой інстытут, тады мы запражэм цябе ў нашым слаўным горадзе — будзеш вучыць моладзь ленінізму ў раённым маштабе. Мы думаем стварыць тут такую школу палітычнай асветы. Я ўжо даўно намеціў цябе, аб чым гаварыў нават у абкоме.

Павел смяяўся і дзякаваў ад душы, падымаў рукі, галасуючы «за». А Славінскі цёпла, па-таварыску, дадаваў:

— І Леначку тваю пастараемся вярнуць сюды.

Павел хлопнуў сябе рукамі па каленях і закалыхаўся ў крэсле ад задавальнення. Кінуў толькі адно слова:

— Выдатна!

Славінскі глянуў на гадзіннік.

— О... ужо абедзенная пара. Пойдзем абедаць да мяне.— І націснуў на кнопку званка на ражку стала. Увайшла сакратарка. Загадаў ёй выклікаць машыну.

Пасля абеду Славінскі паспешліва адышоў у райком. Былі неадкладныя справы. Паўлу сказаў: «Ляж адпачні.

У тым пакоі канапа і бібліятэка. Жонка дасць падушку. Паначуеш сягоння ў мяне».

— Дзякую. Добра. Усё гэта зробім. Думаю напісаць пару пісем сябрам на Палессе. К новаму году я мушу быць там. Лена пра гэта ведае. Да новага года засталося толькі тры дні. Трэба спяшыць.

— Адпачывай...— усміхнуўся Славінскі і, паправіўшы пояс на ватнай куртцы, узяўся за ручку дзвярэй, каб выйсці. Але стрымаўся.— Вось што... Паколькі ты дэпутат, варта табе адведаць нашы ўлады — зайсці ў абком і аблвыканком. Можа зрабіць, так сказаць, разведку, каб Лену вярнуць сюды.

— Выхапіў мае думкі, Якаў Іванавіч. Думаю аб гэтым, хоць і нясмела.

Славінскі выйшаў. Павел увайшоў у суседні пакой і стаў перад зашклёнай шафай, з якой праглядалі кнігі. Кнігі, кнігі, без вас ні кроку, вы агортваеце ўсюды. Колькі ж трэба працы з вамі! Вось тоўстым пераплётам вытыркаецца праца Карскага «Беларусы» і цягне да сябе: вазьмі...

Павел прылёг і разгарнуў дрымучасць продкаўскіх падзей — ад яловага рагача-бараны да жаласлівай песенькі пра птушачку ў гняздзечку, над якой навісла каршуновая небяспека. Павел паклаў кнігу сабе на грудзі, расхіленую, і задумаўся. Думкі паплылі — не на край свету, не — паплылі ў сваю вёску, закінутую ў даліне між палёў і лясоў, і ўбачыў жанчыну, яшчэ маладую, з апухлымі нагамі. Яна нядаўна нарадзіла дзіцятка, і яго няма чым карміць. Людзі казалі — корміць адварам з бульбы. І сама галодная.

Павел, адклаўшы кнігу на крэсла, павярнуўся на бок, стуляючы вочы. Нехта шаптаў на вуха: «Будзь мужнай твая філасофія, толькі мужнай...»

...Нешта затрымаўся Якаў Іванавіч. Над горадам навісла ноч. Калі Павел выйшаў, яго абдаў вецер, перамешаны з цемрай. Цьмяна свяціліся ліхтары, аблепленыя вільготным снегам. Трэба ж кінуць пісьмы ў паштовую скрынку. Няхай ляцяць хутчэй, бо да новага года засталося тры дні. Трэба, каб паспелі раней. Адно пісьмо «экванамісту» Івану Хмызу, а другое — палескаму ўсёзнайку Аляксею Варанюку. Няхай прыедуць у Лахі на новы год, каб зрабіць сваё свята. Адведаем лахскага сакратара райкома.

Павел павольна ішоў па цьмяных вуліцах. Нават прызабыў пра пісьмы. І апынуўся ля высокай сцяны з жа-

лезнай брамай. Дыхнула не так далёкім, знаёмым. Вось такой ноччу пад канвоем пралазілі ў дзверцы па два, высока падымаючы ногі. Горад маўчаў, маўчала і стража, маўчалі зняволеныя. Толькі ланцугі і ключы не маўчалі — яны бразгалі безадказна, злавесна, упарта. І ў Паўла ўсплыло такое пачуццё, каб турма не была домам для нікога.

Павел, усадзіўшы рукі ў кішэні, неяк згорблена падаўся ўздоўж высокай турэмнай сцяны, расплываючыся ў змроку.

Выйшаў на плошчу. Там светла. Там хапае ліхтароў. І можа таму і заўважаецца больш руху. Але рух людзей усё роўна выдаецца Паўлу рухам ценяў. І толькі адна аграмадзіна не схавалася ад святла. Наадварот, выдаецца так, што яна выставіла сябе, як быццам напаказ. Гэта — касцёл з XVI веку, злучаны сцяной з турэмнай загарадай. І найбольш жанчыны спыняюцца перад ім, падымаюцца на ганак, глядзяць у жалезна-кратавыя дзверы ў нутро касцёла і падаюць на калені. Там пануе прыціхлая ўрачыстасць. Яна адпачывае да нядзелі. Тады прыйдуць стомленыя людзі з рознымі нядолямі, няшчасцямі, каб аддацца гэтай урачыстасці, як прысуду лёсу.

І людзі тым больш пры такім асвятленні не могуць не спыніцца, каб не глянуць на касцёл. У гэтым, відаць, уся таямніца мастацтва.

Павел бязмэтна пайшоў па плошчы — можа па нейкай інерцыі хацеў адшукаць той польскі, акупацыйных часоў, газетны кіёск, дзе ён, выйшаўшы з турмы пасля першага прысуду, купіў газету і з палёгкай свабоднага грамадзяніна сеў на лавачку тут жа ў скверыку і разгарнуў яе, як за сталом у сябе ў хаце. Заглыбіўся ў чытанне.

На месцы былога польскага кіёска раслі два маладыя клёны, пасаджаныя пры ўваходзе ў скверык. А на другі бок вуліцы перад ім стаяў наскора створаны кінатэатр. На афішы чыталася: «Ленін у 1918 годзе».

Павел крыху пастаяў перад афішай і нырнуў у цёмны праём адкрытых дзвярэй тэатра.

## «ПАД ГОМАН ВЯСЁЛЫ...»

Недарма ўсё ж такі бабка Ганула Яхіміха наварыла куцці — ды ў тоўстым абгарэлым гаршку, недарма чарнее накрыты ў чыгунку духмяны квас з грыбамі, а побач у другім чыгунку яна — царыца ўцехі — верашчака.

Гэта ўсё туліцца за засланкай у печы, абгорнутае жарам, каб не астыла, не ўцяклі ні пахі, ні смакі. Толькі вось аладачкі адстаўлены крыху ўбок, каб не зацвярдзелі ад жару.

Усю гэтую навагоднюю смакату стварылі сваім умельствам, вядома, бабка Ганулч і кватарантка Лена. Яна, як толькі атрымала пісьмо ад Паўла, узялася да падрыхтоўкі навагодняй вячэры, нікольki не адыходзячы ад даўніх сваіх звычаяў, як рабілі дзяды і бацькі. Лена адкідала, не хацела слухаць, што гэта нейкія там перажыткі, забабоны. Нават нічога не сказала і супроць таго, калі бабка Ганулч схадзіла да крынічкі, якая бруіцца і зімою, і прынесла поўную бутэльку срэбнай вадзіцы. Яна святая — гэтая вадзіца, ёю трэба пакрапіць куткі хаты і хлеўчык. Лена сачыла за гэтымі практыкамі бабкі і пасмейвалася ў кулак. А на душы чамусьці было так хораша, умільна, калі бачыла, як бабка ў сваёй прастаце душэўнай моўчкі расквітала.

Лену захапляла гэтая традыцыйнасць, якая напаміпала аб роднай хаце, аб маме, аб маўклівым, турботлівым бацьку. І, пагаварыўшы з бабкай, Лена пайшла ў хлявец і прынесла адтуль падручча сянца з надканальных паплавоў, пасцяліла на стол і накрыла белым, мяккім, тканым ёлачкай, абрусам. А бабка, яшчэ завідна, прынесла з лесу яловых галінак. І так сталі яны прыхарошваць сцены хаціны, абкручваючы вязаначкі ёлачак вышыванымі ручнікамі.

Здаецца, усё ў парадку. Трэба толькі чакаць гасцей. Прынялі запрашэнне сам сакратар Ярмілаў, дзве работніцы райкома, старшыня райвыканкома Сідарук і работнікі рэдакцыі «Сталінскі шлях». Але ж недзе ў дарозе яны — Павел і пакліканыя ім сябры. Павінны быць. Вось-вось павінны быць... Гудкі паравозіка на вузкакалейцы сягоння былі чутны. Значыць, вузкакалейка працуе. Зараз, зараз будуць... Трэба ўжо сядзець, можна што-небудзь і пачытаць. Лямпа гарыць вясёла, як быццам і яна настроена па-святочнаму. Лена падышла да люстэрка, глянула на свой крыху схуднелы твар, які ўжо нельга назваць тварам-тварыкам, як там у Надпямонні, як у Маскве. Зграбна завязаная жаўтаватая хустачка прыхарошвала яе твар, на якім ужо выразна адзначалася яна — чатырохмесячная цяжарнасць. Цёмна-карычневая кофта з бліскучай брошкай на грудзях прыдавалі святочнасць усёй яе постаці — аб'інтэлігененай вясковай дзяўчыны.

Бабка Ганулю прысела на ўслончыку, прытуліўшыся спіною да пячной сценкі, і яе ўжо хіліць да дрымоты. Да бабкі прытулілася ўнучка Надзя. Яна таксама прыбраная ў свежае плацечка і новую хусцінку. Цішыня. Толькі часам штосьці трэсне ў лямпе, ад чаго маргне гаручы язычок.

...З падворка пачулася нешта шорсткае, быццам хто абцёрся аб сцяну. А потым навагодні стук у акенца. Лена прыўзняла фіранку і ў цемры заўважыла нешта цямнейшае, чым наваколле. Яно рухалася, быццам нешта шапатала, а потым рушыла да дзвярэй. Стук, толькі стук. Лена накінула хустку на плечы і хуценька выйшла. На кухні, на карнізе коміна, ціханька пазірала адна газнічка.

— Хто тут? — аклікнула Лена.

У адказ зашушукаў смех.

— Хто, пытаюся? — павысіла голас Лена.

Пачуўся голас, ціхаваты, памяркоўны:

— Адчыні, Леначка, свае...

Бразнула засаўка, і не ўвайшла, а ўвалілася грамадка абснежаных людзей з торбамі, сумкамі ў руках. Яны ўваходзілі, шукалі месца, дзе стаць, а Павел ужо трымаў у абдымках зграбную галоўку ў хустачцы і туліў да грудзей. І гэтая залатая сустрэча была такая свойская, ціхая, без выкрыкаў, без ляманту.

Лена, адарваўшыся ад Паўла, занялася гасцямі, выйшла бабка Ганулю, стала памагаць. І так госці ўвайшлі ў пярэднюю і пачалі рассаджвацца хто дзе. Што ж гэта за госці? У дальнім кутку, бліжэй да печы, у салдацкай кашулі, шчыльна зашпіленай пад барадою, размясціўся Іван Хмыз, а побач з ім разружавелася ад марозу Анісся. А вось шукае месца і не знаходзіць высокі дзяціна ў чорным касцюме, а з ім, крыху ніжэйшая за яго, чарнавокая маладзічка. Гэта Аляксей Варанюк са сваёй жоначкай, пра якую любіў расказваць у турме. Пасля першай чатырохгадовай адседкі ажаніўся Аляксей, але пабыць на волі давялося нядоўга. Зноў трапіў за краты і там сустрэўся з Паўлам.

Не паспелі госці крыху абсадовіцца, як у сенцавыя дзверы не толькі застукала, але і забразгала. Адчыняла бабка Ганулю. Увайшло шэсць асоб і нарабілі такога стуку ў падлогу, што аж у пярэдняй аддавалася грукатам. Аказваецца, гэта Сідарук задаваў тон, не шкадуючы ні падлогі, ні сваіх ботаў. Ён увайшоў у пярэднюю, павольна падымаючы нагу над парожкам. За ім следавалі чарадой

дзве работніцы райкома і тры работнікі з рэдакцыі разам з Юркам Точанем. Лена адразу спыталася ў адной з райкомавак: «А Іван Фёдаравіч?»

— Ён прасіў прабачэння, прасіў перадаць, што не можа прыйсці — нешта прыхварэла жонка,— адказала дзяўчына з пухлымі шчокамі.

Ну што ж, прычына паважная. Усе жанчыны і Павел адышлі на кухню, каб разабрацца са сваімі святочнымі гасцінцамі па сумках, а Павел са сваім чамаданам. Бабка Ганулія ставіла на стол розны посуд, які быў у кухоннай гаспадарцы,— разам з талеркамі размясціліся гліняныя місачкі і нават сподачкі, каб кожнаму госцю быў надзейны прыпынак з навагоднімі смакамі. Сама бабка будзе есці з унучкай з адной міскі. А вось і вялікая гліняная міска прыплыла з кухні на стол у руках Лены — з халодным вараным кумпяком, парэзаным памяркоўнымі кавалачкамі. Гэта падарунак Хмызавай Анісі. А потым з'явіліся зграбныя скрутачкі сялянскай каўбасы, якую бабка ўжо кроіць ножыкам на даўгаватыя кавалачкі-паленцы. Гэта падарунак Аляксеевай Галі.

І вось Лена рассаджвае гасцей. У канец стала пасадзіла вусатага Сідарука, які, сядаючы, крэкнуў і прыгладзіў свае вусы. На другім канцы стала будзе месца для Паўла і яе, Лены. Па баках села рэшта гасцей. Бабка прытулілася да Сідарука, бліжэй да дзвярэй, а ўнучка будзе сядзець у яе на каленях. Хоць крыху цеснавата, але затое ўтульна.

Лена нешта шапнула бабцы на вуха, і яны выйшлі на кухню. Чыя ж першая бутэлька стане на стол? Вось ужо набліжаецца дванаццатая. Сідарук вымае з кішэнькі вялікі гадзіннік з ланцужком — астаецца пяць хвілін. Уваходзіць Лена з лубковым кошычкам, прыкрытым вышываным абрусікам, і ставіць яго на свой туалетны столік. Пад абрусікам прыхаваны бутэлькі. Але не з іх пачатак. Уваходзіць бабка Ганулія і ў руцэ нясе старасвецкую цёмную бутэльку, прыдымленую ў каморы ад марозу. Вось яна і стала на стол. Многа часу выстаяла яна на паліцы, каб дачакаць гэтага вечара. І дачакалася.

— Ну, будзь гаспадаром, старшыня, адкрый,— прамовіла бабка да Сідарука. Сідарук адкрыў, наліў, каму ў чарку, каму (і сабе) у шклянку, і звярнуўся да Ганулі Яхіміхі:

— То паблагаславі, матка. Ужо дванаццаць.

Бабка асцярожна бярэ чарку і гаворыць:

— То будзьце здаровенькі, дарагія госцікі. Вы ў мяне госці. Каб у здароўі і шчасці дачакалі новага года. Каб у полі пшаніца каласілася, а ў хлявах усякая жывёлінка пладзілася на багацце, на дабро людзям...

Бабка выпіла сваю чарачку, а тую кропельку, што асталася, падкінула ўверх да самай пабеленай столі, і яна цёмнай плямкай прыліпла да яе. Госці чокаліся, выпівалі, прыгубіла крыху і Лена. Сідарук далонню выціраў і губы, і вусы і пакручваў галавою.

— Перчыку, матка, дастаткова і паху дала чабровага дастаткова. А! Добра. Што добра, то добра.— І Сідарук ўзброіўся відэльцам.

Госці елі ўсмак духмянага кумпяка. А Сідарук не драмаў, надзяліў усіх і сябе бабчынай пярцоўкай і ўстаў з чаркаю ў руцэ.

— Вып'ем за гаспадыню гэтай хаты, за матку Ганулю, якая гадуе ў сваёй хаце нашага інструктара Лену Лесавічанку, якую людзі нашы, там у Раках, не хацелі адпускаць ад сябе. Добра, матка, гадуеш. Гадуй на дабро людзям. І так — вып'ем за гаспадыню гэтай хаткі!

Калі чаркі паўтарыліся яшчэ і яшчэ, пачала наклёўвацца гутарка. Распачаў Іван Хмыз, пытаючыся ў Паўла, як ён доўга будзе вучыцца ў Маскве.

— Яшчэ год, Іван.

— Табою там камандуюць твае вучыцелі. Трэба, каб ты ў нас пакамандаваў. Канчай і вяртайся. Раз ты навукі высокія канчаеш, то табе толькі вобласцю камандаваць.

Пярцовачка, як бачна, павяла Хмыза ўжо на шырокую дарогу. Усе пераглядваліся і ўсміхаліся.

— Фантазія ў цябе, Іван, працуе нічога сабе...— адказаў Павел.

Хмыз закруціў галавою. Можа б што і сказаў, але з рук бабкі Ганулі споўз на стол гаршчок з грыбным квасам. Чорным, застарэлым апалонікам яна пачала яго разліваць па талерках і місачках. Госці бралі скібачкі свежага чорнага хлеба, бралі лыжкі — і металёвыя, і драўляныя. Да квасу Лена паставіла бутэльку «Маскоўскай». Елі квас, хвалілі яго да нябёс, дзякавалі бабцы за яе такое ўмельства. Былыя турэмнікі павялі гутарку пра былое, змрочнае, а тут жа за квасам прыплыла верашчака з аладкамі. Кожны чэрпаў лыжкай верашчаку і клаў на аладку, потым клаў пару скварачак і паленца каўбасы.

Сідарук усё часцей выціраў свае вусы, хацелася пра штосьці гаварыць, пытацца ў гэтых хлопцаў, што прай-

шлі турмы, але чамусьці маўчаў. Ён таксама пабываў у турме, але не так многа, як яны. Арганізацыя на месцы была разбіта і доўгі час не існавала, пакуль не сталі вяртацца мясцовыя хлопцы з турмаў. Прынёс Сідарук Ярмілаву свае чырвонаармейскія дакументы, якія хаваў у скрыначцы, праз увесь час акупацыі закапаныя ў гумне. Тады яму сказалі, каб падаваў заяву. І калі пачаліся ўспаміны пра старое, змрочнае, то і ён расказаў, як яго частавалі ў дэфензіве.

— Калі палажылі мяне на падлозе носам уніз, адзін кат сеў на патыліцу, другі на ногі, а двух пагайкамі — а ну — давай шпарыць. Зашчаміў я зубы і думаю — а ну шпарце, каты, пабачым, хто каго. І што б вы думалі? Нацешыліся і выпусцілі на волю. А каб я крычаў ды вырываўся, яны б мяне трымалі далей. О! — падняў палец уверх Сідарук.— Як можна ворага ашукаць!

— Добрае табе ашуканства! — гукнула некалькі галасоў.

Гаварылі многа, асабліва жанчыны, пра калгасы — як управіліся з сяўбою жыта. З усіх жанчын адна толькі Хмызава Анісся аказалася недаверкам.

— Нічога не будзе з гэтых калгасаў. Рассыплюцца,— прамовіла і кіўнула на свайго Івана: — Вось няхай скажа, як пасеялі жыта.

— Ну чаго ты хочаш? — абурыўся Іван.— Трэба ж было пасеяць у зжатыя срокі. Ну і пасеялі. А што зямля не наспела зляжацца перад сяўбою, так на гэта ж і зжатыя срокі.

— Круціш ты, Іван...— прамовіў, усміхаючыся, Павел.

Аляксей таксама ўставіўся на Івана, хацеў засмяяцца. Сідарук ужо рагатаў напаўголасу, пакручваючы галавою, і прыгаворваў:

— Ой, хлопча! Выдумаў жа ты гэтыя зжатыя срокі.

Аляксей для перадышкі запрапанаваў што-небудзь заспяваць.

— Ага, заспявайце,— падхапілі жанчыны.

— Якую? — звярнуўся да Аляксея Павел.

— Пад гоман вясёлы...— адказаў Аляксей і, адкашляўшыся, пачаў песню, складзеную невядомым паэтам недзе на турэмных этапах:

Пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай  
Пры зборы ўсіх нас — бяседзе такой —  
Мы ўспомніма, брацця, аб долі няроўнай  
Усіх тых, што цярпяць за край родны свой.

Даўно знаёмая песня палілася горача, душэўна. Яна гаварыла, што тое перажытае пякучым згусткам яшчэ жыве ў душах і будзе жыць доўга. Канчалі адну страфу, пачыналі другую. Кожная страфа гаварыла аб цярпеннях:

У Кракаў, у Познань, ў далёку чужыню
Загналі ў няволю, як быццам навек,
Бацькоў старых кінуў і мілу дзяўчыну,
Сам церпіць там холад, і голад, і здзек.

Павільгатнелі вочы ў Лены. Яна іх выцірае фартушком і нешта шэпча Паўлу на вуха. Сум прабег і па цьмяным твары чарнавокай Аляксеевай Галі. Райкомаўкі здзіўлена паглядаюць на спяваючых, маўчаць. Маўчыць і Юрка Точань са сваімі калегамі. Ён, пачырванелы ад выпітку, з раскошай раскурвае папяросу.

Пасля песні Павел выконвае пошапкі Лены — устае, просіць вусатага камандзіра прадоўжыць пачастунак гасцей, што Сідарук ахвотна робіць. І Павел просіць у яго слова. Ён пачынае гаварыць іменна не пра каго іншага, як пра Сідарука.

— Давайце вып'ем за нашага ваяку таварыша Сідарука, з якім здаралася сустракацца ў нашай правінцыяльнай турме. Ваюеш, Пракоп Іванавіч, і далей. Ваюй на здароўе, добра ваюй, каб нашы палешукі ў сацыялізм уеліся, як у свае балоты ў касавіцу. Будзь здароў, ваяка!

І чаркі дружна пацягнуліся да вусача. А ён нават і прысаромеўся крыху. Усіх аглядае з паўсмехам, а сэрца ад шчырасці выбухнуць хоча. Вось што даў час: прыйшла доўгачаканая Чырвоная Армія — і паноў ужо няма, і як добра сустрэцца са сваімі і пасядзець за вясёлаю чаркай.

І Сідарук наступным падымае тост за Савецкую ўладу, за Чырвоную Армію.

Раптам бабка Гануля, ці то хто ёй з жанчын падказаў, ці сама, завяла песню сваю, дрымучую, як мінуласць:

Пеце, людзі, гарэліцу,
А вы, гусі, воду
Ды ляцеце, накажэце
Аж да майго роду.

Усе прыціхлі, слухалі песенны сказ аб гаротным, далёкім.

Не кажэце, белы гусі,
Што я тут гарую,
А скажэце, белы гусі,
Што я тут пануючы,—

даносілася недзе, як рэха, з далёкіх, шумлівых, некранутых лясоў і саламяных вёсак, атуленых імі. Добра паслухаць пра гэтую зразумелую мінуласць, аблітую горкаю слязою. Юрка ўставіўся ў бабку, прагна слухаў і шапнуў аднаму з сваіх работнікаў: «Трэба будзе запісаць». Яму трэба запісаць, а яна даўно запісана ў сэрцах такіх, як бабка Ганупя, і яна прыляцела да нас з жыцця тых, хто ўжо дажывае веку, хто вынасіў на руках вось такіх, якія сядзяць тут за сталом, у тым дрымучым горы, аб якім спявае бабка Ганупя.

Бралася далёка за поўнач. Госці, як адзін, пераглянуліся з усмешкай, як пачулі доўгі пераліўны спеў пеўня з бабчынага хляўца. Кінуліся да гадзіннікаў. Недзе пятая на зыходзе. Павел раіцца з Ленай і Аляксеем — скончыць ці прадоўжыць гэтую ўрачыстасць. Якраз выйшлі з хаты Сідарук і Хмыз. Трэба пачакаць іх — параіцца. Павел за тое, каб пасядзець яшчэ з гадзінку, і Аляксей не супраць. Лена выглядае стомленай, і Павел раіць ёй пайсці прылегчы, але Лена пакруціла галоўкай — не — і сказала:

— Пасяджу яшчэ, хачу ўсё бачыць і чуць.

Прыйшлі з двара Сідарук і Хмыз, прынеслі з сабою свежасць халадка, якая абдала ўсіх прыемнасцю.

— Што ж там робіцца на свеце? — спытаўся Аляксей.

— А тое робіцца, што гэтая мядзведзічка-чарпачок усё роўна як ведае, што мы тут сядзім, свеціць проста над хатаю і не рухаецца з месца. Зоркі гараць, аж варушацца. Ці не бабка Ганупя іх паклікала сюды,— радаваўся Сідарук, заглядаючы ў твар бабцы.

А бабка і адказала:

— Хто ведае — можа і я...

І такі выступ Сідарука, і адказ бабкі яшчэ больш асвяжылі застолле і выклікалі таварыскія ўсмешкі, якія дзякавалі і вусатаму старшыні, і бабцы. Павел і Аляксей адчулі, што з заканчэннем бяседы яшчэ рана, пераглянуліся, і Павел кіўнуў галавой Аляксею ў знак згоды. Тады Аляксей устаў і папрасіў Сідарука прадоўжыць сваю старшынёўскую пачэсную функцыю. І зноў новым наваратам палілася гарэліца — каму ў чарку, каму ў шклянку. Узяў слова Аляксей. Бабка Ганупя якраз паставіла шырокі, загартаваны пячнымі агнямі, гаршчок — ён такі салідны, як дзедаўскі помнік для бабкі Ганулі. Гэта і была тая адвечная куцця, знятая як з язычаскага ахвярнага цяпельца, каб усім пасмакаваць яды багоў з зярнят расліны, якую паслалі багі на першабытную зямлю для

людзей, і людзі яе пазналі, прынялі з малітвамі, каб сямейнае цяпельца не пагасала.

Госці слухаюць словы Аляксея, насцярожана слухаюць. Што ж ён такое гаворыць?

— Вось недалёка за пашай цяперашняй савецка-польскай граніцай людзі не так сустракаюць Новы год, як мы. Яны сустракаюць у вялікім горы, у вялікім няшчасці. На польскі народ наступіла нага крывавага нямецкага фашызму, які залівае кроўю польскіх рабочых, сялян і ўсіх, каму ляжыць па сэрцы свая свабода. Давайце падымем нашы мірныя чаркі за іх на чале з нашымі польскімі таварышамі па турмах — камуністамі...

Усе ўсталі і ў цішыні выпілі да дна. Прыкусілі, хто каўбасой, хто скваркай. А потым бабка запрасіла да куцці. Яна была духмяная, салодкая — яна была з макам і мёдам — гэтая багаславёная куцця!

...Госці разышліся. Потым заснулі: Іван Хмыз з сваёй Анісяй у Сідарука, Аляксей з Галяй прымасціліся на кухні разам з бабкай і ўнучкай.

Патушылі лямпу і Павел з Ленай.

Стала цёмна і ціха. Толькі тыя зоркі, з якіх складаецца чарпачок, названы мядзведзіцай,— толькі яны не сціхалі гарэць. Толькі яны ў цёмным небе нікуды не хацелі плысці, а ўсё хваляваліся, мігцелі над хаткаю бабкі Ганулі.

## Раздзел сёмы

### ДЭКРЭТЫ

Мінуліся для Лены тыя дзяржаўна-лекарскія наказы для ўсіх жанчын Савецкай краіны, якія завуцца дэкрэтнымі. А гэтых ціхіх, як адпачывальных, дзён налічваецца паводле гэтага свяшчэннага закона — два месяцы. Недзе ў сярэдзіне мая Лена нарадзіла сына. Калі адляжалася ў Лахскай старасвецкай бальніцы з даўно пачарнелага дрэва, з замшэлай гонтавай страхой і на райкомаўскім «газіку» прыбыла на сваю кватэрку, бабка Ганулля стаяла ў сенцах ля парога і сустрэла Лену з усмешкай, якую можна назваць матчынай, шчаслівай. Прыняла цераз парог з рук Лены маленькае, белае завінятка, прыняла новага

жыльца, якога нядаўна яшчэ не было на свеце, панесла ў хату і паклала ўпоперак на ложак, прыадкрыла тварык — невінятка спала ціхім, яшчэ яму пязнаным сном. Бабка з хвіліну глядзела ў тварык, потым ціханька перахрысціла яго і сказала Лене, якая тут жа побач стаяла і назірала за бабчынымі пачуццямі, што няхай тварык будзе адкрыты. Потым падвяла Лену да акна ў пярэдняй сцяне і паказала на маладую яблыньку, буйна расцвіўшую ў сваіх зялёных лісцястых галінах.

— Учора яшчэ нічога не было. А вось бачыш — за ноч як выплыла, як зараскашавалася. Яна як бы ведала, што прыйдзеш з сынком.

Лена абняла і пацалавала бабку ў абедзве шчакі, сказала «дзякуй» за такую зычлівасць. А бабка:

— Каб толькі гадаваўся здаровенькі.

Зараз жа запрасіла Лену на кухню і паставіла на стол сваёй хатняй прывычнай стравы, якая ніколі не прыядалася.

Паплылі дэкрэтныя дні. Работы з маленькім нямала. Добра, што бабка неадступна памагае. Пры першым купанні яна агледзела ружовенькае цельца і дала сваю ацэнку:

— Моцненькі, пупок хораша завязаны. Вочкі жвавыя. Яно хутка будзе смяяцца.

Каб не бабка, Лена не змагла б весці сваёй работы ў рэдакцыі. Сама туды не хадзіла. Яшчэ небяспечна. Папрасіла бабку. Паслала запіску Точаню, каб ёй прыносілі матэрыялы для апрацавання. І дзень цераз дзень кур'ер рэдакцыі (яна ж і прыбіральшчыца) прыносіла Лене што трэба. Хоць гэтая работа яе не абавязвала ў такім стане, але Лена настаяла.

Як жа назваць сына, з кім параіцца? Даць тэлеграму Паўлу не адважылася. Падумала — з кім жа параіцца, як не з гэтай вось багаслаўёнай бабкай, якая, як свая родная, аддае столькі ўвагі, цяпла яе жыццю. Доўга думалі, і бабка сказала, што адразу не прыдумаеш, што трэба думаць да заўтра. Так і парашылі.

Наблізіўся вечар. Зноў лямпа стала на стале, хоць вечары скараціліся. А трэба пасядзець хоць пару гадзін. Трэба напісаць пісьмы — Паўлу, маме і бацьку, трэба папрасіць бацькоў, каб не прыязджалі. Цяпер не час, дзіця здаровае дый сама паскардзіцца не можа — усё ў парадку. Адкладзём надалей, калі на полі скончацца работы. Можа брат Віця, калі зможа, няхай прыедзе і прывязе крыху

сала, бо вельмі чамусьці яго хочацца. У Паўла спыталася, з кім справіць радзіны, а калі можна яму прыехаць хоць на два-тры дні, няхай напіша.

Скончыўшы пісьмы, Лена сядзіць, задумаўшыся, сур'ёзная, і лямпа дваіцца ў вачах. «Вось я і маці. Як гэта паважна і нейк страшна. Няўжо маладосці ўжо не будзе?» Пачуццё абавязку, адказнасці перад чымсь большым, чым дагэтуль, кладзецца на душу. Глыбей трэба будзе араць сваю родную глебу. На палічцы стаяць кнігі па гісторыі. Успомніўся наказ Паўла, сказаны на вуха там, на маскоўскім пероне, пры расставанні. Многа, многа работы наперадзе... Стуліла вочы і ўбачыла сінюю паласу Нёмана і над ім знаёмыя вёскі і вёсачкі — і сваю, прытуленую да лесу. Сярод пескавых палёў і паплавоў замігцелі сцежкі, праходжаныя ёю не раз і зімамі, і летамі.

Ціханька адчыніліся дзверы. Да пляча Лены дакранулася бабчына рука, і пачуліся шэпты: «Кладзіся спаць, саколка. Паспіш, пакуль яно спіць».

Кожны дзень гадзіну пасля снедання і гадзіну пасля абеду Лена, узяўшы сваё немаўлятка на рукі, выходзіла за канал і паціху хадзіла то ў адзін бок, то назад у другі — пад дрымучымі таполямі, кімсьці некалі пасаджанымі, і такімі ж самарослымі соснамі. Вясенняе сонца адкрывала перад вачыма — то шырокія прасторы сенажацяў, то паласу сасновага бору, дзе густыя цені клаліся на бліскучую траву-круглíцу, на ажываючыя кусцікі брусніц і чарніц. У ціхім мястэчку Лахі не зусім было ціха. Цішыню парушалі сякерныя ўдары — то ў адным канцы, то ў другім. Гэта ўдары будаўнікоў. Адны ўдары пачыналі ўзводзіць будынак пад электрастанцыю, якая будзе працаваць на торфе, а другія стукі-ўдары будавалі школу. І хочацца Лене на момант аддаць каму-небудзь, хоць выпадковаму пешаходу, сваё маленства і пабегчы туды, дзе дзейнічаюць стукі, пабачыць, агледзець усё — і будаўляныя дрэвы, і людзей, што так спраўна іх абчэсваюць. Лена мела да гэтага свае ўпадабанні — яшчэ малою любіла глядзець, як працаваў пры такой рабоце яе бацька, і знаёмы пах сасновай шчапы заўсёды напамінаў ёй пра гэта. Калі ўваходзіла ў бор, адкрывала шырэй тварык свайго немаўляткa, і тады мяккія цені пад соснамі, здавалася, пачыналі туліць яго, заснулага, і нашэптваць нешта сваё, лясное. Лена спынялася і глядзела ў лес, нібы хацела сустрэць каго-небудзь з людзей, паглядзець у вочы, і папрасіць паслухаць, як ужо мякчэй, па-лясному даносяцца майстэрскія

стукі будаўнікоў, і сказаць не крыкам, а можа загадкавым паўшэптам, што гэта ўдары сацыялізму ў палескай глушы, нядаўна вызваленай ад паноў.

«Паслухай іх і ты, мой маленькі, у сваім залатым сне пад баравымі соснамі»,— мысленна прамовіла Лена, гледзячы на сваё шчасце.

## ГОД ХАРОШЫ

Лена стала працаваць. Найлепшай уцехаю быў ён — першынец, названы тым імем, якое прыдумала бабка Ганулля. На руках бадзёра трапятаўся Алёшка.

— Няхай будзе Аляксей, Алёшка, гэта лепш.

Часта па нядзелях Лена на руках з Алёшкам хадзіла за мястэчка на палі — паглядзець, як расце збажына — жыта, авёс, ячмень, як лапушыцца бульба. Яе клікала туды такое самапачуццё, што яна павінна ведаць і пра палявую гаспадарку, інакш чагосьці не хапала ў душы, павявала адарванасцю ад нечага галоўнага, без чаго і думаць няма пра што. Бачыла — усё, што пасеяна, пасаджана, абяцала, што год павінен быць харошым. Цешылася. Вярталася дахаты, гаварыла пра гэта бабцы, а тая дадавала, што людзі ў мястэчку ўсё больш упэўняюцца ў калгасах, перастаюць баяцца. Зямлю пааралі два двухлямешныя трактаркі і засеялі дзве сеялкі. Усё гэта бачылі людзі, і надзея расла на лепшае.

Так вось і надышло жніво. Пусцілі ў ход жнівярку — не новую, а ўжо застарэлую, і што ж... Яна пачала жаць, але так дрэнна, што нямала жыта ўмінала пад сябе, прапускала. Аднаго дня на світанні старшыня райвыканкома Сідарук яшчэ не падняў галавы з пасцелі, як перад яго хатай вырас натоўп жанчын з сярпамі і тарбінкамі ў руках. Праціраючы вочы, Сідарук выйшаў на вуліцу, агледзеў вялікае жаночае зборышча і запытаўся:

— А гэта што? У маёнтак сабраліся з сярпамі? Маёнткаў няма.

У адказ гукнулі ўсе, як адна:

— Не дамо псаваць жыта жнівяркай! Вядзі на поле, будзем жаць!

Сон зняло з вачэй Сідарука як рукой. Шпарка пакрочыў у хату і выйшаў у шапцы і пінжаку. Махнуў рукою жанчынам:

— Пойдзем за мной!

Спыніліся перад райкомам. На ганку сядзеў стораж і праціраў вочы. Сідарук паслаў яго па Ярмілава.

Пачалася не гутарка, а гоман. Ярмілаў узмахам рукі прыцішаў жанчын. Чакаў цішыні.

— Што? Не хочаце, каб тэхніка за вас жала?

— Дайце такую тэхніку, каб не псавала жыта! — І пайшло ў перабой: — Не дамо, каб жніварка жала! Не дамо!..

Ярмілаў быў збіты з толку.

— Ідзіце дахаты! Заўтра прывязём новую жняярку!

— Жыта асыпаецца! Чакаць нельга!

Ярмілаў пагутарыў хвіліну з Сідаруком, махнуў рукою і падаўся па сходах уверх. Калі за Ярмілавым зачыніліся дзверы, за чым сачыў і Сідарук, тады ён са ўзмахам рукі сказаў толькі адно:

— Пайшлі на поле!

Па дарозе паслаў дзяўчыну, каб прывяла старшыню калгаса з меркай.

Чакалі старшыні. Ён, ужо зведаўшы, у чым справа, прывёў з сабою брыгадзіра — па паляводству. І пачалі паяны адмерваць па дзялянцы жыта для кожнай жняі. Пастушок прынёс вязанку калочкаў, і пачалі жанчыны ўтыкаць іх ля сваіх дзялянак, каб відаць, адкуль і пакуль. А яно, жытцо, стаяла перад імі на шырокіх прасторах уздоўж канала, стыкаючыся з далёкім лесам, роснымі каласамі павіслае долу.

Як жа хапіліся жаночыя рукі да адвеку прывычнай працы! Уздоўж дарогі застракацелі нагнутыя жаночыя спіны. І пад шоргат сярпоў узмахі каласістых жменяў кла-ліся на пожню. Ніхто не прамаўляў ні слова. Маўчалі. Пасоўваліся крок за крокам і маўчалі, цешыліся жытам, свежым сонцам і сваёю працай.

Кожны вечар па сканчэнні работы на полі брыгадзір-палявод апытвае жнеяў, колькі сотак кожная зжала. І хоць адмерваліся роўныя дзялянкі, а калі пералічыў брыгадзір на соткі, то аказалася — у каго больш, у каго менш. Пакрыўджаныя жанчыны пакуль што маўчалі. Але вось пакрыўджанай кожны дзень аказвалася Зося Канцавая, якая ў свой час на кухні ў бабкі Ганулі «выспавядала» Ахрэма Балабона.

І Зося заатакавала брыгадзіра, таксама па прозвішчу Балабон.

— Чаму ж гэта ў мяне кожны дзень не хапае? Што я, не жну так, як і ўсе?

— Бо і не жнеш,— бомкаў з-пад казырка Хвядос Балабон.

— Што? Можа твой дзядзька памагае табе? Ён на мяне мае воўчае вока, што я яму некалі праўду сказала. То можаш перадаць яму, што мала сказала, магу дабавіць.

Пасля гэтай перапалкі назаўтра ўвечары Зося прыйшла да Лены — параіцца, што рабіць.

Лена не адкладала гэтай справы на заўтра, а на другі дзень з самага ранку апынулася ў прыёмнай Ярмілава. Трохі чакала, бо Ярмілаў быў заняты з Сідаруком.

Расказала сакратару аб паводзінах брыгадзіра. Ярмілаў спытаўся:

— А Сідаруку гаварылі?

— Не.

— Вырашайце з ім.

— Я яшчэ пра іншае хачу вас прасіць, Іван Фёдаравіч...

Ярмілаў неяк здзіўлена ўставіўся на Лену, нібы чакаў чагосьці неспадзяванага. Прамовіў:

— Слухаю вас...

— Хачу прасіць вас, каб вы мяне адпусцілі жаць...

— Жаць? Ум... Адкуль гэта вам заехала такое ў галаву?

— Адно, што хочацца пажаць. Другое, пры мне гэты паскуднік не пасмее здзекавацца над жнеямі.

Ярмілаў маўчаў. Тонкая ўсмешка прабягала па твары. Круціў аловачак у руцэ і пазіраў на акно, дзе ў тапалёвых галінах трапяталіся сонечныя зайчыкі. Нарэшце Ярмілаў прамовіў, нібы выдыхнуў штосьці з сябе:

— Не чакаў такога... Гм... У вас жа малое на руках, як жа вы зможаце?

— Малое буду браць з сабою ў поле. Мая ж мама мяне насіла ў поле. І я вось жыву. Нічога мне не сталася. Няхай і мой сын пасніць пад снапамі...

— Толькі тут адна замінка. Або працаваць у райкоме, або ў полі. Адно з двух. Зробім так. Афармім вашы палявыя дні як водпуск. Згодны?

— Згодна.

— Рэшту ўзгадняйце з Сідаруком.

— Дзякую, Іван Фёдаравіч.

— Жадаю поспеху! — сказаў Ярмілаў.

Так пачаліся для Лены жніўныя дні. Жнеі, вядома, здзівіліся, калі ўбачылі Лену з сярпом на плячы, стаялі непарушна, як загіпнатызаваныя, глядзелі на Лену і маў-

чалі. Лена прывіталася, з усмешкай аглянула ўсіх і сказала жартоўна:

— Прымеце ж і мяне да свайго гурту.

Жанчыны ўспыхнулі смехам. Адна прамовіла:

— Ой, нашто вам гнуць спіну!

— Нічога. Не з панскага роду.

Так і пачала Лена Лесавічанка жаць сваю дзель, адмераную, вядома, Хвядосам Балабонам.

Калі сонца паднялося высока, бабка Ганула прынесла Алёшку — ён захацеў снедаць. Лена ўжо ці мала аджалася ад дарогі, паставіла адну дзесятку снапоў — будзе добры цянёк для малога. З бабкай Ганулай прыйшла і ўнучка Надзя. Яна любіць Алёшку, і яна будзе яго тут даглядаць.

На абед бабка прынясе ў збаночку квасу з агуркамі, разбаўленага смятанай, хлеба з салам, кавалачак сыру — будзе для жняі добры жніўны пачастунак. І сама ў ахвоту паабедае разам.

* * *

Ужо шосты дзень жне Лена. І кожны вечар Хведар Балабон адмервае кожнай жняі, колькі каторая нажала. Але з Зосяй Канцавой усё роўна ўзнікаюць спрэчкі. Лена ўрэшце вырашыла ўмяшацца ў гэтыя памеры. Узяла з рук Хвядоса метровую мерку і пайшла ўпоперак Зосінай дзялянкі. Дайшла да канца і спыталася ў Хвядоса, колькі намераў ён. Адказаў, што сем метраў.

— А чаму ў мяне восем? На, памер другі раз.

Хвядос намераў таксама восем і развёў рукамі.

— Я не ведаю, чаму так. Ну што ж — памыліўся...

— Каб ты больш, Хвядос, не памыляўся, калі хочаш быць брыгадзірам. Тут жа роўныя ва ўсіх дзялянкі — нашто ты мерыш? Запісвай усім адзінакава, няма чаго выдумляць.

— Старшыня сказаў, што трэба...

— Пагаворым і са старшынёй...

Усе жанчыны слухалі гэтую перапалку і не маглі нацешыцца Ленай.

— О хіба што заступніца наша... А то жнеш і не ведаеш, колькі...— прамовілі аднучасова некаторыя з жанчын.

Пасля гэтага здарэння Хвядос больш не мераў.

Кожны ранак бабка Ганула разам з Надзяй прыносіла Алёшку на поле. Калі ён, накормлены, соладка спаў

між снапоў, Надзечка збірала кветкі або рвала на ножні харошую траву, найбольш хвошч, а ўвечары бабка забірала яе ў мяшок і несла дахаты ў свой хлявец для сваёй кароўкі.

І вось аднаго разу, калі Лена жала ўжо апошні дзень пасля абеду, калі бабка Ганулі збірала ў торбу лыжкі і недаедкі хлеба і сыру, на прыжніўнай дарозе з'явіўся чалавек у шэрым касцюме і ў такім жа капелюшы. Побач з ім ішоў без шапкі хлопец. Лена пазнала б у ім Юрку Точаня. Але яна жала, аддаляючыся ад дарогі, і таму гэтых пешаходаў не бачыла. Затое заўважыла бабка. Стала і, прытуліўшы руку стрэшкай да лба, глядзела на дарогу. Абодва мужчыны павярнулі на дзялянку Лены. Перад бабкай неўзабаве сталі Павел Верасовіч і ён, «спраўны пісар» Точань.

— Добры дзень, бабуля! — узвышаным тонам прамовіў Павел.

Па прывітанні бабка ўзняла палец і сказала:

— Ціха...

— Чаму?

— Бачыце — спіць...— паказала пальцам на снапы, дзе ў прамежку, схаваны ад сонца, спаў Алёшка. Павел апусціўся на калені і асцярожна аглядаў свайго сына. Яснеў твар ад павольнай усмешкі.

— О, бяжыць яна...— прамовіла бабка,— пазнала.

Лена бегла, размахваючы сярпом. Першае, што яна сказала, калі дабегла да Паўла, было:

— Чаму не напісаў, што прыедзеш?

— Дай абніму, а потым скажу.

Абняў за плечы і, трымаючы ў руках, сказаў:

— Нечпадзявана абвешчаны канікулы. Вось і ўсё.

Глядзелі на малое, нахіліўшыся. Пераглядваліся, усміхаліся.

Да вечара заставалася можа больш гадзіны, пра што і сказала Лена.

— Можа хочаш папрацаваць — калі ласка...— звярнулася яна.— Бачыш, жмень многа ляжыць. Вяжы.

Павел акінуў вокам дзялянку і сказаў:

— Ну што ж... Так і быць. Ты заўсёды што-небудзь такое выдумаеш. Надумалася жаць — ды яшчэ з малым.

— Нас нашы маці насілі на поле. Чаму ж наш малы не можа адведаць гэтай раскошы?

Павел распрануўся і кінуў касцюм на сноп.

Так і былі павязаны да вечара ў снапы ўсе жмені, нажатыя Ленай, і нават пастаўлены ў дзесяткі. Точань, адыходзячы, сказаў, што прыйдзе ўвечары для гутаркі.

Павел памог дажынаць Лене яе дзель. Абзнаёміўся, абсвоіўся са сваім малым, насіў яго на поле. Людзі дзівіліся гэтай пары маладажонаў і ўсё ківалі на Лену. Захапляліся, называлі выдумшчыцай.

Скончылася жніво. Павел пачаў гаварыць Лене пра тое, што ён ужо надумаў даўно — каб яна пісала пісьмо ў ЦК аб пераводзе яе назад у Наднямонне.

— Трэба скончыць табе універсітэт марксізму-ленінізму, гэтыя універсітэты пачынаюць ужо адкрывацца. Трэба паўтарыць і дапоўніць,— сказаў Павел.

Павел хутка паехаў у Наднямонне, як нібы ў разведку, а Лена села пісаць пісьмо ў ЦК. Галоўным аргументам у сваёй просьбе аб пераводзе выстаўляла сваё жаданне скончыць універсітэт марксізму-ленінізму. Калі здала пісьмо на пошце як заказное, пайшла да Ярмілава. У самым пачатку гутаркі спыталася, ці ён нічога не меў бы супроць, каб яна напісала пісьмо ў ЦК аб пераводзе.

— Чаму так? Дрэнна тут?

— Трэба павысіць сваю кваліфікацыю. Хачу скончыць універсітэт марксізму-ленінізму.

— Ага! — працягнуў Ярмілаў.— Гэта, вядома, справа занядрэнная. Але... хто ж мне заменіць вас? Калі дадуць замену вам, ну тады што рабіць? Вам ваша. Не супярэчу.

Тады Лена выявіла таямніцу, што пісьмо ўжо напісана і вось толькі што адаслана. Гэта ўсё зроблена пад напорам мужа.

— Так мяне хацелі абое паставіць, як кажуць, перад дакананым фактам. Нічога, не сярдую,— махнуўшы рукою, сказаў Ярмілаў.

Нешта цераз тыдні два прыехаў Павел, і адначасова падышоў адказ з ЦК, у якім гаварылася, што ў прынцыпе ЦК згодны аб пераводзе, але ёсць патрэба ў работніку па прапагандзе ў Пінскі абком, і таму ЦК прапануе перавесціся туды. ЦК чакае адказу.

Задумаліся абое. Трэба было падумаць, разважыць гэтую жыццёвую справу з усіх бакоў. Думалі некалькі дзён. Кожны дзень то Павел, то Лена выкладалі свае прапановы і за кожным разам спыняліся на раздарожжы. З аднаго боку — і ў Пінску ёсць універсітэт марксізму-ленінізму, можна пераехаць і ў Пінск. Працуючы ў райкоме і газеце, Лена выдатна абзнаёмілася не толькі з такім каларытным мястэчкам, як Лахі, але і з вёскамі наогул, з мясцовым каларытным людам, які так умее быць адданым, верным, калі да яго паставішся па справядлівасці. Народ вельмі затужаны

па справядлівасці, бо ён яе на працягу многіх пакаленняў не меў пад панаваннем розных паноў. А цяпер жа надышла народная ўлада, і людзі пачынаюць цешыцца ёю, бараніць ад розных муціцеляў. Лена адчувала, што яна ўрасла ў тутэйшае асяроддзе. І ў мясцовых людзей мае пашану. Як хутка гэтыя простыя людзі разумеюць, хто чаго варты. Недарма ж Юрку Точаня празвалі «спраўным пісарам». Вось такія меркаванні былі за тое, каб перабрацца ў Пінск.

Але... з другога боку... Наднямонне, дзе Лена нарадзілася, вырасла, дзе брала ўдзел у вызваленчай барацьбе, дзе адбывала турэмныя гады і дзе жывуць бацькі. Гэта ўсё цягнула туды, каб пагрэцца на сваёй радзіме, аглянуць вокам шырокія, духмяныя паплавы, у якіх бруіцца, хаваецца Нёман. І сэрца патрабавала ехаць туды. Так некаторы час раздарожжа трымала Лену і Паўла на прывязі — ні туды і ні сюды. Павел расказваў пра гарадскія чуткі там, над Нёманам, што на граніцы стаіць пяцьсот згрупаваных нямецкіх танкаў. Адны гэтаму вераць, другія — не. Але насцярожанасць адчуваецца.

— Я мяркую так,— сказаў Павел,— што фашызм не можа доўга жыць мірна побач з краінай сацыялізму. Гэта адно другое выключае. Але што можа стацца заўтра, мы проста не ведаем. Гітлераўская Германія не спыніцца на Польшчы.

Урэшце паклікаў да сябе Лену Ярмілаў і сказаў аб адносіне ЦК накіраваць Лену ў Пінск.

І Лена тады згадзілася. У ЦК паляцелі два пісьмы — ад райкома і асабіста ад Лены.

Павел, паслухаўшы Лену аб такім вырашэнні, мог толькі сказаць:

— ЦК хоча, каб ты туды ехала. І па тым гэта ж і павышэнне, большы размах работы. Ты ж любіш размахі.

Райком у пісьме абкому разам з дырэктывай ЦК прасіў падрыхтаваць Лене кватэру і напісаў дзень прыбыцця Лены ў Пінск.

Так аднаго ружовага роснага ранку пад'ехаў крыты грузавік пад хату бабкі Ганулі.

Расставанне з бабкай было цяжкае. Так добра жылі, як родныя, і вось цяпер апусцее хата.

— Нічога, бабка, я буду прыязджаць сюды па сваёй рабоце, буду наведваць вас.

Уцерлі слёзы і Лена, і бабка, і Надзя. Пасадзілі Лену пад брызент на падушкі. Алёшку падавала бабка — пацалавала і дала пацалаваць Надзі. Павел сеў з шафёрам.

Паехалі. Трэба яшчэ спыніцца ля райкома. Трэба развітацца.

Калі ехалі вуліцай, выходзілі жанчыны, махалі рукамі. Некаторыя ўціралі слёзы.

## Раздзел восьмы

## ПРЫЕЗД МАМЫ

Як яно ні далёка, як ні нязручна, а трэба ўсё ж такі, каб мама прыехала ў Пінск — паглядзець унучка, патрымаць, пакалыхаць яго на руках, падкінуць уверх, каб яно, гэтае маленства, залілося смехам-рогатам. Так вырашылі Лена з Паўлам. Тым больш што ад мамы надышло пісьмо, у якім яна пыталася, як да іх, пінчукоў, дабрацца. Цяжка будзе маме дабірацца. І таму Павел сказаў: «Паеду я і прывязу маму, пабачуся з нашымі хлопцамі і дзяўчатамі ў Надня693монні і, вядома, з Славінскім».

Калі ж узнікла такое рашэнне? Усё залежала ад жыццёвага графіка Паўла, ці, інакш кажучы, ад яго студэнцкіх канікул. Былі ж яны — зімовыя канікулы з 1939 на 1940 год, калі Лена была цяжарнай ужо на чацвёртым месяцы. Новы год, як вядома, сустрэлі тады ў Лахах сваёй сяброўскай дружынай. Потым былі жніўныя канікулы — гэта значыць летнія, у жніво, у тым жа саракавым годзе, калі ўпершыню давялося Паўлу ўбачыць сынка. Ды дзе? На полі пад снапамі. Так, як выдумала яна — Лена. Добра выдумала. Зусім як трэба. Як у сне, выснiла гэтую сапраўдную казку. Мамiную, суровую.

І вось канчаецца саракавы год. Цёплая пінская зіма атуліла шэрым ціхім небам навакольныя балотныя прасторы за ціхай у сваёй плыні Пінай, якая бачная з двух вокан кватэры Лены Лесавічанкі. Направа відзён мост, за якім, як адна ў адну, пайшлі галінастыя вербы і павялі шырокую дарогу на ўкраінскі поўдзень.

Прыехаў Павел у Пінск упершыню і не мог не заўважыць яго спецыфікі. Па-першае, гэта рынак, водны рынак. Ён на самым беразе Піны. Яна, як прывычная гаспадарніца, трэцца іменна аб рынак. Хто б запытаўся — чаму? Чаму рынак сваёй плошчай нібы прыпадае да яе, усім вядомай, услужлівай матухны Піны? Пастойце крыху на рынкавым беразе і ўбачыце, як чаўны адзін за другім спыня-

юцца і спыняюцца... А ў чаўнах не толькі дзядзькі і цёткі ў карычневых, свайго вырабу сукна, куртках і куртачках, але дзяды і бабкі. Дзяды ў старасвецкіх шапках, якія выглядаюць, як стажкі сена, і жанчыны ў даўніх прычосках «пад каблучку». Маладзейшыя абвешаны пацеркамі, а на нагах спрытныя, мастацкі сплеценыя, лапці-лазовікі з выгнутымі ўверх наскамі, як пеўнічкамі. Разам з мужчынамі, маладзіцамі, дзядамі і бабкамі з чаўноў выносяцца кошыкі з курамі, з ваўняным прадзівам, з сувоямі палотнаў, з яйкамі, з мяшкамі пранозлівых віскаў парасят... А потым выходзяць цялушачкі, цялушкі, дробныя палескія кароўкі і пасля ўсяго нават запрацаваныя, пастарэлыя валы... Глянь уздоўж берага — усё чаўны і чаўны рознай велікасці і веку — то пачарнелыя, нават замшэлыя, то шэрыя, а то і нават белыя, нядаўнія. Але ўсе не сагнутыя, не скленыя з дошак, але суцэльныя, выдзеўбленыя з сасновай кадоўбінай прыроднай цаліны, зацеклай духмянай залацістаю жывіцай. І торг гудзе на рынку па-свойму, па-свойску — дзе маўклівы, аглядны, дзе з жартамі, смехам, а дзе нават і са сваркамі... Такая вось дабротная паляшучка Піна...

Павел з Ленай прайшліся па набярэжнай, дзівіліся і захапляліся гэтай самабытнасцю, якая зжылася, зраслася ў нешта адзінае з навакольнай балотнай прыродай, ціхімі, задумнымі даляглядамі, як іх творцы...

Спыніліся. Лена аглянула Паўла з галавы да ног, і хацелася паклікаць яго — туды, у бяскрайнія сенажаці і хмызы, каб там на адзіноце нібы прызнацца ў чымсьці, яшчэ дагэтуль не прызнаным. Замест гэтага ласкава, даверліва наблізілася да Паўла і сказала, не спускаючы позірку з яго вачэй:

— Тут прырода кліча к даверу, каб сказаць свае таямніцы.

Павел адказаў:

— Так... гэта праўда, Леначка. Пойдзем да нашага малога. Мне ж трэба збірацца ў дарогу.

Калі прыйшлі на кватэру, малы Алёшка спаў. Такім яны яго пакінулі, каб паспець на гэты цудоўны водны рынак, нябачны палявым людзям, а толькі людзям Палесся.

Сталі над малым. Маўчалі. А потым Лена пачала свой сказ:

— Ведаеш, Паўлік, што я думаю. Трэба нам паехаць у Лахі, запрасіць бабку Ганулю, каб пажыла ў нас, бо Алёшку няма ж каму даглядаць. Гэтыя дні даглядаў ты. А далей?

Калі прачнуўся малы, Лена прамыла яму тварык, дала напіцца малака, апранула ў цёплую куртачку, надзела на галоўку шапачку з казырочкам, і так бацькі пайшлі з ім аж у абком, дзе ім далі машыну. І шафёр павёз іх у Лахі. Гэта ж недалёка...

Бабка Ганула згадзілася дагледзець Алёшку, але з такой умовай, каб кожны дзень прыязджаць у Лахі — дагледзець цялушачку і парсючка. Лена з Паўлам пераглянуліся і адчулі складанасць гэтай, здавалася б, невялікай справы. Але... трэба пагадзіцца з тым, як склалася. Трэба пагаварыць у абкоме. Адносна машыны. Прыедзе мама — тады ўсё складзецца ў парадак.

* * *

Павел дабраўся ў тое наднямонскае Прылессе, на радзіму сваёй Лены. У той жа дзень забраў цешчу, даехаў да горада і сеў на брэсцкі поезд. А ад Брэста да Пінска, як кажуць, рукой падаць.

Хрысціна — гэта значыць яна, мама,— прыехаўшы, як толькі ўвайшла ў кватэру, на адну хвіліначку прытулілася да дачкі, да Лены. Яе вочы чагосьці шукалі навокал. І адразу пытанне: «А дзе ж ён, мой унук?» Лена адразу зразумела маму, яе рухі, намеры. Лёгкая ўсмешка прабегла па вуснах. Узяла маму пад руку і прывяла да занавесі, расхіліла яе, і мама з дачкою ўбачылі, як хораша спіць Алёшка, раскінуўшы ручаняты на падушцы. Хрысціна нахілілася і ціхенька пацалавала ўнучка ў шчочку. На вочы набегла яна — шчаслівая сляза,— Хрысціна змахнула яе рукою з сваіх немаладых вачэй і сказала: «Няхай спіць...» Павел крыху здалёк сачыў за паводзінамі цешчы, усміхаўся неяк удумна, нават сур'ёзна, сказаў Лене паўжартам: «Частуй маму. Яна хоча есці...» А мама з узмахам рукі сказала: «Я не галодная. Не бойцеся за маму».

Прыезд мамы ўпарадкаваў жыццё Лены. Унучак Алёшка не сходзіў з рук сваёй бабулі.

## ЯК НАДОЎГА?

Мама Хрысціна пражыла ў сваёй дачкі Лены крыху восені і крыху зімы. Гэта значыць да новага сорак першага года. Затужыла па сваёй хаце, па сваім чалавеку Сцяпану

Лясовічу. Як ён там упраўляецца з сынам Віцем ля гэтай печы? Трэба ж бульбы начысціць, наварыць, парсючку даць, кароўку дагледзець. І ці ж яму, запрацаванаму Сцяпану, не хочацца пабачыць унука? Трэба ж неяк яму яго паказаць. А як? Толькі адзін ратунак — павезці яго туды, у Наднямонне.

Хрысціна пачала гаварыць пра гэта Лене. А Лена занята, моцна занята ў абкоме. Пагаварыла з сакратаром аб сваіх жыццёвых справах, і сакратар параіў ёй узяць водпуск. Так і замкнулі яны на ключ сваю пінскую кватэру, папрасілі суседзяў наглядаць за ёю і селі на брэсцкі поезд.

Памяркоўны бацька Сцяпан Лясовіч выйшаў насустрач, на парог хаты, бо ўбачыў прыехаўшых праз акно. І першае што — узяў на рукі, выхапіў ад сваёй Хрысціны ўнука і адразу прамовіў: «Унучак мой...»

На стрэхах вёсачкі Прылессе спакойна ляжаў снег. За вёсачкай спакойна маўчаў бор — такі свежы, зялёны, як абмыты. Усё было добра, усё хораша, як бывае ў бацькоўскай хаце, і ўнучак Алёшка хутка прывык, вучыўся хадзіць, а бабка — то лашчыла яго па галоўцы, то давала нешта з сваіх хатніх прысмакаў — цёплага блінца, то маленькі кавалачак халоднага з каморы сала. Хлопчык хціва смакаваў яго і прасіў яшчэ.

Колькі ж можна жыць Лене ў мамы? Вядома, не век, а толькі месяц. Трэба вяртацца да сваёй прапагандысцкай працы — туды, у абком над ракою Пінай. Жывучы ў мамы, памагала ёй прасці воўну, пашыла бацьку кашулю і сарочку, хадзіла да суседкі пазычаць на гэта машыны і разам з рознымі, як кажуць, гаспадарскімі справамі па хаце знаходзіла час, каб удзяліць увагі кніжцы. Наказ Паўла пры развітанні ў Маскве — вывучаць гісторыю — не забыўся, хоць яна Паўлу ў гэтым не прызнавалася. Але наперадзе універсітэт марксізму-ленінізму. Ён задаволіць, дасць адказ на ўсе пытанні аб чалавечым грамадстве. Павел, як толькі прыехаў у Наднямонне, адразу падаўся ў Маскву. Да новага, 1941 года заставалася месяц. На свята прыедзе. Гаварыў, што Новы год трэба сустрэць у Наднямонні ў таварыстве сяброў — Башкоўскага, Вяргіні, Славінскага — і паклікаць тых палешукоў — Аляксея Варанюка і Івана Хмыза.

Алёшка бавіўся ў свае цацкі — вадзіў па лаве чарнаватага коніка з калёсікамі. Лена, седзячы адна ў хаце, заглядзелася на сынка. Прыйшлі думкі, што трэба будзе пакінуць яго ў мамы, і пры гэтым душу абымала нейкая, прый-

шоўшая невядома адкуль, жаласць. Ці прадчуванне чагосьці невядомага штурханула пад сэрца — можа нядобрага, ці чакаюць нязведаныя падзеі, якія недзе нарастаюць, рыхтуюць сваю неспадзяванку.

— Алёшка, хадзі ка мне, хадзі да мамы...

Алеша пакінуў коніка і ціха, абапіраючыся ручанятамі на лаву, дабраўся да Лены. Яна ўзяла яго на калені, прытуліла да сваіх грудзей, заглядала ў вачаняты, якія напаміналі вочы Паўла, і прыгладжвала русыя валосікі. А потым патуліла сынка і маўчала, сцішаная ў сабе. За вокнамі паволька падаў снег і рассяваў сваю зімовую дрэму ў наваколлі. Лена адчула сябе нібы закалыханай недзе ў далёкім дзяцінстве пад аховай маткі і бацькі і яшчэ аднаго памятнага цяпла — гэта пастаяннай, незаменнай печы. А потым прыйшлі на памяць падпольныя дарожкі і дарогі, заўсёды заснежаныя. Такімі найлепш захавала іх памяць. Потым закратаваныя вокны — турэмная, штодзённая, прыглушаная, бунтоўная туга — праз гады... Нешта прышчэмлівае сэрца, нешта кранае... Як добра было б, каб зараз увайшоў Павел... Але ён недзе крочыць у Маскве з партфелем у руцэ ў свой інстытут вялікай веды, хоча дасягнуць яе Манблана. Пачэсна і горда! Стала лягчэй. Але не зусім. Адчуваюцца небяспекі, якія недзе будуць блытаць дарогі... будуць блытаць...

Увайшла Хрысціна — мама. Абтрэсваючы заснежаную хустку, прамовіла:

— Кажуць, што многа нямецкіх гармат наехала пад граніцу. Людзі пагаворваюць аб вайне — каб часам немец не кінуўся на нас. З адной бяды выбрылі — і зноў. Божа, божа, што робіцца на свеце? Камусьці ўсё мала, усё чагосьці мала. І дакуль гэта будзе?

Лена слухала і яшчэ мала верыла ў гэтыя чуткі, хоць па душы прасунулася нейкае нямілае пачуццё.

— Усё быць можа, мама. Свет цяпер неспакойны. Але, каб што было небяспечнае зараз, нашы ўлады не маўчалі б. А то, бачыш, цішыня. Будзем бачыць.

Хрысціна выняла з печы саганчык з парaным малаком, наліла ў місачку і стала крышыць булку. Гэта яда для Алёшкі. Лена выпусціла яго з рук, і ён яшчэ на карачках падаўся да бабулі.

Лена, стоячы пасярэдзіне хаты, расправіла рукі і плечы, як ад стомленасці,— пацягнулася і тут жа звярнулася да мамы:

— Трэба ўжо вяртацца ў Пінск, мама.

— Вядома, што так.

Так праз два дні Лена развіталася з сваёй мамай і паспяшыла ў горад, каб дабрацца да жаданага поезда. Развіталіся... Як надоўга?

## НЕСПАДЗЯВАНКА — ДЫ САПРАЎДНАЯ

Вось і мінуў Новы год — можна сказаць, такі ціхі, малапрыкметны, нібы як сірочы. Што ж сталася з планамі Паўла і Лены? Хто іх перакрэсліў і накіраваў падзеі ў іншыя напрамкі? Некалі, у царскія часы, па людзях хадзіла прыказка: «Чалавек намячае, а бог вырашае». Хто ж быў гэтым богам цяпер, бо Паўлу не давялося прыехаць к Новаму году. Змусілі да гэтага экзаменацыйныя, як кажуць, зачоты. Інстытут хоча скончыць свой вучэбны год раней, чым у мінулым годзе. Прычыны і ўнутранага, і знешняга парадку — рамонт будынка інстытута і, па-другое, мае быць навуковая педагагічная сесія. Лена напісала пісьмо маме, што хоча прыехаць і забраць Алёшку, наняць для яго няньку, бо іншага выхаду няма. Мама хутка адказала. Пісаў сам бацька Сцяпан, што наймаць няньку не трэба — гэта лішнія расходы і лішнія клопаты. Няхай Алёшка гадуецца ў іх. Яму тут — у бабкі і дзеда — нядрэнна. Ён ужо добра вучыцца хадзіць — ад лавы да печы,— кіруецца да бабчыных выстаўленых рук. Хоць часам і падае, але ўсё роўна ўстае, не плача, стараецца, каб толькі дайсці да бабкі. Так вось і трэба было пагадзіцца з бацькамі, а гэта яшчэ азначала, што давялося правесці Новы год адной, хоць гэта на самай справе і не зусім так. Прыязджаў на рынак Іван Хмыз з сваёй Анісяй. Зайшлі да Лены пабачыцца і, даведаўшыся аб яе такім выключным становішчы, забралі яе да сябе — да Новага ж года ўсяго два дні. Неспадзяваным для Лены, але прыемным было і тое, што да Хмыза па старой знаёмасці завітаў як госць Аляксей Варанюк з жонкай Галяй. Хоць не хапала Паўла і Алёшкі, таварыская навагодняя вячэра аблегчвала Лене гэты прытоены «сірочы» настрой.

...Да мамы Лена паехала ў пачатку мая, калі сынку споўніўся адзін годзік.

Майскае цяпло Наднямоння, здавалася, прыцішыла, прыгалубіла ўсіх — ад старога да малога,— бо ўсе былі занятыя на зямлі, усе нагнутыя з лапатамі і ўсе маўклівыя. Лена найбольш прабывала ў сваім, здаецца, век знаёмым горадзе, ходзячы па якім адчувала сваю мінуласць, поўную

трывогі і цярплівага чакання. А што цяпер? Пасля вызвалення? Хацелася дзейнічаць і дзейнічаць, каб усё ад найвышэйшых паверхаў дамоў да самай нізкай травінкі харашэла, толькі харашэла. Цярплівасць была толькі адна — Лена чакала Паўла.

...А Павел пасля экзаменаў стаў філосафам ужо адукаваным. Адукацыя дала, як сказалі б філосафы, свой патэнцыял. Гэта адчулі выкладчыкі — паважаныя прафесары.

Павел скончыў інстытут на выдатна. Па-школьнаму кажуць: на «пяцёрку». Павел разважае аб гэтым і сам сабе кажа: «Дзе прысутнічае філасофія, там старасці няма. Там неўміручасць».

Вось так, разважаючы, Павел стаіць у сваім цёмным пакоі ў гасцініцы і глядзіць у тое самае акно, праз якое глядзеў з Ленай на яго... на зорнага Васіля Блажэннага. Толькі ў той час у пакоі мудрасць выявіў не ён, а яна — ціха, прытоена сказала — нават загадала — не запальваць святла, што хацеў зрабіць Павел, захаваць утульныя поцемкі, каб ярчэй гарэлі зоры над Васілём Блажэнным.

Бо, бачыце, высокая думнасць мае тую грэшную тэндэнцыю, што па сваёй інерцыі ігнаруе яе, здавалася б, маленькую практыку. Бо яна — ну, вядома, лічыцца дробяззю ў параўнанні з вялікімі думкамі аб пераўтварэнні чалавечага грамадства і гэтак далей. Лена, як бачна, выявіла сябе асобай з пачуццём практыкі, з пачуццём жывога, штохвіліннага дзеяння. А Павел як сузірацель, вядома, сусвету, не адчуў існавання пясчынкі, без якой не можа быць сусвету. Любаванне Васілём Блажэнным пад зорамі не нарадзіла ў ім імпульсу для адпаведнага дзеяння, каб пачуццё красы стварыла сваю песню. Яе стварыла Лена.

Вось чаму Лене заўсёды хочацца абуць Паўла ў звычайныя рабочыя боты, каб ён, як яна любіла гаварыць, быў «падобны да людзей». Павел не пратэстуе — ён сваім дэмакратычным пачуццём мірыцца з гэтым і адчувае, як дзіцячыя і наступныя гады недзе здалёк цеплынёю прыплываюць у душу.

...І таму вось, седзячы на прызбе хаты мамы Хрысціны, Лена кажа Паўлу:

— Заўтра пойдуць касіць. Паплавы бліжэй да Нёмана мокрыя, і таму ты абуешся не ў боты, а ў лапці.

Сказаўшы так, Лена нібы знарочыста глянула ў твар Паўлу: як гэта ён успрыме. Паспела схапіць тую імгнённую маршчынку над пераноссем, якая раптам паглыбілася і тут жа знікла. З пагодлівым тварам звярнуўся да Лены:

— Што ж... так і быць, дарагая... Пойдзем касіць. Даўно гэтага не рабіў. А як там з касою?

— Бацька ўжо направіў. І сабе, і табе. Я сказала, каб нарыхтаваў і табе. Бачыш, як пра цябе дбаю... Каб ты не пазбыўся свайго першародства. А то задзярэш нос — і тады што мне з табою рабіць?

Гутарка была ні то жартоўнай ці напалову жартоўнай. Але недзе нешта заікалася, але, вядома, не ўсплывала наверх. Відаць, гады разлукі ўсё ж такі зрабілі сваё.

Думкі Паўла былі ўжо думкамі чалавека, які пераступіў свой рубікон. Адчуваў сябе нейкай ступенькай вышэй — хацелася хутчэй выявіць сябе, хацелася дзеяння. Там, у студэнцкім чамаданчыку, ляжаў ён — таварыш атэстат. Ён ужо не даваў спакою. Але дзе асесці, каб дзейнічаць — тут, у Наднямонні, ці там, у Надпінні? Славінскі абяцае памагчы, каб перавандраваць сюды.



Да веснічак хаты Сцяпана Лясовіча, бацькі Лены, пад'ехала чорная бліскучая машына. З яе ў гімнасцёрцы ахоўнага колеру выйшаў малады чалавек з адкрытай галавой, на якой русаватыя валасы прыліплі да лба. У паветры стаяла парнасць. Яна плыла не толькі ад гарачага сонца, прырэчных паплавоў, але, здавалася, і ад пахучых, ёмістых, пухкіх пракосаў, якія ладнымі радамі ўцякалі ў адным напрамку туды — да Нёмана. Малады чалавек, нягледзячы на такую спякоту, быў у ботах, у штанах галіфэ такога ж колеру, як і гімнасцёрка. З левага боку на рамні звісала паходная пісарская сумка. Расхілены каўнер агаляў спатнелыя шыю і «трохкутнік» грудзей.

Сцяпан Лясовіч — босы, з раскіданымі валасамі — выйшаў насустрач госцю, а госць, прывітаўшыся, адразу спытаўся:

— Ці не змагу я ў вас знайсці дэпутата Паўла Верасовіча?

А Сцяпан Лясовіч у адказ:

— А хто вы будзеце?

— Я з абкома...

— З абкома... Ага... Заходзьце. Павел дома. Чытае газету.

Госць, які аказаўся загадчыкам аддзела прапаганды абкома, прывітаўшыся з Паўлам, назваў сябе, а потым раскрыў сваю сумку, выняў адтуль чысты, нязгорнуты кавалак

паперы, на якой было надрукавана нешта два ці тры радкі, і працягнуў Паўлу.

Павел імгненна прабег вачыма гэтыя радкі і адразу, нібы аб чымсьці здагадаўшыся, загадкава паглядзеў на госця.

— Ці не можаце сказаць, на што мяне запрашае сакратар абкома? — спытаўся Павел, запрашаючы абкомаўца сесці.

— Дакладна сказаць не магу. А наогул справа датычыць, мне здаецца, выкладання. Падрабязнасці вам скажа сам сакратар. Давайце не будзем траціць часу, таварыш Верасовіч, паедзем.

Увайшла Лена, ведучы за ручку Алёшку. Даведаўшыся, у чым справа, яна сказала Паўлу, каб ён выйшаў з ёю ў сенцы «на пару слоў». Павел, папрасіўшы прабачэння ў абкомаўца, пайшоў. Лена наскора сказала яму, што можа варта, каб у горад паехала і яна з малым. Хочацца паказаць сяброўкам і сябрам свайго малыша. Яны прасілі. І наогул у такі цёплы час грэх не адпачыць душою сярод сваіх аднадумцаў. Павел сказаў, што, як ён прадбачвае, справа яго можа зацягнуцца на некалькі дзён, бо, напэўна, абком будзе радзіць аб тым, як найлепш выкарыстаць яго, Верасовіча, па лініі лекцыйнай работы. А гэта адным махам не робіцца. І таму Павел сказаў, што возьме з сабою чамадан і якія неабходныя рэчы.

— Мне здаецца, што паселяць нас у гасцініцы.

Лена сказала, што і яна возьме з сабою неабходныя рэчы для сябе і для малога.

Павел вярнуўся з сенцаў, расказаў таварышу з абкома аб намерах сваіх і Лены. Таварыш з абкома ні ў чым не супярэчыў, толькі прасіў, каб паспяшылі.

...Ехалі праз духмяныя паплавы, праз якія шырокаю блакітнаю дарогай-плынню неяк павольна прабіраўся Нёман. Яму, відаць, не хацелася развітвацца з нагрэтымі паплаўнымі берагамі і недалёкім борам, які прытуліў да сябе вёсачку Прылессе.

Усе маўчалі. Кожнага прыкоўвала да сябе краса навакolля. Але наперадзе горад, а там абком, які мае вырашыць лёс Паўла Верасовіча. Лена нібы прыліпла да спінкі машыны і думала пра Паўла. А можа ў залежнасці ад яго становішча зменіцца на лепшае і яе?

Праехалі мост — драўляны, нядаўна пабудаваны, і міла было аглядаць з яго вышыні абодва берагі Нёмана. У Лены прабегла ў галаве: «А мост будаваў бацька...» Яна сказала пра гэта Паўлу.



У Вязынцы ля дома Я. Купалы.
*Злева направа:* П. Пестрак, С. Прытыцкі,
І. Шамякін.
*1957 г.*



Піліп Пестрак сярод беларускіх пісьменнікаў.
*Мінск, 1967 г.*

— Твой бацька на ўсе рукі, касу настроіў — ну як брытву, у руках не чуеш.

— А вы касілі? — умяшаўся таварыш з абкома.

— Ну як жа адставаць ад людзей? Пакасіў трохі.

Таварыш загадчык аддзела прапаганды абкома неяк упарта глядзеў у профіль Паўлу, хацеў нешта сказаць, але так і не сказаў нічога.

Было дзве гадзіны, ці, як кажуць па-афіцыйнаму, чатырнаццаць, калі машына з прылескімі пасажырамі спынілася перад ганкам абкома партыі. Павел сказаў Лене, каб яна пачакала ў гэтым, даўно знаёмым ім, скверыку, пакуль ён скончыць гутарку з сакратаром.

Лена сядзела на лавачцы, над якой лапушыста звісаў дацвітаючы куст бэзу. Яна нават аглянула яго — ці то ён, той самы куст, пад якім яе чакаў Павел, калі адбываўся той слаўны мопраўскі з'езд, які ўсе палічылі партыйным з'ездам членаў КПЗБ.

Ішлі тады са з'езда з Паўлам, і яна вылівала перад ім свае жалі-думкі, а ўвечары — той парк і той рахманы месяц, які нікуды не хацеў плысці, а толькі глядзеў на іх — адзін, адзін на свеце. Лена з пачуццём асалоды ўсміхнулася сама сабе і глянула ўдаль па сцежцы. Па сходках ганка да яе сходзіў Павел. Яна ўстала, каб ісці яму насустрач. Але не адна. За ручку яна вяла Алёшку. Як жа змяніўся час!

— Вось на, чытай,— прамовіў Павел.— Пакой у гасцініцы, чакаць дні тры. Перагаворы з ЦК. Буду выкладаць у педінстытуце і на тымчасовых палітычных курсах, на аснове якіх мае быць створаны універсітэт марксізму-ленінізму. Зразумела?

— Ой, як гэта добра, Павел. Ну, а як з Пінскам?

— Сакратар сказаў, што верне цябе адтуль.

— І гэта напэўна?

— Напэўна! — нават выкрыкнуў Павел і падняў Алёшку на рукі.— Пойдзем у гасцініцу.

* * *

У пакоі добры, мяккі ложак і шэрая канапа. А потым, вядома, ванна і іншыя выгоды. Лена адчувала сябе ашчаслівенай. Кінулася да ванны — пакупаць Алёшку, а потым і сябе. Потым нават Паўла змусіла легчы ў цёплую ваду, бо ён адмаўляўся, кажучы, што, косячы, купаўся ў Нёмане.

З акна, неяк нават блізка, бачыўся трохкутнік сярэднявяковага рынка, які сваім вострым кутом спускаўся да Нё-

мана ці, дакладней кажучы, да моста, да яго пачатку. Трохкутнік вызначаўся грамоздкай лініяй крамак — цагляных, з'едзеных вятрамі і дажджамі, крамак са сляпымі акенцамі і яшчэ больш сляпымі падвальчыкамі, куды ныралі стаптаныя ці нават пратаптаныя сходні з цэглы. Нейкая сумесь цэглы і пылу, бязлітасна падрапаных хібарак, якія ў свой добры час маглі пахваліцца і чоткасцю, і чысцінёй.

Вусны Паўла павольна расплываліся ў задуменную ўсмешку. Аганькі, як нейкая здагадка, бліснулі ў вачах.

— Вось як Вітаўт намудрыў...— прамовіў сам сабе.

І хацелася яму засмяяцца ўцешным смехам ад подыху перажытага праз вякі.

— Што ты сказаў...нешта пра Вітаўта,— з кутка ачнулася Лена, якая абувала тапачкі на нажаняты Алёшкі.

— А вось пра Вітаўтаў рынак — трохкутнік, найстарэйшы помнік горада. Колькі пакаленняў гандлявала тут? Рассаднік дробнага гандлярства...

Лена глядзела на гэты трывалы цуд і, здавалася, толькі цяпер адчула сваёй інтуіцыяй пах таго, што завецца гісторыяй. Ага... Вось яно як... Толькі цяпер, Паўлік, я пачынаю цаніць тваe развітальныя словы тады ў Маскве на Беларускім вакзале: «Вывучай гісторыю...»

Лена лягла на ложку з малым, а Павел расцягнуўся на канапе. Праўда, пасядзеў крыху пры Лене і сынку, любуючыся яго маленькімі капрызамі, калі ён маму тузаў за валасы і заліваўся смехам. Нешта яму не хацелася заснуць, і Лена пачала «варажыць» мамінай прынукай, якая заўсёды навявала сон:

Сарока-варона
Дзеткам кашу варыла,
На прыпечку студзіла...

Павел спаў тым лёгкім сном, калі клопаты дня канчаюцца ўдала, што пакідае ў душы прадчуццё чагосьці яшчэ небывалага, але бадзёрага, вясёлкавага. Можа такі настрой і стаў штуршком сярод ціхай дрэмлючай ночы, бо Павел прачнуўся і стаў ля цёмнага акна. Сэрца тахкала часта. Чаго? Можа што прыснілася? Так, прыснілася маці. Старэнькая, адзінокая маці. Адведаў яе, калі прабіраўся да Івана Хмыза на Палессе. Цалавала і плакала шчаслівымі слязамі. Глядзела на сына і казала: «Які ты стаў для мяне далёкі, сынок... Вучоны ты стаў і матку сваю забыўся... Дванаццаць год цябе не бачыла... сядзеў у гэтай польскай турме. Прыйшла свабода. З'явіўся і зноў паляцеў. Колькі ж гэтай навукі патрэбна?»

А можа яшчэ і тое, што перахваляваўся ў абкоме, чакаючы вырашэння свайго лёсу? Можа... Павел лёг, і прымірэнчы, салодкі сон хутка стуліў яму павекі...

І вось світанне... Світанні бываюць розныя па сваіх колерах, афарбоўках. Але яднае іх адна прыкмета — гэта тонкае зарава. Ці будзе світанне сонечнае, ці хмарнае, яно — гэтае зарава — усё роўна тонкім, свежым хараством румяніць нябёсы, як усмешка дзіцяці.

Вось такім і было світанне, калі над заснуўшымі людзьмі наднёманскага горада грымнуў узрыў, ад якога страсянуліся ўсе дамы — вялікія і малыя — і людзі схапіліся з пасцеляў і сталі ля вокан. Убачылі дым, а потым пачулі гул. Ён плыў з вышыні. Гэта быў гул самалётаў, якіх потым называлі нямецкімі. Дырэктар гасцініцы бег па калідорах, стукам у дзверы будзіў людзей адной фразай: «Таварышы!.. Налёт гітлераўскіх самалётаў!»

Павел з Ленай ужо стаялі ля акна ўсхваляваныя, спалоханыя. Пачуўшы крык дырэктара, выйшлі на калідор. Потым выйшлі на вуліцу. На вуліцы беглі людзі — хто куды — невядома. Некаторыя жанчыны ўжо плакалі. Недзе ў сумяціцы пранозліва плакала дзіцятка. Людзі з клункамі за плячыма ўцякалі з горада. Павел з Ленай пайшлі за людзьмі за горад, яшчэ не ведаючы, куды яны пойдуць. Апынуўшыся за горадам, вырашылі, што трэба ісці на ўсход — на Мінск. Так і пайшлі ў вялікім людскім патоку. Вось вам і неспадзяванка, ды сапраўдная...

## ЛІВЕНЬ І ПЛАЧ

Маршчына паміж бровамі ў Паўла Верасовіча як паглыбілася, так і не адыходзіла. Ні адзін, хоць бы ўяўны, праменьчык не разгладзіў яе. Толькі насоўвалася нешта хмурнае. А на дне душы — там, куды баіцца заглядаць нават свая ўласная думка,— раслі павольна крыўда і гнеў. І адчувалася ўжо, што гэта можа расці, як пухлізна, і распіраць гарачае нутро.

Ужо трэці ці чацвёрты дзень марш у тужлівым паходзе — каго? — вядома, людзей. Марш — і войска, і жанчын з дзецьмі — з тымі, якія ўжо ходзяць, і з тымі, якія прытулены да матчыных грудзей. Мужчыны неслі клункі за плячыма, падросткі таксама. І доўгім, бясконцым натоўпам ішоў народ па беларускім шляху ва ўсходнім напрамку, як сказалі б штабісты. На шляху ўжо ляжалі памерлыя — ві-

дацЬ, выйшлі ў дарогу хворымі. Людзі кароткімі позіркамі праводзілі іх, а некаторыя з жанчын на хвіліну схіляліся, каб даўжэй затрымаць зрок на скамянелым твары і непрыкметна змахнуць набеглую, сухую слязу. Асабліва прыкоўвала ўвагу ўсіх дзяўчына. Яна ляжала ўпоперак на ўскраі адхону, і ногі некаторых пешаходаў нават краналіся яе ног у жоўтых туфлях. Русыя валасы з залацістым адценнем раскідаліся вянком наўкол галавы, прыпалі пасмамі да зямлі. Вецер дакрануўся цёмна-сіняга плацця і загібаў яго за калені. Аж тры жанчыны раптам нахіліліся над памерлай і выпрасталі плацце, прыкрылі маладыя дзявочыя ногі. Няхай будзе прыстойнасць з памерлай. Хто яе падбярэ — невядома...

Сонечнае поле, нейкае пустое і паблеклае, хоць на ім шумела зеляніна, скончылася, і людзі ўвайшлі ў цяністы, густы лес. Гэта быў пераважна малады беразняк. Вось над ім і ляцеў гітлераўскі драпежнік, ляцеў павольна над галовамі людзей, як той каршун, што выглядае сабе ахвяру. Некаторыя пачалі зыходзіць убок, і шлях мала-памалу стаў пусцець. Аднак узрыў пачуўся наперадзе, і гэты бясконцы натоўп разбегся па лесе.

Павел Верасовіч так і не знайшоў сваёй жонкі. У часе налёту — там, яшчэ на шашы,— калі гітлеравец сыпнуў з самалёта кулямётнай чаргой па грузавіках, людзі душыліся, злазячы на зямлю,— і тады яна пабегла ў лес з малым на руках. А ён, Павел, збіты з ног, пакаціўся пад адхон і, пакуль стаў на ногі, страціў жонку з вачэй. Шукаў навокал на лесе і не знайшоў. Так вось цяпер і крочыць адзін у натоўпе, не ведаючы, ці ісці далей з усімі, ці вярнуцца назад.

Вечар наплываў хмарны аж да цемрадзі. У лесе стаяла парнасць, і пот заліваў вочы. Хутка хлыне дождж.

Шырокая паляна дыхнула прахалодай. На ёй размясцілася некалькі хат, раскіданых без парадку. Адна з іх была вялікая — не хата, а хароміна пад старою гонтавай страхою і з ганкам пад стрэшкай. Непадалёку ўзвышалася з травы вартаўнічая вышка. Аказалася, бежанцы толькі што перайшлі былую польска-савецкую граніцу, і гэтыя хаты былі жыллём для пагранічнікаў.

Гаспадыня хаты, пажылая жанчына, выйшла на ганак і пачала запрашаць жанчын з дзецьмі і салдат — заходзіць. Размяшчала іх — жанчын у пярэднім пакоі направа, а салдаты адразу клаліся на падлогу ў велізарнай, як адрына, кухні.

Паўлу не хапіла месца. Ён выйшаў на двор. Цемра агортвала наваколле так густа і парна, што хацелася легчы, хоць бы ў якую лужыну, каб прахаладзіцца. Глянуў тудысюды. Убачыў непадалёку студню з вядром і з нейкай палёгкаю ў сэрцы падбег і апусціў вядро ў зрубік. Піў, не скідаючы клунка з плеч. Пасля некалькіх глыткоў адпачываў і піў далей.

За глухою сцяною хаты-хароміны размясціўся бедны агарод на падзолістай зямлі: вытыркнуўся гарох вышынёю з далонь, упоцемку паказвалася бульба. Але ж дзе знайсці месца для начлегу? Ага... Відаць, толькі тут. Вочы ўпалі на дровы, на паколатыя бярозавыя дроўцы, пакладзеныя пад страхою паміж невялікіх вокан — старых, неагледжаных. Падстрэшша ўтульна прыкрывала дроўцы і проста нібы вабіла да сябе. Дровы пасярэдзіне крыху выбраны — якраз добра будзе ляжаць і галаве, і нагам. Павел узабраўся на дровы, умастакаваў клунак па ўзгалоўі і лёг. Нідзе нічога не муляла пад бокам — было выгодна, утульна. Навокал нікога нідзе. Толькі густая цемра ў лясным, глухім прасторы і падстрэшша над галавою. Недзе далёка глуха загрымела. Ці то ад гарматнага стрэлу, ці ад грому? «Відаць, ад грому»,— падумаў Павел, пачынаючы стомлена засынаць.

Невядома, колькі спалася. Аглушальны ляск, нібы раскалолася нешта пякельнае, абудзіў Паўла. Вочы паспелі схапіць агеньчык у небе. Над лесам і, здавалася, над усім светам шумеў лівень. Ён шумеў бязветрана, роўна, раскошна. То цішэў, то мацнеў. Шротам сыпаў па старой гонтавай страсе, а ў лесе плыў густым, імклівым шэптам.

Гром паўтарыўся, і разам з ім на падворак, як бы з галопу, уварваўся конны атрад. Коні ў цемры выглядалі ценямі. Цені бразгалі цуглямі, фыркалі, тупалі нагамі. Коннікі паехалі ў аб'езд хаты — туды, дзе агарод. Двух бліскалі батарэйкамі. І тады рыпнулі дзверы. Выйшла гаспадыня. Коннікі, аб'ехаўшы хату, вярнуліся — з гоманам, рэгатам, як быццам знарок наперакор дажджу. Адразу стала зразумела, што ўся гэтая кавалерыя складалася не з каго іншага, а з кавалераў — залатой, разухабістай моладзі.

— І куды нас чорт загнаў? Тут толькі Рабінзонам жыць! — І агульнае — ха-ха-ха...

Дождж ліў неміласэрна. А яны рагаталі.

Нехта задэкламаваў:

> На ўскраі лесу
> Домік невялічкі...

Другі падхапіў:

А ў ім з бабуляй
Жылі дзве сястрычкі...

І зноў агульны шум, пераклікі:

— Ваня! Ты тут ці знік у той яме, куды мы ўваліліся?!

— Тут, тут, старына! Вада цячэ па сцёгнах — вось што!

— Цярпі, казак!

І праз гэты малады, задзірысты рогат пачулася нешта жаночае, манатоннае:

— Ах, таварышы, нашто вы так робіце? Коней папускалі ў гарох, усё патапталі. Вы ж сазнацельныя...

Коннікі на момант прыціхлі. Яны толькі цяпер заўважылі гаспадыню.

— Што, бабулька, гарох з'елі? Охо-хо, бабулька. Гароху, вядома, шкада. Не бачылі...

— Вы думаеце, як вайна, то ўсё можна?

І зноў: «Вы ж сазнацельныя...»

Відаць, гаспадыня ўспрыняла гэтае слова ў свой час ад пагранічнікаў. І вось слова цераз слова яго паўтарае: «Як можна, каб вы, сазнацельныя, ды...»

Моладзь, як-ніяк, фыркала смехам. Яна пад ліўнем паказвала сваё маладзецтва, яна шукала прыгодаў.

Раптам атрад па чыёйсьці камандзе лапануў убок і з смехам нырнуў у шумлівую, дажджавую глуш.

Ноч і далей ахутвала свет непрагляднаю цемрай і трывогай. Харома, як казарма, схавала ў сабе жанчын з дзецьмі, мужчын, салдатаў. Кожны думаў і сніў трывожную невядомасць у заўтрашнім дні.

Коннікі-рамантыкі лапанулі ў цемру. Павел пад страхою думае аб іх і горка ўсміхаецца. «Няўжо яны не адчуваюць сур'ёзнасці становішча? Няўжо яны не ведаюць, што такое фашызм? І што вайна пачалася з ім, з фашызмам? — гаворыць сам з сабою Павел.— Над намі павісла цяпер вялікая небяспека. А яны — га-га-га... Ох, не той час цяпер, каб шукаць рыцарскіх прыгодаў»,— уздыхнуў Павел.

Сон стуліў вочы зноў. Дождж сцішыўся. Ён ужо мякка шуршэў па страсе, і значна было, як па цёмным небе плылі на ўсход касматыя, чорныя хмары. Не стаялі стойма, як пры ліўні, а плылі-ляцелі...

Павел спаў, а маршчына паміж бровамі так і не сходзіла. Не памог і сон.

Світанне прыйшло пахмурнае, мокрае, але без дажджу. Апрача ўсяго, світанне здавалася насцярожаным і нейкім незнаёмым.

Павел падняў галаву з клунка і апусціў ногі з гэтай дрывяной прызбы. На душы ляжала цяжкасць. Становішча наогул... Радзіма ў бедстве... І дзе ж тая жонка з малым? Злез з дроў, узяўшы клунак па руку. Глянуў навокал. Усюды ціха. Выйшла гаспадыня — выпусціць карову.

— Заходзьце ў хату. Можа змерзлі за ноч? — звярнулася гаспадыня. Павел падзякаваў і ўвайшоў. Дыхнула сціснутым паветрам, парнасцю. Усюды — і на нарах, і на падлозе — покатам ляжалі людзі. Салдаты ўжо не спалі. Яны адкрытымі, немаргаючымі вачыма глядзелі ў закопчаную столь і маўчалі. Нехта закурыў, другі пачаў прасіць папяросачку. Распачыналася гутарка.

Раптам устаў малады баец з інтэлігентным тварам, паправіў пілотку на непрычэсаных валасах, працягнуў пальцамі па поясе — разгладзіў складкі на гімнасцёрцы і, прытуліўшыся плячом да сцяны, закурыў. Глянуў у мутнае акенца і апусціў галаву ў задуме. Нехта ў кутку сказаў, што трэба спяшацца да Мінска. Другі дадаў, што трэба абыходзіць Мінск, бо могуць перапыніць немцы. Можа яны ўжо і высадзілі дэсант?

Галасы заціхлі. Ніхто не адазваўся. Маладосць, нявопытнасць скоўвалі думкі салдатаў.

Малады баец у пілотцы азірнуў усіх неяк незвычайна і пачаў гаварыць:

— Та-ак... Становішча наша няважнае. Мы — збор з розных часцей. Я, напрыклад, артылерыст. А бачу вось тут нямала з пяхоты, з лётных часцей. Гэта ўсё, таварышы, рассеяныя часці. Ідзём без камандзіраў. Гэта наша вялікае няшчасце. Наш полк, адступаючы з-пад Гродна, трапіў у акружэнне. Не ўсім удалося вырвацца. Нямала загінула, нямала ўзята ў палон...

Баец спыніўся і сумнымі, гарачымі вачыма аглянуў салдатаў. Па твары байца пацяклі слёзы — іскрыстыя, адкрытыя слёзы — з тых, што не саромеюцца паказацца людзям у вялікім народным горы.

Баец выцер вочы хустачкай і дадаў:

— Вось што зрабіў з намі і робіць вораг-фашыст. Замала мы яго ведалі. Цяпер зразумелі, што гэта такое. Я думаю, што кожны з нас будзе рабіць усё, каб адпомсціць ворагу, каб не здавацца яму, каб выгнаць яго з нашай краіны...

Са двара пачуўся рэзкі ўзрыў. Усе схапіліся на ногі і пачалі выходзіць. З недалёкай невялікай хаты ля кустоў таксама выходзілі...

Салдаты пайшлі з байцом, што не вытрымаў, каб не заплакаць па Радзіме, якую пачаў нішчыць вораг.

Паўлу Верасовічу хацелася ісці разам з імі. Ён думаў, думаў і ўрэшце з ціскам у сэрцы вырашыў пачакаць — можа падыдзе жонка з малым.

Маршчына паміж бровамі стала глыбейшай...

## ПАЛКОЎНІК

Ён вырваўся з гэтага магутнага лесу. А лес быў не толькі магутны, але і страшэнна глухі — ціхі і глухі. Толькі такія вёсачкі, адна з якіх сустрэлася Верасовічу, і могуць туліцца ў такім лесе. Называлася яна Казлы. Адкуль узялася такая назва, гэта няважна. Важна тое, што тут людзі яшчэ не адчулі вайны. Павел Верасовіч заходзіў не ў адну хату і бачыў, што дзяўчаты шылі і пралі — пралі гэтую «гістарычную» кудзелю. Правільней сказаць — дапрадалі. Калі Верасовіч сказаў, што на свеце ўжо вайна, гэтыя прыгожыя дзяўчаткі не паверылі. Сказалі толькі: «Ай...» — і далей спакойна змочвалі слінай нітку, і нітка слізка, вольна плыла між дзявочых пальцаў.

Што ж ім больш сказаць?

— Хіба ж вы не чуеце гуку самалётаў? — спытаўся Верасовіч.

— Чуем,— адказалі дзяўчаты,— але ж гэта нашыя самалёты, савецкія. Дык няхай на здароўе лётаюць.

Верасовіч быў поўны здзіўлення і пачаў адчуваць сябе пераможаным. Як пакінуць гэтых дзяўчат у такім, можна сказаць, «сярэдневяковым харастве», калі трэба рыхтавацца да вайны?

Яшчэ раз сказаў, што лётаюць нямецкія самалёты, усё роўна не хацелі верыць, хоць пачалі ўжо задумвацца.

Павел Верасовіч прайшоў вёску з канца ў канец і бачыў спакойных дзядзькоў, якія ішлі з вёдрамі да калодзезяў або ў хлявы. А ў небе ўводдалі гудзелі яны — самалёты.

Верасовіч разумее, што перакананне яго не мае сілы. І дзіўна, што ён чамусьці нават і не вельмі настойвае на тым, што лётаюць нямецкія самалёты. Шкада неяк разбураць у дзяўчат і хлопцаў гэтую іх веру, што ў небе не нямецкія, а савецкія летуны. Няхай перакананне прыйдзе да іх само. Можа лягчэй будзе ўспрыняць праўду.

Куды ж ісці самому Верасовічу? Вядома, на ўсход. І ён пайшоў утульнаю ляснею дарогай. А ў небе ўсё гудзелі

яны — ворагі. Людзі зведалі ўжо іх назвы. Найчасцей чулася: «месершміт».

Дзень быў сонечны, цёплы, і ў лясных ценях адчуваўся ласкавы подых прыроды. На душы было неймаверна цяжка.

Але дарожка недзе выведзе. І яна вывела. Вядома, на поле. А потым на пясчаны шлях, па якім ішоў гарачы натоўп. Ішлі мужчыны і жанчыны, вялі і неслі дзяцей. Ішлі ваенныя. Ішлі пад гарачым сонцам. Абцякалі потам і вялікім цярпеннем. Сярод усіх узвышаўся ў касцы палкоўнік. Змакрэлы ад поту. Вялікае, чэснае цярпенне адбівалася на яго твары. Мужны рускі твар, сур'ёзны, без ніякіх скідак. Ён ішоў. На правым плячы вісела вінтоўка. А на левай руцэ ён нёс малое дзіцятка. І за локаць падтрымлівала яго жанчына — маці дзіцятка.

Верасовіч выйшаў з лесу на гэты пясчаны шлях. Бачыў, як курыўся пыл над галовамі людзей. Ужо знаёмы пыл. І раптам убачыў сваю жонку, якая падтрымлівала локаць палкоўніка ў касцы. Ускочыў у натоўп. Крыкнуў: «Лена!» Яна глянула і стала прыгожа пабялелай ад хвалявання.

Палкоўнік зірнуў направа і ўбачыў, як абняліся муж з жонкай.

— Вы муж і жонка? Цікава,— прамовіў палкоўнік.

Павел Верасовіч узяў ад яго свайго хлопчыка. І дзякаваў палкоўніку, дзякаваў...

— Добра, пазнаёмімся,— сказаў палкоўнік,— адстаў ад уласнага палка. Прозвішча маё — Высокаў. Яраслаўскі... Ваша жоначка падала, умірала. Вось я і ўзяў на рукі ваша патомства. Мучыўся малы ў такой духаце... Ідзём, пакуль што не ведаем куды. Нічога, дойдзем. Са мной ідуць дзесяць байцоў.

Верасовіч доўга маўчаў. Ішоў, нёс свайго малога, дыхаў густым, пясчаным пылам і час ад часу пагдядаў на палкоўніка, на яго твар, на якім адбілася цяжкае, чэснае цярпенне. Рускі, правільных рысаў твар з кароткімі вусамі.

Нічога не гаварыў Верасовіч, нічога не пытаўся, чакаў на нейкую хвіліну. А палкоўнік Высокаў ішоў і з-пад каскі аглядаў — і людзей, і навакольныя беларускія прасторы, якія раптам зрабіліся няшчаснымі.

— Дык вы не ваенны? — спытаўся ўрэшце палкоўнік у Верасовіча.

— Не... Пакуль што служачы — ну і... крыху літаратар.

— Вядома... цяжка... Але нічога,— сказаў палкоўнік і глянуў у запылены твар Верасовіча. Раптам дадаў: — Бе-

ларускі народ харошы. Наш народ. Дзе мы ні праходзілі, мелі толькі ласку.

Байцы ішлі дысцыплінавана, не спускаючы вачэй з палкоўніка.

— Полк наш наогул жывы,— сказаў урэшце палкоўнік,— ён рассеяны. Гэта было страшна. Нямецкія гарматы білі па нас ва ўпор. Памагала бамбёжка з неба.

Верасовіч кіўнуў галавою.

Ішлі, задыхаліся пясчаным пылам. Каб хутчэй надышла тая ноч...

Ішлі імкліва. І калі б хто паглядзеў усім услед, відаць, не бачыў бы людзей — такі гарачы пясчаны пыл курыўся над вялікім чалавечым патокам.

Аднекуль наплылі хмары і прыкрылі сонца. Стала лягчэй. А вось і палявая дарога быццам адарвалася ад шляху і павярнула ўлева да недалёкай вёскі. Дарожка гэтая такі сама поўная людзей. Палкоўнік Высокаў пераглянуўся з Верасовічам і кіўнуў улева на дарожку:

— Можа заглянем?

Верасовіч адказаў:

— Заглянем...

Палкоўнік з байцамі звярнуў на дарожку, а за імі Верасовіч з жонкаю і іншыя.

Ішлі. Больш маўчалі. Алёшка на руках у Паўла заплакаў, пачаў прасіць вады. Трэба было спыніцца. Добра, што хутка пры дарозе паказаліся дзве хутарскія хаты. Звярнулі на падворак, і гаспадыня хутка вынесла вядро з вадою. Тут Павел з Ленай развіталіся з палкоўнікам Высокавым, горача дзякавалі яму за выручку, як кажуць, у бядзе. Тут жа і заначавалі. Лена выкупала малога. А назаўтра добрая гаспадыня дала паснедаць, напаіла малаком Алёшку і дала на дарогу хлеба і сыру. Цераз тры дні спыніліся ў вялікай вёсцы. Адтуль быў ужо відзён Мінск. У Мінску спусціўся з самалётаў нямецкі дэсант. Усе, і ваенныя, і цывільныя, рушылі ад Мінска назад у напрамку Баранавіч. Над палямі паўзлі «месершміты», дакранаючыся калёсамі каласістага жыта. Не даходзячы да Баранавіч, Лена з Паўлам перакрочылі чыгунку і падаліся на поўдзень у Палессе, каб дабрацца да Пінска. Інакш яно і не магло быць. Там жа пакінута кватэра, там жа абком партыі — месца работы Лены Лесавічанкі. А ў недалёкіх Лахах — добрыя знаёмыя людзі, з якіх найперш трэба ўспомніць бабку Ганулю з унучкай Надзяй. Не, трэба як найхутчэй дабрацца туды. Усё там стане на сваё месца ў мясцовым патоку жыцця.

Так і ішлі з вёскі да вёскі, абмінаючы мястэчкі і цэнтральныя дарогі. Прабіраліся найбольш праз лясныя гушчы, праз якія дарогі і сцежкі падказвалі добрыя людзі.

Апошнюю ноч перад прыходам у Пінск начавалі ў Лахах у бабкі Ганулі, якая была непамерна рада такой сустрэчы. Аж заплакала, узяўшы Алёшку на рукі. Хілілася і дзяўчынка Надзя, усхваляваная і нясмелая. Сюды немцы яшчэ не дайшлі, райком быў на месцы, але ва ўсім мястэчку назіралася напружанне і маўклівае хваляванне. Пакінуўшы Алёшку на руках у бабкі Ганулі, Павел з Ленай пайшлі ў райком, пагаварыць з сакратаром Ярмілавым. Ярмілаў сустрэў іх здзіўлена-радасна. Відаць, не чакаў іх сустрэць. Запрасіў сесці, закідаў іх пытаннямі. Павел з Ленай далі падрабязную інфармацыю. Ярмілаў сказаў ад сябе мясцовыя навіны, што, напрыклад, над Пінскам ужо лёталі нямецкія самалёты, але бомбаў не кідалі. Дваццаць другога чэрвеня бамбілі суседні, Жабчыцкі аэрадром. Калі ж Ярмілаў пачуў ад прыйшоўшых, што немцы ўжо ў Мінску, то аж прыўстаў і некаторае імгненне моўчкі глядзеў то на Паўла, то на Лену.

— У Мінску? — кінуў пытанне.— Гм... У нас яшчэ не чуваць.

— Так, ужо ў Мінску,— паўтарыў Павел,— дэсант...

— Ну што? Дэсант нашы могуць расхвастаць.

Павел і Лена на гэта нічога не адказалі. Памаўчаўшы, сталі прасіць памагчы заўтра на світанні даехаць да Пінска. Ярмілаў крыху памаўчаў і павольна ўзяў тэлефонную трубку. Павел з Ленай пачулі з вуснаў Ярмілава прозвішча «Казловіч». Гэта і было прозвішча першага сакратара абкома. У выніку гутаркі таварыш Казловіч паабяцаў «заўтра на світанні выслаць машыну».

Машына сапраўды прыбыла раненька, так што садзіліся ў яе са спячым Алёшкам на руках. На пінскай пескавой дарозе было не толькі пуста, а неяк пустынна. Калі і сустракаўся хто, то ён выдаваўся чалавекам, які глядзіць на свет азадачаны, няўпэўнены. Баязліва спяшаецца ісці. Сонца паліла ўжо з самага ранку, абяцала спякоту на цэлы дзень.

Павел папрасіў шафёра спыніцца перад абкомам. Выйшлі з машыны і падаліся па сходках наверх. Ля ўваходных дзвярэй стаяў вартавы з вінтоўкай, які праверыў дакументы ў Паўла і Лены. Па калідоры ішлі і беглі людзі, узброеныя вінтоўкамі,— не толькі мужчыны, але і жанчыны. Лена хвалявалася, спяшалася ісці хутчэй і падганяла Паўла,

трымаючы на руках дарагі цяжар, які ўжо не хацеў спаць. Толькі ступілі на калідор другога паверха, сутыкнуліся не з кім іншым, як з Пракопам Сідаруком. У расхрыстанай ахоўнага колеру кашулі, ён, трымаючы паходную сумку ў руцэ, без стрыму бохаў ботамі па калідорных дошках — нахмураны, апанаваны нейкай неадчэпнай думкай. Спыніўся з разбегу перад Паўлам і Ленай і аж рот адкрыў ад нечаканасці. Вядома, глядзеў на Лену і тут жа пацісную ручку Алёшку. Ужо ўсміхаўся. З твару сплыла тая нейкая неадчэпная турбота.

— Ах, вось вы нарэшце, малойчыкі...— прамовіў гуллі-ва, а потым закідаў пытаннямі: — Да Казловіча ідзяце? Ён у сябе. Прымае людзей. Цяпер во гутарыць з ваеннымі. Мы зараз арганізуем партызанскі атрад. У Жабчыцах спыніўся эскадрон нямецкай кавалерыі. Трэба думаць, што не праміне нас. Рыхтуемся да бою. Так што пабывайце ў Казловіча і ідзіце на вугал вуліцы Паштовай і Піянерскай. Там атрымаеце зброю.

— Мы яшчэ не былі на сваёй кватэры. Мы з дарогі. Начавалі ў Лахах. Казловіч прыслаў машыну. Вось мы і прыехалі. Хочам пабачыцца з ім.

— Так вы толькі што ў Пінску? Ага... Ну то спяшайцеся і потым шукайце мяне. Атрад арганізую я. Мая канцылярыя ў аблвыканкоме. Знойдзеце. Ну я пайшоў.

З Казловічам была такая ж гутарка, як і з Ярмілавым. Казловіч парадаваўся «гасцям». Не прамінуў сказаць, што ён задаволены зваротам Лены, а то наднёманцы ўжо хацелі яе ад Пінска адабраць.

— Ну што ж, ідзіце снедайце і ўступайце ў рады. Становішча цяжкае.— Высокі, плячысты, чорнавалосы, Казловіч устаў, даючы гэтым знаць, што няма часу.

...Атрад з шасцідзесяці чалавек пад камандай Пракопа Сідарука спыніўся штосьці за дзевяць кіламетраў на ўсход ад Пінска, недалёка вялікай вёскі, якая ўпоперак перахапляла шлях. Заданне: падзяліцца на групы. Кожная група павінна заняць вызначанае ёй месца ўздоўж шляху для засады. Кожны гітлераўскі атрад будзе рухацца па шляху. Так і зрабілі. Сідарук заняў сваё камандное месца ў кусце ля гумна. З бінокля аглядаў ваколіцу, назіраючы, як групы займалі свае месцы. Пры ім некалькі чалавек яго «штабістаў» — пераважна ганцоў, кожную хвіліну гатовых выканаць загад камандзіра. І той рэзервовы атрад размясціўся каля сцен гумен і хлявоў, сціскаючы ў руках вінтоўкі, апошняя апора камандзіра ў няроўным баі.

Была хоць позняя, але яшчэ раніца. Здавалася, што белыя калматыя хмаркі плылі па небе неяк трывожна і раздумна. Недзе далёка над цёмнай сцяной недалёкага лесу гудзелі самалёты. На жытнім полі не было відаць ніякай ні жывёліны, ні чалавека. У лёгкай смузе шэрым колерам прабіваўся аддалены Пінск. І з гэтай смугі вынырнулі яны — ворагі. Усе на конях, аўтаматы павіслі на грудзях, а пры боку — шаблі. Вялі атрад трох, з якіх адзін трымаў сцяг, які з чорнай свастыкай на белым палотнішчы выглядаў як чартапалох. Коні ішлі жвава, нават з прыскокам. Па тактыцы Сідарука першыя групы ў засадзе павінны былі прапусціць гітлераўцаў. Ударыць загадана групе сярэдняй, каб у працэсе бою крайнія групы змаглі абхапіць ворагаў. Яно так і сталася. Але была адна бяда — ворагі былі з аўтаматамі, а нашы — з вінтоўкамі, і па адной гранаце на байца і па дзевяноста патронаў. Але раптоўнасць ёсць раптоўнасць — сіла нечаканая. З першых масавых стрэлаў упала некалькі коней, пачалася мітусня, па сігналу Сідарука рушылі ў атаку крайнія групы з абодвух бакоў шляху. Коні з коннікамі з гікам сталі паварочваць назад, а тыя, што ішлі ззаду, перліся наперад. Вінтоўкі шпарылі залпамі. З боку немцаў дзе-нідзе затрашчалі аўтаматы. Гаркавы голас іхняга камандзіра выдушыў з сябе дзікую, пранозлівую каманду, і тады конніца падзялілася надвае ўздоўж шляху. Адна палавіна пайшла галопам на адзін бок шляху, а другая — на другі. Не ашчаджалі ні зямлі, ні людзей. Сталі падаць і не ўставаць некаторыя з нашых байцоў. Кулі з вінтовак не ляцелі дарэмна — кожная трапляла ці то ў каня, ці ў гітлераўца. Байцы Сідарука сціскалі кола навокал ворагаў. Вось здавалася, што не хопіць сілы — гэта значыць скончацца патроны. І тады падняўся ў атаку з крыкам «ура» той Сідарукоў рэзерв, і гэта вырашыла лёс бою — гітлераўцы галопам, у рассыпцы, пачалі стрымгалоў уцякаць назад у напрамку Пінска, пакінуўшы дваццаць сваіх на зямлі.

...Павольна асядаў парахавы дым над жытняй ваколіцай пінскай зямлі. Сідарук ужо стаяў пасярэдзіне шляху, а навокал яго гуртаваліся байцы. Камандзіры груп дакладвалі аб ходзе аперацыі, даючы свае заўвагі. На полі бою ляжала трое параненых. Адзін з пасланых у вёску ўжо ехаў з калёсамі. Здалёк, дзе папарнае поле ўпіралася ў жыта, чалавек — баец з вінтоўкаю на шыі — апусціў на зямлю акрываўленага таварыша. Запыханы, крыкнуў: «Таварышы!» Подбегам кінуліся некалькі хлопцаў па во-

кліч. Павел Верасовіч (гэта быў ён) у акрываўленым шэрым пінжаку ляжаў і цяжка дыхаў. Байцы нахіліліся над ім і, глянуўшы адзін другому ў вочы, пасмутнелі ў маўчанні. Шпаркім крокам падыходзіў Сідарук. З ходу прамовіў:

— Што тут? Хто?

Але, глянуўшы, змоўк і моцна сашчаміў зубы. Уздых вырваўся з яго грудзей:

— Як гэта?

Адказаў баец, які не паспеў яшчэ зняць вінтоўкі з шыі:

— Я нёс яго аж адтуль,— паказаў ён на лес.— Сіл у мяне ўжо не хапіла...

Сідарук аглядаў байца, у якога кашуля ахоўнага колеру ўся прасачылася кроўю таварыша, якога ён нёс, а на вейках вачэй павіслі ціхія крывавінкі слёз. Шэрая кепка, пацёртая палявымі вятрамі і сонцам, няўклюдна схілілася набок на ўспатнелых цёмна-русых валасах.

— Чарга... І вось...— дадаў ён.

Сідарук паклаў руку на плячо байца і запытаўся:

— Як завешся?

— Іван Хмыз,— адказаў баец і дадаў, паказаўшы пальцам на параненага:— Гэта мой таварыш па турме, мой настаўнік.

Так, гэта быў ён, Іван Хмыз, які якраз быў выпадкова ў Пінску і, пачуўшы, што ствараецца партызанскі атрад, паспяшыў дахаты і назаўтра рана быў ужо ў Пінску, ды з вінтоўкай у руцэ. Дзе ён узяў вінтоўку, гэта яго справа. Але, прыйшоўшы запісвацца, стукнуў ёю аб падлогу з усёй сілы, каб прысутныя звярнулі ўвагу.

Сідарук сказаў свайму малодшаму ад'ютанту запісаць імя і прозвішча Хмыза.

Паўла Верасовіча, камандзіра першай групы, паклалі на фурманку разам з трыма параненымі, і ў суправаджэнні Івана Хмыза яна падалася ў Пінск. За ёю ў смутку радамі па чатыры пайшлі партызаны. Сідарук крочыў пры першай чацвёрцы збоку.

...Пасля перавязкі на беразе Піны на зялёнай траве ляжаў Павел Верасовіч. Адхіленае левае крыло пінжака агаляла прасякнутыя крывёю бінты, якія леглі навокал сэрца. Сонца, прабіваючыся праз галіны таполяў, асвятляла яго. Лена прыпадала тварам да акрываўленай палавіны, задыхалася ад плачу. А калі прыўзнімала галаву, прамаўляла праз плач: «Паўлік, саколік, гэта ж так нечакана. Мы з табой і пагаварыць нават не паспелі пра гэтае нашае першае, баявое...» А Павел, не адкрываючы вачэй, шаптаў:

«Лепачка, не плач... Антановіч добры лекар... Гэта лекар Хмыза — старынны... родам з яго вёскі... Ён выратуе...» А Лена прасіла ўжо: «Памаўчы, табе цяжка. Мы цябе ўсе будзем ратаваць...»

Над горадам праплывалі «месершміты», праплывалі беспакарана, гулі з ломатам, трэскам. Аднекуль прыглушана праносіліся бомбавыя ўзрывы. Казалі — на аэрадроме.

Надышоў загад атраду пакінуць Пінск. Іван Хмыз узяў Алёшку з рук жанчыны, работніцы абкома, пасадзіў Лену пры Паўле на калёсы, аддаўшы ёй у рукі Алёшку, і яны падаліся да кватэры Лены, каб узяць сякія-такія набыткі ў мяшок на дарогу, каб як найхутчэй далучыцца да атрада.

*Канец першай кнігі*

# ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫЯ І КРЫТЫЧНЫЯ АРТЫКУЛЫ

## ПРАМОВА ДЭПУТАТА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР ПЕСТРАКА П. С.

Таварышы дэпутаты! З гэтай пачотнай трыбуны відаць уся наша вялікая радзіма, увесь неабсяжны свет, жыццё мільёнаў людзей, іх барацьба, іх праца, іх спадзяванні і надзеі.

Да галасоў выступаючых з гэтай трыбуны прыслухоўваецца свет, з радасцю прыслухоўваюцца нашы прыяцелі, уважліва прыслухоўваюцца і нашы ворагі. Сазнанне гэтага напаўняе маё сэрца пачуццём бязмежнай радасці і вялікай адказнасці перад сваім народам, перад сваёй Радзімай. Вялікая радасць чалавека, выйшаўшага на ясныя сонечныя прасторы з смуроднай і злавеснай турмы, якой была панская шляхецкая Польшча, вялікае пачуццё адказнасці дэпутата — слугі нашага народа, вызваленага, шчаслівага, радасна ўвайшоўшага ў дружную сям'ю народаў вялікага Савецкага Саюза. З гэтай трыбуны гавораць толькі праўду. А як цяжка было нам, былым нявольнікам панскай Польшчы, не толькі гаварыць, але нават заікацца аб праўдзе ў былой Рэчы Паспалітай! Як баяліся праўды ўсе гэтыя кічлівыя і самадурныя славай — складкоўскія, фанабэрыстыя рыдзы, крывавыя радзівілы, ганарыстыя бекі і ўся іншая свора, катаваўшая на працягу больш чым 20 год жывое цела нашага народа, залазіўшая бруднымі, крывавымі лапамі ў яго душу, пасягаўшая на яго духоўнае багацце.

За слова праўды вешалі, душылі лепшых сыноў народа, тамілі ў казематах, асуджалі на марудную, пакутлівую

смерць у засценках Картуз-Бярозы. Працоўных украінцаў, беларусаў, яўрэяў яны асуджалі на самае звычайнае фізічнае выміранне, падвяргалі нечалавечай эксплуатацыі, бясприкладнаму нацыянальнаму гнёту, паліцэйска-жандарскаму насіллю і сваволлю. Няўжо ў інтарэсах польскіх паноў, польскіх памешчыкаў і фабрыкантаў было думаць аб палепшанні жыцця працоўных беларусаў, украінцаў, яўрэяў? У нашых гарадах згасла прамысловасць. У нашых вёсках расла жахлівая галеча. Голад, хваробы гналі дзесяткі і сотні працоўных у пошуках прызрачнага кавалка хлеба ў далёкую Амерыку, Аргенціну, у іншыя краіны. Беларускае слова, родная мова народа былі аб'яўлены, па сутнасці, па-за законам. Апошнія беларускія школы былі разгромлены, народную песню хацелі загнаць у казематы, надзець на яе кайданы.

Цяжка перадаць, таварышы, увесь той кашмар, у якім жыла заходнебеларуская вёска. Беззямелле, голад, адсутнасць заработкаў, гвалтоўнае апалячванне, жандарскі кнут, крывавыя ўсмірэнні, пагромы, падаткі, штрафы — без канца і краю — як цяжка і беспрасветна было жыццё. Колькі нізкіх здзекаў над чалавечым дастоінствам, колькі ўніжэнняў было перанесена нашым народам! Але працоўныя не здаваліся. Дзень за днём вялі яны цяжкую, няроўную барацьбу за права жыць, працаваць, за права называцца людзьмі. У гэтай упорнай барацьбе іх натхнялі, давалі ім сілы і ўпэўненасць у канчатковай перамозе тыя гіганцкія поспехі вялікай творчай работы, якая праводзілася брацкімі народамі Савецкага Саюза. Сюды, на ўсход, былі звернуты нашы позіркі. Да нас, за калючы дрот рубяжоў, за краты польскіх турмаў прылятаі хвалюючыя словы з гэтай высокай трыбуны. Мы не трацілі надзеі, што прыйдзе дзень нашага канчатковага вызвалення, што дапамогуць нам нашы адзінакроўныя браты, выведуць нас з польскай турмы. І нашы надзеі збыліся.

Разам з вамі, разам з усімі народамі нашай вялікай Радзімы мы будуем зараз свабоднае жыццё. І я, пасланец свайго народа, прыношу вам яшчэ раз гарачую ўдзячнасць нашых працоўных за шчасце, за мір, за радасную творчую працу, за ўсё тое, што прынесла нам на сваіх пераможных сцягах гераічная Чырвоная Армія, пасланая нам воляй савецкага народа, воляй яго мудрага ўрада [...].

Мы слухалі з гэтай трыбуны даклад Вячаслава Міхайлавіча Молатава, які з'яўляецца ўвасабленнем мудрай знешняй палітыкі, палітыкі міру, выкрываючай каварныя

махінацыі падпальшчыкаў вайны, даючай ім адпор, зацвярджаючай і ахоўваючай мір, справядліва паважаючай інтарэсы малых народаў. Мы, прадстаўнікі заходніх абласцей Беларусі, асабліва цэнім гэтую палітыку: у выніку ж практычнага яе ажыццяўлення мы сталі грамадзянамі вялікага Савецкага Саюза, атрымалі сапраўдную свабоду і незлічоную карысць, звязаную з гэтай свабодай.

Мы праслухалі даклад тав. Зверава аб бюджэце Савецкага Саюза. Мы захоплены гэтым дакладам, захоплены самім бюджэтам, які адлюстроўвае сапраўдныя інтарэсы працоўных, рост культуры дзяржавы, рост яе абароннай магутнасці.

За гэтыя месяцы — месяцы існавання ў нас Савецкай улады, як ужо многа зроблена ў нашых заходніх абласцях! Мы не ведаем больш беспрацоўя ў нашых гарадах. Нашы фабрыкі і заводы працуюць поўным ходам. Нашы стаханаўцы паляпшаюць вытворчасць, павышаюць прадукцыйнасць працы, мы рэканструіруем прадпрыемствы, паляпшаем іх, будуем новыя.

Селянін атрымаў назад аднятую ў яго памешчыкамі зямлю. Упэўнена пераймае ён вопыт калгаснага сялянства Савецкай краіны, будуе першыя калгасы, вучыцца будаваць, ствараць новае жыццё на сяле, жыццё заможнае, жыццё бальшавіцкіх калгасаў. Паявіліся ўжо першыя 40 калгасаў у нашай Беластоцкай вобласці, першыя машынна-трактарныя станцыі. А колькі новых заяў ад людзей, жадаючых арганізавацца ў калгасы, якое сапраўды творчае жыццё кіпіць у нашай вёсцы!

І беластоцкі ткач, і беластоцкі селянін, стаўшыя раўнапраўнымі членамі сям'і народнай, усе свае сілы, усю сваю волю прыкладуць да таго, каб найхутчэй выгнаць з свайго жыцця, з свайго сазнання сляды праклятых 20 год белапольскай кабалы, панскай няволі. І мы ўпэўнены ў нашых перамогах! Мы ўпэўнены, што блізкі час, калі мы поўнасцю пабудуем у нашых заходніх абласцях тое жыццё, якім жывуць мільёны грамадзян вялікай дзяржавы працоўных. Парукай нам у гэтай вялікай і адказнай справе з'яўляецца слаўнае кіраўніцтва партыі Леніна, вядучай народ ад перамогі да перамогі.

Разам з ростам нашай прамысловасці і сельскай гаспадаркі мы дабіліся з часу стварэння ў нас Савецкай улады велізарных дасягненняў у галіне народнай асветы і аховы здароўя. На гэта пайшлі вялікія сродкі. З вялікай радасцю мы канстаціруем, што ў 1940 г. на патрэбы заходніх аб-

ласцей у дзяржаўным бюджэце адпускаюцца значныя сродкі, прадугледжваючыя велізарны рост культурнага дабрабыту працоўных.

Якімі мізэрнымі, якімі жалкімі былі тыя, з дазволу сказаць, сродкі, якія адпускаліся польскім урадам на культурныя патрэбы нашага народа! Расходы на лячэбную дапамогу прадугледжваліся ў размеры 15 капеек у год на аднаго працоўнага па бюджэту 1939—1940 г., былой польскай дзяржавай адпускалася штосьці каля 16 працэнтаў агульнай сумы бюджэту на патрэбы асветы і... рэлігіі, усяго 399 396 тыс. руб. Улічыце расходы на ўтрыманне ксяндзоў, паноў і касцёлаў — што ж аставалася на патрэбы народнай асветы? Аставаліся жалкія грашы. Убогія народныя школы, павальная непісьменнасць, велізарная плата за вучэнне ў сярэдніх навучальных установах, рабіўшая іх зусім недаступнымі для дзяцей працоўных,— так выглядала гэта, з дазволу сказаць, сістэма народнай асветы ў панскай Польшчы.

Польская буржуазная прэса ў апошнія гады раскрычалася аб лішку інтэлігенцыі. Гэта гучыць як парадокс, але гэта так. Я ўжо не гавару аб тым, што ўся гэтая сістэма праследавала адзіную мэту: апалячыць, сеяць нацыянальную рознь, глушыць нацыянальнае самасазнанне працоўных. За гэтыя месяцы ў нас праведзена рэарганізацыя школ, адкрыта маса новых школ, створаны вышэйшыя навучальныя ўстановы, уведзена бясплатнае навучанне. Значна расшырана сетка лячэбна-медыцынскіх устаноў. Поўнасцю ліквідавана беспрацоўе сярод педагогаў і ўрачоў. Ды і не раскажаш у адным выступленні аб тых каласальных зменах і вялікіх дасягненнях працоўных за месяцы існавання Савецкай улады.

Беларускае мастацтва, не прызнанае, якое бязлітасна папіралася польскай шляхтай, знайшло цяпер поўную магчымасць для свайго сапраўднага росту і росквіту. У нас створана некалькі тэатраў: беларускі, рускі, польскі, яўрэйскі. Арганізаваны ансамбль заходнебеларускай песні і пляскі, філармонія, музычныя і мастацкія вучылішчы, сімфанічны аркестр і іншыя арганізацыі і ўстановы. Народ зажыў паўнакроўным творчым жыццём.

Я, прадстаўнік гэтага народа, праслухаў даклад аб нашым саюзным бюджэце, і, бачачы, як ён вельмі добра ўлічвае сапраўдныя патрэбы народа, як разумна расходуецца кожная працоўная капейка савецкага народа,— ві-

таю прапанову аб зацвярджэнні бюджэту з папраўкамі бюджэтнай камісіі.

Асабліва надкрэсліваю я неабходнасць зацвярджэння асігнаванняў на патрэбы абароны нашай краіны, каб наша радзіма стала яшчэ больш магутнай, яшчэ больш грознай для нашых ворагаў, для якіх я напомню словы аднаго з нашых беларускіх паэтаў:

«Як ворану вышэй арла не лятаць,
Так ворагу нашай зямлі не таптаць».

Гэтага ніколі, ніколі не будзе на нашай свабоднай зямлі, зямлі Леніна.

## ПЕРШАЯ КНІГА

Нядаўна выйшаў з друку зборнік апавяданняў («Апавяданні») Янкі Брыля. Калі сказаць, што пісьменнік носіць у сабе свой свет — увесь комплекс перажытага, напластаванага, так ці іначай асэнсаванага ў сабе,— дык Янка Брыль у сваім зборніку «Апавяданні» падняў перад намі краёчак заслоны на свой свет, так пяшчотна, з такою любасцю вынашаны, так сапраўдна па-мастацку адбіты.

У зборніку надрукаваны чатыры апавяданні: «Марыля», «Зладзеі», «У сям'і», «Мой зямляк» і псіхалагічны эцюд — «Як маленькі». Янка Брыль проста, без прэтэнзій, як мастак, з пачуццём сапраўднага рэаліста малюе навакольную рэчаіснасць свайго часу. Рэчаіснасць гэтая — гэта куточак жыцця ў заходняй частцы Беларусі пад акупацыяй панскай Польшчы ў гады 1920—1939. Вачыма гуманіста глядзіць Янка Брыль на з'явы жыцця, каб у кожную хвіліну стаць абаронцам прыгнечанага працоўнага чалавека. Яго ўвага спыняецца там, дзе церпіць гэты цёмны, прыбіты беднасцю, горам, паднявольны, асірочаны чалавек. Матыў сіроцтва пранізвае ўсё апавяданне «Марыля». Гэта — знаёмы матыў для беларускага чытача, ім прасякнута ўся беларуская літаратура, пачынаючы ад Ф. Багушэвіча, ідучы праз Ядвігіна Ш. і канчаючы Янкам Купалам, Якубам Коласам, Змітраком Бядулем. Нягледзячы на гэта, Янку Брыля ніяк не можна ўпікнуць у літаратуршчыне. Наадварот, ён арыгінальна расказвае аб сапраўдных людзях, якія жылі, існавалі ў той час. «Марыля — сірата з далёкай вёскі...» — піша аўтар.— «Жыла яна дома пры та-

ту і браце. Пасля тата памёр і адпісаў ёй ажно паўтары дзесяціны, бо яна была з ганьбай: на правай руцэ тры крайнія пальцы наўскасяк аджавала трыбай малатарні. Ад «залатой ручкі» першай у вёсцы жняі ў праллі засталася толькі кукса. Куксу Марыля абкручвала хусцінкай, уперад ад болю, а потым ад сораму».

Такой падае нам аўтар Марылю. З прычыны калецтва яе ніхто не хацеў браць замуж. «Думала ўжо дзеўкай векаваць». У хаце сталі глядзець на яе крывым вокам, яна стала лішняй. І вось падагнала Івана, сына кулака. Іван па свайму інтэлектуальнаму ўзроўню — напаўідыёт. «Гэты дурань ніяк не мог ажаніцца». Толькі такая Марыля-калека, сірата ў сям'і, магла пайсці за яго. І вось Марыля апынулася ў сям'і кулака Ката. І тут выступае на сцэну тая жыццёвая акалічнасць, калі чалавек прыгнятаецца ў сілу розніцы класавага становішча, паходжання. Раскрываюцца ўсе атрыбуты кулацтва: прагнасць, дзікасць, эксплуатацыя ўсляпую, каб толькі выціснуць як найбольш, адсутнасць пашаны, удзячнасці да чалавечай працы, зверскія адносіны між сабою ў сям'і, а да Марылі ўтрая. Марылю б'юць, бо яна бедная прыйшла да іх — багатых. «Свёкар быў звер і скупеча, «зямля ненаежная». А сынок — яшчэ горшы»,— расказвае аўтар. «Звялі са свету маладзіцу сямейнікі». Марыля на восьмым месяцы цяжарнасці, па загаду свёкра, выбірала гнілую бульбу з ямы і, падаючы свякрові першы кошык, раптам крыкнула і села... Марыля памерла ад перадчасных родаў, радзіўшы мёртвае дзіця. Гэты момант з'яўляецца як бы адгалоскам падобнага ж факту — матыву ў п'есе Л. Талстога «Власть тьмы», дзе на вялікую маральную вышыню паднята вартасць чалавека як істоты. Можа, на гэтым варта было і закончыць апавяданне «Марыля», але аўтар вядзе ніць далей, каб яшчэ раз падкрэсліць адну рысу кулацтва, а іменна — прагнасць. Марылю звялі са свету, але зямлю яе трэба прыбраць к рукам.

Апавяданне «Зладзеі» ізноў раскрывае сутнасць грамадскага ладу пад эгідай панскай Рэчы Паспалітай. Няма дроў, няма іх за што купляць, трэба красці. У народзе гэта не лічыцца злачынствам, хоць можна за крадзёж лесу папасці ў турму. Зладзеямі ў апавяданні — дзеці. Нічога не было б дзіўнага, калі б аўтар паказаў нам у гэтай ролі дарослых. Гэта звычайная з'ява. Дзеці — уся соль апавядання. У сям'і ёсць вялікая любоў да жыцця. Крыніца гэтай любві — дзеці. Перспектыва — іх будучыня. Але цес-

на і бедна для гэтай будучыні. Нездарма бацька дзяцей, гарбаты кравец Лапінка, кажа: «...Пяць з палавінаю злотаў адна метра дроў, тры злоты хурманка. І ідзеш вунь на той свет, у Налібокі, у Кромань. А мне тут сохні дзён тры за вазок. А яго на колькі хопіць? Дай божа на тыдзень. А хлеб, а адзецца, абуцца...» А яго субяседнік Алёша, высмейваючы баптыста-прапаведніка, кажа: «...Ён табе прапаведуе, мне. Пеклам нас страшыць. Дзе ты знойдзеш горшае пекла, як тут? Ты пайдзі вунь тым, што арудуюць намі, скажы, што грэх...»

Няхай сабе не спіцца кулаку Петрусю Грыбу, уласніку лесу, дзеці — Косцік і Шурка — змагаюцца за жыццё: нясуць дровы і мараць, што ў іх некалі будзе конь і яны будуць ездзіць у лес на сваім кані.

У апавяданні «У сям'і» аўтарам з мастацкай дакладнасцю паказана атмасфера сялянскай сям'і, авеянай ласкай і мудрасцю бабулі, прасякнутай узаемнай пашанай, разумнасцю. Тут, у гэтай ячэйцы, у глушыні засценка, пад уплывам асветы родзяцца высакародныя ідэі, філасофія захаплення магутнасцю розуму чалавека, яго характвом, мары аб лепшым грамадстве. Прадчуванне чагосьці новага, шчаслівага чуецца ў гэтых людзей. Бацька марыць аб куплі радыёапарата (збірае на гэта грошы), дзядзька Міхась — мастак слова, «вечны пачынаючы пісьменнік», гэта летуценнік-народнік, а сам пляменнік — мастак-маляр. Так вось, як птушкі з гнязда, выходзяць людзі потым у шырокі свет. Але гэтым мастакам гэтага шырокага свету не было — ён абмяжоўваўся сваёй вёскай, хатай, загонам. Так многа прападае пры капіталізме ў глушыні і беднасці народных талентаў. І тут у апавяданні вялікае месца займаюць дзеці — яны як бы крыніца натхнення ў жыцці ўсіх у сям'і.

Янка Брыль чуццём мастака пазнае ў гушчы народнай самародкаў-мастакоў. Аб гэтым гаворыць апавяданне «Мой зямляк». Герой апавядання Паўлюк — народны балагур, мастацкі расказчык, з багатай фантазіяй, паляўнічы. Гэта — распаўсюджаны тып у народзе. Нездарма ён знайшоў шырокае выяўленне наогул у беларускай літаратуры. Любоў, захапленне жыццём у яго розных праявах характарызуе гэтых людзей.

Для большай характарыстыкі жыццёвай плыні ў заходняй частцы Беларусі пад Польшчай трэба адзначыць адно трапнае месца ў псіхалагічным эцюдзе «Як маленькі». Дзядзька, нажабраваўшы кулявой саломы на пакрыццё

хаты, едзе познім вечарам дахаты, «у падсуседзі, у чужую хату, адзін са сваімі чорнымі думкамі. Злосна сцёбае кабылку і слухае, як яго колы на драўляным хаду скрыпяць па калдобах, у якіх то хлюпае вада, то хрупае лядок, як шчымяць яго мокрыя ногі і ные з голаду нутро, як енчаць над балотам кнігаўкі, таксама, мусіць, галодныя, халодныя, беспрытульныя і злосныя...

Эх ты, доля наша, доля чубатая!»

Каментарыі непатрэбны. Па асацыяцыі прыходзяць па думку «думкі ў дарозе» Якуба Коласа.

Непасрэдны рэалізм характэрны для Янкі Брыля. Але, калі толькі ісці за гэтымі якасцямі, яны могуць звужваць і звужваць гарызонты. Патрэбны мастацкі домысел, абагульненне.

Адна справа пра што расказваць, а другая справа — як расказваць. На пытанне — як расказваць, трэба сказаць, што Янка Брыль выдатны расказчык, ён чэрпае поўнымі жменямі з народнай крыніцы гэтыя сакавітыя перлы-словы і з імпэтам балагура ў дынаміцы апавядання часамі даходзіць да віртуознасці. Наяўна відаць, што Янка Брыль вучыўся непасрэдна ў народа.

Аб пытанні першым — пра што расказваць — тут у Янкі Брыля ёсць недахопы. Чуюцца павевы таго, што называем «талстоўшчына», пасіўная самаахвярнасць для народа. Так трактуе Янка Брыль таго ссыльнага палітычнага, які начуе ў кулака Петруся Грыба («Зладзеі»), раўняючы яго з сынам гэтага кулака Уладзікам, які быў выразным талстоўцам. У расказе аб дзецях чуецца часамі трата меры, залішняе «ўтанчэнне» пачуцця. Гэта можа, калі прадаўжаць так, даць адваротны вынік.

З пункту гледжання кампазіцыі апавяданняў найлепш пабудавана апавяданне «Мой зямляк». У другіх апавяданнях чуецца незаконачанасць, нязвязнасць дзеі («Марыля», «Зладзеі»), між асобнымі замалёўкамі адчуваюцца пустыя месцы.

І наогул, усе апавяданні ў зборніку выглядаюць як эскізы, выкананыя мастацка па шляху да больш абагульняючай грунтоўнай працы. Асноўны герой апавяданняў сярэдні, у баку ад палітыкі, селянін, які змагаецца амаль што толькі за сваё фізічнае існаванне. Пісьменніку трэба ўзнімацца вышэй. Актывізаваць героя не толькі на арэне сям'і, але і на арэне грамадскай. Мы не можам ісці за стыхіяй палітычна абмежаванай часткі сялянства таго часу.

Праўда, у апавяданнях адчуваецца тая «неспакой-

насць», якая прабіваецца, як падземная ручаінка, але гэта не раскрыта, гэта яшчэ не дайшло да вышыні свядомасці. Янка Брыль заглыбіўся ў дэталі сялянскага асяроддзя (што не ёсць заганай), але страціў з вока галоўнае, вядучае: трэба ісці наперад сваіх герояў.

## СВЕДЧАННЕ БРАТНЯЙ ДРУЖБЫ

*(Анталогія беларускай савецкай паэзіі на ўкраінскай мове)*

Абмен дасягненнямі літаратуры паміж братнімі народамі за 30 год існавання Савецкай улады стаў у Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік пачэснай традыцыяй.

На працягу 1948 года ўжо маем другую анталогію беларускай паэзіі, выдадзенай за межамі рэспублікі: першая — у перакладзе ленінградскіх паэтаў на рускую мову і другая — у перакладзе ўкраінскіх паэтаў на мову ўкраінскую.

Такая культурная падзея, як выхад з друку ў Дзяржаўным выдавецтве Украінскай ССР у Кіеве Анталогіі [1] беларускай савецкай паэзіі вынікла лагічна. Падзеі Айчыннай вайны, мужнасць і пафас барацьбы савецкага народа і арміі ў справе разгрому гітлераўскіх захопнікаў, герайчная барацьба народных мсціўцаў у тыле ворага і г. д.— усё гэта было супольнымі матывамі нашай паэзіі. Зразумела, што пасля ўсяго перажытага стала неабходным падзяліцца здабыткамі на фронце паэзіі і наогул літаратуры, якая кавалася ў агні барацьбы і адлюстроўвае мужнасць савецкага народа.

Пры чытанні Анталогіі беларускай савецкай паэзіі ў перакладзе на ўкраінскую мову адчуваеш задавальненне і ўцеху ад таго, што мы, людзі сацыялістычнай Радзімы, нацыянальна не абмежаваны, што дружба народаў — гэта цэмент, які робіць нас патрыётамі не толькі сваёй рэспублікі, але і ўсяго неабсяжнага Савецкага Саюза [...].

Анталогія складзена па храналагічнаму прынцыпу і прадстаўлена творамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Канстанцыі Буйло, Кандрата Крапівы, Паўлюка Труса, Пятра Глебкі, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Лу-

---

[1] Білоруська радянська поезія. Державне видавництво художньої літератури. Київ, 1946 р.

жаніна, Пімена Панчанкі, Міхася Машары, Піліпа Пестрака, Максіма Танка, Васіля Віткі, Алеся Зарыцкага, Эдзі Агняцвет, Анатоля Астрэйкі, Антона Бялевіча, Валянціна Таўлая, Ніны Тарас, Кастуся Кірэенкі і Анатоля Вялюгіна.

Анталогія абымае толькі савецкі перыяд беларускай паэзіі.

Дзякуючы мастацкім перакладам украінскіх паэтаў — Максіма Рыльскага, Паўла Тычыны, Уладзіміра Сасюры, Сцяпана Крыжаніўскага, Тарэня Масэнкі, Пятра Дарошкі, СяргеяВаскрэкасенкі, Марка Зісмана, Міколы Цярэшчанкі, Міхайлы Стэльмаха і інш., вершы беларускіх паэтаў набылі арыгінальна-ўкраінскае гучанне. Чытаючы, на момант забываешся, што гэта вершы перакладзеныя — настолькі гучыць у іх непасрэднасць, танальнасць украінскай мовы. Такому арганічнаму перакладу вершаў дапамаглі, зразумела, і блізкасць моў беларускай і ўкраінскай, падабенства фальклору і, урэшце, аднолькавасць шчаслівай долі нашых народаў у гады Савецкай улады.

Возьмем некалькі строф для прыкладу:

Небо сіяло тепло,
Теплий дощик мотрошив,
І так радісно було —
Спів родився у душі:
Ой, льонок, льонок мій
чистий і г. д.

*(«Лён» — Я. Купалы)*

Я чую голос безупинний:
Земля моя мене зове.
І клич її у душу лине,
І серце на шматочки рве.

*(«Голас зямлі» — Я. Коласа)*

...Жовтий пісочок,
Зелений віночок,
Сині очиці —
Води з криниці.

*(«Надзя — Надзейка» — П. Бройкі)*

...Твоїм відром
Я, донечко маленька,
Тобі черпну холодної води.

*(«Бацька» — А. Куляшова)*

Такія прыклады не толькі паасобных строф, але і цэлых вершаў можна было б множыць і множыць. Недарма ў паэтычную плынь нашых паэтаў урываецца і тэма Украіны: гістарычныя лёсы шчыльна з'ядналі два народы. Гэта асаб-

ліва выразна сказана ў вершы Куляшова «Каменка». Жыў некалі дзед паэта на Украіне ў маленькай вёсцы Каменка.

Любив вишневе листя,
Тужив за степом в скрусі,
Та пан його колись-то
Продав до Білорусі.

У вершы «Дняпро» Алесь Зарыцкі гаворыць пра шчырую дружбу рускага, беларускага і ўкраінскага народаў. Дняпро плыве:

...З рівнин Росії через Білорусь
Пливе до моря він, до України.
Так три країни, рідних три сестри,
Із щирим серцем мужніх три народи
Єднають міцно з давньої пори
Величного Дніпра ясні, глибокі води.

Паэтэса Эдзі Агняцвет у вершы ваеннага часу — «Сёстры» таксама выказвае гэтую думку:

Нас люляла однакова доля,
Нам співала матуся одна.
Заглядала в колиску сосна,
І сріблиста шуміла тополя.
...— Буде вільна моя Білорусь!
Буде вільна сестра Україна!

Калі ж да гэтага дадамо ўплыў Тараса Шаўчэнкі на беларускую паэзію, стане ясным узаемапранікненне і ўзаемаўзбагачэнне культур двух народаў.

Янка Купала нямала напісаў вершаў пад уплывам Шаўчэнкі на тэму Украіны і інш., на шаўчэнкаўскі лад.

Україно, цвіте любий,
Сонячний наш крину!
Розбудив від сну, від згуби
Жовтень Україну.

Дзяржаўнае выдавецтва БССР у сваю чаргу друкуе Анталогію ўкраінскай паэзіі ў перакладзе на беларускую мову. Узаемная пранікнёнасць культур бярэ пачатак не ад сягоннешняга дня. Вялікая руская літаратура даўно стала для беларускага і ўкраінскага народаў крыніцай культуры, ідэй свабоды, гуманізму, якія панеслі нашы паэты і пісьменнікі ў свой народ на сваёй роднай мове. Але адзінства культуры сацыялістычнай зместам і нацыянальнай формай стала магчымым толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Сведчаннем гэтага і служыць тэматыка твораў, змешчаных у Анталогіі. Гэта тэматыка народа, які перамог адвечную кабалу прыгону царскага самаўладства, перамог сваю адсталасць і сам зрабіўся будаўніком свайго шчасця ў сям'і раўнапраўных народаў сацыялістычнай дзяржавы. Гэта — песні перамогі і радаснай творчай працы. У дні вялікіх выпрабаванняў — у часе Айчыннай вайны — нашы паэты ўзнялі мужны голас барацьбы за сваю сацыялістычную Айчыну, ставячы любоў да яе вышэй за ўсё.

Да недахопаў Анталогіі трэба аднесці тое, што творы, змешчаныя ў ёй, абмяжоўваюцца ў асноўным тэматыкай Айчыннай вайны. У выніку — адсутнічаюць вершы на пасляваенную тэматыку, за выключэннем пары вершаў М. Танка і В. Віткі. Няма вершаў на індустрыяльную тэматыку, хоць трэба сказаць, што наогул наша паэзія не можа пахваліцца багаццем падобных вершаў. Твораў пра рабочы клас у нас пакуль што яшчэ мала.

Выданне Анталогіі — значная падзея ў культурным жыцці ўкраінскага і беларускага народаў, сведчанне іх непарушнай дружбы, якая з кожным годам расце і мацнее, як расце і мацнее ўся наша сацыялістычная Радзіма.

## ВЯЛІКІ ПОЛЬСКІ ПАЭТ

*(Да 150-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча)*

Імя вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча ў гісторыі Польшчы азначае цэлую эпоху. Паражэнне касцюшкаўскага паўстання і апошні раздзел Польшчы ў 1795 г. паклалі канец шляхецкай рэспубліцы. Буйныя землеўладальнікі і магнаты ў правінцыях, уз'яднаных з Расіяй, былі задаволены сваім становішчам. Яны нічога не страцілі: ні маёмасці, ні ўлады, і, апрача таго, рускі царызм абараняў іх ад сялянскіх бунтаў і паўстанняў. Носьбітамі нацыянальна-вызваленчых імкненняў былі не магнаты, а масы дробнай шляхты. Гэтыя масы былі тымі элементамі бражэння, якія падрыхтавалі другое паўстанне 1830—1831 гг.

Выхаванцам і песняром гэтага пакалення быў Адам Міцкевіч. Нарадзіўшыся ў Навагрудскім павеце ў сям'і дробнапамеснага шляхціца, Міцкевіч увабраў у сябе ўсю тугу свайго пакалення па зняважанай айчыне.

Міцкевіч — сімвал адзінства польскага народа. У гады

чорнай рэакцыі гэтае імя напамінала, што «польскае пытанне» — гэта пытанне агульначалавечага значэння, пытанне аб справядлівасці і свабодзе, якія павінны немінуча перамагчы.

У сваіх парыжскіх лекцыях аб славянскіх літаратурах Міцкевіч, наперакор польскім шавіністам, сцвярджаў, што «літаратура — гэта форум, куды ўсе славянскія народы прыносяць плады свайй маральнай і разумовай дзейнасці, не прыцясняючы і не крыўдзячы адзін аднаго, не адчуваючы ўзаемнай непрыхільнасці. Няхай гэтае мірнае супрацоўніцтва ў адной выдатнай галіне служыць прадзнамянаваннем іх аб'яднання на іншым шляху».

Сярод плеяды пісьменнікаў свайго часу Міцкевіч з уласцівай яму геніяльнасцю найпаўней, з найбольшай сілай і красой выразіў дух свайго народа. Вось чаму Максім Горкі побач з Пушкіным і Шаўчэнкам называе і Міцкевіча «радаснай з'явай».

Кіпучую, гнеўную апазіцыйнасць свайго класа Міцкевіч выказаў у непараўнаных перлах паэзіі, узняў да вышынь, небывалых да гэтага часу ва ўсёй польскай паэзіі. Гэта і паставіла Міцкевіча на п'едэстал паэта сусветнага значэння. Бялінскі так і называў Міцкевіча адным з найвялікшых сусветных паэтаў.

Вялікую ролю ў фарміраванні светапогляду Міцкевіча адыграла прабыванне яго ў Расіі. Едучы ў Расію як выгнанец, ён не спадзяваўся знайсці ў ёй тое, што сустрэў. Вось што гаварыў аб гэтым польскі літаратуразнаўца прафесар Тадэвуш Бой-Жаленскі: «Высылка (Міцкевіча) у Расію была не толькі выгнаннем, але і вызваленнем, можна сказаць, самым шчаслівым здарэннем у жыцці Міцкевіча, і ён сам таксама глядзеў на гэта. Фактам з'яўляецца тое, што прабыванне ў Расіі адыграла ў духоўным жыцці Міцкевіча велізарную ролю... Яна (Расія) здзівіла яго не дзяржаўнай магутнасцю, а вышынёй культуры — так, па крайняй меры, сам ён тады глядзеў на гэта. Ён апынуўся, урэшце, у асяроддзі, вартым яго, пазнаёміўся з выдатнымі людзьмі. Тут ён быў прыняты як роўны, у асяроддзі вялікіх, вянчаемы, адчуваемы... Не думаю, каб так прынялі Міцкевіча, калі б ён з Коўна прыехаў у Варшаву... Гэта былі самыя поўныя, самыя шчаслівыя гады яго жыцця...» («Шляхі генія»).

У гэтых словах польскага прафесара паказана, які вялікі ўплыў на светапогляд Міцкевіча аказала перадавая руская культура таго часу.

Вялікі паэт сустрэў геніяльнага Пушкіна, дзекабрыстаў — Рылеева, Бястужава, сустрэў лепшых прадстаўнікоў рускай дэмакратычнай думкі. Ён быў зразуметы і належна ацэнены. Яго палюбілі. Міцкевіч у асобе Пушкіна, Жукоўскага, Грыбаедава, Дэльвіга, Вяземскага, Казлова, Баратынскага і другіх паэтаў знайшоў сабе родных па натхненню, знайшоў аднадумцаў.

«Які свяшчэнны агонь!» — усклікнуў Пушкін, першы раз слухаючы творы Міцкевіча. Прабыванне ў Расіі ўзбагаціла Міцкевіча культурна. Тут знайшла прыхільны водгук мара паэта аб уз'яднанні народаў. А. С. Пушкін у вершы, прысвечаным Міцкевічу, у 1834 годзе так пісаў аб сваім польскім другу:

Он между нами жил
Средь племени ему чужого; злобы
В душе своей к нам не питал, и мы
Его любили. Мирный, благосклонный,
Он посещал беседы наши. С ним
Делились мы и чистыми мечтами
И песнями (он вдохновен был свыше
И свысока взирал на жизнь). Нередко
Он говорил о временах грядущих,
Когда народы, распри позабыв,
В великую семью соединятся.
Мы жадно слушали поэта. Он
Ушел на запад — и благословеньем
Его мы проводили...

У часе свайго прабывання ў Расіі (1824—1829) Міцкевіч напісаў цудоўныя па глыбіні думкі і хараству формы «Крымскія санеты», паэму «Конрад Валенрод» і многа іншых. Тут была распачата паэма «Дзяды», тут было перажыта паўстанне дзекабрыстаў.

Па колькасці перакладаў твораў Міцкевіча Расія ў параўнанні з іншымі краінамі Еўропы займае першае месца. Міцкевіча перакладалі Пушкін, Лермантаў, Казлоў, Рылееў і многія другія паэты. Хіба гэта не доказ духоўнага і паэтычнага радства паміж рускімі паэтамі і геніем польскай паэзіі?!

У самую бліскучую пару сваёй паэтычнай дзейнасці Міцкевіч быў сапраўдным шчырым дэмакратам. Але ідэалагічная абмежаванасць дробнай шляхты прывяла Міцкевіча пасля паражэння паўстання да містыцызму — месіянізму, як выражэння канца гістарычнай ролі шляхты. Ужо другія сілы выступалі на арэну. Палацы магнатаў і шляхецкія сядзібы, якія дагэтуль былі цэнтрамі палітычнага, культурнага і літаратурнага жыцця, сталі паступова ўсту-

пацъ месца буржуазнаму гораду, дзе пачаў заяўляць аб сваім існаванні пралетарыят. Гэтай апошняй сіле суджана было змагацца за стварэнне свабоднай дэмакратычнай Польшчы.

Міцкевіч з'яўляецца духоўным бацькам пакалення, якое сваёй паўстанча-рэвалюцыйнай дзейнасцю пакінула для патомкаў трывалы след. Паэт-патрыёт яскрава ўяўляў сабе, што народ не можа пагадзіцца з няволяй, што ён знойдзе ў сваім гістарычным арсенале зброю для барацьбы за сваё вызваленне. У гэтым і веліч паэзіі Міцкевіча, паэзіі магутнага патрыятызму. Усёй сваёй шчырай душой палкага патрыёта Адам Міцкевіч ненавідзеў ворагаў сваёй радзімы. Паэт разумеў, што барацьба з ворагам неабходна не з вузка-нацыянальных інтарэсаў, а ў імя агульначалавечых ідэалаў. У паэмах «Гражына» і «Конрад Валенрод» паказан спрадвечны вораг славянства: нямецкія «псы-рыцары», Тэўтонскі ордэн. «Ён падобен дракону: адсячэш яму адну галаву, зараз жа вырастае другая і гэтую, калі адсячэш, разрасцецца ў дзесяць галоў. Лепш паміраць ад іх зброі, чым у іх шукаць дапамогі; лепш узяць у рукі распаленае жалеза, чым паціснуць руку крыжаносца»,— так пераконвае стары Рымвід літоўскага князя Літавора.

Міцкевіч не бачыў і ў сілу абставін не мог бачыць іншых кіруючых патрыятычных сіл па-за шляхтай, якія маглі б стаць на чале барацьбы за вызваленне Польшчы. Сілай свайго генія паэт адчуў і ўбачыў, што той клас, які ён апяваў, як барацьбіта за адраджэнне Польшчы, ужо адыграў сваю ролю.

Гэтай тэме і прысвечана яго манументальная паэма «Пан Тадэвуш». Ніколі — ні да Міцкевіча, ні пасля яго — не было ў польскай паэзіі такога твора па сіле рэалізму, рэльефнасці ў апісанні жыцця засцянковай шляхты, па жывасці і сакавітасці фарбаў.

Міцкевіч памёр у Канстанцінопалі ў 1855 годзе. Праз 8 год пасля яго смерці, у 1863 годзе, успыхнула трэцяе паўстанне, духоўным бацькам якога быў, безумоўна, Міцкевіч.

Крыніцай натхнення ў творчасці Міцкевіча была і беларуская прырода. Яна фарміравала маладую думку паэта. Беларускі фальклор — народныя звычаі, легенды, казкі леглі ў аснову яго балад, у аснову паэм «Дзяды», «Пан Тадэвуш» і інш. Гэтыя творы прасякнуты пачуццём беларускага пейзажу і быту.

Вялікае гістарычнае значэнне творчасці Міцкевіча для

польскай літаратуры заключаецца ў тым, што ён быў тым Праметэем, які вызваліў польскую паэзію з пут псеўдакласіцызму. Паэзія, якая была цацкай у руках асвечаных людзей з магнацкага асяроддзя, дзякуючы Міцкевічу стала адбіткам душы народа, выражэннем яго радасці і смутку, яго сумненняў і надзей. У рускай літаратуры такое рашаючае значэнне адыграў, як вядома, Пушкін.

Адам Міцкевіч, як гаварыў Луначарскі, «у поўнай меры сусветны класік»... Ён «належыць да паэтаў рэвалюцыйных», да паэтаў, якія мала, «у якіх паэтычная думка, гнеўная апазіцыя супраць гвалтаўніцтва, паўстанчы запал гарэлі так ярка, што адсунулі на задні план моманты светасузірання і светаадчування».

Адам Міцкевіч быў найвялікшым носьбітам польскай нацыянальнай культуры. Як такі, ён перайшоў у спадчыну новай, народна-дэмакратычнай Польшчы, створанай у выніку вызвалення Польшчы Савецкай Арміяй.

Творчасць вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча дорага савецкаму народу, належыць усяму перадавому прагрэсіўнаму чалавецтву.

## НАРОД ЯГО ВЕДАЕ І ЛЮБІЦЬ

Шмат хто з нас можа прыгадаць тыя часы, калі заходняя частка Беларусі была пад панска-белапольскай акупацыяй, як балела сэрца, што мы, нявольнікі капіталістычнай паншчыны, не маглі, не мелі магчымасці жыць са сваімі братамі разам у адной вялікай сям'і, будаваць сацыялізм — гэтае новае, шчаслівае жыццё.

І ўсё тое, што далятала да нас з Усходу, было тым залатым насеннем, якое прагна падала на нашы душы і давала агністыя плёны. Такім насеннем была і творчасць нашага сатырыка Кандрата Кандратавіча Крапівы.

Людзі думалі і пыталіся: «Ці гэта сапраўднае прозвішча, ці выдуманае?» А як прачытаюць якую-небудзь байку Крапівы, закруцяць галовамі і скажуць: «Вось гэта дык Крапіва! Пячэ... Ну, як крапіва...»

У Вільні выдаваўся беларускі часопіс гумару і сатыры пад назвай «Маланка». Гэты часопіс у сваю лепшую пару — 1926—1927 гг.— быў любімым часопісам у народа, быў самым папулярным. І беднякі — пажылыя сяляне, не кажучы пра моладзь,— складаліся грошык да грошыка на «Маланку». Калі адкрыеш, бывала, гэтую цудадзейную

«Маланку», то на другой старонцы вокладкі заўсёды быў малюнак — «шапка»: едзе хлопец на веласіпедзе з «Маланкамі» і крычыць (напісана): «Не шкадуйце трыццаць грошай для «Маланачкі» харошай».

І сяляне не шкадавалі.

Вось у гэтай «Маланцы» з'яўляліся творы Кандрата Крапівы. З іх я помню верш пра лазні, які пачынаўся так:

Ад Барысава да Слуцка
(Аж прызнацца нейк нялоўка)
Ўсе прывыклі не па-людску
Сяк-так боўтацца ў начоўках...
і г. д.

Гэты верш ведала, я не памыляюся, кожная вёска ў Заходняй Беларусі. Яго чыталі і на сходах, і на вечарынках (дэкламавалі), і на вуліцы ў нядзелю, яго трымалі ў кішэнях лесарубы ў лесе... Перачытвалі кожны дзень і за кожным разам рагаталі, колькі сіл хапала. Бо да народа прыйшоў свой родны беларускі сатырык-гумарыст, які загаварыў знаёмымі для народа паняццямі. І ў гэтым сіла незвычайная, сіла выбуховая творчасці Кандрата Крапівы! Гэта было настолькі захапляючым, сваім, свежым, што нават, калі ў якіх вёсках узнікала пытанне аб пабудове лазні, то хлопцы хапаліся за гэты верш. І ён дапамагаў.

Другі твор, які быў вядомы і незвычайна папулярны ў Заходняй Беларусі,— гэта «Біблія» Крапівы. «Біблія», як вядома, вялікіх памераў — гэта своеасаблівае сатырычнае «тлумачэнне» «Ветхага завета». І былі хлопцы, якія ведалі гэты вялікі твор на памяць. «Біблія» пераходзіла з вёскі ў вёску ў рукапісным выглядзе — на школьных сшытках у клетачку, каб гусцей можна было напісаць, каб больш змясцілася. У такім выглядзе яе пранеслі і ў турму. Я сам пазнаёміўся з «Бібліяй» у пружанскай турме. Помню, як цяпер, пасля паверкі садзіліся ўсе ўкруг за стол, і я хлопцам чытаў «Біблію». Чытаць яе было цяжка, бо не паспееш ты прачытаць страфы, як выбухае такі грамавы смех, што аж вераб'і з падаконнікаў фыркаюць са спалоху.

Калі хто-небудзь з хлопцаў адседжваў свой тэрмін, яму клалася на дарогу «Біблія» ў халяву, зашывалася і такім чынам выносілася на волю, даходзіла ў тыя куткі, дзе яе яшчэ не было.

Праводзячы такога хлопца з «Бібліяй», казалі: «Нясі бацьку, няхай пачытае...»

Мінулі гады павольна, мы цяпер жывём адзінай савецкай сям'ёй. Сёння і працоўныя Заходняй Беларусі ведаюць

Кандрата Крапіву не толькі як сатырыка-гумарыста, але і як пісьменніка-драматурга. Творчасць Кандрата Крапівы заўсёды была і будзе вострай зброяй народа ў яго пераможным поступе наперад да камунізма. Творчасць яго — нацыянальная па форме, сацыялістычная па зместу. І ў гэтым яе сіла і веліч. Пажадаем нашаму юбіляру, паважанаму Кандрату Кандратавічу Крапіве, доўгіх год жыцця і плённай працы на карысць народа. Народ ведае Крапіву, помніць яго выдатныя творы — творы сапраўднага народнага мастака, якому шчасце народа даражэй за ўсё на свеце.

## ПАЭТ-БАРАЦЬБІТ

*(Да дзесятай гадавіны з дня смерці В. Таўлая)*

Валянцін Таўлай належаў да таго маладога пакалення былой Заходняй Беларусі, стагнаўшай пад польска-фашысцкім ботам, якое амаль з дзяцінства было ўцягнута падзеямі ў рэвалюцыйную барацьбу. Гэтая барацьба ахапіла не толькі дарослае насельніцтва, але і дзяцей на школьнай лаве.

В. Таўлаю было 15 год, калі ён першы раз трапіў у турму з Віленскай беларускай гімназіі за ўдзел у масавым пратэсце супраць фашызацыі навучання.

Беларуская моладзь не складалася ўжо з тых ідылічных пастушкоў з жалейкай над лугавой ручаінкай, якімі іх калісьці апісвалі.

Не тыя былі часы, каб народ пакорліва падстаўляў сваю шыю пад ярмо. На ўвесь свет прагрымела Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, якая ўсё прыгнечанае, паднявольнае ўзняла на ногі і накіравала на бітву за вызваленне. Моладзь былой Заходняй Беларусі актыўна ўдзельнічала ў барацьбе за новы лад, за сацыялізм, за ўз'яднанне сваёй краіны.

В. Таўлай быў чалавекам на рэдкасць вялікай сціпласці. Адзнакай яго мыштення была дакладнасць, імкненне кожнае пытанне даследаваць да дробязей у сувязі з працэсам агульнай плыні жыцця.

Каля сямі год прабыў ён у польска-фашысцкіх турмах. Аўтару гэтых радкоў давялося прабыць з ім у турме штосьці каля двух год (у Вільні, на Лукішках, і ў Гродна). Я ба-

чыў, наколькі дбайным, шчырым працаўніком на нашай культурнай ніве быў Валянцін Таўлай. Любоў да народа кіравала яго думкамі і ўчынкамі.

У турме на Лукішках падпольна выдаваўся рукапісны літаратурны часопіс «Краты», душою якога быў Валянцін. Я памятаю тую цікавую дыскусію, якую мне рукапісна даводзілася весці з Таўлаем, дыскусію аб шляхах нашай беларускай паэзіі. Мне б хацелася зараз хоць вокам глянуць на тыя кавалачкі абгортачнай жоўтай паперы, на якіх было запісана многа арыгінальных думак Таўлая, поўных роздуму аб лёсе народа і пафасу барацьбы. Матывамі барацьбы па сутнасці і вымяраецца дыяпазон паэзіі Таўлая.

За свой малады і поўны выпрабаванняў век, на які прыпадаюць дзве акупацыі — польска-фашысцкая і нямецка-фашысцкая, Валянцін Таўлай не паспеў многа напісаць. Вельмі цяжкія ўмовы склаліся для паэта. Але тое, што напісана, пакінула трывалы след у нашай літаратуры, такі след, які гаворыць аб вялікіх магчымасцях В. Таўлая, так дачасна сышоўшага ў магілу.

Прачытваючы яго творы, яшчэ і яшчэ раз чуеш голас нібы з муроў турмы, дзе паэт старанна, настойліва і нават з нейкім эпічным спакоем, разлікам вострыць сваю зброю і свідруе ёю пастулова, няспынна каменную сцяну. Важнасць работы заключалася ў тым, каб кожны ўдар у сцяну няволі быў як найбольш трапным і як найбольш мацнейшым.

У гэтым сутнасць вершаў Таўлая. Гэта быў голас з-за крат, голас паднявольнага юнака, які ўсвядоміў бездань народнай крыўды і велічны размах барацьбы за тое, каб гэтую крыўду разбіць, сцерці з твару зямлі. Вось чаму яшчэ ў ранняй маладосці маглі з'явіцца з-пад пяра Таўлая такія словы:

Гром,— загрымі! Віхор,—
завый!
Пад бляск маланак агнявы
хай задрыжаць прасторы
неба:
скрануць Зямлю з падвалін
трэба!
*(«Жаданне»)*

Гэтыя словы пераклікаюцца з «Одай да маладосці» Міцкевіча. Чуецца ў іх поступ пакалення, якое ідзе ў баявых радах насустрач суровым вятрам, на барацьбу за вызваленне.

Але на шляху да яго ляжалі цяжкія выпрабаванні, такія цяжкія, што здавалася, на свеце залегла суцэльная ноч. І ў маладых грудзях родзіцца гарт, бо інакш і не вытрымаць няволі. Мужнее голас паэта, бо і ён сам, абхлёстаны вятрамі этапных дарог і закураны турэмнай копаццю, узмужнеў і загартаваўся. Паэзія ўжо вымагае канкрэтнай мовы. І таму паэт «пілуе вершам краты»:

Я сам — і пасядзець магу,
а вершам — часу шкода:
шумець ім трэба на сцягу
і калыхаць паходы.
*(«Лукішскія вершы»)*

А ўжо ў вершы «Гэта ўсё — знаёмыя шляхі» паэт вызначае сваё крэда:

Але мы, ўлюбіўшыся
насмерць
у шляхі, пракладзеныя ў
заўтра,
навучылі песню разумець,
што ў змаганні і загінуць
варта.

Пераход да некалькі скупога, сціслага верша абумоўлены іменна эканоміяй слова, якасцю пачуцця, яго крышталізаванасцю. І там, дзе дыяпазон пачуцця ўзнімаецца да вышыні іменна «Таўлаевай формы», атрымліваем гарманічна дасканалае гучанне верша. Так, можна прыгадаць верш «Таварышу маёй вясны». Гэты таварыш жыў ва ўсходняй, савецкай частцы Беларусі, і боль разлукі, боль такога штучнага падзелу народа нарадзіў наступныя радкі, поўныя ўзнёслага лірызму:

Без мяне, маладая, ідзі,—
хай бярозы над шляхам
не плачуць
і па сэрца твае не страсаюць
вякамі навеяны сум,
бо ці ж варта тужыць, што
шляхі прабягаюць інача́й,
калі боль, папалам
падзяліўшы,
ў прасторы нясуць?

У вершы гучыць трагедыя мяжы, падзяліўшай Беларусь на дзве часткі:

Развітаўся я з многім,
з вясной толькі нашаю —
нельга:

як, скажы, без яе мне
дажыць да апошніх хвілін?

У вызваленчай барацьбе нямала ўпала юнакоў, нямала падарвала свае сілы. Недарма ў вершы «Гэта ўсё — знаёмыя шляхі» паэт гаварыў:

Не даклічацца ніякая
вясна,—
голас расплывецца
ў чыстым полі,
не збудзіўшы стомленага
сна
змагароў, загінуўшых
за волю.
Але хай высокі маладняк
боль магіл кране
карэннем шчырым,—
і насустрач заўтрашняга дня
нашы песні зазвіняць з-пад
жвіру.

Гэта вершы пра маладых звестуноў прадвесня, пра самога Таўлая.

Мы шануем яго памяць, памяць паэта-барацьбіта, які ад імя свайго пакалення пісаў:

Цёплай, сейбіцкай жменяй
мы шчыра жыццё раскідалі,
каб вясна расцвіла для
людзей
і на гэтай пакутнай зямлі.

І яна расцвіла, вясна народнага шчасця, якую апяваў паэт у сваіх пасляваенных творах.

## РУПЛІВЫ СЕЙБІТ

Мне мала давялося сустракацца з Кузьмой Чорным. Але і тыя нячастыя сустрэчы далі мне ўяўленне аб Кузьме Чорным як чалавеку і пісьменніку. Ды, уласна кажучы, чалавек і пісьменнік спалучаўся ў ім у адно непарыўнае цэлае.

Адчувалася, што Кузьма Чорны насіў у сабе сталую турботу аб нечым вялікім, дарагім. Гэтая турбота выяўлялася ў ім аж да дробязей. Так дбала і ўважліва адносіцца да гаспадаркі добры, сумленны гаспадар, які бачыць перад сабою кожны вінцік. Такая турбота, дбайнасць — гэта бы-

ло нішто іншае, як вялікая шчырая любоў да народа, да чалавека ў новых абставінах, у абставінах будаўніцтва сацыялізма. Побач з гэтым чалавекам ішоў Кузьма Чорны, каб расказаць аб яго перажываннях — радасцях, смутках, а часам і трагедыях, і несці яму ўцешнае слова ўпэўненасці, веры ў заўтрашні перамагаючы дзень.

Помню, зімою саракавога года я вяртаўся з Масквы і спыніўся па справах у Мінску. Кузьма Чорны з нейкай незвычайнай таварыскай чуласцю ўвесь час гаварыў са мною і глядзеў на мяне так, як быццам я вярнуўся з далёкай і доўгай вайны ў родную хату. І вось ён, адзін з будаўнікоў гэтай хаты, быццам верыць і не верыць у мой зварот. Так здоўжылася вайна, так здоўжылася чаканне звароту, што вось хочацца дакрануцца да чалавека рукамі, каб пераканацца, ці сапраўды жывы ён пасля такой доўгай барацьбы. Такой была радасць Кузьмы Чорнага ад таго, што шматпакутная Заходняя Беларусь ужо вызвалена ад польскафашысцкага ярма, што ў дом, пад адну страху, сабраліся, урэшце, усе сямейнікі. І вось Кузьма, як старэйшы брат, радуецца гэтаму, радуецца ціха, глыбока. Потым Кузьма хадзіў са мною доўга па Мінску, цюпаючы па тратуары сваім адмысловым кіем, усё гаварыў пра літаратуру. І, урэшце, ён правёў мяне да вагона і ў вагон. Хоць не хацелася развітвацца, але, развітаўшыся, я адчуў нейкую радасную лёгкасць у душы ад нядаўняй прысутнасці гэтага чалавека. І думалася: «Як добра, што ў нас ёсць такія людзі...» З такімі людзьмі сапраўды можна араць народную цаліну, каб потым сеяць і сеяць — па-някрасаўску — «разумнае, добрае, вечнае». І Кузьма Чорны сеяў, сеяў дбала, рупліва, сеяў на народнай ніве так, каб ад жніва быў добры ўмалот. Так наказвала яму яго народнае сумленне, яго выраслы на народнай глебе, трывалы, упорысты талент, аздоблены дзівамі народнай красы. Не на пяску будаваў свае творы Кузьма Чорны, а па-дабротнаму клаў цагліну за цаглінай на блізкім і родным яму беларускім грунце. Ведаў, што толькі ад такога будаўніцтва будзе карысць для народа. І таму, чытаючы творы Кузьмы Чорнага, мы адчуваем подыхі зямлі, у якую карэннем урос народ, на якога абрушваліся ўсякія буры і навальніцы, а ён усё жыве і аб усім дбае, аднаўляе жыццё пры ўсякіх абставінах. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ўзнялася да жыцця Беларусь, на арэну гісторыі выйшлі працоўныя — яны сталі творцамі свайго шчасця. Вось гэты народ і быў прадметам любві і клопату Кузьмы Чорнага. Радасць твор-

часці народнай стала яго радасцю. І яна — гэтая радасць — заіскрыла над пяром пісьменніка. Яна пачалася ад лірычных замалёвак, ад мастацкіх псіхалагічных эцюдаў і перайшла да рэалістычных апавяданняў, а потым да павольных, як паток ракі, аповесцей і раманаў, якія, разам узятыя, пачалі ўжо складаць эпапею беларускага народнага жыцця ў яго гістарычным поступе.

...Пачатак восені 1940 года. Па прыездзе ў Мінск з Гродна, дзе я тады жыў, не помню, па якой прычыне, давялося быць на кватэры ў Кузьмы Чорнага. Час быў перад вечарам. Кузьма ляжаў у ложку і чытаў. Заходзячае сонца — барвова-жоўтае — кідала праз акно свае ціхія блікі на сцены, на самога Кузьму, і здавалася на нейкі міг, што гэта не пакой гарадской кватэры, што гэта сенцы бярвеністай сялянскай хаты, праз акенечка і шчыліны якой сочацца вось іменна такія прамені. Твар спакойны, ціхі і натхнёны. Помню, мне нават шкада было тады, што я парушыў яго такое ціхае «вячэрняе сузіранне», у якім адкрывалася для мастака бачанае, пражытае — вобразы бяскрайняга народнага жыцця, яго цені і бляскі, яго поступ. Інакш і не магло быць, калі «кожны чалавек — гэта цэлы свет», як любіў казаць і пісаць Кузьма Чорны. Я сказаў яму аб гэтым у тоне перапрашэння, а ён, ледзь усміхнуўшыся, раптам пасур'ёзнеў і пачаў распытваць пра жыццё-быццё. Пасля спіхнуў з сябе коўдру і ўстаў, сказаўшы: «Даволі ляжаць. Пойдзем да жыцця». Быў ужо інакшым — трапяткім — са сваёй характэрнай усмешкай у вачах, у якіх свяціўся свой, чорнаўскі, дабрадушны гумарок.

...Навісала ціхая ноч над Мінскам. Рэдка хто праходзіў па вуліцы, і людзі выглядалі, як затуманеныя, ціхія цені. Нідзе не свяціў ні адзін ліхтар, ні акно. Маскіроўка. Якраз гэта была першая маскіроўка. На свеце ўжо шугала вайна... Недзе далёка за суцэльнымі белымі хмарамі блукаў месяц, і таму ноч над Мінскам была неяк насцярожана-ўрачыста белая. Ні гуку, ні вецярка. Мінск здаваўся казачна белым у лёгкіх ценях, быццам знянацку выраслы з зямлі, нікому яшчэ пязнаны.

Я прыехаў у Мінск пасля поўдня. Зноў давялося пабываць у Кузьмы, бачыць яго кабінет, недзе высока (не помню, на якім паверсе). Дзверы на балкон, памяркоўны пісьмовы стол, кветкі. Кузьма пісаў на нейкім доўгім сшытку, разлінаваным уздоўж папалам. Густыя ўборыстыя радкі пісьма. Я адвярнуўся да балкона і думаў, чаму ён піша ў такім сшытку, разлінаваным папалам, і так гу-

ста, густа ціша. А калі звечарэла, надышла запіска ад Кандрата Крапівы, які жыў непадалёку, з запрашэннем «скокнуць» на хвілінку. Кузьма па-таварыску засмяяўся па гэтае «скокнуць» і пацягнуў мяне з сабою. Там у Крапівы ва ўтульным пакойчыку пры завешаным акне і маленькай лямпачцы мы вялі доўгую таварыскую бяседу, час ад часу напаўняючы пакойчык выбухамі смеху, расказваючы адзін другому былі і гумарэскі з народнага жыцця. Як душэўна смяяўся Кузьма! І сюд-туд даліваў, як кажуць, масла ў агонь. Так і не змігнулася нам белая, ціхая, быццам прытоеная, ноч над Мінскам.

Пасля наступіў вялікі, цяжкі і гаротны перапынак у сустрэчах. Беларусь апынулася пад нямецка-фашысцкім ботам. Перарвалася прыгожае мірнае жыццё народа. Уся краіна пакрылася руінамі і папялішчамі. Мяне лёс закінуў у Лельчыцкі раён Палескай вобласці, дзе потым давялося быць у партызанах.

У Маскву я прыляцеў з партызанскага атрада па выкліку нашага ЦК ужо ў ліпені 1943 года. Пасля сустрэчы з Лыньковым і Броўкам недзе на трэці ці чацвёрты дзень пасля прылёту ўвечары пайшлі да Кузьмы Чорнага, які жыў у гасцініцы «Масква». У пакоі быў змрок. Святла не запальвалі. Сцішана сядзелі ў цёплай таварыскай гутарцы. Кузьма яшчэ не ачуняў пасля хваробы. Ізноў тая свойская дабротная ўцеха плыла з яго душы, што вось мала-памалу збіраюцца сябры. Было бедаванне па страце Янкі Купалы, быў трывожны, несціханы боль па Беларусі, якой драпежнік-фашыст нанёс такія цяжкія раны. Беларусь тады была ўжо ўся ў вайне — не было той вёскі, якая б не ўдзельнічала ў партызанскай барацьбе. Распытваўся Кузьма аб усім, цікавіўся кожнай дробяззю, цешыўся сваім народам, ганарыўся ім.

Вайна, перажыванні надламалі сілы Кузьмы Чорнага. Вярнуўшыся ў Мінск у 1944 годзе, мы хадзілі разам абедаць на фабрыку-кухню і абедалі за адным сталом. Кузьма Чорны цешыўся і ганарыўся, што з народа выходзяць і растуць таленавітыя людзі, беларускія людзі. Кузьма Чорны за абедам на фабрыцы-кухні гаварыў, што нам патрэбны такія работнікі, якія, разумеючы дзяржаўную, народную вартасць спраў, не адрываліся б ад народа. І ён ужо будаваў сюжэт для твора, узбагачаў свайго любімага прататыпа.

Гэта былі амаль апошнія гутаркі. 22 лістапада 1944 года раптоўная смерць скасіла яшчэ маладога, поўнага сіл

Кузьму Чорнага, які сваім майстэрскім плугам правёў глыбокія барозны на полі нашай літаратуры.

Эх, скасіла, не спытала,
Жвір халодны прыгарнуў...

Так пісаў Янка Купала на смерць Сцяпана Булата. Тое самае можна сказаць і пра Кузьму Чорнага. Многа напісаў Кузьма Чорны, але многа засталося нявыказанага, няспетага.

Мы ўсе верым у неўміручасць народа. Такая вера была рухавіком думання і дзеяння Кузьмы Чорнага, які на шляхах сацыялізма жыў вялікім клопатам аб лёсе народа і імкнуўся аддаць яму ўсе свае сілы, каб, ідучы праз перашкоды і памылкі, сваёй працай аблегчыць і ўзвялічыць нялёгкі, але пачэсны шлях народа да сонечнага заўтра — да камунізма.

## НЕЗАБЫЎНАЕ

*(З успамінаў аб вызваленні)*

Вызваленне Заходняй Беларусі ў верасні 1939 года надышло для нас, можна сказаць, неспадзявана. Так склаліся палітычныя абставіны на той час, што Чырвоная Армія рушыла ў паход, каб вызваліць нас, заняволеных польска-фашысцкай навалай.

Мы змагаліся, жылі штодня з вялікай, несціханай верай у вызваленне, але каб так, раптам... не, гэта было нешта такое вялікае, што нашы грудзі ледзь маглі вытрымліваць наплыў радасці, уцехі.

Перад вызваленнем мне даводзілася адбываць чарговы панскі прысуд у гродзенскай турме. Гэта быў ужо другі прысуд. Першы даў мне пяць, а другі — шэсць год фашысцкага зняволення. Давялося адбываць іх у розных турмах — пружанскай, гродзенскай, пінскай, віленскай — усяго адзінаццаць год без трох месяцаў. Так што я застаўся яшчэ «вінны» панам тры месяцы: недабыў да тэрміну.

Напад гітлераўскіх полчышчаў на Польшчу застаў нас — больш трохсот палітычных зняволеных — у гродзенскай турме. Мы дамагаліся, каб нас пусцілі на фронт — ваяваць супраць гітлераўскай навалы. Мы, будучы палітычна сталымі людзьмі, разумелі, што разгром нямецкага

фашызму будзе адначасова і разгромам фашызму польскага. Нас абяцалі выпусціць, але... не выпусцілі. Сталі даносіцца праз сцены, праз краты глухія весткі, што на захад рушыла Чырвоная Армія. Мы не маглі на поўную веру прыняць гэтай весткі — магла стацца правакацыя. Кожная правакацыя ў той напружаны час пагражала нам смерцю.

Памятаю, адзін дазорац, які не раз хваліўся нам, што ў царскія часы служыў у турме «Кресты» і замыкаў рэвалюцыянераў, прыбег на наш калідор і на ўвесь голас стаў гаварыць, што ідзе Чырвоная Армія, што яна ўжо блізка ад Гродна. Адчыняў камеры і паўтараў тое самае, біў у грудзі, бажыўся, што гэта праўда, і нават заплакаў. Мы ўсё ж такі яму не паверылі.

Пад гул гітлераўскіх самалётаў, якія кружыліся над горадам і кідалі бомбы, мы дамагаліся вызвалення з турмы кожны дзень, каб ісці на фронт. Нам сказалі, што ўлады турэмнай няма, што турма перайшла пад ведамства магістрата. Мы тады патрабавалі, каб да нас прыйшоў бургамістр.

І нас выпусцілі. Гэта быў сонечны асенні дзень. Выпускалі групамі — па пяць-шэсць чалавек, аддавалі нашу адзежу на складзе. І раптам крыкі, неймаверна дзікія крыкі: «Няхай жыве Чырвоная Армія!» Хто крычыць? Аказалася, крымінальныя зняволеныя ў другім будынку турмы ўзнялі бунт — чаму не выпускаюць іх. Яны сталі біць вокны, ламаць дзверы. Адміністрацыя іх выпусціла. Крыміналісты кінуліся на склад за нашай адзежай, разрабавалі, што хацелі, а рэшту раскідалі па турэмным двары. Тады перасталі выпускаць нашых па пяць чалавек — выпусцілі ўсіх адразу, і мы выйшлі натоўпам у турэмнай адзежы. Адбыўся маленькі мітынг, дзе давялося прамовіць мне, бо я быў сакратаром турэмнага камітэта палітзняволеных гродзенскай турмы. Пастроіліся ў калону і выйшлі на вуліцу. Нас акружылі рабочыя, прадстаўнікі прафсаюзаў і сказалі, што Чырвоная Армія павінна была прыбыць у Гродна з-пад Навагрудка ў 6 гадзін ранку. І вось чамусьці няма. Нешта затрымала. Гродзенскія рабочыя ўжо былі падрыхтаваны да сустрэчы Чырвонай Арміі.

Мы ішлі па вуліцы ля запоўненых людзьмі тратуараў, кідаючы камуністычныя лозунгі, уздымаючы ўверх рукі, сціснутыя ў кулакі.

У горадзе не было ніякай улады. Усе недзе пахаваліся. У парку пры вуліцы на клёне гучнагаварыцель перадаваў

паведамленні з фронту. Крыміналісты, якія разрабавалі нашу адзежу, упарта хацелі змяшацца з намі. Аказалася, што турэмная адміністрацыя знарок зрабіла гэтую правакацыю, каб супрацьпаставіць крымінальных нам і прышыць нам ярлыкі рабаўнікоў. Але гэтая правакацыя ім не ўдалася.

Ідучы стройнай калонай па вуліцы, мы затрымалі легкавую машыну з двума падазронымі ў капелюшах. Нашы хлопцы зрабілі ў іх вобыск, забралі рэвальверы і хацелі перакуліць машыну. Але наш турэмны камітэт гэтага рабіць не дазволіў.

Рабочыя прывялі нас на падворак былога паліцэйскага ўчастка, хацелі нас там пакарміць. Але есці не прыйшлося. На ўчастку гэтым было многа вінтовак, цэлыя кучы патронаў. Нехта крыкнуў: «Браць вінтоўкі!» Мы, члены турэмнага камітэта, параіўшыся, вырашылі, што трэба ўзбройвацца, і мяне выбралі камандзірам. Усе сышліся на тым, што нам патрэбен мясцовы чалавек, які ведае Гродна і ўсю абстаноўку. Да нас падышоў шавец, беларус па нацыянальнасці, і сказаў: «Хадзем, таварышы, я вас павяду». І рушыў наперад, мы за ім. Як толькі праваднік дайшоў да адчыненых варот, з вуліцы раздаўся стрэл, і наш таварыш упаў забіты. Аказалася, што недалёка, у «Доме жолнежа», хаваліся фашысты, супраць варот яны паставілі кулямёты. Мы былі акружаны. Каб мы рынуліся ў вароты, яны ўсіх перакасілі б. Нам нічога не заставалася, як групамі ўцякаць цераз цагляную агароджу двара ў парк, што мы і зрабілі. Але тут нейкія асобы ў цывільнай адзежы, узброеныя рэвальверамі, пачалі нас арыштоўваць і ставіць на вуліцы ў калону. Некалькі нашых людзей, якія спрабавалі ўцякаць, былі забіты. Нас зноў пагналі ў турму. Зараз жа за турэмнай брамай раздзявалі нагола, рабілі вобыск і пасля па адным вялі цераз строй дазорцаў з настаўленымі рэвальверамі. Па ўсім было відаць, што паліцыянты, афіцэры, розныя гімназісцікі-фашысцікі былі прыхаваліся, пачуўшы аб набліжэнні Чырвонай Арміі, а калі даведаліся, што Чырвоная Армія затрымалася ў дарозе, то вылезлі з нор.

Дзверы камер зачыніліся, і мы зноў апынуліся ў турме. Ніякіх сеннікоў. Адна цэментная падлога і сцены. Святла не было. Ноч агарнула свет — цёмная, прытоеная, да таго цёмная, што мы адзін другога не бачылі ў камеры. Члены турэмнага камітэта пачалі шукаць адзін другога. Пачаліся перастукі ў сцяну. Рашаем правесці невялікія

нарады па камерах — высветліць становішча. Мы сталі перад небяспекай расстрэлу. Трэба падрыхтаваць таварышаў. Рашылі смела глядзець смерці ў вочы і літасці ў катаў не прасіць.

Ходзячы і седзячы, перадрамалі ноч. На ранак з'яўляецца начальнік турмы і з ім хлопец з крымінальных са сшыткам і алоўкам у руках. Пачалася перапіска нашага брата. Начальнік сказаў адкрыта: «Вы мне хацелі падрэзаць горла, цяпер я падрэжу вам».

Начальнік адышоў, а праз нейкую гадзіну ў горадзе пачалася перастрэлка. Пытаемся ў дазорцаў — хто з кім б'ецца? Дазорцы паціскаюць плячыма і нічога не кажуць. Гавораць адно, што іх не пускаюць дахаты, што жонкі прыносяць ім ежу, як арыштантам. Гэта была праўда. На другі дзень бою толькі адзін дазорац, які гаварыў з мазурскім акцэнтам, шапнуў мне ў кутку турэмнага калідора: «Калі адзін бок пераможа, вам будзе добра, а калі другі бок пераможа, вам будзе вельмі дрэнна». Гэта быў дыпламатычны адказ чалавека, які ў душы шкадаваў нас. Дазорац паходзіў з мазурскай беднаты. Мы зразумелі яго адказ, зразумелі, што б'юцца нашы чырвоныя войскі з польскімі фашыстамі. Становішча стала ясным. Узняўся настрой ва ўсіх. Мы прыслухоўваліся да бою і пачыналі пазнаваць, дзе стрэлы нашых, а дзе фашыстаў. Напач бой заціхаў. Толькі ў злавеснай начной цішыні прарывалася час ад часу кулямётная чарга і заціхала. Мы амаль што не спалі.

На трэці дзень бою ў паветры загулі самалёты. Мы ўсе павіслі на кратах акна. Угледаліся ў неба. Убачылі самалёт. З яго пасыпаліся паперкі. Адна з іх упала на турэмны двор проста пад ногі дазорцу. Ён падняў яе, паглядзеў і хуценька сунуў у кішэню. Каб ён зірнуў уверх, то ўбачыў бы, што на яго глядзіць многа вачэй. Чый быў самалёт, мы не маглі адгадаць, хоць думалі, што гэта — савецкі. Завысока і замала быў ён над намі. Дазорац-мазур адчыніў дзверы і выпусціў нас, як звычайна, у туалет. Тут мы пачулі стук у сцяне. Я прыклаў вуха. З суседняй камеры перадалі: «Мы бачылі з акна савецкі самалёт». Я спытаў: па чым пазналі? Яны адказалі, што на крылах заўважылі чырвоную зорачку. Цяпер нам было ясна, што самалёты нашы, што час вызвалення блізкі.

І зноў настала ноч. Зноў блуканне па цёмнай камеры. Бой часова заціх. Пайшоў дробны дождж. На світанні пачалася артылерыйская страляніна. У бой пайшла цяжкая

артылерыя. Мы прыкладалі вушы да сцяны, каб адгадаць, адкуль ляцяць снарады — з усходу ці з захаду. Праз увесь дзень ішоў артылерыйскі бой.

Цёмная, мокрая ноч зноў прынесла зацішша. Мы сціснуліся ў адным кутку, прытуліліся адзін да другога, каб цяплей было, і, стомленыя, заснулі. На світанні былі ўжо на нагах, парамі хадзілі вакол па камеры. Трэба сказаць, што абедаў нам не давалі, а толькі каву і 400 грамаў хлеба на ўвесь дзень.

Ходзім, чакаем. Бою ў горадзе не чуваць. Глянулі ў акно — дазорца на сваім месцы няма. Лужынкі на двары пасля начнога дожджыку, і асенняе хмарнае неба.

Раптам адкрыўся «ваўчок», і той самы дазорац-мазур, глянуўшы, сказаў: «Васы псыслі» і тут жа адчыніў дзверы.

Нас сустрэла група рабочых, узброеных вінтоўкамі, з патроннымі стужкамі накрыж цераз плячо. Адзін з іх сказаў: «Таварышы, сягоння ноччу горад Гродна вызвален Чырвонай Арміяй. Вы свабодны!» Мы кінуліся адзін да аднаго ў абдымкі і сталі выходзіць. Зараз жа ўзброіліся вінтоўкамі. Стварылі рэўком, паслалі сваіх людзей на ўсе гарадскія адказныя аб'екты: банкі, станцыю, пошту, вадаправод, бальніцы, масты і г. д. Мы пачыналі будаваць дыктатуру пралетарыяту па Леніну. Хутка стварылі гарадскі камітэт рабочай міліцыі, якому рэўком перадаў свае паўнамоцтвы. Арыштоўвалі ворагаў — былых дэфензіўскіх сышчыкаў, катаў, афіцэраў. Быў выданы загад, каб усе, хто мае зброю, неслі і здавалі яе нам.

Да нас амаль кожны дзень прыходзіў капітан з палітчасці дывізіі Чырвонай Арміі, каб чым-небудзь памагчы. Мы ўвесь час былі на нагах — аж да ўтварэння часовага ўпраўлення, калі сталі ўстанаўлівацца органы Савецкай улады.

Мы зрабілі апошні сход былых палітзняволеных гродзенскай турмы — сход развітальны. На ім прысутнічаў упаўнаважаны ЦК Кампартыі Беларусі Іван Якаўлевіч Кульбацкі, які зараз жыве і працуе ў Барысаве.

На сходзе апошняму давялося гаварыць мне, гаварыць аб тым, каб таварышы, раз'язджаючыся па сваіх сёлах, будавалі Савецкую ўладу, каб былі такія ж дысцыплінаваныя, як і ў падпольнай рэвалюцыйнай барацьбе, каб умелі пазнаваць ворага і абясшкоджваць яго, каб любілі партыю і былі ёй верныя да канца.

Гэта быў хвалюючы сход, сход байцоў за камунізм. З воклічам «Няхай жыве Камуністычная партыя!» разы-

ходзіліся хлопцы па сцежках-дарожках да родных хат. Пачалася для народа новая старонка жыцця — жыцця свабоднага, без паноў — на шчасце працоўных.

## МЫ, БЕЛАРУСЫ, З БРАТНЯЮ РУССЮ...

Самай першай падзеяй гістарычнага значэння пасля вызвалення Заходняй Беларусі быў Народны сход у Беластоку, дэпутатам якога давялося быць і мне ад горада Гродна. Гэта быў сход вялікай народнай радасці, што пералівалася цераз верх і не мела мяжы. Пасяджэнні былі вельмі бурныя, хаця не было нязгодных. Панавала нябачанае адзінства. Людзі не маглі сядзець на месцы. Хто выкрыкам, хто ўзнятаю далонню, а хто сціснутым кулаком падмацоўваў словы прамоўцаў. Узрывы радасці, шматгалосае «ўра» чаргаваліся з бурнымі воплескамі. Калі прачыталі дэкларацыю, у якой гаварылася, што ўсе заводы і фабрыкі капіталістаў, банкі, памешчыцкія і царкоўныя землі і лясы пераходзяць ва ўласнасць народа, з шумам устала ўся зала, выказваючы сваё захапленне ў гучных воплесках. Урэшце воплескі сціхлі. Кіраўнік Сходу Пётр Захаравіч Калінін пытаецца, ці не мае хто што дадаць. Зноў бура воплескаў, і зноў цішыня. У гэты момант адзін дэпутат-селянін узняў руку. Яму далі слова. Дэпутат раіў дадаць у дэкларацыю, што ад памешчыкаў адыходзяць яшчэ азёры і рэкі. Аднадушным «правільна!» дэпутаты ўхвалілі яго словы. Гэта быў селянін з Маладзечанскай вобласці па прозвішчу Стома. Ён потым гераічна загінуў у самым пачатку гітлераўскага нападу на нашу краіну — быў расстраляны нямецкімі фашыстамі.

На Народным сходзе ў Беластоку была выбрана паўнамоцная Камісія ў складзе 60 чалавек, якая павезла дэкларацыю Сходу ў Маскву на Пятую нечарговую сесію Вярхоўнага Савета СССР. У складзе гэтай Камісіі быў і я. У асобе Камісіі ехаў у Маскву ўвесь вызвалены народ Заходняй Беларусі, які праз сваіх пасланцоў вёз сваё незгасальнае жаданне, што хоча Савецкай улады — ніякай іншай, а толькі Савецкай, што хоча будаваць сацыялізм разам са сваімі братамі з Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Гэта было выяўленне шчырай любві да старэйшага брата — вялікага рускага народа, да Камуністычнай партыі і яе Цэнтральнага Камітэта, да Савец-

кага ўрада. Гэтая любоў была выпакутавана праз цяжкія 20 год няволі ў турмах, у катоўнях, у цёмных, бядняцкіх хатах, у гарадскіх сутарэннях, яна была выплакана нашымі маткамі, сёстрамі, якія праводзілі сваіх сыноў, братоў, абкружаных паліцэйскімі, на доўгія пакуты за кратамі. Гэта была да глыбіні душы сапраўдная, вялікая народная любоў, якая незнішчальна, неперaward.

Вялікая братняя Масква прывітала нас і паўнамоцную Камісію Заходняй Украіны як родных, як сваіх. Мне помніцца гэтая плошча пры Беларускім вакзале, на якой, як толькі магло сягаць вока, стаяў натоўп масквічоў, што прыйшлі сустракаць і вітаць нас. Мне даручана было выступіць з прывітальным словам перад гэтым морам людзей. І я гаварыў экспромтам, без паперкі, і сам не ведаю, як у мяне сэрца засталося цэлае ў грудзях. Гэта была сустрэча з вялікім рускім народам, які клапаціўся аб нашай долі, які не даў нам загінуць у кіпцюрах фашызму. Гэта была вялікая ўрачыстасць уз'яднання трох адзінакроўных братоў-народаў — рускага, украінскага, беларускага, уз'яднання назаўсёды, калі пад адныя межы сабраліся ўсе землі — украінскія і беларускія і спалучыліся з рускімі.

Пятая нечарговая сесія Вярхоўнага Савета СССР і была прысвечана спецыяльна гэтай пераможнай сустрэчы, была прысвечана сцэментаванню нашага адзінства з рускім народам.

Сесія Вярхоўнага Савета СССР прыняла і зацвердзіла Дэкларацыю Народнага сходу, і з таго часу Заходняя Беларусь стала адзінай з Беларускай Савецкай дзяржавай, а тым самым і з Савецкім Саюзам. З таго часу Заходняя Беларусь перастала існаваць як асобная геаграфічная адзінка.

Новыя старонкі жыцця раскрыліся для вызваленага народа. Абудзіліся яго невычэрпныя творчыя сілы для будаўніцтва свайго шчасця. Разам з надзяленнем зямлёй беззямельных і малазямельных буйна пачалося калгаснае будаўніцтва. Ідэалагічны грунт у народзе для ўспрыняцця калгасаў быў падрыхтаваны яшчэ пад панскай Польшчай. Падрыхтавала яго сваёй нястомнай работай у змроках падполля Камуністычная партыя Заходняй Беларусі (КПЗБ). Яна ўзгадавала ў народзе вялікую любоў да Савецкага Саюза — бацькаўшчыны працоўных, да вялікага рускага народа — свайго старэйшага брата. Вось гэтыя прадпасылкі і далі магчымасць хутка разгарнуць будаўніцтва калгасаў у вызваленай Заходняй Беларусі.

З Усходу на захад Беларусі ішла дапамога. Гэта былі кадры, пасланыя Савецкім урадам і Камуністычнай партыяй, гэта былі не толькі беларускія, але і рускія людзі. Для трактараў, якія прыбылі ў новыя калгасы, патрэбны былі трактарысты, для розных курсаў, якія пачалі адкрывацца, патрэбны былі настаўнікі. А тэхнікумы, школы? Тут таксама патрабаваліся кадры. І з Усходу ехалі людзі. Пачалося асушэнне балот Палесся, пачалі будавацца Днепра-Бугскі канал, розныя прамысловыя прадпрыемствы. І якую б ні ўзяць галіну дзяржаўнай працы — усюды мы адчувалі братнюю руку вялікага рускага народа. Вызваленыя беларусы, ці, як іх тады называлі, «заходнікі», цяпер ішлі разам з усімі братнімі народамі, ішлі з вялікім энтузіязмам за сваім другам і настаўнікам, старэйшым братам — рускім народам.

Поспехі будаўніцтва сацыялізма абяцалі хутка ўзняць нядаўна вызваленую заходнюю частку Беларусі да агульнага эканамічнага ўзроўню. Гэта ўжо было відавочна. Але на поўным разгоне гэтай вялікай агульнанароднай творчасці стала на перашкодзе ліхая вайна,— зладзейскі напад гітлераўскіх ордаў спыніў гэты шчаслівы поступ народа.

Людзі пад бамбёжкамі гітлераўскіх самалётаў адступалі разам з арміяй на ўсход. Было неймаверна балюча, цяжка на сэрцы. Людзі пакідалі новыя калгасныя палі, поўныя каласістага жыта, пакідалі недакончаныя каналы на бязмерных балотах, засаджаныя калгасныя сады, новыя школы, свае хаты... Ішлі на ўсход, каб недзе гуртавацца ў баявыя адзінкі для смяротнай барацьбы з заклятым ворагам. Людзі з Заходняй Беларусі на сваіх спінах зведалі, што такое фашызм, і таму разумелі, што нямецкі фашызм ніколькі не лепей за фашызм польскі і што пачалася вайна незвычайная — вайна класавая, вайна за тое, быць ці не быць дзяржаве рабочых і сялян, Савецкай уладзе.

І зноў апорай стаў вялікі рускі народ. Непахісная воля да перамогі савецкага народа, мужнасць і храбрасць нашых воінаў у спалучэнні з магутнай тэхнікай у баях у снежні 1941 года вырашылі лёс рабоча-сялянскай дзяржавы і заклалі першыя прадпасылкі разгрому нямецкага фашызму.

Беларусь стала тылам ворага, але не скарылася. На яе прасторах пачалі стварацца першыя групы партызан, з якіх потым выраслі атрады і цэлыя злучэнні. Кампартыя Беларусі ў цяжкіх умовах арганізоўвала ўсенародную барацьбу з фашысцкімі акупантамі. Зноў у падполлі апыну-

лісія многія камуністы. Яны стваралі антыфашысцкія камітэты, якія дапамагалі пашыраць барацьбу з акупантамі, са зброяй у руках змагаліся ў партызанскіх атрадах. Ініцыятары антыфашысцкай барацьбы — такія, напрыклад, як Іосіф Паўлавіч Урбановіч на Брэстчыне і іншыя, шукалі шляхоў, як звязацца з ЦК Кампартыі Беларусі, і гэтыя шляхі знаходзілі.

Тылы ворага — гэта значыць, наша беларуская зямля і зямля ўкраінская — сталі называцца Малой зямлёй, а там, за фронтам, была Вялікая зямля. Там жыў, змагаўся і на смерць стаяў вялікі рускі народ. Там жыла Масква. Адтуль на падняволеныя народы — украінскі і беларускі — павявала братнім цяплом, братняй апекай, дружбай непераможнай, вялікай, баявой камуністычнай зарукай. І зноў зліваліся ў адно тры братнія народы, нягледзячы на лінію фронту. Адтуль, з Вялікай зямлі, плыла рознымі шляхамі дапамога і падтрымка: людзьмі і матэрыяламі, зброяй і праўдзівым словам. Гэтая дапамога потым стала штодзённай. Так кавалася перамога над заклятым ворагам, які прыйшоў паланіць нашу зямлю. А што сталася б з беларускім народам, а таксама ўкраінскім і іншымі, калі б яны не мелі такога старэйшага брата, як рускі народ! Ворагі тапталі б нас і нішчылі б, як спрабавалі знішчыць іншыя дзяржавы ў Еўропе. Адзінства савецкіх народаў, адзінства краін сацыялістычнага лагера — гэта броня, аб якую разаб'юць ілбы ўсе ворагі дэмакратыі і сацыялізма.

Ішлі гады аднаўлення народнай гаспадаркі, зруйнаванай вайной. Мы памятаем, як вярнуліся ў разбураны Мінск. Мы памятаем спаленыя вёскі Беларусі, як і незлічоныя ахвяры ў людзях. З руін падымалася новае жыццё, як тое сонца з-за высокіх гор. І зноў рускі народ быў той дапамогай, якая дала магчымасць беларусам хутка залячыць цяжкія раны.

Трактары, аўтамабілі і іншая тэхніка, гурты жывёлы, эшалоны з абуткам, адзеннем, прадуктамі харчавання... Усё гэта няспынна прыбывала ў Беларусь з Усходу. Да нас ехалі людзі — кадры, каб дапамагчы хутчэй адбудаваць гаспадарку. Пасля перамогі над гітлераўскімі полчышчамі аднаўленне калгасаў наогул, а ў заходніх абласцях у асаблівасці, было справай нялёгкай. Гітлераўцы спалілі будынкі, панішчылі жывёлу, інвентар. Трэба было ўсё пачынаць спачатку. Не было насення. Яго прыслалі рускія браты. Яны ж далі пародную жывёлу для гадоўлі. І зноў жа вялікая дружба народаў прадэманстравала сваю беска-

рысліваець, сваю вялікую пічырасць у справе агульнага ўздыму гаспадаркі і культуры. Гэта і ёсць крыніца той вялікай дынамічнай сілы будавання, гэта і ёсць той невычэрпны рэзерв, якога так баяцца імперыялісты. Усведамленне адзінай мэты, згуртаванасць, братэрства былі і будуць гарантыяй нашых поспехаў у барацьбе за камунізм.

Цяпер увесь свет бачыць, як пайшла ўгару сельская гаспадарка нашай краіны і ў тым ліку Беларусі. Яна з кожным годам набірае сілы, адкрывае новыя рэзервы, а тым самым пашырае гарызонты, за якімі выразна відаць абрысы камунізма. Бо нас вядзе Камуністычная партыя Савецкага Саюза, бо мы ідзём плячо ў плячо з вялікім рускім народам і ўсімі народамі Савецкай краіны.

## ДАРОГАЮ ЖЫЦЦЯ

### I

Калі мне даводзіцца ехаць у Гродна і поезд спыняецца на станцыі Масты, я заўсёды пільна ўглядаюся і ў станцыю і ў яе наваколле. Чаму? Сюды сягае мая далёкая памяць у сваё ранняе маленства. Бацька мой, Сямён Паўлавіч Пестрак, служыў тут тры гады наглядчыкам па рамонце чыгункі. У часе першай сусветнай вайны ўсе прыстанцыйныя казённыя будынкі былі спалены. Аднак я заўсёды пазнаю сходкі цэментовага ганка, якія вялі ў нашу кватэру. Яны відны з акна вагона. Пасля відаць заржавелы кран калонкі, з якога ўсе жыхары доўгага, афарбаванага на казённы колер дома бралі ваду. Мы, гурбачка малых — хлопцаў і дзяўчат, любілі пялёскацца ў летнія гарачыя дні каля гэтай калонкі. І яшчэ побач — пограб, аброслы зялёным дзёрнам, з аддушынай наверсе, накшталт чатырохкутнага драўлянага коміна. Комін выглядаў тады прыгожым — яго верхні карніз быў пафарбаваны ў зялёны колер, а ўвесь ніжэйшы чатырохкутнік — у ружова-бялявы. Мы, малыя, любілі лазіць на гэты пограб і бавіцца ля маляўнічага коміна. Толькі цяпер, калі гляджу на пограб з акна вагона, ён здаецца мне вельмі нізкім у параўнанні з тым, што застался ў памяці з маленства. Бывала, мы на яго ледзь узлазілі.

Пасля было знаёмства з дзецьмі рабочых-чыгуначнікаў. Я не помню, хто былі бацькі тых хлопцаў (відаць, грузчы-

кі), якія вялі мяне цераз усе рэйкі па ўскраіну, дзе ляжала многа дроў, між якіх туліліся нейкія старыя, урослыя ў зямлю баракі. Там было цёмна і цесна. Мой адважны праваднік быў старэйшы за мяне, ён ужо меў буквар з малюнкамі, якія мяне вельмі займалі. Я памагаў яму насіць дровы ў хату, каб ён паказаў зроблены ім ветрачок, які, круцячыся на ветры, барабаніў у прывязаную збоку бляху.

Я не помню ні імені, ні прозвішча таго хлопца, але ў душы застаўся асадак чагосьці незвычайнага ад таго знаёмства. Мяркую, што з гэтага завадыякі, які ўжо тады чапляўся на тэндэр манеўровага паравоза і цягнуў мяне за сабою, вырас адважны, актыўны чалавек.

Першым маім настаўнікам быў бацька, ён скончыў тры класы сельскай царкоўнапрыходскай школы, а астатняе невялікае дадаў самаадукацыяй. Бацька часта ездзіў у Гродна. Горад гэты быў для мяне такім таямнічым і прывабным, што я заўсёды, затаіўшы дых, слухаў бацькавы расказы пра яго: там, уяўлялася, былі сабраны ўсе прыгажосці свету. Памятаю, як я туліў да грудзей новенькі, размаляваны рускі буквар, прывезены з таго ж Гродна.

Я хутка запомніў літары, але вось з чытаннем слоў доўга не ладзілася. Бацька загадвае прачытаць, напрыклад, слова «сума» пад малюнкам. Я вымаўляю паасобку кожную літару — с-у-м-а. Бацька пытаецца, як будзе разам. І я, нічога не падазраючы, кажу: «Будзе разам — торба». Бацька смяецца. Я ніяк не ўцямлю, што з літараў «с-у-м-а» не можа скласціся «торба», што на гэта патрэбны іншыя літары. Я слухаю і думаю сабе, чаму сума, калі намалявана торба.

На трэцім годзе службы ў бацькі здарыліся нейкія нелады з начальнікам станцыі, і мы перабраліся ў вёску. Прыехалі тры дзядзькі маёй маці на добрых конях, пагрузілі нашу маёмасць, пасадзілі нас, траіх малых, і павезлі. Помню шэры і ветраны асенні дзень, бадзёры гаманок мужчын ля воза і бясконцыя пясчаныя баравыя дарогі. Ехалі, відаць, сутак трое з начлегамі і прыпынкамі.

Як сёння помню: невядомы панадворак... цёмная ноч... Мне кажуць пераступіць высокі парог... Праз хустку прасочваецца мутнае святло. Хустка спаўзла мне на вочы, мне душна, але я не магу знайсці вузла, каб развязаць яе. Нейчыя рукі заварушыліся ля маёй шыі, і ўрэшце гэтая дакучлівая заслона апала. Хустку развязалі мне рукі бабкі. Я, здзіўлены, утаропіўся ў старую лямпу з іржавым кругам, што вісела на доўгім дроце. Лямпа цьмяна асвятляла

вялікую старую хату з земляной падлогай, з пачарнелай ад старасці столлю, па якой паблісквалі прусакі. У гэтай хаце расла мая маці.

Праз пару дзён пераехалі ў вёску Сакоўцы, на маю радзіму, у старую маленькую дзедаўскую хату, у якой рос мой бацька, а потым і мы ўсе.

Пачаўся новы этап у жыцці, цяжкі, непрывстны. Праз два гады пасля прыезду з Мастоў мне споўнілася сем год, і я пайшоў у школу, умеючы ўжо добра чытаць і ведаючы нават на памяць верш Някрасава «Малютка-мужычок».

Школа стаяла ў полі, паміж некалькіх сёл, так што хадзіць трэба было больш за дзве вярсты. За партамі не хапала ўсім месца, і нам, некалькім навічкам, даводзілася з торбамі цераз плечы і з букварамі ў руках падпіраць кафельную печку пры дзвярах. Вучні, даведаўшыся, што я, такі малы, ведаю на памяць нават верш, не давалі мне праходу: раскажы ды раскажы... І я без ніякай аглядкі рэзаў: «Однажды в студеную зимнюю пору...» І хто б ні папрасіў — старэйшы вучань ці малы — я ахвотна станавіўся ў позу і расказваў верш. Так і прыстала да мяне мянушка «Малютка» на ўсё маё школьнае жыццё.

У школе настаўнік біў вучняў, біў з размаху далоняй. Другі спосаб біцця — гэта лінейкай. «Даваць лапы» — азначала біць лінейкай па далонях. Гэта было балюча ці, дакладней кажучы, пякуча. Далоні распухалі, рабіліся чырвоныя. Яны гарэлі, і мы іх расціралі снегам. Усе вучні баяліся гэтага настаўніка, як агню, і я набраў да яго нянавісці на доўгія гады, бо ён часта біў без разбору, вінаватых і невінаватых.

Аднак не ўсе настаўнікі былі, як той. Былі і добрыя. Такім добрым настаўнікам быў Лука Васільевіч Зыкаў, стары халасцяк, які ўсё сваё жыццё аддаў школе. Ён прыехаў тады, калі нашу школу пашырылі на два класы і патрэбен быў яшчэ адзін настаўнік. Лука Васільевіч быў высокі, плячысты чалавек, год пад сорак пяць. Чорныя валасы яго былі акуратна прычэсаны «пад польку», і чорныя вусы звісалі крыху па-шаўчэнкаўску. Ён заўсёды ўваходзіў у клас у акуратна зашпіленай настаўніцкай куртцы, вітаўся з намі, пасля малітвы адкашліваўся і пачынаў заняткі.

Адзін выпадак наблізіў мяне да гэтага настаўніка і пакінуў след у памяці на ўсё жыццё. Я нешта два тыдні хварэў і адстаў ад вучобы. Дагнаць па граматыцы, гісторыі і іншых прадметах не складала для мяне цяжкасці, а вось па арыфметыцы было цяжка. І Лука Васільевіч вырашыў,

каб я пасля заняткаў хадзіў да яго на кватэру — дадаткова займацца арыфметыкай. Дахаты вяртацца было далёка, і я вымушаны быў заначаваць у настаўніка. Ён жыў у сяле Бусяж. Сяло стаіць і цяпер пры шляху з Косава ў Слонім. Доўгая, прыгожая хата заможнага гаспадара, дзе кватараваў настаўнік, стаяла з будынкамі ўздоўж шляху, можна сказаць, пры царкоўным майдане. Адзінае шырокае акно настаўнікавага пакою глядзела на шлях, які пралягаў паўз царкоўную каменную агароджу і выбягаў у поле. У падоўжаным пакоі з печкай пры сцяне ўпоперак стаяў ложак, над ім вісеў партрэт у рамцы, а побач, крыху ніжэй — мандаліна, да якое мне гэтак карцела дакрануцца рукою. Ля акна туліўся столік, на ім ляжалі сшыткі, кнігі, стаяла кубічная чарніліца. На падлозе паўз сцены стосамі ляжалі кнігі для школьнай бібліятэкі. Мне думалася, што на партрэце намаляваны сам настаўнік. Калі ён выйшаў да гаспадароў, я на пальчыках падышоў да ложка, каб бліжэй разгледзець партрэт. І якое ж было маё здзіўленне, калі я прачытаў на партрэце: «Ушинский», бо ён здалёк сапраўды быў падобны да майго настаўніка. Прозвішча гэта мне тады яшчэ нічога не гаварыла.

Звычайна настаўнік падводзіў мяне пытаннямі да рашэння задач. Затым месца сшыткаў і кніжак займаў чайнік, і мы пілі чай з сітным хлебам. Пасля вячэры я рыхтаваў другія ўрокі, а Лука Васільевіч паглыбляўся ў нейкую пісаніну. Папрацаваўшы, уставаў, браў мандаліну і, праходжваючыся па пакоі, іграў і спяваў:

Кругом, кругом я сиротина,
И нету милого при мне...

Гэтую песню я часта пасля чуў у народзе, і заўсёды на памяць мне прыходзіў мой добры настаўнік.

Вайна 1914 года разлучыла мяне з маім настаўнікам назаўсёды. Будучы ў бежанстве ў Самарскай губерні, я ўсё-такі знайшоў адрас Лукі Васільевіча і напісаў яму пісьмо ў яго роднае мястэчка Парэчча (цяпер Дзямідаў) Смаленскай губерні. Адказ я атрымаў са станцыі Павелец Саратаўскай губерні, дзе Лука Васільевіч вучыў дзяцей бежанцаў. Пасля гэтага мы вялі доўгую перапіску. Гэтая перапіска дала мне многа радасці і ўцехі. Я пасылаў яму свае першыя вершы. Яны былі напісаны на тэму вайны, на тэму гераізму нашых салдат. Я ж марыў пайсці на вайну добраахвотнікам і, вядома, стаць героем, георгіеўскім кавалерам.

Другім чалавекам, які пакінуў вялікі след у маёй памяці, была мая бабка па маці, Агата. У бабкі даводзілася падоўгу жыць улетку, бо дома хлеба на ўсіх не хапала.

Гэта яна, бабка, напяваючы, закалыхвала ўнукаў пад аднастайны скрып драўлянага крука, на якім вісела плеценая калыска, высланая саломай. Гэты скрып нагапяў дрымоту.

Гэта яна, бабка, асеннімі доўгімі вечарамі, калі ў хаце сядзела многа жанчын-маладзіц і старэйшых — за кудзеляю, расказвала аб людзях, якія ўставалі з магіл і ішлі або каму помсціць за крыўду, або каго суцешыць у горы. Мне помніцца і зараз расказ пра жанчыну-суседку, якая памерла ад родаў і нібы прыходзіла пасля смерці з могілак карміць сваё дзіця. Я ляжаў на печы, звесіўшы галаву, і слухаў. І тым утульней здавалася на печы, калі за вокнамі стаяла непраглядная ноч і сцякалі кроплі па шыбінах, бо імжыў асенні дождж. Гэтыя дзіцячыя ўражанні ў нейкай меры знайшлі свой адбітак у маім рамане «Сустрэнемся на барыкадах».

З бабкай даводзілася хадзіць і ў госці, і ў царкву на фэст. Але дзіцячую фантазію займалі не менш, а можа, больш вандроўкі бабкі ў Вільню, на пакланенне розным святым. Ад вёскі да Вільні — каля трохсот вёрст. І бабка пяшэчкам хадзіла туды і назад чатыры разы ўжо на старасці год. Гэтыя паходы былі авеяны нейкай урачыстасцю: пілігрымам здавалася, што яны ад бядоты і няшчасцяў жыцця ідуць у краіну раю, у краіну багоў, якія могуць падарыць шчасце, калі іх добра папрасіць. І бабка прасіла. Калі вярталася з Вільні, расказвала аб розных прыгажосцях, аб цэрквах, касцёлах, аб тым, як цалавала ногі мошчам віленскіх мучанікаў, як апоўзала на каленях усю (каталіцкую) кальварыю. Прыносіла абразкі, крыжычкі, кніжачкі. Горшыя крыжычкі давала нам, дзецям, а лепшыя хавала ў скрыню. Апошні паход бабкі ў Вільню быў у 1910 годзе.

Калі мне давялося трапіць у віленскую турму Лукішкі ў 1935 годзе, у мяне пачаў складацца верш пра Вільню. І ў ім не абышлося без бабкі-пілігрымкі. Цяпер я помню толькі ўрыўкі, бо верш не быў запісаны на паперу, а трымаўся ў памяці.

...Сярод бярозавых прыкрас
Шлях засцілаўся тонкай дымкай —
То шлях, прамераны не раз
Маёю бабкай-пілігрымкай.
. . . . . . . . . . . . .

Да брамаў Вільні залатой
За шчасцем вёрсты даганяла,
У веры цёмнай і святой
Руку да сонца падымала...

Матывы пілігрымства ў Вільню знайшлі свой адбітак у маім апавяданні «Камень».

Бабка была знаўцам зёлак, пучкі якіх віселі пад столлю. Аб тым, як гэта запала ў маю памяць, і гавораць верш «Дзівасіл» і апавяданне «Імунітэт».

## II

Часы бежанства (на Паволжы ў Самарскай губерні) вельмі адрозніваліся ад жыцця на Беларусі. Маленькая дзедаўская хатка, дзе мясцілася адзінаццаць душ, частае недаяданне вясною, сямейныя згрызоты з-за цеснаты не навявалі на душу нічога ўцешнага, хоць дзяцінства заўсёды ўспрымаецца, як залатое. У гэтым, відаць, неўміручы сакрэт дзяцінства.

Калі ехалі таварняком доўгай, бясконцай дарогай у далеч Расіі, здарыліся два выпадкі, якія выклікалі яшчэ нязведаныя перажыванні.

У таварным вагоне ехала пяць сем'яў. У адной з іх у дарозе памерла ўжо старая маці. Калі ехалі ўжо таварняком, мінула з дня смерці старой сорак дзён. У народзе, як вядома, гэтыя сорак дзён пад назвай «сарачыны» адзначаюцца як памінальнае свята сям'і. І вось, калі доўгі эшалон імчаў нас у невядомую ноч і ўсе ў вагоне пакладаліся спаць (адзін я падкладаў у печку дровы), гэтыя людзі спраўлялі сарачыны сваёй маці. Калі жанчыны, пасеўшы вакол скрыні, засланай, як стол, абрусам, заплакалі, мне стала сумна. Як клалі лішнюю лыжку на абрус (гэта для маці), мне было проста цікава. А калі дзяўчына — дачка нябожчыцы — папрасіла брата адчыніць дзверы, каб увайшла нябожчыца-маці на вячэру, мне стала раптам смешна. Ну як жа можа ўвайсці памершая маці, ды яшчэ праз шчылінку, калі поезд імчыць на ўсю моц? Дый сама маці засталася пахаваная недзе над Бабруйскам. Ужо тады мне гэта пачынала здавацца непраўдзівым.

Другі выпадак быў цяжкі, горкі, вельмі сумны. Ён у мяне, малога, упершыню абудзіў пачуццё сталасці, сур'ёзнасці, адказнасці за жыццё. Справа адбылася так. Недзе перад Пензай, калі спыніўся поезд, маці выйшла з вядром па ваду. Трэба было падлезці пад поезд. Разам з маці з ва-

гонаў выйшлі і другія. Паравоз даў гудок. Я выскачыў з вагона, каб клікнуць маці, памагчы ёй. Ледзь паспеў я пералезці цераз рэйкі, як колы загрукаталі і поезд крануўся. Я бачыў, як бегла маці. Кінуўся назад пад поезд. Нада мною, сагнутым, прайшло нешта тры ці чатыры вагоны, пакуль мне ўдалося выскачыць. Я дагнаў свой вагон, мяне падхапілі за рукі, уцягнулі... А маці засталася. Я стаў за ґалаву сям'і (нас было чацвёра дзяцей, мне, самаму старэйшаму, ішоў дванаццаты год). Я кожны дзень плакаў, уяўляючы, як маці блукае з вядром у руцэ па дарогах і шукае нас. Праходзілі дні і тыдні, поезд вёз нас ужо снежным стэпам Паволжа, а маці ўсё не было. Яе выпадкова знайшоў бацька, вяртаючыся з фронту. Ён шукаў нас ад самага Бабруйска, дзе мы пагрузіліся на поезд. Бацькі знайшлі нас, ужо размешчаных па кватэрах прыстанцыйнага сяла Паўлаўка (ст. Багатае), дзе ўсе бежанцы два тыдні праходзілі каранцін. Гэты выпадак даў мне зразумець упершыню, што такое дзеці без бацькоў, і навучыў не цурацца ніякай работы, быць упартым у перамаганні цяжкасцей.

Жыццё і вучоба ў сяле Максімаўка — за 20 кіламетраў ад ст. Багатае, Ташкенцкай чыгункі,— ішлі сваёй чаргой. Гэтае велізарнае сяло стаіць, вядома, і зараз, як стаяла і тады, над быстрацечнай, шырокай ракою Самаркай, якая ўліваецца ў Волгу. У школе найбольшым уплывам карысталася ў нас, вучняў старшага класа, настаўніца рускай мовы і літаратуры Еўдакія Антонаўна Пакроўская. Пажылая ўжо жанчына, адзінокая, яна ўсю сваю любоў да літаратуры перадавала нам, запрашала да сябе на кватэру, чытала, напрыклад, «Мцыры» Лермантава, «Кулак» Нікіціна і іншыя творы. У тую пару я ўжо быў школьным вершаплётам. Пераймаў найбольш Нікіціна, Някрасава, Кальцова, як, напрыклад:

Ты не пой, соловей,
Под моим окном,
Ты лети, узнай,
Что в краю родном... і г. д.

Еўдакія Антонаўна заахвочвала маю творчасць, папраўляла вершы, гутарыла аб паэзіі. Сама яна ўмела спалучаць захапленне паэзіяй з жыццёвай прозай.

Увесь настаўніцкі персанал у сваёй педагагічнай працы кіраваўся высокай думкай служэння народу. Гэта была тая народная руская інтэлігенцыя, якая сапраўды любіла

народ і самаахвярна аддавала яму свае сілы. У такой атмасферы і ў маё сэрца запала дума аб народзе, усведамленне яго гора. Гэтая атмасфера навучыла мяне цаніць таварыства, дружбу, сумленнасць, высакародства.

І тады прыйшло яно, гэтае «тамленне духу», прыйшло першае каханне, відаць, самае прыгожае для кожнага. Яна была дачкою ўдавы, вучылася ў гарадской гімназіі і г. д. і г. д.

У вучнёўскай моладзі ў тую пару быў свой бажышча ў літаратуры. Гэта Надсан. Лірыка Надсана адпавядала ў той час думам моладзі, якая шукала сваіх ідэалаў на народных шляхах. Лейтматывам гэтага бражэння была туга па шчасці для ўсяго народа.

Дзе-небудзь на школьным вечары звычайным было пачуць дэкламацыю вершаў з вуснаў якой-небудзь дзяўчынымгімназісткі.

Друг мой, брат мой, усталый,
страдающий брат,
Кто бы ты ни был, не падай душой.
Пусть неправда и зло полновластно царят
Над омытой слезами землей,
Пусть разбит и поруган святой идеал
И струится невинная кровь:
Верь, настанет пора — и погибнет Ваал,
И вернется на землю любовь!

Гэта ён — Надсан. Надсанам захапляліся, зачытваліся, дзяўчаты кніжку яго вершаў клалі сабе нанач пад падушку.

А пасля прыйшоў Леанід Андрэеў са сваёй змрочнай рамантыкай, з «Сашкам Жыгулёвым». Настроі свабодалюбівага студэнцтва, веру ў будучыню, лірыку, філасофскую сатыру і гумар — усё гэта мы знаходзілі ў Максіма Горкага, у Чэхава, Маміна-Сібірака, Гарына-Міхайлоўскага і іншых. Кліч «За народ!» стаў лозунгам і нашага пакалення. Не кар'ерысцкімі меркаваннямі кіраваліся мы, калі думалі аб шляхах у навуку, а ў першую чаргу жаданнем памагчы народу. Прыгадаю толькі хоць бы адзін прыклад. Міністрам аховы здароўя СССР на працягу некалькіх год, як вядома, быў Міцераў Георгі Андрэевіч. Я вучыўся з ім у адным класе ў тым жа сяле Максімаўка. Міцераў быў выдатны матэматык, наймацнейшы ў класе. Ён імгненна рашаў самыя цяжкія задачы. Ён мог стаць або выдатным інжынерам, або прафесарам матэматыкі. Аднак ён стаў медыкам, пайшоў туды, дзе можна прынесці непасрэдную карысць

чалавеку — ратаваць яго жыццё. Цяпер прафесар Міцэраў працуе старшынёю Савецкага камітэта Чырвонага Крыжа.

Я, захапіўшыся філасофскай літаратурай, шукаў у ёй адказу на загадкі быцця. Гэта быў працэс пошукаў правільнага светапогляду. Гэта быў доўгі працэс, калі адны «багі» скідаліся, а другія ўзводзіліся на п'едэстал. І калі мне ўрэшце дайшло да розуму, што без матэрыяльнага дабрабыту нельга пабудаваць красы жыцця для чалавецтва, я пайшоў вучыцца на эканамічнае аддзяленне сацыяльна-гістарычнага факультэта Самарскага універсітэта.

У Максімаўцы мне давялося сустрэцца з чалавекам, які першы разбіў ва мне бога. Гэта быў Аляксандр Іванавіч Барысаў, камуніст, першы заснавальнік ячэйкі ў сяле. Барысаў быў сялянскі прапагандыст, непахісна перакананы ў слушнасці ідэй камунізма. Ён прайшоў вайну, многа чытаў. Удзень рабіў сваю сялянскую работу, а ўвечары збіраў людзей і гаварыў ім аб сацыялізме. Яму нічога за гэта ніхто не плаціў, ніхто яго не наймаў. Неяк раз і мы, два вучні (я сябраваў з яго пляменнікамі), апынуліся ў яго на гутарцы. Для мяне было нечакана дзіўна і страшна пачуць, што на свеце няма бога. Аднак прапагандыст пераканаў. На астатак даў прачытаць кніжку Бюхнера «Сіла і матэрыя», якая канчаткова палажыла мяне, як кажуць, на лапаткі. Я пакінуў дома маліцца. Быў моцны канфлікт з бацькам. Аднак да малітваў я ўжо не вярнуўся. Мне было тады 14—15 год. А ў час навучання ў Самарскім універсітэце няверʼе ў бога стала асэнсаваным, глыбокім.

Я любіў хадзіць на дэманстрацыі, слухаць палымяных агітатараў, потым спрачацца з бацькам і сцвярджаць: «Хто быў нічым, той стане ўсім».

Рэвалюцыя для моладзі (я маю на ўвазе рабоча-сялянскую моладзь) — гэта перад усім навука. Моладзь пайшла на яе ў атаку. Былі адкрыты рабочыя факультэты, ці, як іх скарочана называлі, рабфакі. Яны адыгралі велізарную ролю ў адукацыі не толькі моладзі, але і дарослых, бо прага да ведаў ахоплівала тады ўсіх. Я таксама вучыўся на рабфаку ў гарадку за 40 кіламетраў на захад ад Самары (тады называўся Новая Масква, а цяпер — Чапаеўск). Там вучыліся сівыя, вусатыя рабочыя, недавучаныя тэхнікі, настаўнікі, былыя гімназісты, семінарысты, рэалісты, рабочая моладзь, чырвонаармейцы і г. д. Займаліся вечарамі, бо ўдзень усе былі на працы. Кожны студэнт рабфака атрымліваў грашовую пенсію і чырвонаармейскі паёк. Я таксама, апрача навучання, працаваў настаўнікам, вёў 3-ці клас па-

чатковай школы, вучыў дзяцей ваенных і служачых на ўскраіне гарадка. Жыў з двума таварышамі ў бараку ў асобным пакоі.

У адну зімовую, завірушную ноч барак загарэўся. Чырвонаармейцы ў суседнім пакоі моцна напалілі амаль што дзіравую печку. Я прачнуўся ад духаты, адкрыў вочы — нада мною шугала смольнае чарнявае полымя. Гарэла столь. Я паспеў уссунуць на ногі боты (валёнкі ўжо гарэлі ля печкі), хацеў дастаць кніжкі з палічкі і не здолеў: стаяць ужо было немагчыма. Ухапіў шапку, паліто і — за дзверы. У агні згарэла мая філасофская бібліятэчка. Я пасяліўся ў другім бараку на нарах разам з чырвонаармейцамі.

Трэба ж ісці ў школу, а абуць няма чаго. Боты чакалі рамонту і дачакаліся пажару. Я ішоў праз гурбы снегу якраз міма сметніка і ўбачыў там паношаныя, але цэлыя яшчэ лапці, нават з аборкамі. Калі я прыйшоў у школу, дзеці ціха ўсміхаліся, гледзячы на мой такі адмысловы абутак, які, можна сказаць, неяк нават гарманіраваў з маёй цыганалевай курткай блакітнага колеру. Пасля заняткаў я пайшоў адведаць сваіх хлопцаў-аднасяльчан (максімаўцаў), якія кватаравалі ў селяніна. Гаспадыня хаты, убачыўшы мяне ў такім абутку, пляснула ў далоні, зараз жа адкінула ўбок свой калаўрот і выбегла ў сенцы. Адтуль прынесла новыя ліпавыя ступні. Сардэчная руская сялянка! Яна доўга вохкала, ахкала, шкадавала. Ну, а маім калегам было з чаго парагатаць.

Я доўга хадзіў у гэтых ступнях, пакуль не выручыў мяне таварыш па класе, малады, прыгожы камандзір узвода чырвонай кавалерыі, помню, па прозвішчу Варанцоў. Ён яшчэ юнаком пайшоў добраахвотнікам на першую сусветную вайну і стаў поўным георгіеўскім кавалерам. Вось гэты прыгажун забраў мае боты і аддаў у чырвонаармейскую майстэрню, дзе мне іх прывялі да парадку.

Два мае таварышы, што жылі са мной у бараку (адзін з іх таксама настаўнічаў), не вытрымалі такіх умоў жыцця, кінулі вучобу і паехалі дамоў. А я жыў на салдацкіх нарах аж да вясны, а вясною сумесна з былым студэнтам духоўнай семінарыі, цыбатым і заіклівым Ванем Андрэевым, найсумленнейшым арыгіналам, перабраўся ў пакоік вусатага заводскага вартаўніка. Тут мы зажылі, можна сказаць, па-людску. Гаспадыня Пелагея Дармідонтаўна даглядала нас, як добрая сястра.

Я тады па даручэнню студэнцкага сходу выконваў аба-

вязкі бібліятэкара рабфака (вядома, бясплатна) і набіраў людзей для драмгуртка. Загадчык аддзела народнай асветы Аляксандр Іванавіч Сітнікаў, хоць сам, здаецца, не спаў і не еў, але нас, настаўнікаў, цешыў надзеямі на лепшае (слава такім!). Якім жа быў Аляксандр Іванавіч? За сталом сядзеў схуднелы чалавек з тварам рускага рабочага, падобны да Міхаіла Іванавіча Калініна, і ўвесь час гаварыў, званіў у тэлефоны, поркаўся ў паперах. Кожны дзень на стале сярод папер стаяў прынесены са сталоўкі кацялок з рэдзенькім прасяным супам. Аляксандр Іванавіч, калі заціхалі званкі, вымаў з-за халявы бота драўляную лыжку, зачэрпваў два разы з кацялка і зноў браўся за справы: прыйшлі людзі, трэба зараз ісці на тую ці іншую нараду і г. д. Суп так і заставаўся недаедзеным. І так кожны дзень. Рэвалюцыя не магла чакаць ні адной хвіліны. На плячах вось такіх Сітнікавых утрымалася рэвалюцыя, на плячах простых людзей, штодзённых герояў пары ваеннага камунізма. Так пачынаў каваць сацыялізм узброены пралетарыят. Настаўнікі, асабліва жанчыны, любілі, шкадавалі Аляксандра Іванавіча, а дзяўчаты, маладыя настаўніцы, жартуючы, абдымалі яго худую шыю. Вобраз Сітнікава ўжо тады дапамог зразумець мне, што значыць самаахвярна служыць народу. Мы — рабоча-сялянская моладзь той пары — усе былі своеасаблівымі нігілістамі, мы адкідалі стары свет, аж да рэшты. Нашы адносіны былі таварыскія, непасрэдныя, мы станавіліся ў апазіцыю да тых выкладчыкаў, якія вурчэлі на новыя парадкі і патрабавалі старога лоску. Мы высмейвалі такіх сваім маладым гумарам, вядома, часта недаацэньваючы іх добрых вартасцей. У адносінах хлопцаў з дзяўчатамі нейкім чынам прадаўжаліся традыцыі тургенеўскіх герояў, хоць мы ўжо мелі тое вялікае, чаго не мелі тургенеўскія героі — мы мелі шырокае поле дзейнасці для народа. Аднак начныя дыскусіі аж да світання, як у тургенеўскіх герояў, ящчэ перапаўнялі моладзь, і хараство нясмелага кахання гаварыла аб высокім, чыстым, рамантычным стаўленні да жанчыны. Тургенеўскія героі былі дваранскімі сынамі і дочкамі, наша вучнёўская моладзь была рабоча-сялянская, але рамантыка, апетая ў рускай літаратуры, стала і яе рамантыкай.

У час вучобы ў Самарскім універсітэце мы вельмі галадалі. Але, нягледзячы на гэта, не прапускалі ніводнай лекцыі. Жылі ў халодных кватэрах, атрымлівалі ў студэнцкай сталовай лыжку поснай вермішэлі і суп з мёрзлай бульбы. Хлеба не было. І ўсё роўна вечарамі імкнуліся трапіць у

тэатр, у клуб. Выйшаўшы з тэатра, мы сваёй групай, часам з брашурай Пляханава ў кішэні, ішлі, як змоўшчыкі, у студэнцкую кухню. Там жыў вартаўнік — дамарошчаны філосаф. У кажуху, у заношанай, прапацелай вушанцы, пры цьмяным бляску адной лямпачкі, ён, прытуліўшыся спіною да катла, чытаў. Што? Кнігу Бакуніна «Бог і дзяржава». Вось якія былі студэнцкія вартаўнікі — не жарты! Ён любіў пагутарыць на тэму праўды, справядлівасці, а мы, жартуючы, прасілі ў яго, можа, у катле застаўся які чарпак капусты або вермішэлі. Часцей было так, што заставалася, і мы коўзалі чарпакамі па дне катла і елі ў ахвоту.

Аднаго разу ў студэнцкай сталоўцы мне здарылася сядзець за адным сталом з двума сівымі людзьмі ў «баярскіх» шапках, у куртках з шынельнага сукна. Перад імі на стале ляжалі падручнікі па алгебры. Я ўглядаўся непрыкметна ў гэтых старых людзей і думаў: хто яны? Нашто ім алгебра? Пасля спытаўся: «Хто вы будзеце?» Яны абодва ўсміхнуліся і сказалі: «А як бы вы думалі — хто мы?» Я пацісnуў плячыма. «Мы былыя свяшчэннікі...»

«Вось,— гаварыў далей адзін з іх,— мы скінулі расы, пайшлі з народам... Паўтараем матэматыку, працуем у аддзеле народнай асветы...»

Мне было і дзіўна і ўцешна, я з нейкай невымоўнай удзячнасцю глядзеў на гэтых людзей, якіх рэвалюцыя вывела на сапраўдны шлях.

Я кватараваў у адным пакоі са студэнтам-медыкам. Мы не мелі чым ацяпляць кватэру. А за сцяною жыў нейкі працаўнік жалязкома і патрабаваў ад нас дроў, бо печка была супольнай. Мы хадзілі ноччу «экспрапрыіраваць» дровы праз дзірку ў плоце да суседа, у якога ўвесь двор быў завалены дрывамі. Служачы жалязкома стаў прыхільнейшы да нас, пачаў заходзіць на гутарку. Аказалася, што ён служыў справаводам у губернатарскай канцылярыі пры царызме. Мы гаварылі пра мастацтва. Жалязкомавец паказаў сябе добрым знаўцам і літаратуры, і мастацтва. Ён прыходзіў кожны вечар і ўпарта даводзіў, што опера — вышэйшае мастацтва, чым драматычны тэатр. Я паслухаўся і стаў хадзіць на оперы. Цяпер, успамінаючы гэтага чалавека, разумею, што ён меў добры густ і хацеў перадаць яго і нам. У нейкай меры ён дасягнуў сваёй мэты — я захапіўся операй, зразумеў душу гэтага мастацтва.

Нягледзячы на голад і холад, студэнтам, аднак, удавалася ладзіць масавыя вечарынкі, такія, напрыклад, як сустрэча Новага года. Рэй вялі медыкі. Студэнты групамі еха-

лі тады (вядома, на дахах вагонаў або на прыступках) да сваіх сёл, каб раздабыць мяса. Старажылы-самарцы прыносілі па кавалку хлеба. Усё гэта прымала выбраная камісія, старшыня якой якраз кватараваў са мною. Будучыя дактары ўжо ўмелі пісаць рэцэпты; яны пісалі на іх толькі spiritus vini і пранікалі ў аптэкі.

Што ж, галота здатная на выдумкі. Не было іншага выйсця. Хай выбачыць нам той баявы, цяжкі час. Ды ён нам даўно выбачыў. Студэнткі падпяразваліся фартухамі, кулінарылі на кухні, а другая частка студэнтак латала, рамантавала кашулі, курткі студэнтаў. І была такая, што і мне ўшыла гузік у гімнасцёрку і залатала дзірку на локці рукава — такая свая, таварыская, прыгожая... Пасля вячэры ішоў спектакль. Граў струнны аркестр, дэкламавалі «Буравесніка», «Песню аб Сокале» Горкага, волжскія вершы Някрасава, бурлацкія — Нікіціна, апавяданні Чэхава, «Пирует гордый Рим» Лермантава і г. д.

Хочацца пра ўсё гэта закончыць словамі Ясеніна з «Анны Снегінай»:

Далекие, милые были!..
Тот образ во мне не угас.
Мы все в эти годы любили,
Но, значит,
Любили и нас.

III

Шасцігадовае знаходжанне на Паволжы ў самую пару юнацтва сфарміравала маю душу, дало ёй зарад на ўсё жыццё, і такі зарад, якога можна пажадаць кожнаму юнаку і дзяўчыне нашага часу. Атрыбутамі гэтага зараду сталі бескампрамісная сумленнасць у поглядах грамадска-палітычных і наогул у жыцці, таварыскасць без фальшу, любоў да народа, разуменне чалавечага хараства, нянавісць да няпраўды, да здзеку, да глуму. Ідэалам — прыгожы, усебакова развіты чалавек.

З такім вось зарадам, у росквіце маладых сіл давялося вярнуцца на радзіму — у заходнюю частку Беларусі, якая трапіла пад акупацыю буржуазна-памешчыцкай Польшчы. Усё Паволжа ў той год з-за засухі ахапіў неўраджай, вынікам чаго быў голад і эпідэмія тыфу. Людзі падалі на дарогах і паміралі. З Паволжа сталі ўцякаць і мясцовыя людзі — на Урал, у Сібір. Беларусы, украінцы рушылі дахаты, на радзіму.

Калі я яшчэ вучыўся ў шостым класе Максімаўскай школы, пазнаёміўся, а пасля і пасябраваў з яўрэйскім хлопцам Барысам Фрэйдзіным. Яго бацькі з усёй сям'ёю жылі ў сяле пры станцыі Багатае — 20 вёрст ад Максімаўкі. Такой школы, як у Максімаўцы, там не было. Бацька Барыса быў краўцом. Ён прывандраваў з сям'ёю ў Самарскую губерню з Магілёўшчыны яшчэ ў 1908 годзе і пасяліўся пры станцыі Багатае, нажыў сабе домік і з сынамі займаўся кравецтвам (адзіная яўрэйская сям'я ў сяле). Барыса, як самага малодшага, вырашылі вучыць далей. Пасля я пазнаёміў з гэтай сям'ёю свайго бацьку. Калі мне даводзілася ехаць у павятовы горад Бузулук, дзе я вучыўся ў гімназіі, ці ў Самару, або наадварот, то я спыняўся ў Барыса нанач. Я помню, як прыемна мне было слухаць, калі мой бацька гутарыў з бацькам Барыса як даўні знаёмы. Яны расгаварылі пра Беларусь, успаміналі розныя прыгоды, расказвалі пра розныя выпадкі са свайго жыцця. І ў гэтым ужо было для мяне нейкае адчуванне Беларусі, як сваёй радзімы, хоць памяць, вядома, нямала захавала ўспамінаў з дзяцінства, але гэта ў сваёй большасці адышло далёка, паблякла, бо замянілася зместам новага жыцця ў новых абставінах.

...І вось мы на радзіме. Халодны, снежны лістапад 1921 года. Голад. Смерць бацькі, сястры, брата на працягу двух тыдняў. Я таксама на валаску ад смерці, хворы на тыфус. Пасля — праца на лесапільных заводах, жыццё ў бараках. Здзекі панскіх паганятых. Іншыя падзьмулі вятры, іншыя надышлі дні і ночы. Бязлітасная суровасць жыцця.

Той высакародны, высакалётны зарад, атрыманы на Паволжы, прыглушыўся, адбіваўся болем, чакаў свайго часу, каб праявіць сябе. Трапляе ў рукі першая газета на беларускай мове. Мне неяк і смешна было, але разам з тым і дзіўна і радасна. Няўжо можна друкаваць газеты на беларускай мове? Гэта ніколі не прыходзіла ў галаву. Аднак...

Так абуджалася мая нацыянальная свядомасць. Пасля паэзія Купалы і Коласа ўзняла цэлую буру пачуццяў, паставіла ўсё на свае месца. Я пачынаю пісаць першы верш па-беларуску, які пачынаўся так:

> Чаму цябе, мой родны край,
> Бяда запанасціла,
> Найгоршаю за ўсіх людзей
> Нядоляй надзяліла?

З гэтым вершам я, здаецца, уступіў на шлях барацьбы за родную краіну, і з таго часу верш зрабіўся ўжо частым

госцем. Так стаў расці ва мне беларускі паэт. Першы верш надрукаваны быў у 1927 годзе ў часопісе «Родныя гоні» ў Вільні.

Ваенная служба ў польскім войску (г. Торунь) пазнаёміла мяне з польскімі хлопцамі і наогул з Польшчай. Я не сустрэў у хлопцаў нічога варожага, а мая «інтэрнацыянальная закваска» заўсёды дапамагала мне знаходзіць сцежку да іх душы.

Адарвацца ад успамінаў аб сваёй маладосці, праведзенай на Паволжы, было немагчыма. Адбываючы ваенную службу, я скончыў школу падафіцэраў, стаў капралам, працаваў пасля сканчэння школы ў батарэйнай канцылярыі... Часова выконваў абавязкі бібліятэкара і выкладчыка геаграфіі і польскай мовы для салдат батарэі, палавіна якіх была з Беларусі, з Палесся. Начальства ўгаворвала мяне застацца на звыштэрміновую службу, абяцала нашыўкі і іншыя выгоды, але я, нягледзячы на тое, што дома панавала чорная беднасць, на гэта не згадзіўся. Не дапусціла да гэтага мая прыволжская маладосць. Я адчуў, што здрадзіць ёй — азначала б пацярпець душэўную катастрофу, азначала б не жыць.

Вярнуўшыся з ваеннай службы, я ўступіў у Камуністычную партыю Заходняй Беларусі, якая працавала ва ўмовах падполля. Гэта было ў 1926 годзе.

Размах беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ўзняў на ногі ўвесь народ, стаў асновай для стварэння палітычнай арганізацыі пад назвай «Беларуская сялянска-работніцкая Грамада». Кліка пілсудчыкаў вымушана была пайсці на ўступкі пад магутным напорам мас, якія ні аднаго дня не хацелі жыць пад акупацыяй.

Грамада — гэта быў наш легальны трыумф, гэта быў наш народна-рэвалюцыйны эпас. Яго дыханне не забыта народам і па сённяшні дзень. Нам, маладым, ды яшчэ з такім зарадам, які жыў ва мне, хапала захапляючай працы для народа. Мы не шкадавалі сваіх сіл — па закліку партыі ішлі ўсюды, мералі сваімі нагамі дзесяткі і дзесяткі кіламетраў, каб дайсці, данесці, каб выканаць заданне. Мы вучыліся быць агітатарамі, прапагандыстамі, публіцыстамі, паэтамі, мы адчувалі рытм народа, мы ўсёй душой яго любілі.

Надзеі пілсудчыкаў адносна Грамады не здзейсніліся — Грамада не пайшла на згодніцтва, бо ёю кіравалі камуністы. І таму Грамада (у ёй было ўжо сто тысяч членаў) была пілсудчыкамі разгромлена. Дэманстрацыі пратэсту

прашумелі па ўсёй краіне, і наша Косаўшчына аблілася крывёю сваіх сыноў на камуністычнай дэманстрацыі ў мястэчку Косава 3 лютага 1927 года. На дэманстрацыі было забіта пяць чалавек, паранена больш за дваццаць. Я тады быў членам павятовага камітэта Грамады. Ад гэтага крывавага 3 лютага пачалася і мая «крыжавая дарога». Пачаліся турэмныя гады. Сустрэча з ворагам твар у твар там, дзе павінна вырашыцца тваё «я», мае для чалавека глыбока маральнае значэнне. Тут вырашаецца, кажучы пераносна, куды ты пойдзеш: ці ў рай, ці ў пекла, ці будзеш дыхаць з народам адным паветрам, ці будзеш хавацца ад народа. Хвіліны ў дэфензіве ператвараюцца ў гадзіны, а гадзіны душаць, як цэлая вечнасць. Чаканне расправы — самае цяжкае. У ім чалавек вырашае аб сабе ўсё, падсумоўвае плюсы і мінусы, а ў душы ўсплывае самае дарагое.

У фашысцкіх турмах Польшчы, дзе я прабыў без малага адзінаццаць год, мне сустрэліся два чалавекі, якія асабліва ўразілі сілай свайго перакanання і непарыўнай сувяззю з народам. Першы — гэта Дубовік, сухарлявы, сутулы, з аскетычным тварам. Родам ён быў з Пружаншчыны. У гродзенскай турме, будучы сакратаром парткома, Дубовік клапатліва займаўся маім выхаваннем. Падбіраў часопісы, кнігі — польскія, рускія — і даваў мне. Пасля пытаўся, што мне спадабалася з прачытанага ў галіне мастацкай літаратуры. Вяліся дыскусіі. У характары Дубовіка былі рысы ўпартасці, неадступнасці, некаторая прасталінейнасць. Гутарка з ім падымала ў маіх вачах узровень рэвалюцыйнага руху на Заходняй Беларусі і наогул у Польшчы. Я не ведаю, ці жывы Дубовік і дзе ён.

Другім чалавекам, які пакінуў след, быў Фёдар Барысавіч Пырышка, адзін з сакратароў ЦК КПЗБ. Ён цяпер жыве ў Вільнюсе. Тады Пырышка быў вядомы пад падпольным прозвішчам Шчапанскага (украінец па нацыянальнасці). У гутарках з ім я адчуў, што шлях рэвалюцыянера-камуніста — гэта шлях вялікай адказнасці за народ, за яго будучыню. Гэты шлях не дае палёгкі, а, наадварот, стварае ўсё новыя і новыя выпрабаванні. Ад іх рэвалюцыянер павінен браць сілу і маладосць.

Пырышка быў сур'ёзным камуністам, чалавекам вялікай унутранай сілы. Ён вельмі чула і разумна ставіўся да нас, маладых, многае нам выбачаў, а гэтым самым падымаў, умацоўваў, напаўняў нас пачуццём непахіснасці ў барацьбе. Я тады зразумеў, якіх людзей можа выхаваць Камуністычная партыя! Ад гэтага ўсведамлення мая галава



Піліп Пестрак
выступае на пленуме Саюза пісьменнікаў БССР.
*1948 г.*



У час адпачынку з жонкай і дзецьмі.
*Адэса, 1950 г.*

горда падымалася ўверх, і вочы глядзелі ў далёкія, ясныя далі. Павароту назад, да шэрых, зануджаных хатніх будняў, ужо няма — застаўся толькі ён — баявы шлях.

Яшчэ можна прыпомніць Лазара Рыгоравіча Шайкоўскага, які, калі мы хадзілі ў Лукішках на прагулцы адзін за адным («гусем»), вісеў над маёю спіною і бесперапынку расказваў пра дыялектычны матэрыялізм. Я з задавальненнем слухаў яго, паважаючы яго розум, такт, падрыхтоўку і вялікую аддапасць нашай агульнай справе. Яшчэ ўсплывае часам у памяці адна гутарка з Арсенем Канчэўскім, таксама сакратаром ЦК КПЗБ, яшчэ ў 1928 годзе ў Вільні. Эрудзіраваны Канчэўскі меў трапяткую душу рэвалюцыянера, ён увесь час нібы спяшаўся, гаварыў, калі распранаўся і вешаў паліто, і канчаў гаварыць, калі апранаўся. У Канчэўскім мяне захапляла стыхія «вечнага рэвалюцыянера» і, апрача ўсяго, вельмі падабалася яго прыгожая беларуская мова. (Канчэўскі адпачывае вечным сном у Мінску на ваенных могілках.)

Я, ідучы праз турмы, не толькі зразумеў, я палюбіў марксізм, які ўрэшце адкрываў мне ўсе загадкі быцця, адкрываў усе замкі ад усіх дагэтуль нязведаных дзвярэй. Марксізм — гэта душа развіцця чалавечага грамадства, квінтэсенцыя разумення жыцця ў яго дыялектычнай бясконцасці. Разам з тым марксізм — гэта канкрэтная зброя для канкрэтнага дзеяння. Праз турэмныя гады я засвоіў марксізм як навуку. Мы, праходзячы праз турмы, рыхтавалі сябе да вялікай працы на сваёй беларускай зямлі.

Разам з марксізмам-ленінізмам уваходзіла ў душу этычна-эстэтычная ацэнка пралетарыяту. Якая ж павінна быць псіхалогія ў рабочага класа? Яна разумелася як калектывізм, салідарнасць, таварыскасць, бескарыслівасць, ідэалагічная загартоўка.

У 1933 годзе, адбыўшы пяць год турмы, я прыехаў у Варшаву ў ЦК КПЗБ. Ад вакзала ехаў трамваем. Я стаяў на пляцоўцы сярод людзей у паношаных кепках, капелюшах. Яны спыталіся, на якую вуліцу мне трэба. Я паглядзеў на іх і даверыўся — сказаў. Яны, як толькі спыніўся трамвай, нават памаглі мне сысці. Я зразумеў, што яны адгадалі «нешта» ва мне. Гэта былі рабочыя. Гэтае «нешта» падказала ім іх класавае чуццё.

Трэба сказаць, што падпольная работа і ўсё тое, што належыць да канспірацыі, выпрацоўвае ў чалавека своеасаблівае стаўленне да свету. Гэта перш за ўсё скрытнасць, глыбокая душэўная скрытнасць, гэта хаванне вялікай та-

ямніцы, як святыні. А гэтая таямніца належыць толькі народу, і вобраз яго не выходзіць з памяці кожны дзень, кожную хвіліну. Служэнне народнай справе робіцца пастунова арганічным зместам жыцця. Камуніст, ды яшчэ падпольшчык,— гэта суровы вартаўнік народных інтарэсаў, які носіць, хавае ў душы самае дарагое для народа.

Я па-сапраўднаму пазнаў падпольную дзейнасць, калі мне ў якасці інструктара ЦК КПЗБ давялося працаваць у Пінскай акрузе — у 1933—1934 гадах. Найвялікшае шчасце для падпольшчыка-камуніста — адчуць народнае прызнанне, даведацца, што людзі з народа разумеюць цяжкасці ў працы камуністаў-падпольшчыкаў, працы, якая з'яўляецца не чым іншым, як штодзённай самаахвярнасцю для народа. Працоўныя — рабочыя і сяляне — гэта разумелі і таму абкружалі камуністаў-падпольшчыкаў сапраўднай любоўю. Мне помніцца адзін такі выпадак з працы на Піншчыне. Я прыйшоў марознай ноччу з вялікай дарогі ў вёску Выжлавічы, у знаёмую канспіратыўную хату. Гаспадыня дала мне павячэраць і, калі ўбачыла, што мною авалодвае дрымота, паслала мне на лаве сяннік з падушкай і дзяругай. Я лёг, а гаспадыня са сваімі дочкамі селі за прасніцы, сталі прасці. Я засынаю і раптам чую, што нехта асцярожна падымае мае ногі і падкладвае пад іх каптан, бо сяннік быў закароткі і ногі ляжалі на голай лаве. Гэта рабіла гаспадыня. Ад такога дотыку, гаворачы словамі Максіма Багдановіча, «помню — я на міг пахарашэў душою». Абставіны былі суровыя да жудасці — тым большая накаплялася ласка ў душы. Яна часам кіпела гневам, аж да слёз. Гэтая ласка жыла ва ўсім прыгнечаным народзе, гэта непераможная народная сіла — любоў.

Не магу не ўспомніць пра Кузьму Палешука, таксама члена КПЗБ, які і зараз жыве ў сваёй вёсцы Галева, недалёка ад Пінска. Першая сустрэча з ім адбылася ў склепе. Кузьма толькі што выйшаў з турмы. Мы сядзелі на халоднай бульбе, між намі стаяў ліхтар «лятучая мыш». Са знаёмства з Кузьмою, і наогул з яго сям'ёй, я зразумеў, што нейкія свае традыцыі жывуць сярод людзей. Кузьма Паляшук бедняком не быў [...], але быў крыштальна чыстым членам кампартыі. Ён і яго жонка ахвяравалі ўсім для камуністаў-падпольшчыкаў. Нібы казацкімі традыцыямі павявала ад гэтай сям'і. Помню, на камодзе стаяў раскошны партрэт Тараса Шаўчэнкі.

Гэта ўсё разам гаварыла мне аб сіле нацыянальна-выз-

валенчага руху, аб палітычнай свядомасці, актыўнасці народа.

Хочацца ўспомніць яшчэ пра сям'ю дзядзькі Аляксея Глінскага ў вёсцы Выжлавічы, там жа на Піншчыне. Пры цьмяным святле лямпы прадзе гаспадыня. Сам гаспадар спіць на печы. Я ляжу на лаве, апрануты і абуты, бо мне на світанні трэба ісці ў дарогу. На палку спіць адзінаццаць дзяцей, адно другога меншае, і гаспадыня цяжарная дванаццатым. Яна прала ўсю ноч. Ад знямогі прылегла на хвілін пяць тут жа пры кудзелі, а потым усхапілася, і верацяно зноў пачало свае скокі ў яе руках. Я ляжаў у паўдрымоце і ўсё бачыў. Гэта была бядняцкая сям'я. Часам і цяпер успамінаю гэтую сям'ю, і ў мяне заўсёды нараджаюцца думкі аб цане жыцця ў абставінах чорнай беднасці. І вось такія з'явы, вобразы давалі сілу і ўпэўненасць у лепшае заўтра. Лягчэй жылося з імі ў душы. Гэта яшчэ больш умацоўвала, паглыбляла кантакт з народам, а значыць, і любоў да яго. З такою зарадкай ішоў чалавек і ў турму.

Турма не з'яўляецца вялікай пакутай, калі чалавек жыве ў калектыве, у масе. Жыццём у турме кіравала партыя. Усе пасылкі, перадачы аддаваліся галоўнаму капцёру, які дзяліў усё па камерах. Купля прадуктаў за свае грошы ў турме планавалася галоўным капцёрам. Такі парадак называўся ў нас камунай. Дзялілі і адзежу — давалі тым, якія не мелі бацькоў. Турма сапраўды была школай рэвалюцыянераў.

Першае маё зняволенне пачалося пасля 3 лютага 1927 года, калі адбылася Косаўская камуністычная дэманстрацыя. Праз усе амаль адзінаццаць турэмных год мне даводзілася быць у турэмным активе палітзняволеных — то сакратаром камернай тройкі, то загадчыкам агітпропа, то членам парткома, членам ТК (турэмнага камітэта), а ў апошнія тры гады — 1937, 1938, 1939 — сакратаром турэмнага камітэта ў гродзенскай турме. Апрача ўсяго, даводзілася быць настаўнікам — выкладаць і граматыку, і арыфметыку, і геаграфію нашым беларускім непісьменным і малапісьменным хлопцам. Турма сапраўды была пераўтворана намі ў народны універсітэт. Непісьменныя і малапісьменныя хлопцы, адбыўшы чатыры ці пяць год зняволення, выходзілі з турмы пісьменнымі, падкаванымі. Так, напрыклад, у гродзенскай турме была камера, у якой магло змясціцца семдзесят чалавек. Яе празвалі вакзалам. Там у 1927 годзе ладзіліся лекцыі па гістарычнаму матэрыялізму.

Выкладчыкамі былі адукаваныя камуністы. Гэтая наша «ідылія», вядома, трывала нядоўга. Выкладчыкаў перасла-лі ў другія турмы, трэба было вучыцца паасобку па каме-рах. І такое навучанне таксама давала добрыя вынікі.

Увядзенне фашысцкага турэмнага рэгламенту з 1932 го-да пакончыла з лібералізмам. Насталі цяжкія турэмныя гады. Барацьба палітзняволеных за паляпшэнне свайго жыцця вялася з малымі перапынкамі на працягу многіх год. Самым цяжкім спосабам барацьбы была галадоўка. За ўсе турэмныя гады ў мяне набралася трыццаць шэсць дзён галадоўкі. Сістэма тэрору, якая ўжывалася супроць нас, была сістэмай павольнага знясілення людзей.

Тэрор асабліва клаўся цяжарам на маладых, незагарта-ваных хлопцаў і дзяўчат. І мне давялося прайсці гэтую па-кутлівую сцежку. Першае знаходжанне ў абсалютна цём-ным карцэры паказала мне, наколькі можа быць цярплівым чалавек. Быць сорак восем гадзін у каменным, сырым мяш-ку — гэта падобна павольнаму кананню. Аднак чалавек, калі ён мае перад сабою вялікую мэту, знаходзіць у сабе сілы, каб зраўнаважыць свае пачуцці. І гэта ўжо ёсць гар-таванне для новай барацьбы.

Мне давялося праз усе свае турэмныя гады пабываць у чатырох турмах — у пружанскай, як самай блізкай ад нашай мясцовасці, у гродзенскай, пінскай і віленскай (Лу-кішкі). Самай цяжкай турмой была пінская. Я трапіў у яе ў 1934 годзе, калі там палітычныя былі ўжо змешаны з крыміналістамі. Гэта быў вынік увядзення фашысцкіх па-радкаў.

...Мяне прывялі з дэфензівы ў турму ўжо цёмна ўвеча-ры, адзелі ў турэмную адзежу, далі сяннік і коўдру, па-шытую са шматкоў, і кінулі ў камеру. Людзі ўсе стаялі, як лес, і чакалі каманды сцяліць пасцелі. Каманда павінна бы-ла быць ад старшага па камеры, прызначанага турэмным начальствам. Цэлая пяцёрка старшых сядзела за сталом і гуляла ў нейкую гульню. Гэта былі, як я потым даведаўся, рэцыдывісты. Яны рабілі ў камеры што толькі хацелі: білі каго хацелі і колькі хацелі. Калі даведаліся, што я ўжо ад-быў пяць год турмы, пачалі ставіцца да мяне больш асця-рожна і памяркоўна. Усе клаліся спаць на падлозе. Назаўт-ра зноў стаяў лес людзей у расхрыстаных турэмных ка-шулях. Старшы камеры браў у кутку бярозавы венік і агузкам пачынаў біць усіх па галовах, без разбору, прыга-ворваючы: «А чаго вы зажурыліся, сукіны сыны! Усе ся-дайце!» Усе з шумам садзіліся. А потым гэты хам пачынаў

зноў біць усіх па галовах і прыгаворваць: «А хто вам казаў садзіцца? Га? Устаць!» Усе з шумам уставалі. І так здзек з людзей паўтараўся некалькі разоў. Мяне хам не чапаў.

У камеры ўсе былі крыміналісты. Яны трапілі ў турму за розныя пакражы. Быў і незвычайны злодзей — улез у мануфактурную краму і ўкраў тканіны на плацце для сваёй каханай дзяўчыны. За такое «рыцарства» хлопец атрымаў тры гады. Я пачаў заводзіць з хлопцамі гутаркі, даводзіць, што нельга дазваляць сябе біць. Яны паціскалі плячыма: «А што ты зробіш? Іх сіла...» Нечыя вочы сачылі за мной, і пасля абеду прыйшоў старшы дазорца, які славіўся мардабоем, тыцнуў у мяне пальцам і сказаў: «Забіраць свае рэчы і выходзіць...» І я трапіў да сваіх, да палітычных. Іх было ў камеры шэсць чалавек.

Мне давялося прабыць у пінскай турме больш двух год і ўвесь час пад следствам. У лістападзе 1935 года я пасля шасцідзённай галадоўкі трапіў у Вільню, на Лукішкі. Везлі мяне скаванага два паліцыянты. У вагоне, у купэ, хвост ланцуга замацавалі на замок за ножку лаўкі. Два паліцыянты, дзве дубіны, баяліся, каб я не ўцёк. Да палавіны дарогі паліцыянты са мной не гаварылі. А потым разгаварыліся, нават раскавалі рукі, далі мне магчымасць з'есці кавалак хлеба.

Камуністычны рух быў абкружаны арэолам гераізму. Гэта адчувалі нават паліцыянты. Калі вялі мяне ўжо ноччу па Вільні да турмы, я ім сказаў, каб не баяліся мяне, што я ўцякаць не буду, што ўсё роўна перамога будзе наша. Паліцыянты пакруцілі галовамі. Адзін толькі сказаў: «Якая ўпэўненасць!»

Турма Лукішкі пасля пінскай здалася мне раем. Адносіны да палітзняволеных былі амаль што нармальныя — хлопцы мелі сшыткі, чарніла, кожны тыдзень прыходзіў бібліятэкар з каталогам, па якому ты мог выбраць сабе кніжкі. Ён жа іх і прыносіў. Але затое хлеб быў з мукі грубага памолу, з асцюкамі, і толькі 15 хвілін прагулкі, як і ў пінскай турме.

На Лукішках сядзела па два чалавекі ў адзіночцы, агульных камер для палітычных не было. Там я сустрэў Валянціна Таўлая і Якуба Міско, які зараз працуе ў «Калгаснай праўдзе» намеснікам рэдактара. Мы пачалі адначасова выданне турэмнага часопіса «Краты».

Аказалася, што мяне прывезлі ў Вільню на суд. Паліцыя пры вобыску ў рэдакцыі «Беларускай газеты» ў Вільні

знайшла мае вершы, і гэтага было дастаткова для пракурорска-следчых органаў, каб пасадзіць мяне на лаву падсудных разам з Таўлаем, Міско і іншымі. У Пінску справы рабіць не хацелі, каб не выкрыліся правакатары, канфідэнты (даносчыкі).

Трэба сказаць, што на судзе мы добра выкарысталі месца падсудных — выкрылі махінацыі пракурора, сышчыкаў, кляймілі ганьбай фашызм. У той час фашысцкая рэакцыя гуляла па краіне з бізуном і палкай, і мы не шкадавалі для яе ганебных эпітэтаў.

«Польскі эканаміст Станіслаў Сташыц яшчэ ў XVIII стагоддзі патрабаваў звальнення сялян ад паншчыны. Ён са спачуваннем апісваў жыццё прыгоннага польскага селяніна, які жыў разам з жывёлай, валяўся ў гнаі. Цяпер XX стагоддзе, а заглянем у хату да палескага селяніна — ці ж вялікую ўбачым розніцу паміж становішчам селяніна ў XVIII стагоддзі і цяпер? Не, розніца вельмі невялікая... Як жа нам не быць радыкальнымі?»

Такія вось прыкладна выказваў я думкі, пярэчачы пракурору, які дакараў мяне за радыкалізм. «Не дзіўна,— гаварыў я,— што нават беларускі паэт-ксёндз Казімір Сваяк стаў пісаць бунтарскія вершы, што бунт уварваўся пад сутану...» І я тут жа зачытаў урывак з верша Сваяка, у якім ён ужо не чакаў збаўлення для беларускага народа ад бога.

«Чым ноч цямней, тым ярчэй зоры»,— закончыў я сваё ўсхваляванае выступленне.

Хутка пасля нашага суда краіну абляцела незвычайная вестка: камсамолец Сяргей Прытыцкі выстраліў у правакатара Стральчука ў зале суда ў Вільні. Гэта было ў пачатку 1936 года. Сяргей быў асуджаны на пакаранне смерцю праз павешанне. Яго трымалі ў ізаляцыі, але мы яго бачылі, калі ён праходзіў па панадворку, кульгаючы, абапіраўся на мыліцу. Мы ведалі, што Сяргея параніла паліцыя, калі ён пасля расправы са Стральчуком спускаўся па сходках, каб уцячы на вуліцу. Ён увесь быў у ранах. Сяргею ў турме, у шпіталі, была зроблена аперацыя. Пра гэта многа напісана, так што не буду паўтарацца.

Але народ не даў Сяргея Прытыцкага на расправу катам. Апрача дэманстрацый, петыцый, польскі рабочы клас адказаў фашыстам аднадзённай забастоўкай на фабрыках і заводах Вільні, Гродна, Пінска, Брэста, Варшавы, Беластока, Львова, Лодзі, Познані. І Сяргея выратавалі ад смерці.

Подзвігам Прытыцкага была даведзена ворагам неўмі-

ручасць кампартыі як авангарда працоўных у вызваленчай барацьбе. Мы славілі Сяргея, кожны з нас ганарыўся ім.

З усіх падзей, якія адбываліся ў Польшчы (дэманстрацыі, забастоўкі), са знаёмства з гісторыяй польскага рабочага руху я пачаў разумець польскі рабочы клас, яго спецыфіку, палюбіў польскі народ. Гэтае збліжэнне рабілася ўсё больш трывалым, рабочы клас і ўсе працоўныя Польшчы станавіліся сваімі, братамі, баявымі салдатамі ў адзінай вялікай арміі працы, арміі рэвалюцыі. Класавая барацьба ў Польшчы выхоўвала ў нас пралетарскую салідарнасць, прарочыла адзіную мэту — вызваленне ад ярма капіталізму.

З гэтага ўсяго стане зразумелым, чаму мая літаратурна-мастацкая практыка шукала новых шляхоў, не была задаволена старымі канонамі. Першае знаёмства з Уладзімірам Маякоўскім было аглушальным і не зусім зразумелым. Толькі пасля частага чытання дайшоў да душы трыбунны пафас паэта. Аднак адчувалася, што для адлюстравання беларускай рэчаіснасці, відаць, нельга было механічна браць здабытае Маякоўскім. Беларуская паэзія павінна мець свае формы, якія парывалі б са старой лірыкай і ўспрымалі б новы змест жыцця ў формах, блізкіх да форм Маякоўскага.

Надышла паласа канструктывізму. Мне падабалася гэтая, па сутнасці, фармалістычная, плынь за лаканізм, за адбор слова, за арыгінальнае выказванне думкі, нават за аддаленыя «мудрагелістыя» асацыяцыі. Са сваіх вершаў, напісаных у манеры канструктывізму, я назаву таго часу, напісаных у манеры канструктывізму, я назаву такія: «Голад», «Гамлет», «Каласы».

Што датычыць уплываў, яны ішлі з дзвюх крыніц — з савецкай і польскай. Само сабою разумеецца, што савецкая ўключала ў сябе і паэзію ўсходняй часткі Беларусі. Што датычыць уплываў канкрэтна блізкіх, то я чаму-кольвечы павучыўся, напрыклад, і ў польскага паэта Бранеўскага. Мой верш «Паэзія» навеяны вершам Бранеўскага пад тою ж назвай.

Потым надышла пара асуджэння канструктывізму за яго адарванасць ад чытача, ад народа. У Лукішках у 1935—1936 гг. па апрабацыі ТК мы з нябожчыкам Таўлаем вялі пісьмовую дыскусію аб новых шляхах беларускай паэзіі. Наша перапіска чыталася ў ТК. Многа я даў бы ці́ўяпер за тое, каб мець гэтую перапіску (нашы пісьмы пісаліся на стужках з абгортачнай паперы). Помню, што я выказваў у асноўным такія думкі: паэзія ёсць усюды; паэ-

ты павінны пісаць аб з'явах і рэчах блізкіх, знаёмых для народа; трэба імкнуцца да змястоўнай, прыгожай прастаты. Была гутарка аб розных плынях у беларускай паэзіі таго часу на Заходняй Беларусі. Мае выказванні, напрыклад, пра вершы Казіміра Сваяка з лагера беларускай хадэцыі натхнілі Таўлая напісаць тады даследаванне пра гэтага паэта-ксяндза. Сваяк прыкоўваў увагу сваёй трагедыяй, якая заключалася ў тым, што душою ён быў з народам, а каталіцкая ідэалогія накладвала на яго путы, адрывала ад народа, але парваць з ёю Сваяк не здолеў. Такое раздваенне ўвагнала яго ў сухоты, і ён памёр на 36-м годзе жыцця.

Верш «Паэзія», які я лічу сваім лепшым вершам (выношваўся на этапах пару год), напісаны таксама ў Лукішках і надрукаваны быў у нашым турэмным падпольным рукапісным часопісе «Краты». У Лукішках я пачаў пісаць і невялікія апавяданні ў чэхаўскай манеры. Некалькі з іх таксама былі змешчаны ў «Кратах».

У Лукішках мы прабылі год, потым нас перавезлі ў Гродна. Тут мы — Валянцін Таўлай, Якуб Міско і я — апынуліся ў адной камеры.

Лежачы побач на нарах, мы вялі начамі доўгія гутаркі, перабіралі ўсё наша беларускае жыццё-быццё. Ужо чаго, а смеху было даволі. Адны штаны, якія насіў Таўлай, заўсёды былі прадметам бясконцай сатыры. Былі гэта турэмныя штаны, але да таго падраныя, што я ў жыцці не бачыў такой падранай адзежыны. Толькі адна паясніца была цэлая, а ўся рэшта — гэта нейкія раскудлачаныя шматкі. Таўлай надзяваў іх з эпічным спакоем і, памыўшыся, браўся ці то за чытанне, ці пачынаў што-небудзь пісаць. Так мы і дасядзелі да слаўных дзён вызвалення.

Нам удалося пакінуць турму яшчэ да прыходу Чырвонай Арміі, але ў той жа дзень паліцыя палавіла нас на вуліцах, у парку і загнала назад у турму. Ворагі зачынілі за намі турэмныя брамы нанова. Гэта былі нашы перадсмяротныя гадзіны. Вярнуўся начальнік турмы і ўся адміністрацыя, каб нас расстраляць. Але ўжо на другі дзень загаварылі кулямёты, вінтоўкі на вуліцах Гродна. Чырвоная Армія ўступіла ў горад і пачала бой з польскімі часцямі, якія складаліся з паліцыі, турэмных дазорцаў, фашысцкай моладзі і іншых легіянераў. І гэта нас выратавала. На трэці дзень бою зранку пайшла ў ход артылерыя, і ноччу горад Гродна быў вызвалены. У турму прыйшла ўзброеная рабочая гвардыя і вывела нас на турэмны двор. Мы зараз

жа выбралі рэўком, сакратаром якога стаў я, узброіліся. Першым быў загад, каб жыхары Гродна, хто мае, здалі зброю. Аўтарытэт рэўкома быў моцны — людзі неслі карабіны, шаблі, рэвальверы. Пасля стварылі Камітэт рабочай міліцыі, які трымаў уладу да стварэння «Тымчасовага ўпраўлення». Мы ўвесь час былі ў дазоры, амаль не спалі, паспявалі ўсюды, елі на хаду, клаліся адпачываць на крэслах.

Потым прыехаў з Мінска ўпаўнаважаны ЦК КП(б) Беларусі Іван Якаўлевіч Кульбацкі. Аб ім у нас, турэмнікаў, засталіся самыя лепшыя ўражанні і ўспаміны. У ім я палюбіў тое спалучэнне партыйнага работніка і чалавека-таварыша, якое, на мой погляд, і павінна быць узорам для кожнага партыйца. Груваcткая, мітуслівая работа тых дзён у Гродна накіроўвалася ім з веданнем справы, з пільнасцю, з поўным даверам да нас. Так і надышлі выбары дэпутатаў на Народны сход у Беласток. Па адной з акруг Гродна быў выбраны і я.

Сход у Беластоку з'явіўся магутным выяўленнем радасці, якая не месцілася ў зале. Народ нацярпеўся так, што кожнае слова, сказанае тым ці іншым прамоўцам з трыбуны, выклікала буру воплескаў, і лозунгі стыхійна вылятлі адзін за другім. Народны сход выбраў паўнамоцную камісію з 60-ці чалавек, у склад якой трапіў і я.

Мы, як выбраная камісія, паехалі ў Маскву на V нечарговую сесію Вярхоўнага Савета — перадаць дэкларацыю нашага Народнага сходу: прасіць Вярхоўны Савет прыняць былую Заходнюю Беларусь у састаў БССР, а тым самым і ў састаў Савецкага Саюза. Дэкларацыю чытаў Сяргей Прыгыцкі.

Цэлыя гады жылі мы ў змрочных турмах і,трапіўшы ў Крэмль, аж вочы заплюшчвалі ад бляску і шырыні залаў. Першыя дні хадзілі з аглядкай. Мы не ведалі, як пераходзіць вуліцу, і, мабыць, збоку смешна было глядзець на групку людзей, якая перабягала вуліцу, уцякаючы ад машын. Вялікае ўражанне зрабіла на мяне метро, асабліва станцыя Плошча Рэвалюцыі і станцыя Маякоўскага. Я гаварыў нашым хлопцам: «Вось гэта і ёсць сацыялістычны рэалізм».

Пасля нечарговай сесіі былі праведзены па вызваленых заходніх абласцях выбары дэпутатаў у Вярхоўны Савет СССР. Ад Гродзенскай акругі выбралі і мяне. У той час я стаў працаваць старшынёй аддзялення Саюза

пісьменнікаў БССР у Беластоку. На гэтай рабоце і захапіла мяне вайна.

З твораў, напісаных пасля вызвалення Заходняй Беларусі і да пачатку вайны, лічу самым лепшым верш «Даўні знаёмы».

Сустрэча ў першыя дні вызвалення ў Гродна з паэтам Аляксеем Сурковым яшчэ раз пацвердзіла мае меркаванні аб напрамку паэзіі. У Суркове я адчуў паэта ў шынялі. Гэта — паэт народнай плыні. І гэта мне было па душы.

За час вайны мною напісана вершаў дваццаць. Умовы былі такія, што не да пісання. Я з сям'ёю ішоў пеша з Гродна на ўсход і дайшоў да Лельчыцкага раёна. Пакуль трапіў да партызан, пражыў год у глухой лясной вёсцы. Пасля сямімесячнага знаходжання ў партызанах (злучэнне Житомірскай вобласці пад камандаваннем генерал-маёра Сабурава) быў адпраўлены на самалёце ў Маскву. Працуючы ў партызанскай газеце, напісаў некалькі вершаў.

Пасля вайны, канчаючы 1947 годам, мною напісана нешта вершаў з трыццаць. Затым перайшоў на прозу, бо ў вершах не было патрэбнага росту. Чаму? Блытаніна, створаная безадказнай крытыкай, не давала магчымасці падысці да рэчаў і з'яў са сваёй меркай, са сваім бачаннем свету, што для паэта і наогул для пісьменніка абсалютна неабходна. Проза ж давала мне большыя магчымасці расказаць аб тым, што я перажыў.

Пасля некалькіх апавяданняў пачаў пісаць раман «Сустрэнемся на барыкадах». Гэты раман вырас з глыбы перажытага часу.

У нас часта крытыкі вельмі лёгка прыпісваюць усім празаікам уплыў Горкага, а ўсім паэтам — Маякоўскага. І гэта робіцца a priori, заплюшчыўшы вочы. Яны думаюць, што выказваюць дасціпныя думкі, а на самой справе трапляюць пальцам у неба. Гэта ж найлягчэй. Мне думаецца, што ўплыў на таго ці іншага пісьменніка ідзе не ад аднаго папярэдніка — ён ідзе наогул ад усёй літаратуры мінулага часу з ухілам да таго ці іншага пісьменніка-папярэдніка. Думаецца, што такая пастаноўка пытання будзе бліжэй да праўды. Усе рускія пісьменнікі, прачытаныя мною, пачынаючы ад Радзішчава, мне падабаюцца — кожны з іх па-свойму арыгінальны, кожны па-свойму мастак. І гэта добра. Аднак я вяртаюся да Гогаля, час ад часу яго перачытваю яшчэ раз і кожны раз захапляюся глыбей. Напрыклад, ніхто не сказаў, як Гогаль: «Редкая птица до-

летит до середины Днепра...» І вось гэтая паэтычная дынаміка Гогаля прыйшлася мне найбольш да густу. Напаўненне ж твораў філасофскай задумай мы маем найбольш у Максіма Горкага. Выйшаўшы з глыбінь рускага народа і панёсшы на сваіх плячах, здаецца, усю накопленую крыўду, Максім Горкі шукаў той адзінай праўды, якая б выратавала народ з няволі і варварства. Філасофскае бачанне Горкага афарбоўвала рускае жыццё глыбокай народнай любоўю. Без гэтага няма цвёрдага грунту пад нагамі, няма перспектыў. Гогаль, як ні біўся, каб знайсці гэтыя перспектывы, так і не знайшоў. На пераломе XIX і XX стагоддзяў на шырокае народнае поле выйшаў Максім Горкі з горда ўзнятай галавой, насустрач узыходзячаму сонцу — сонцу свабоды.

У рамане «Сустрэнемся на барыкадах» дамінуе ўплыў Гогаля і Горкага. Гэта не значыць, што няма веянняў і другіх пісьменнікаў, у прыватнасці, польскіх. Для мяне польская літаратура пасля рускай займае другое месца. І таму не дзіўна, калі ў адным месцы рамана на хвіліну ўрываецца Жаромскі (мне падабаецца яго пафас, яго інтымная лірыка), у другім месцы — наша зямлячка Эліза Ажэшка са сваёй задумнай лірыкай беларускіх палёў. Больш ніякіх уплываў няма. Усё разам у цэлым — гэта ўласны комплекс. Раману «Сустрэнемся на барыкадах» пашчасціла ў тым сэнсе, што ён дзякуючы перакладам шырока дайшоў да рускага і ўкраінскага чытача. Гэтаму памог светлай памяці А. А. Фадзееў — гэты эрудыт і гуманіст нашага часу. Ён быў вялікім другам літаратуры.

Мае апавяданні, сабраныя ў зборніку «Лясная песня», я лічу пераходнай фазай да больш шырокага палатна. Мне асабіста апавяданні падабаюцца — не таму, вядома, што яны мае. Некаторыя з іх, на маю думку, могуць служыць сведчаннем пэўнага росту для мяне ў сэнсе майстэрства. Матывы народнага гумару ўведзены мною ў апавяданні свядома. Я думаю, што гогалеўскія, чэхаўскія традыцыі забываць не варта, бо інакш для літаратуры можа стварыцца пагроза закамянець на пэўных канонах.

З практыкі лічу, што толькі ўласныя назіранні за жыццём народа даюць упэўненыя, трывалыя ўражанні. У гэтым пераканалі мяне паездкі па Беларусі, Польшчы, турысцкая паездка ў Чэхаславакію. «Што напісана пяром, не высечаш тапаром»,— гаворыць руская прымаўка. Адпаведна гэтаму можна сказаць: што ўбачыў сваімі вачыма, тое можа стаць маторам тваёй душэўнай стыхіі. А гэ-

та ўжо вялікае дасягненне. Яно здабываецца цяжка, нават крывава. Гэта ж і з'яўляецца лёсам, спецыфікай пісьменніка.

Напісаўшы раман «Сустрэнемся на барыкадах», трэба сказаць — напісаўшы ў цяжкіх для мяне ўмовах, я паставіў кропку. Не, правільней будзе сказаць — паставіў шматкроп'е. Мяне падымаюць новыя тэмы, новыя плыні, якія безумоўна, будуць пераклікацца з раманам «Сустрэнемся на барыкадах», раманам, які вырас з глебы перажытага часу.

## СЛОВА ПРА ШОЛАХАВА

*(Да шасцідзесяцігоддзя з дня нараджэння)*

Вялікі Ленін у свой час гаварыў, што талентаў у народзе непачаты край. Толькі памешчыцка-капіталістычны лад душыў, губіў іх, трымаючы працоўных у эксплуатацыі і цемры. Вялікі Кастрычнік парваў, знішчыў гэтыя перашкоды, адкрыўшы працоўным масам дарогу да свабоднай працы, да асветы.

Міхаіл Аляксандравіч Шолахаў з'яўляецца іменна тым сапраўдным талентам, які выйшаў з народных мас і, успрыняўшы розумам і сэрцам новы лад, даў свету вялікасны твор-эпапею — «Ціхі Дон».

Можна з пэўнасцю сказаць, што сярод твораў савецкіх пісьменнікаў, народжаных рэвалюцыяй, па маштабнасці, па сіле эпікі і народным лірызме, па трагічнасці перажыванняў няма роўнага «Ціхаму Дону» Шолахава. Падзеі ў рамане разгортваюцца на працягу дзесяці год, пачынаючы з 1912-га і канчаючы 1922 годам. Калі выйшлі з друку першыя два тамы, аўтару было ўсяго дваццаць тры гады. Так рана і плённа сфармавалася свядомасць маладога Шолахава. Такому фармаванню памаглі ў першую чаргу, як і трэба было чакаць, яго паходжанне з народных нізоў і простая фізічная праца ў рабочай масе. Прыехаўшы ў Маскву ў 1922 годзе, Шолахаў працаваў каменшчыкам і грузчыкам. Паступіць на рабфак яму не ўдалося.

Здабываючы веды самаадукацыяй, фармуючы ў сабе марксісцкі светапогляд, Шолахаў у «Ціхім Доне» паказаў глыбіню свайго мыслення, бо ў аснову эпапеі, складанай кампазіцыйна-сюжэтна, закладзена ідэя гістарычнай зака-

памернасці. Шолахаў паказаў народ у рэвалюцыі, раскрываючы логіку гістарычнага дзеяння. Без такой мэтанакіраванасці мы не мелі б «Ціхага Дона» такім, якім яго мы ведаем.

І ў гэтай, здаецца, неабдымнай карціне — і падзей, і пейзажаў, і лірычных адступленняў — цэнтральнае месца займае трагедыя сям'і Мелехавых, гісторыя адносін Аксені, Рыгора Мелехава і Наталі. У такім паказе жыцця адчуваецца геніяльная вытрымка аўтара, каб у шырокім, стракатым кангламераце падзей не згубіць асноўнага — таго стрыжня, на якім трымалася ў той час уся механіка грамадскага руху, тая логіка барацьбы, якая ўцягнула ўсе сілы грамадства ў свой вір.

Сярод казацтва гэтая барацьба была асабліва складаная. Гэта была складанасць працэсу адыходу з грамадскай арэны старога свету і нараджэння новага ладу жыцця. Казацтва стала моцным гняздом контррэвалюцыі. Гэта ў свой час прадбачыў Ленін, называючы гэтую «рускую Вандэю» ачагом іменна контррэвалюцыі — ачагом у гэтым саслоўна замкнутым, здаўна «адарваным ад агульнарускай дэмакратыі» казацкім краі. А пасля Ленін гаварыў яшчэ, што тут найбольш багатых казакоў, якія жывуць «эксплуатацыяй наёмнай працы», тут «больш за ўсё можна спадзявацца на контррэвалюцыю».

Казацкую масу складалі, як і ўсюды, багатыя, серадзякі і беднякі. Паміж імі вынікалі супярэчнасці, асабліва вострыя і непрымірымыя паміж багачамі і беднякамі.

Саслоўная забабоннасць у казацтва была, здаецца, альфай і амегай яго жыцця. Яна трымала казакоў у нейкай нічым не апраўданай недружалюбнасці і пагардзе да «інагародніх», ці, папросту кажучы, да мужыкоў. І гэтая спадчына рускай манархіі стала наймацнейшай апорай контррэвалюцыі. Генералы карнілавы, аляксеевы, каледзіны, красновы гэтым аргументам найбольш нацкоўвалі казацтва на мужыкоў.

Малюючы вобраз Рыгора Мелехава, Шолахаў узняўся да абагульнення сусветна-гістарычнага значэння. Толькі з народам або супроць народа — іншай дарогі цяпер гісторыя не ведае. Вось што сцвярджала шолахаўская эпапея. У трагічным лёсе Мелехава паказан адзін з асноўных сацыяльных канфліктаў эпохі пераходу ад капіталізму да сацыялізма.

Рыгор Мелехаў шукаў нейкую сваю дарогу, якой у жыцці няма. І хоць ён зразумеў потым, што мінуламу не

вярнуцца, што яно ўжо асуджана на нябыт, што яно варожае працоўнаму чалавеку, аднак, не змогшы выблытацца з уласніцкіх і саслоўных забабонаў, Мелехаў не зразумеў вялікай праўды новага. І гэта яго загубіла.

Не трэба думаць, што канфлікт у свядомасці Рыгора Мелехава — выключная з'ява. Не, гэты канфлікт у свядомасці паміж старым і новым меў характар масавы і паказаў сябе найбольш востра ў выраашальных сутычках рэвалюцыйных сіл з рэакцыйнымі.

Мэтанакіраванасць, ідэйна-мастацкая прадуманасць «Ціхага Дона» пры паказе шырачэзнай панарамы жыцця і барацьбы гавораць аб тым, наколькі Шолахаў бачыў, адчуваў народныя глыбіні, наколькі далёка магло сягаць яго ўспрыняцце свету. Вывучэнне гістарычных матэрыялаў, уражанні і назіранні, асабістыя сустрэчы з рознымі людзьмі, удзел у грамадзянскай вайне — вось гэта ўсё разам узятае аўтар пераплавіў у сваім творчым уяўленні і надаў раману вялікую маштабнасць. Вялікае значэнне тут меў талент аўтара: уменне зазірнуць у псіхіку людзей працы, адчуць найтанчэйшыя рухі розуму і сэрца, вачыма душы бачыць складанасць духоўнага свету «простых» людзей, уменне за суровасцю і часам за ўяўнай грубасцю адгадаць у чалавеку душэўнае хараство і незвычайную натуру.

Кажучы словамі Бялінскага, Шолахаў валодае ўмельствам «шчыльна яднаць ідэю з формаю і надаваць ёй арыгінальную, самабытную адзнаку сваёй асобы, свайго духу».

Як вядома, Шолахаў пісаў апавяданні і артыкулы, пасля «Ціхага Дона» напісаў двухтомную аповесць «Узнятая цаліна». Нягледзячы на тое, што гэта добры рэалістычны твор, які расказвае пра нялёгкі шлях калектывізацыі сельскай гаспадаркі,— каб не было «Ціхага Дона», то не было б Шолахава, такога, які ён стаіць перад намі, так, як, скажам, не было б такога Пушкіна, які ён ёсць, без «Яўгенія Анегіна», як і Міцкевіча без «Пана Тадэвуша».

«Ціхі Дон» Шолахава — твор эпахальны, твор глыбоканародны, твор вялікай сілы, якая выказала сябе ў мастацкай канкрэтнасці, рэльефнасці і ідэйна-мастацкіх абагульненнях на ўзроўні сусветнага значэння.

Шолахаў убіраў у сябе мастацкі вопыт Талстога, Гогаля і спалучаў яго з творчасцю Максіма Горкага. Адлюстраваць у творчасці супярэчнасці жыцця ў яго глыбінных праявах, у яго рэвалюцыйным развіцці, заўважыць і

творча выявіць найбольш адметныя, гістарычна характэрныя, пераломныя моманты — вось у чым адна з галоўных якасцей творчага майстэрства Шолахава — вялікага прадстаўніка сацыялістычнага рэалізму.

## ПРА ЯНКУ КУПАЛУ

Янка Купала вырас на беларускай глебе ў часы вялікіх рэвалюцыйных хваляванняў на прасторах былой царскай Расіі. Выхад на рэвалюцыйную арэну рускага рабочага класа, які здабыў сусветнае значэнне, пацягнуў за сабою ў рух і народы, прыгнечаныя, паняволеныя царызмам. Да іх у першую чаргу належалі: народ польскі, украінскі, народы Прыбалтыкі разам з Фінляндыяй, і, здаецца, упершыню ўстаў на ўвесь рост да змагання за сваё вызваленне і народ беларускі. З'яўленне ў гэтую пару такіх паэтаў, як Янка Купала і Якуб Колас, ужо яскрава заяўляла свету аб палітычным станаўленні беларускага народа. Ці ж не пра гэта гаворыцца ў вершы Янкі Купалы — «А хто там ідзе?», які Максім Горкі назваў гімнам беларусаў. Ішла агромністая грамада ўсерасійскіх прыгнечаных мас, у ёй са сваёю крыўдай знайшлі сваё месца і беларусы.

Апрача сваіх, беларускіх, літаратурна-традыцыйных плыняў, пачынаючы недзе ад Дуніна-Марцінкевіча, праз Ф. Багушэвіча, паэзію Янкі Купалы жывілі і фармавалі такія ж плыні паэзіі рускай, украінскай і польскай. Някрасаў, Нікіцін, Кальцоў і іншыя — з рускага боку; Катлярэўскі, Шаўчэнка, Кацюбінскі, І. Франко — з украінскага, Марыя Канапніцкая, Эліза Ажэшка, Міцкевіч, Славацкі — з боку польскага. Усё імпанавала беларускаму паэту, усё цешыла яго душу, калі было сугучна голасу народных гушчаў беларускіх, а значыць, голасу і самога паэта.

А ў гады рэвалюцыйнага ўздыму (1905—1907) Янка Купала ўжо ідзе, як роўны з роўнымі, у вялікім паходзе сярод рускіх, украінскіх і іншых паэтаў, якія сваё пяро аддалі на службу працоўным, што паўсталі супраць царызму. Полымя рэвалюцыі жахала ў цёмныя сялянскія хаты, і з іх выходзілі з косамі, віламі натоўпам на памешчыцкія маёнткі...

У пару пераломных момантаў у рэвалюцыйным руху народных мас Янка Купала неадступна заяўляў:

Я не для вас, паны, о не,
Падняць скібіну слова рвуся
На запусцелым дзірване
Сваёй старонкі Беларусі,
Я не для вас, паны, о не!

Гэтым Янка Купала сведчыў сваю вернасць працоўным гушчам у іх руху да вызвалення ад капіталістычнага ярма. Адраджэнцкі гуманізм Купалы стаяў на варце таго «дому», дзе

...пясчаныя разлогі,
Пакута сцюжы і спякот,
Дзе ў скібах лад вядуць нарогі,
Аздобай цвет — чырвоны пот.
*(«Мой дом»)*

Паэма «Яна і Я» напісана ў 1913 годзе на парозе вялікіх, эпахальных падзей, і, можа, таму, павявае ад яе радкоў адчуваннем недзе блізкага, але яшчэ не ўсвядомленага шчасця. Крыніца такога адчування — любоў і праца. Працоўныя сялянскія будні, якія з'яўляюцца кузняй жыцця, у паэме азораны бляскамі роднага гнязда-ачага.

Цеплыня і ласка да зямлі, да працы на ёй у паэме свецяць з кожнага радка, з кожнай літары, з кожнага, здаецца, позірку паэта і спалучаюць у адзінае цэлае Яе і Яго. У раздзеле «Пратaліны» маем магчымасць назіраць тыя купалаўскія бляскі «гнязда»:

І ў хатку заглядаюць промені,—
Дармо, што нізкія аконцы ў ёй,—
Гуляюць радасна па коміне
Бліскучай і вясёлаю сям'ёй.

У раздзеле «Агляд поля» Яна і Ён ідуць аглядаць поле пад сяўбу:

Сягоння, мілая, быць хочу я
з табою,—
Дык ручку на плячо мне палажы,
Я стан твой атулю рукою
І ў поле пойдзем, пойдзем пад
крыжы...

А колькі ласкі, згоды ў адным такім сказе (у раздзеле «Ворка»):

Снядaнне з'елі з ёю удваёчку...

Адно слова «удваёчку» абпраменьвае хатні куток, дзе Яна і Ён быццам заслуханы ў сваю жыццёвую плынь.

І далей у раздзеле «Беліць палатно»:

Чачоткавы зрабіў ёй прапік ёмкі,
З аздобамі і ручкай гладкай...

Што гэта — наіўнасць? Прымітыў? Не, гэта тая прастата, якую называюць геніяльнай.

А ў раздзеле «Сяўба» бляскі ў шэрасці беларускага жыцця паэт даводзіць да апагея:

Ралля падсохла, мяккай стала воўнай,
Ўжо час узяцца за сявалку...

Які ж гаспадарчы разлік у Яе і Яго! — такі ціхі, раздумлівы ў сваёй беднасці жыццёвай:

Ад той, што ад зімы засталась, часткі,
Штось кінуўшы на час нязбыты,
Адмерылі мы з ёй са дзве шаснасткі
У мех, рукой яе пашыты.
І выйшаў сеяць я.

Гэтая «раскошная» мерка «шаснастка» сваёй самабытнасцю можа выклікаць «прабачальны» смех... з няпрошанай слязою.

А далей паэт узнімае сялянку, ціхую працаўніцу, пакрыўджаную ўсім укладам жыцця, да рафаэлеўскага вобраза:

Яна, як ніцая бярозка тая,
Стаяла, за сяўбой слядзіла
І, як бы багародзіца святая,—
Здавалася мне — блаславіла...

У апошнім раздзеле паэмы «Краса свету» паэт гаворыць: «Я песняй мілую сваю праслаўлю», каб яна «не згінула, як кветка»: паэту воля «жалезная патрэбна» для таго, каб

За крыўды маёй мілай помстай
заплаціць,
Што гаравала так яна бясхлебна...

«Яна» тут узведзена ў сімвал Краіны.

Паэма «Яна і Я» прасякнута высакароднасцю дэмакратызму, роўнасці Яе з Ім, без чаго няма і не можа быць пачуцця чалавечнасці, а значыць і сапраўднай красы. Гармонія між любоўю і працай і дае нам яе пераможную плынь.

Вось у такім сэнсе ў працэсе росту Купалы як грамадзяніна і паэта яго гуманізм растварыўся ў гуманізме пра-

летарскім, які ўнаследаваў усё найлепшае, што стварыла чалавецтва і чаму ўжо буржуазія ў працэсе свайго распаду перастала служыць.

Янка Купала — вялікі народны паэт па сваёй сутнасці — гэта значыць, паэт без позы, без пустой патэтыкі, поўны народнасці,— па-народнаму цешыўся Савецкай уладай, здабыткамі рэвалюцыі, па-народнаму гаварыў пра калгасы, школы, пра дзяцей-піянераў. Янка Купала быў песняром дружбы народаў Савецкага Саюза.

З далёкіх перспектыў заўсёды хочацца глянуць на Янку Купалу з тых заходніх загонаў Беларусі, якія апынуліся пад акупацыяй польскіх памешчыкаў і капіталістаў. Другам-настаўнікам, які сумуе па лепшай долі для ўсяго беларускага народа, уяўляўся нам Янка Купала.

Дагэтуль яшчэ нікім не даследавана, наколькі шырока і глыбока ўвайшла ў штодзённасць народа ў былой Заходняй Беларусі паэзія Янкі Купалы. Сярод палітычных бур, у якіх апынуліся беларускія працоўныя на захадзе, слова Купалы было песняй і гімнам, радасцю і надзеяй, вобразам жыцця і ўсведамленнем свайго смутку, свайго, здавалася, непазбыўнага гора. Тым больш, што яно стала традыцыйна-нацыянальным — вялося-плялося ад дзядоў да бацькоў, ад бацькоў да сыноў і такім чынам фармавала душу народа. І на зары вялікіх падзей, азнаменаваных Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыяй, беларускі народ убачыў сябе ўпершыню ва ўсёй сваёй гістарычнай «жабрачай красе» іменна ў паэзіі Янкі Купалы.

Да цёмнага, забітага сярмяжнага народа праз паэзію Янкі Купалы і Якуба Коласа прыйшла вялікая сіла, якую можна назваць самаадкрыццём, а кажучы інакш,— прыйшла нацыянальная свядомасць.

Даволі было прачытаць які хочаш верш Янкі Купалы, каб адчуць, як ён будзіць знаёмыя струны душы, як кліча да змагання, да няўступлівасці ворагу, да гарту — так, як і заклікаў паэт:

У крыўду не дайся, свайго дабівайся.
Адвага хай будзе з табой!

Паэзія Янкі Купалы была арганічна непадзельная з народам, з яго думамі, складала адно шматгалосае гучанне ў вялікай жорсткай барацьбе. Гэта і была тая аснова ўзбураных душ, дзе здабывалі послух і поспех усе вызваленчыя ідэі, з'яднаныя пад сцягам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Купала адкрываў свой народ не толькі

для свету, але і для яго самога. Выкрываючы яго «вечныя злыбеды», ён прарочыў лепшую будучыню, гаворачы ў лад народнай душы:

І будзе ўнукаў панаванне
Там, дзе сягоння плача дзед!

Між іншым, не ў адным камітэце Беларускай сялянска-работніцкай грамады ў часе яе існавання-росту на сцяне былі выпісаны іменна гэтыя словы Янкі Купалы. Было гэта і на маёй радзіме ў Косаўскім камітэце.

А прачытаўшы радкі:

Карчмы ды астрогі,
Крыжыкі, бярозкі:
Гэта наша доля,
Доля нашай вёскі,

кожны гаварыў: «Так, гэта ўсё праўда. Нікуды яе не дзенеш. Станавіся, брат, пад ружжо, каб змагчы долю з карчмамі і астрогамі».

Так паэзія Янкі Купалы падымала народныя пласты.

Янка Купала і Якуб Колас былі «сваімі людзьмі» ў кожнай беларускай хаце, пачынаючы ад Віленшчыны, Гродзеншчыны і канчаючы палескімі пушчамі Брэстчыны. Можна сказаць, што ў кожнай хаце былі бачны на сценах іх партрэты. Хто не мог купіць сапраўднага партрэта, выразаў здымак з газеты, кніжкі або календара, аздабляў рамкай і знаходзіў яму пачэснае месца ў хаце.

Званар-будзіцель народа, Купала даходзіў сваім словам да кожнага працоўнага чалавека. Паэзія яго будзіла і ўзбройвала, асвятляла душы праменнямі лепшай долі, несла ў сабе дыханне высакароднасці, сеяла зерні культуры, абуджала народную годнасць.

Беларускія дзеці ў былой Заходняй Беларусі — босыя, абарваныя — па вершах Янкі Купалы пачыналі знаёміцца з такой цудоўнай, не для ўсіх даступнай рэччу, як граматы. Як жа былі ім па душы такія купалаўскія радкі, поўныя любві і падтэкставага смутку аб гаротнай долі народа:

Вучыся, нябожа, вучэнне паможа
Змагацца з нядоляй, з няволяй...
Што мучыць сягоння, што думкі
трывожа,—
Збяжыць і не прыйдзе ніколі...

Гуманізмам, які можна назваць «купалаўскім», авеяны гэтыя радкі-мары пра будучыню народа. Кожная школьная

кніжка ў Заходняй Беларусі, пачынаючы ад другога класа, адкрывалася гэтымі тужліва-журботнымі радкамі, якія да дзіцячых душ неслі ўсведамленне долі народа. Гэтыя словы спадарожнічалі дзецям, калі беларускія школы былі ліквідаваны і даводзілася жыць наогул без школ. І яны вучыліся падпольна пад настаўнічаннем членаў КПЗБ, камсамольцаў, іх бацькоў і матак. У руках у іх былі незагубленыя кніжкі «Родны край», якія пачыналіся купалаўскімі словамі: «Вучыся, нябожа...»

Паэтычныя парасткі, што пачалі расці і выраслі на беларускай ніве,— гэта парасткі, пачатак якім дала паэзія Янкі Купалы. Беларускі Парнас узбагаціўся паэтамі, якія сваёй паэзіяй засвяцілі нават па-за межамі нашай сацыялістычнай радзімы. Спадчына стала багатай, грунтоўнай, проста неабдымнай. Аснова яе — творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Недарма на сваім апошнім юбілеі (па вызваленні Заходняй Беларусі) Янка Купала, абдымаючы Максіма Танка і аўтара гэтых радкоў, гаварыў: «Гэта мае вучні, мае сыны...»

І таму, якія б ветры ні дзьмулі над нашай Радзімай, творчасць Янкі Купалы заўсёды будзе на ўзбраенні народа, каб не аддаць ворагу вялікіх заваяванняў нашай сонечнай свабоды. Аб гэтым зноў-такі па-народнаму паклапаціўся наш незабыўны пясняр у вершы «Арлянятам»:

Вам на памяць Серп і Молат
Даравала доля,
Каб з вас кожны быў, як волат,
Не гнуў плеч ніколі.

Каб здабытую свабоду
Зналі, шанавалі
І у цяжкую прыгоду
Ўсталі грознай хваляй.

## ЛІЧЫЛА ДНІ ТУРМА

### У ПАЛІЦЭЙСКІМ УЧАСТКУ

Косава. Зіма. 1927 год. 3 лютага. Сядзім у паліцэйскім участку на сырой падлозе. Дзверы ўвесь час бразгаюць. Гэта заходзяць і выходзяць паліцыянты. Нас абдае халодным сіверам. Налева, за перагародкай, за доўгім сталом стаіць дзяжурны. Ён бярэ з вялікага стосу лісткі па-

перы і раскладае па купках. Гэта — камуністычныя лістоўкі, падабраныя на местачковай плошчы. Лістоўкі на чатырох мовах: на беларускай, яўрэйскай, польскай і рускай. Мы нібы не глядзім туды, але ўсё бачым і разумеем. Раптам дзяжурны паліцыянт выцягнуў з гэтага вялікага стосу пачак лістовак, злепленых кроўю, і аж разгубіўся. Падняў гэты акрываўлены пачак уверх і паказаў нам.

— Бачыце, гэта беларуская кроў,— сказаў ён.— Зямлі хочаце... Паўстання... Зарана вы гэта ўсё пачалі...

Слова «паўстанне» традыцыйна карыстаецца пашанай у палякаў, і таму паліцыянт трохі паспачуваў нам. Але вось моцна бразнулі дзверы і ў пастарунак зайшоў сыты, задаволены Нарадзонак. На яго ботах пазвоньвалі шпоры. Гэта ён гадзіну назад, лежачы пузам на бруку, страляў з кулямёта ў натоўп. Забіў шэсць камуністаў. А колькі параніў, невядома...

Нарадзонак слізгануў па нас вачыма іываліўся за дзверы.

Дзяжурны ўсё раскладваў і раскладваў лістоўкі. Ён быў нейкі насцярожаны і неспакойны.

У суправаджэнні некалькіх афіцэраў паліцыі спешна ўвайшоў староста Станішэўскі. У яго быў тыповы стара-шляхецкі твар, жаўтаватыя валасы і такія ж вусы. Дзяжурны падаў каманду: «Устаць!» Мы падняліся. У старосты да кожнага з нас было толькі адно пытанне: «Адкуль?» І калі мы называлі сваю гміну, вёску, ён гаварыў: «Знаем, там у вас камуністычнае гняздо...»

Ля дзвярэй стаяў ужо немалады чалавек у кажушку і ў лапцях. Староста запытаў: «І гэтаму хлопу таксама захацелася бандытызму?» А потым звярнуўся да маладзіцы, якая стаяла побач: «А кабета чаго тут? Таксама крычала — «ура»?» Кабета залілася слязьмі і сказала, што яна бегла глядзець злодзея, бо там гаварылі, што нехта ўкраў бёрда, і ёй здалося, што крычаць «вара», ну, і яна крычала — «вара». Староста неспадзявана пырснуў смехам і сказаў каменданту павятовай паліцыі, каб вызвалілі кабету.

Ноч прайшла ў допытах. Назаўтра да арыштаваных папрыходзілі блізкія і радня. Сярод іх была маладая дзяўчына. Яна прыйшла да свайго бацькі, таго старога селяніна ў кажушку і лапцях, прынесла яму чэрстваага хлеба, кавалак сала і пару яечак. І прынесла яму яшчэ свае маладыя, шчодрыя слёзы. «Ой, тату, тату, што ж гэта будзе? Што будзе з маім вяселлем, тату? Рабіць яго без цябе ці

не?» Бацька глянуў на сваю дачку і ўздыхнуў. Маўчаў, разважаў. А потым махнуў рукою і з жалем прамовіў: «Рабеце, дочачка, гэтае вяселле ўжо без мяне. Бог святы ведае, калі я вярнуся...»

## НАВУКА І ВЕРАБ'І

Найбліжшая ад Косава турма была ў Пружанах. Яна была невялікая, хоць пабудавала яе царыца Кацярына II. У гэтай турме было шэсць камер, адна з якіх — найбольшая, ці, як тады яе называлі, чацвёртая — магла змясціць у сабе дваццаць двух вязняў. У гэтай камеры добра было праводзіць навучанне, бо хлопцаў многа, стол доўгі. Мы мелі беларускую, рускую і польскую граматыкі, падручнікі па арыфметыцы і геаграфіі. Гэтага на пачатак хапала, бо многія хлопцы былі непісьменныя. Што датычыла палітычных навук, то была адна маленькая кніжачка па палітэканоміі, нешта падобнае да хрэстаматыі, а таксама некалькі брашур Маркса і Пляханава.

Найбольш пісьменным хлопцы прызналі мяне і папрасілі, каб вёў заняткі. Я падзяліў сваіх «вучняў» на тры групы.

Усім не хапіла стала. Хлопцы дасталі з-пад сеннікоў шырокія дошкі і змайстравалі столікі на козлах. За гэтымі новымі сталамі размясціліся першая і другая групы. Трэцяя, як найстаршая, заняла доўгі стол.

Кожны ўзброіўся пяром. Навука пайшла адначасова ў трох групах. Старшая, праслухаўшы апавяданне, павінна была пераказаць яго пісьмова, кожны па-свойму. Другая — пісала дыктант, а першая падкрэслівала ў словах склады.

...Час пасля снедання і прагулкі. Здаецца, усюды ціха. На калідоры дзяжурыць дазорца Радчык. Гэты нам дагаджае. Радчык ужо стары чалавек і тоўсты, як бочка. І голас у яго гучыць як з бочкі. Ходзіць павольна. Калі Радчык кашляў, то грамовае рэха ўдарала ва ўсе дзверы. Асабліва ўначы. Гэта азначала, што Радчык сядзіць за сталом і чытае газету. Зрэшты, ён быў чалавек някепскі і з гумарам.

Аднойчы хлопцы пажартавалі: уставілі нанач у «ваўчок» люстэрка. Пачуўшы крокі Радчыка, мы стаіліся, чакалі, як ён зрэагуе на гэтую выдумку. Радчык доўга глядзеў у «ваўчок» — гэта значыць на самога сябе, а потым пастукаў у дзверы, нічога не кажучы, адышоўся. Была ж

ноч. Назаўтра, калі нам раздавалі на снеданне каву, Радчык пільна прыглядаўся да хлопцаў, каб адгадаць свавольніка. Мы ціханька пасмейваліся. Пасмейваўся і стары Радчык. Гаварыць на гэтую тэму ён прыйшоў пасля снедання, як не было сведкаў.

У першы дзень нашага навучання ён зайшоў у камеру, глянуў у спытак нашага вусача Сніткі і засмяяўся: «І ты яшчэ хочаш вучыцца? Ну-ну...»

Радчык выйшаў, а мы прадаўжалі сваю навуку. Помню, як я заглядзеўся ў кніжку, шукаючы адпаведнага сказа для дыктанта, і раптам загрукацелі сталы. Я падняў вочы. Усе хлопцы стоўпіліся ля вокнаў. Там, за кратамі, кішэла-раілася вераб'іная чародка. Нехта з турэмшчыкаў адтуль, знадворку, сыпнуў на падаконнік крошак. І вось яны цешацца, гэтыя шэрыя зладзейчыкі! Хлопцы сцішыліся, заглядзеўшыся на вераб'ёў. Нехта кінуў, нібы няўзнак: «Навукі на сягоння хопіць!» Кожнаму забалела сэрца па свабодзе.

...Палітычным вязням пружанскай турмы не дазвалялі выпісваць газеты. Мы звярнуліся да турэмнага начальства. Але нам адмовілі. Мы патрабавалі пракурора. Але праз пару дзён замест пракурора ў камеру ўвайшоў Радчык і, прачытаўшы з нейкага лістка нашы прозвішчы, рыкнуў: «Забіраць свае рэчы!» У спісе быў і я. Мы выйшлі з камеры. У канцылярыі нам аддалі нашы маленькія грашовыя ашчаднасці, закавалі ў кайданы рукі і вывелі пад канвоем на снежную вуліцу. Я здагадаўся, што нас пераводзяць у другую турму.

## «КАЦЁЛ»

Так у гродзенскай турме назвалі прагулачны пляц. З трох бакоў яго акружалі трохпавярховыя турэмныя будынкі, а з чацвёртага — заходняга боку — высокая цагляная сцяна, якая зраслася з касцёлам. Турэмныя муры, відаць, былі некалі манастырскімі мурамі. Вось такі пляц, наглуха замкнуты ад свету, вязні і празвалі «катлом».

Аднойчы, калі мяне выгналі на прагулку, на гэтым пляцы я ўбачыў нешта падобнае на кірмаш. Наогул тады дзейнічаў яшчэ лібералізм, хоць Беларуская сялянска-работніцкая грамада была ўжо разбіта. Кожную пятніцу да турэмнай брамы пад'язджалі фурманкі, нагружаныя хлебам, маслам, махоркай і запалкамі. Прадукты на прагу-

лачны пляц насілі крымінальныя пад наглядам дазорцаў. Наш генеральны каптэнармус сядзеў у позе інтэнданта і прымаў дары, якія прысылаў народ сваім барацьбітам. Потым гэтыя дары каптэнармус дзяліў камерным капцёрам. Нарэшце раздавалі вязням: паўбуханкі сітнага хлеба, порцыю масла, пачак махоркі і карабок запалак.

У гродзенскай турме была і бібліятэка. Яна размяшчалася ў чатырнаццатай камеры. У гэтай жа камеры было і кіраўніцтва нашай камуны — партком. Бібліятэчны фонд складаўся з кніг, выпісаных і прысланых з волі. У пагодлівыя дні бібліятэкар выносіў кніжкі на прагулачны пляц, клаў іх кіпамі на лаўку.

Тут мяне «асядлаў» Дубовік — стары рэвалюцыянер, чалавек цвёрдай волі. Ён проста сілком пхаў мне ў рукі часопісы, кніжкі і гаварыў: «Чытай, чытай...» А чытаць я не толькі хацеў, але і павінен быў як член агітпропу. У гэты час я пісаў вершы. Дарэчы, у турме вершы пісалі ўжо шмат хто. Вязні нават выдавалі нелегальна часопіс «Астрожныя думкі». Стары Дубовік таксама задумаў пазабавіцца вершамі. Аднойчы ён даў прачытаць мне свой верш. Нецярпліва чакаў, покі я прачытаю. Помню, кожная страфа ў яго вершы канчалася так: «Долой фашизм! Даешь Совет!» Вядома, прыйшлося пахваліць Дубовіка. Дубовік прыносіў мне і часопіс «Дзвігня» — орган Кампартыі Польшчы. Мне вельмі падабаўся той часопіс. Да гэтага часу добра памятаю артыкул аб упадніцкай філасофіі нямецкага філосафа Шпенглера і артыкул аб творчасці Міцкевіча — «Праметэй рамантызму».

Аднойчы ў гэты глухі «кацёл» прыйшла цяжкая вестка: забіты савецкі пасол у Польшчы Войкаў. Усе, хто быў на прагулцы, сабраліся ў адну грамаду. На лаўку падняўся і ўзняў руку Дубовік, сакратар парткома камуны, і абвясціў мітынг. Нехта выступіў з прамовай. А потым мы спявалі «Інтэрнацыянал». Турэмная адміністрацыя не перашкаджала.

Аднаго разу ў ціхі перадабедні час нехта выкрыкнуў праз акно: «Мурашка!» І гэтага аднаго слова хапіла, каб усё ўсхадзілася, загуло, як бура. Усе падбеглі да вокнаў і павіслі на кратах. Усе разам крычалі: «Кат! Кат!» А гэты кат, забойца Багінскага і Вечаркевіча, ішоў па турэмным пляцы далёка ўнізе. Ішоў насцярожана і палахліва, як шэрая звярына. Ён ішоў у турэмны шпіталь без дазорцы. Ён думаў, што яго не ўбачаць. Але нехта з вязняў з акна трэцяга паверха пазнаў забойцу Мурашку. Намеснік на-

чальніка турмы, збялелы ад страху, толькі ўпрошваў, махаючы рукамі: «Супакойцеся! Супакойцеся!»

Толькі пасля нас за гэта пакаралі: пазбавілі на месяц газет і махоркі. Панскі «лібералізм» стаў на дыбкі.

У чэрвені таго ж 1927 года да нас у камеру зайшоў пракурор разам са сваім чыноўнікам. Ён запісваў тых, хто абвінавачваўся ў прыналежнасці да Грамады. У гэты спіс трапіў і я, бо быў членам Косаўскага павятовага камітэта Грамады. Нехта гаварыў, што будуць вызваляць з турмы грамадаўцаў. Так яно і выйшла. Дадому мяне канваіраваў паліцыянт. Мы ехалі да Брэста праз Беласток. Паліцыянт здаваўся нейкім перапалоханым. Калі мы, стоячы ў вагоне каля адчыненага акна, глядзелі на перон, я спытаўся ў яго пра аднаго маладога франта ў капелюшы і партупеі, які пакручваўся перад нашым акном. Паліцыянт злосна адказаў: «Чорт яго ведае. Сягоння многа рознай халеры на свеце».

У Брэсце мы прайшлі з ім увесь горад — ад вакзала аж да старой турмы з драўлянымі, як копы, вежачкамі. Дакучала гарачыня. Стары, запушчаны горад быў амаль бязлюдны. Па вуліцы хадзілі гусі, куры. На драўляным тратуарчыку забаўляліся дзеці. На бруку вецер паднімаў салому і птушыны пух. Адчыненыя піўныя з трыма сходкамі перад дзвярыма выглядалі пустымі. Гэта быў стары Брэст-Літоўск. Ён, мусіць, не змяніўся яшчэ з часоў Суворава.

Ужо ў турме, атрымаўшы за мяне пасвітаванне, канваір трохі павесялеў, што дарога прайшла без ніякіх эксцэсаў. Але пры атрыманні пасвітавання паміж «маім» паліцыянтам і мясцовым дазорцам адбылося нейкае непаразуменне. Дазорца быў незадаволены афармленнем маіх дакументаў, і канваір пакрыўдзіўся. Глянуў на мяне, кіўнуў галавою і выйшаў за дзверы. Мне ўспомнілася тое, што ён гаварыў у Беластоку, гледзячы праз адчыненае акно на перон: «Сягоння многа рознай халеры на свеце!»

Начлег у гэтай старой турме быў для мяне неспадзявана дзіўным. Маё акно глядзела вышэй драўлянага турэмнага плота на шырокі, усыпаны жоўтымі кветкамі луг. Там пасвіліся каровы. А далей у празрыстай імгле віднелася вёска ў таполях і вербах. Я не мог адарваць вачэй ад гэтага краявіду. Спакойнела на душы.

Апусцілася ноч, і месяц — чысты і агністы — заліў сваім святлом гэтыя раўнюткія бясконцыя абшары. І толькі залатыя іскры раіліся там далёка, то ўспыхваючы ў ва-

чах полымем, то знікаючы недзе ў імглістай далечыні. Так і прасядзеў я на падаконніку аж за поўнач. Потым лёг на голыя нары, падпёршы далоняю шчаку, і адразу заснуў.

## МАЯ «КАНЦЫЛЯРЫЯ»

1929 год, студзень. Паўтара года, як я на волі. У старой хаце на самым канцы Косава маю сваю «канцылярыю». Гаспадыня — старая кабета з сялянска-мяшчанскімі прэтэнзіямі, сваркамі. Хату выбраў пры канцы наўмысна — далёка ад павятовага паліцэйскага ўчастка (пастарунка). Апрача гэтага, цераз дзве хаты пачынаецца стары, шырокі Слонімскі шлях. Здаецца, ён гіне сярод палёў, сплываючы з узгоркаў у даліну.

У нядзелю мая канцылярыя была поўна людзей — маладых і старэйшых. Гэта хата-канцылярыя была не чым іншым, як акруговай управай Таварыства беларускай школы, а я — яе сакратар. На шчыце хаты вісела нават ладная, крыху прыкрытая галінкамі грушы шыльда, якая і гаварыла ўсім аб гэтым. Грамада разбіта. ТБШ яшчэ існуе — усім жа вядома, што гэта, барані божа, не палітычная арганізацыя, а культурна-асветная. Але трымай вуха востра. Управа абдымала два паветы: Косаўскі і Пружанскі. Амаль у кожную нядзелю можна было чакаць сакратара пружанскага аддзела Макарэвіча — маладога адукаванага хлопца, які не раз прывозіў што-небудзь цікавае. Напрыклад, аднаго разу прывёз наказ старога селяніна-актывіста, які праводзіў яго на станцыю. Ён наказваў: «Ты едзеш у цэнтр. Калі не прывязеш адтуль адказу, як яшчэ доўга тут будуць паны, то лепш і не вяртайся. Не хачу цябе бачыць».

У гэтай канцыляры з завешанымі наглуха вокнамі я праседжваў доўгія вечары за працай. І амаль заўсёды, прытуліўшыся плячыма да печы, сядзела тут гаспадыня. Яна найбольш драмала, на некага ўсё сварылася. А калі цёмны, зімовы вецер раптоўна тузаў вясніцы і галінкі грушы скраблі па шыбках акна, бабулька абуджалася, шаптала малітву і гаварыла, як праз сон: «Божа, які вецер на свеце...» — І хрысцілася. А бывала — гляне на мяне і абурыцца: «То ты яшчэ сядзіш? Калі ж будзеш спаць? Божа мой, дзе ён бярэ такія сілы? Заўсёды без сну. Усё нешта піша і піша...» І пачынае ўздыхаць. А потым падымецца і пойдзе ў другую палавіну хаты.

Недзе а гадзіне трэцяй кладуся — тут жа на лаўцы за

сталом. Пад галаву — стос газет, а на сябе — паліто і, агорнуты цемрай, засынаю пад выццё ветру за акном.

14 студзеня гэтага ж 1929 года (якраз была нядзеля) на нашую нараду прыйшоў высокі, грузны паліцыянт у доўгім шынялі і запытаўся: «Хто тут Пестрак?» Калі я адазваўся, ён паказаў на дзверы: «Пан пойдзе са мною. Няхай пан апранецца».

Мы выйшлі. Дзень быў шэры, мокры, пад нагамі хлюпаў снег. «Вось табе і будзе кааператыў»,— падумаў я, ідучы. Мы ж якраз праводзілі нараду аб тым, каб адкрыць у Косаве спажывецкі кааператыў. Ужо быў падпісаны пратакол і складзена заява ў гродзенскі суд, каб ён пацвердзіў наша рашэнне. І вось вынік — іду пад канвоем. Але, думаю, хлопцы давядуць справу да канца.

Паліцыянт ідзе поруч са мною. Ён нейкі невясёлы, нават пануры. Твар у яго чырвоны, азызлы. Раптам чую голас — ціхі, як бы па сакрэту: «Пан ідзе да следчага». Я злёгку кіўнуў галавою — значыць, зразумеў. Потым, ужо ў турме, я пачуў ад сваіх хлопцаў пра гэтага паліцыянта. Паходзіў ён з Лодзі, з рабочай сям'і. Мусіць, ад гэтага перажываў, бо, казалі, піў. Быў разумны, спрытны. Можна думаць, што ў крытычных момантах умеў ашукаць сваё начальства. Я зразумеў тады, што ён падказаў, куды мяне вядзе, каб я мог сарыентавацца. Так яно і было. Следчы Кушлэйка нешта аж тры гадзіны выварочваў маё нутро, выстаўляючы фальшывых сведак. Пасля мяне замкнулі на ключ, а ўвечары скавалі і кінулі ў машыну. А потым цягнік, а потым — знаёмая пружанская турма. Прывет вам, таварышы!

### РАБІНАЧКА

Ізноў навука. І пайшла яна ўжо лепш, чым тады, у дваццаць сёмым. Паабціраліся хлопцы аб турэмнае жыццё. Але ўсё роўна толькі адна польская газета хадзіла з камеры ў камеру. Маленькая бібліятэчка ў чацвёртай камеры, прагулка, скарочаная да пятнаццаці мінут. Пачалі мы патроху варушыць начальніка, пачалі патрабаваць пракурора. Але нам адмовілі. Мы абвясцілі галадоўку. Гэта было недзе ў жніўні 1929 года. Помню, як я падаў начальніку турмы, у час яго абходу, запісаныя на лістку нашы патрабаванні. Ён іх прыняў. А назаўтра шпадоўнік (ніжэйшы чын) пры вячэрняй паверцы сказаў, што «пан начальнік ва ўсім адмаўляе, турма не месца для дыскусіі».

Назаўтра мы абвясцілі галадоўку. Распачалі яе спевам «Варшавянкі». Галадоўка была чорная — без вады. Цяжкія гэта былі дні. Цяжкія, здаецца, на ўсё жыццё. Цяжка было глядзець на хлопцаў, як іх даймаў голад. Але яны трымаліся. На чацвёрты дзень прыйшоў лекар — малады, прыгожы, убраны, як рыцар: у кароткіх цёмна-сініх штоніках да калень, у доўгіх панчохах і бліשчастых туфлях. У адной руцэ ён трымаў капялюш, у другой — бліскучы кіёчак. Мы залюбаваліся на гэтага лекара, ён здаваўся нам нейкім кабальера з Іспаніі. Аказаўся хлопцам някдрэпным, гаварыў з намі тактоўна, з нейкім прытоеным здзіўленнем, пільна прыглядаўся да нашых твараў. Мы ляжалі ўпокат на нарах і «прасілі» лекара паўплываць на начальніка, каб той задаволіў нашы патрабаванні. Ён смяяўся і гаварыў: «Добра, я скажу. Толькі ці не лепш было б вам спыніць галадоўку?»

Лекар выйшаў. Вядома, ён прыходзіў разведаць — ці няма якой небяспекі. Мы прыціхлі, некаторыя заснулі. Адзін з таварышаў крадком лізаў сцяну, каб хоць крыху ахаладзіць сябе. Усё цяжэй рабілася без вады...

На пяты дзень у нас была гарачка. Вады... Вады... Некаторыя адкрыта пачалі лізаць цэмянтовую падлогу, а адзін наш таварыш узняўся на нарах, стукнуў сябе кулаком у грудзі і сказаў: «Таварышы! Не магу далей!.. Не магу!..» Усе прыціхлі. Трэба было нешта рабіць. Не помню, як я падняўся з сенніка, як дапалоксся да акна і сеў на падаконнік. Павеяла халадком у твар, у грудзі. За акном, недалёка ад сцяны, пакалыхваецца, трымціць маладая рабіначка. Яна то сціхне-задумаецца, то зноў устрапянецца. Я ўсміхнуўся з нейкай палёгкай і прамовіў да таварышаў, што трэба пацярпець, каб вытрымаць да канца. Я гаварыў павольна, прыглушаным голасам. Памагло. Таварышам стала лягчэй. І мне таксама. Няўжо яна, рабіначка, памагла мне?

## БАРЫКАДЫ

На шосты дзень ранкам да галадоўкі далучыліся сухотнікі, якіх па нашай просьбе турэмная адміністрацыя ізалявала ў другую камеру. Адзін з іх стаў на падаконнік і кінуў заклік: «Няхай жыве галадоўка!» І заклік гэты чуў пракурор. Ён якраз гутарыў на падворку з начальнікам. Заклік падхапіла ўся турма: «Няхай жыве!» Пракурор тут жа сказаў забраць нашага сухотніка ў карцэр. І яго забралі. Да нас, галадаючых, пракурор не зайшоў. Тады

мы ўзяліся будаваць барыкады. Збудавалі іх з нараў і доўгай лаўкаю падперлі ўсё збудаванне, якое перакрывала дзверы. Выкарысталі ўсе нары, а свае сеннікі разаслалі на падлозе. Калі скончылі, заспявалі «Варшавянку».

Ноччу за вокнамі забразгала пажарная каманда, бо дазорцы аніяк не маглі зламаць нашых барыкад. І вось — адначасовыя ўдары калкамі па вокнах усіх галадаючых камер. І тут жа буйны, напорысты струмень прарваўся ў нашу камеру. Мы разбегліся па кутках. Я стаіўся ў вузкім праможку між вокнамі. Востры драўляны калок праляцеў за адзін міліметр ад майго левага вока. Я вымушаны быў адысці на сярэдзіну камеры, і тут жа з помпы па мяне лінула вада. На гэтае відовішча са сцяны, з партрэта работы аднаго нашага мастака-самародка з Палесся Яруты, гнеўна, у бляску цьмянага святла глядзеў Карл Маркс. Адміністрацыя яго не чапала. Толькі часам пан шпадоўнік Бялевіч, зірнуўшы пры вобысках на партрэт, пытаў: «Гэта ваш бог?»

На калідоры ўсё яшчэ ламалі барыкады, а яны не падаваліся. У камеру з помпы тугім струменем біла вада. І ўрэшце наслоеныя адна на другую нары пахіліліся набок, стварылася трыкутная дзірка. У ёй паказалася галава начальніка турмы, а неўзабаве і ўся наша пабудова з размахам вухнула ў ваду. А вада пачала ўжо выліваццa за парог. Начальнік і дзесяць паліцыянтаў ускочылі ў камеру і сталі каля сцяны, узняўшы карабіны да стрэлу. «Хто хоць варухнецца, будзем страляць!» — крыкнуў начальнік. Натоўпам увайшлі дазорцы. «Ламаць усё, што ёсць драўлянага!» — загадаў начальнік. І дазорцы пайшлі да кніжных паліц. Мы пачалі крычаць: «Гэта ж кніжкі! Варвары!» Купка кніжак ужо ляжала ў вадзе. Па ёй тапталіся ботамі дазорцы. Па адным нас пачалі выводзіць на калідор. Косцю Талочку і мяне (Талочка загінуў у Айчынную вайну ў партызанах) кінулі ў карцэр. Мы пачалі біць кулакамі ў дзверы і крычаць. Таварышы ўжо дамагаліся, каб нас выпусцілі. Тады ўсіх кінулі ў другую камеру, далі сеннікі і коўдры. Пасланіся мы на падлозе. Былі ўзрушаныя і таму не адчувалі голаду, пераказвалі адзін другому розныя прыгоды, якія здарыліся ў часе сутычак з турэмнай адміністрацыяй.

Назаўтра, на сёмы дзень галадоўкі, два крымінальнікі ўнеслі ў нашу камеру драўляны цэбар з каваю і насілкі са свежым хлебам. «Есці!» — загадаў шпадоўнік. Мы адмовіліся. Неўзабаве прыйшлі дазорцы і пачалі па адным

выводзіць нас у канцылярыю. Там нас садзілі ў крэсла, прывязвалі ногі, два дазорцы трымалі за рукі, а фельчар металічным наканечнікам шланга расшчапляў зубы і ліў у рот каву. Пятра Лішку з Палесся накармілі так, што ён захварэў. Яго зараз жа забралі з камеры.

Надышоў вечар. Запалілася святло. У дзвярах забразгаў ключ, і яны адчыніліся. Увайшоў пшадоўнік. Ён назваў пяцярых, у тым ліку і мяне, загадаў забраць рэчы і перавёў у другую камеру. Праз хвілін пятнаццаць да «ваўчка» падбег Косця Талочка і крыкнуў: «Нас вывозяць! Да пабачэння, дарагія таварышы!» Я здзівіўся, чаму ж не вывозяць і мяне? Назаўтра, ледзь перасоўваючы ногі, апрануты ў турэмную сярмягу, пайшоў даведацца да начальніка турмы. «Я б вас першага закаваў,— сказаў той,— але вам прыйшла павестка на суд». І ўручыў мне павестку выязной сесіі гродзенскага акруговага суда, якая мелася нас судзіць у Косаве, дакладней, за два кіламетры ад яго, у маёнтку Мерачоўшчына, дзе ў 1746 годзе нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка. Зразумела, панам суддзям захацелася паглядзець не толькі на драўляны дамок Касцюшкі (яго пасля разбурылі гітлераўцы), на феадальны замак з XIII стагоддзя, у якім месцілася староства, але і на само Косава, дзе адбылася наша дэманстрацыя.

Вяртаючыся ад начальніка, я ўбачыў на ўзбочны сцежкі ўжо зрудзелыя ад вады кніжкі. Іх сушылі на сонцы. Я прыпыніўся і перагартаў адну. Дазорцы зводдалі сачылі за мною, але маўчалі. Паклаўшы кніжку, я абвёў вачыма турэмны пляц і аж жахнуўся: недалёка ад мяне ляжаў Пятро Лішка. Я падбег да яго. Ён паціху стагнаў. Я спытаўся, як ён чуецца і чаму тут ляжыць. Нейкім слабым голасам Лішка адказаў, што яму ў лёгкія налілі кавы, а цяпер палажылі тут, каб мы бачылі, што ён жывы. Я расказаў пра сябе, пра тое, што вывезлі нашых. Развітаўся з ім з нейкаю трывогай у душы.

Назаўтра ранкам крымінальнік, падмятаючы за акном падворак, кінуў два словы: «Лішка памёр!» Пытаюся: «Калі?» — «Сягоння ноччу... Там, у другой турме...» — адказаў крымінальнік. Я адразу скочыў на акно і на ўвесь голас крыкнуў: «Таварышы! Памёр наш таварыш...» Гаварыў, можа, хвілін пяць, гаварыў на ўвесь голас, колькі хапала сіл. «Чэсць таварышу Лішку!» І ўся турма адказала рэхам: «Чэсць!» На здзіўленне, турэмная адміністрацыя не перашкаджала. Палітычных было ўжо мала. Нас узялі пад апеку беларускія паслы сейма з пасольска-

га клуба «Змаганне» на чале з Ігнатам Дварчанінам. Аднойчы да нас прыйшоў пасол Грэцкі — мой зямляк — і перадаў харчы і папяросы.

Нам удалося перасланць паслам тую заяву, у якой я пісаў пра нашу галадоўку. І ў сейме ад імя пасольскага клуба «Змаганне» была прадстаўлена інтэрпеляцыя (запрос) аб пружанскай галадоўцы. Прэса ўсёй Польшчы пісала аб ёй. Савецкая — біла трывогу.

У старым замку, што ў маёнтку Мерачоўшчына, выязная сесія гродзенскага акруговага суда за ўдзел у арганізацыі косаўскай дэманстрацыі надзяліла мяне трыма гадамі турмы. Бараніў мяне вядомы польскі адвакат, чалавек дэмакратычных поглядаў, Дурач.

Пасля суда мяне перавялі ў гродзенскую турму. Там я атрымаў паведамленне ад апеляцыйнага суда, што мне дадалі яшчэ два гады турэмнага зняволення.

## СЛОЎНІК

Дазорца вёў мяне ў канцылярыю, дзе я меўся атрымаць адказ на заяву ў апеляцыйны суд. Але справа не ў гэтым. Ідучы цемнаватым калідорам, я заўважыў чалавека з худым, зморшчаным тварам. Чалавек стаяў ля сцяны, і ў яго вачах мне падалося штосьці знаёмае. Але затрымацца я не мог. Толькі выйшаўшы з канцылярыі (дазорца сказаў мне пачакаць), я спыніўся каля гэтага чалавека і ў тую ж хвіліну схапіў за яго руку.

— Гэта ты... Шчапанскі? Чаму ты такі змучаны?

— Толькі што прыехаў з Вільні пасля дзевяцідзённай галадоўкі. Можна было яшчэ трымацца. Здалі фронт. Фашызм лютуе...

— А мы якраз рыхтуемся да галадоўкі. Пачнём паслязаўтра, калі што не зменіцца.

Гэта быў 1931 год, чэрвень ці ліпень. Шчапанскі (яго праўдзівае прозвішча Пырышка) жыве цяпер у Вільні, пенсіянер. Першае наша знаёмства з ім адбылося ў этапным астрозе ў Беластоку, калі мяне перавозілі з Пружанаў у Гродна пасля суда ў Косаве, а Шчапанскага з Грудзёнца ў Вільню на суд за арганізацыю галадоўкі на Лукішках. Праляжалі мы на нарах колькі гадзін, пагаварыліся ўволю і рассталіся горача, па-таварыску. Пасля сядзелі разам у гродзенскай турме.

Распачалася наша галадоўка — для мяне ўжо другая. Непасрэднай прычынай яе была ліквідацыя турэмнай біб-

ліятэкі. Мяне выбралі прадстаўніком па перагаворы з начальнікам турмы. Я пайшоў да яго і падаў спіс нашых патрабаванняў. Начальнік, тоўсты, немаладога веку чалавек, уважліва прачытаў мае паперы і сказаў, што дарма мы гэта робім. Я вярнуўся ў камеру. Мы аб'явілі галадоўку. Галадоўка была белая — гэта значыць з вадою. Захварэў сухотнік Давід Скульчык. Турэмная адміністрацыя знарок не перавяла з нашай камеры сухотнікаў, і яны вымушаны былі разам з намі галадаць. Каб зберагчы жыццё Скульчыку, на сёмы дзень мы рашылі спыніць галадоўку.

Я, як прадстаўнік ад усяго калектыву, хадзіў па камерах і абвяшчаў канец галадоўкі. Зайшоў у адзіночку да Шчапанскага. Гэта яму мы сказалі, каб пачаў галадоўку на шосты дзень, але ён не паслухаўся і галадаў з першага дня забастоўкі. У Шчапанскага на століку пры ложку ляжала газета «Дзённік гродзенскі», бульварная пляткарская ануча. У ёй штодзень друкаваўся польска-нямецкі слоўнік. І вось гэты высокі, магутны хлопец дакладвае мне, што за час галадоўкі вывучыў сто нямецкіх слоў. Ну, хіба ж гэта не тая юнацкая ўпартасць, якая хістала муры панскіх турмаў?

...Таварыш Давід Скульчык памёр. Да турэмнай брамы пад'ехаў і спыніўся сярод натоўпу рабочых Гродна «катафалк». Як ні хавала турэмная адміністрацыя смерць Скульчыка, усё роўна мы дапільнавалі, калі вязлі яго да брамы на калёсах, прыкрытага саломаю. З вокан адзіночак паляцелі развітальныя словы і ўслед шуганула песня: «Вы жертвою пали в борьбе роковой...»

## НА ЧАТЫРНАЦЦАТЫЯ СУТКІ

Калі мы яшчэ жылі ў агульнай камеры, Юрка Кавалеўскі, камсамолец з-пад Слоніма, любіў часам памарыць уголас: «Эх, як выйду на волю, адразу зайду ў піўную і закажу сабе кіло ўсякай усячыны». Гэта выклікала вясёлы смех. Юрка Кавалеўскі быў хлопец з гумарам, хлопец камсамольскага аптымізму. Але пасля прыезду новага начальніка, які аказаўся змрочным катам, фашысцкім рэфарматарам у турме, нас перасадзілі ў адзіночкі, дзе вокны былі замураваны да палавіны. Стала цёмна і глуха. Прагулкі нам скарацілі да пятнаццаці мінут, паменшылі харчы і радзей ужо дазвалялі бачыцца з раднёю. Кніжкі пакінулі толькі шавіністычныя. Над намі апусцілася фашысцкая ноч. Строга пільнавалі нашых «коней» — так мы



У Каралішчавічах.
*1952 г.*



У час падарожжа па Беларусі.
*1955 г.*

называлі шнуркі і вяровачкі, па якіх з акна ў акно перасылалі таварышам харчы і грыпсы (турэмныя запіскі). Пакаранне было адно — пабоі і карцэр. Аднае ночы схапілі Юрку Кавалеўскага — ён перасылаў «на кані» хлеб свайму суседу. Кавалеўскага моцна пабілі і кінулі ў карцэр. Там ён адседзеў двое сутак. Але, вярнуўшыся ў адзіночку, зноў пачаў выцягваць ніткі з сенніка і віць шнурок. Кавалеўскага злавілі зноў і зноў кінулі ў карцэр. Так было за трэцім, за чацвёртым разам. Не чакаючы, пакуль дазорца замкне дзверы адзіночкі, Юрка падымаў сяннік і выцягваў з яго ніткі. Хлопца тут жа бралі назад у карцэр і білі, і за кожным разам усё мацней і мацней. За адзін шнурок нам давалі двое сутак карцэру. Юрка Кавалеўскі адседзеў чатырнаццаць. На пятнаццатыя да яго прыйшоў сам начальнік турмы (прозвішча не помню) і сказаў: «Прашу цябе... перастань...» І наш Юрка кінуў яму: «Гэта ўжо іншая справа. Цяпер перастану. Але перамога мая!»

Наша кіраўніцтва камуны не раз папярэджвала Юрку, каб ён перастаў задзірацца з адміністрацыяй, бо ў той напружанай сітуацыі небяспечна было падымаць калектыў на яго абарону. А Юрка, поўны запалу, адкінуў гэтае папярэджанне. І дамогся свайго — паставіў на калені начальніка турмы. Хоць я ведаю, колькі сіл і здароўя каштавала яму гэтая барацьба.

Гэта ўсё было ўвосень 1932 года. А недзе ў пачатку 1933-га Юрка выйшаў на волю. Не ведаю, ці ўдалося яму заказаць у піўной тое жаданае «кіло ўсякай усячыны», бо мяне выпусцілі з турмы ў верасні.

Помню халодны, пануры дзень позняй восені. Я вярнуўся з сваіх падпольных паходаў дахаты (тады я ўжо быў членам Слонімскага павятовага камітэта партыі), і маці падала мне невялікі кавалачак паперы. На ёй было напісана: «Прыходзь у Шылавічы. Цвяткоў». Цвяткоў — гэта быў псеўданім Юркі Кавалеўскага. Я, узрадаваны, паківаў галавою і падумаў: «Эх... дарагі Юрка, з хворым, разбітым сэрцам ты змераў каля сарака кіламетраў, каб дайсці да мяне. Схіляю галаву перад тваёй самаахвярнасцю, дружа. Заўтра буду ў цябе».

Назаўтра ўначы ён спаткаў мяне каля моста над Шчарай. Я перадаў мопраўскія ўзносы, а ён мне сунуў у руку білет:

— На, паедзеш.

— Куды? — спытаў я.

— У Варшаву, у ЦК.

Божа мой, з якой радасцю я ўзяў гэты білет! Юрка даў мне яшчэ белую кужэльную торбачку з кавалкам сялянскага хлеба — гэта для канспірацыі, пару злотых і правёў за Шчару на дарогу. (Юрка Кавалеўскі быў тады сакратаром Слонімскага акруговага камітэта камсамола.)

Ад Шылавіч да Слоніма недалёка — якіх восем-дзевяць кіламетраў. Пад шум прыдарожных бяроз цёмнай асенняй ноччу я рушыў у горад, да цягніка, каб ехаць у Варшаву.

## ІРЫНА І ПЁТР

Заснежаны старажытны Пінск дыхнуў на мяне, самотнага і насцярожанага, водарам сельскай цішыні. Ля вакзальнага ганка стаялі фурманкі. Сяляне ў карычневых сярмягах і авечых шапках, падобных да стажкоў сена, грэліся, хукаючы сабе ў рукі.

Ідучы па вуліцы, я падумаў, што ў Варшаве было халадней, хоць Рыгор Смоляр прыйшоў да мяне ў капелюшы. Смоляр працаваў тады ў ЦК. Ён распытваў мяне пра здароўе, пра тое, як кормяць, чаго мне не хапае яшчэ. Я папрасіў, каб мне далі пачытаць савецкія газеты. Мне прынеслі «Правду», «Известия» і «Комсомольскую правду», не лічачы розных партыйных цыркуляраў. Успомніўся і халодны, людны вечар на вуліцах Варшавы. Думаў, што загіну ў імклівай людской плыні. Я баяўся, што страчу з вачэй тую залатую брошку на блакітным берэце. І калі яна часам гублялася ў людскім віры, страх плыў аж да ног. Але вось святло ліхтара выхоплівала яе аднекуль зноў, і я спакайнеў. Залатая брошка на блакітным берэце — гэта была брошка сувязісткі, якая вяла мяне з яўкі на канспіратыўную кватэру. І прывяла. А потым на кватэры, ужо ў цішыні і цяпле, смяялася, гаворачы з гаспадыняй і са мной, і нават пахвалілася сваім новым, толькі што купленым світэрам.

Так я ішоў ціхаю і вузенькаю вуліцай Пінска, успамінаючы блізкую і адначасна далёкую для мяне Вершаву. Нарэшце схамянуўся, што не ведаю, дзе ж патрэбная мне вуліца. Запытаўся ў адной жанчыны — сказала, што не ведае. Спытаў у другой — не ведала і гэтая. Тады я ўзяў рамізніка. Даехаў да вулачкі, а потым пайшоў пешшу і ўжо здалёк заўважыў, як пераходзіла вуліцу дзяўчына. Я дайшоў да дома № 15. Тут я павінен быў сказаць гаспадыні Голдзе: «Прывітанне ад Боруха з Косава». Да

веснічак амаль што разам са мною падышла і дзяўчына. Мы разам увайшлі ў дамок.

— Калі вы да гаспадыні, то яна на запалкавай фабрыцы,— сказала дзяўчына, прыглядаючыся да мяне. Я не ведаў, што рабіць: аставацца ў хаце ці не. І стаяў як сам не свой. Урэшце дзяўчына сказала, што я магу ёй даваряць, як самой гаспадыні. Я маўчаў, баяўся выдаць абы-каму свой сакрэт, а яна ўсё пераконвала, што ёй можна даверыцца. Тады я набраўся адвагі і сказаў пароль. Дзяўчына адказала: «Усё ў парадку». Ну, а далей пайшло ўжо бліжэйшае знаёмства — хто, што і нашто. Дзяўчына была функцыянеркай ЦК па камсамольскай лініі.

— Мяне чакае фурманка,— сказала яна.— Пойдзем зараз і паедзем у вёску. Называюся я Ірына.

Я развёў рукамі: я не меў яшчэ падпольнае клічкі.

У Пінскай акрузе нашы арганізацыі былі разбіты. Там дзейнічаў белагвардзейскі афіцэр Дзем'янюк, кіраўнік дэфензівы. Гэта ён гірай разбіваў нашым хлопцам грудзі. Трэба было ствараць нашы арганізацыі нанова. Дзеля гэтага я сюды і прыехаў.

...На санках мы сядзім поруч. Раз-пораз паглядаю на прыгожы твар Ірыны, на пасмачкі русых валасоў, што выбіліся з-пад цёплай хусткі, на вейкі, на якіх паспела ўжо асесці маладзенькая шэрань. Мне спадабаліся ў гэтай дзяўчыне і яе непасрэднасць і нефальшывая прастата...

Конь рухава бяжыць па ўезджанай саннай дарозе. Маўчым, думаем. Недзе ў кожнага ў глыбіні душы прытаілася самаахвярнасць. Фурман, малады хлопец, умела вядзе каня, напружана трымаючы лейцы, і пільна глядзіць навокал. Ён з уцехаю думае, што вязе людзей, якія працуюць дзеля таго, каб народ пазбыўся паноў, а значыць, здабыў свабоду.

Вялікая вёска насунулася на нас разам з цёмным, нейкім чужым вечарам. Рэдка дзе блішчалі цьмяным, прыглушаным святлом маленькія акенцы хат пад саламянымі стрэхамі.

— Тпрру... Прыехалі,— сказаў фурман.

Мы ўвайшлі ў сенцы, а потым у самую хату, нахіляючы галовы. І Ірына першая і неяк упэўнена, быццам яна тут даўно жыла. А потым, нібы яна была гаспадыня ў гэтай хаце, памагла мне зняць паліто і запрасіла сесці на лаўцы. Калі гаспадар і яго дочкі сказалі нам, што з дарогі варта было б пагрэцца на печы, Ірына неяк адразу і ахвотна згадзілася.

Там, на печы, мы склалі план нашай работы. Там я назваў сябе Пётрам, і гэта ўжо было пачаткам агульнай працы.

...Гарадскі камітэт камсамола ў Пінску быў амаль укамплектаваны. Гэта зрабіла сама Ірына. Цяпер жа мы аднавілі з ёю ў далёкім ад Пінска мястэчку Моталь раённы камітэт партыі. Гэта заняло ў нас два тыдні. А потым Ірына паехала ў Пінск да сваіх знаёмых, дзе атрымала ліст з Варшавы. Яе выклікалі ў ЦК. Яна прыйшла з Пінска з гэтай весткай да мяне, у глухую вёску, у знаёмую, даўнюю канспіратыўную хату, дзе ў нас быў першы «пячны прыстанак» і куды незадоўга перад гэтым я вярнуўся. У тую ноч спаў якраз у каморы. Вось сюды з некалькімі камсамольцамі і прыйшла Ірына, каб развітацца са мной. Пагаварылі хвілін, можа, з дзесяць, і яна пайшла, каб больш да мяне не вярнуцца. Астаўся я адзін, агорнуты цемрай і смуткам...

На Піншчыне я працаваў амаль чатыры месяцы. Потым мне на змену з Варшавы прыехаў бывалы, выпрабаваны палескі функцыянер Аляксей Дзмітрук (загінуў у Айчынную вайну ў партызанах). Да яго прыезду я ўжо стварыў два раённыя і ўкамплектаваў акруговы камітэты партыі. Аляксей прывёз мне радасную вестку — я павінен быў ехаць у Варшаву. «Ляці як найхутчэй,— сказаў ён,— там цябе чакаюць». І яшчэ сказаў, што ў бельскай дэфензіве на Беласточчыне закатаваны насмерць Юрка Кавалеўскі.

...У той жа дзень я быў у Пінску. Цягнік на Варшаву меўся адыходзіць а гадзіне чацвёртай ранкам. Вырашыў заначаваць у знаёмых. Калі ж я выйшаў ад іх, мяне тут жа, недалёка ад хаты, падхапілі пад рукі два асобнікі — адзін у капелюшы, другі ў кепцы. Аказалася, што гэта былі кіраўнік дэфензівы Дзем'янюк і яго намеснік пан Зарэмбскі.

Мяне чакала пінская турма. Пачынаўся новы і нялёгкі перыяд майго жыцця.

## ТРЫЦЦАЦЬ ДЗВЕ ПЕРАСАДКІ

У гэтай аброслай мохам двухпавярховай турме было тры адзіночкі і нешта каля дзесяці агульных камер. У адзіночках сядзелі толькі нашы хлопцы — палітычныя, па сем чалавек у кожнай. Гэта, як гаварылі, была эліта. Яе не

пускалі ў агульныя камеры. Душыцеся ў адзіночках. Але і ў агульных было не лепш. Там цяснілася па сорак, а то і больш чалавек. У гэтакую спачатку і ўвапхнулі мяне з сеннікам, набітым парахнёй, з коўдрай, злепленай з нейкіх кавалачкаў. У камеры натоўпам стаялі маладыя хлопцы, накінуўшы на плечы такія ж коўдры, як і ў мяне. Пасінелыя, змучаныя твары. Холадна. Каля акна за сталом некалькі чалавек ігралі «ў косці». Я зразумеў, што гэта рэцыдывісты. Адзін з іх падняўся з-за стала і забраў у мяне торбачку, дзе былі мыла, зубная шчотачка, паста, кавалак хлеба, каўбаса і махорка. Потым паказаў, куды лажыць коўдру і сяннік. У руцэ ён трымаў бярозавы венік.

— Ты быў у турме? — спытаўся здаравіла.

— Быў, адседзеў пяць год.

— Ого, то ты ўжо стары воўк. Сядай вось там на лаўцы каля акна.— І раптам крыкнуў да натоўпу: — А вы чаго засмуціліся? Сядаць!

Усе з шумам селі, і ён пачаў усіх біць па галовах агузкам веніка. Працiскаючыся да вядра з вадою, я паціху сказаў аднаму з хлопцаў:

— І вы зносіце гэтакі здзек? Вас жа многа...

— Ой, дарагі таварыш, нічога не зробіш, заб'юць.

Вяртаючыся назад да лаўкі, я заўважыў, што здаравіла не спускае з мяне вока. У часе абеду (а нам прынеслі адну вадзічку) на парозе камеры паказаўся таўсцяк-шпадоўнік, увапхнуўшы рукі ў брудны, абшарпаны шынель. У распухлым чырвоным твары было нешта свіное. Як я даведаўся пасля, вязні называлі шпадоўніка «парашай». Да «парашы» падышоў здаравіла і нешта пачаў шаптаць на вуха. Я чамусьці падумаў, што пра мяне.

«Параша» вынес з камеры цэбар, у якім прыносіў абед, і зноў замкнуў дзверы.

Счакаўшы, «параша» прыйшоў зноў.

— Дарогу, хамы! Што, не бачыце? — крыкнуў здаравіла на хлопцаў.

«Параша» пасоўваўся павольна, як нацэліўшыся на нешта, і раптам ткнуў пальцам у мяне. Хрыпатым голасам загадаў:

— Ты... забіраць свае рэчы!..

Я ўзяў сяннік, коўдру і спытаўся ў здаравілы пра торбачку. Ён аддаў мне яе, але толькі без хлеба, каўбасы і махоркі. «Параша» завёў мяне ў кутную камеру.

Старшым камеры тут быў рэцыдывіст з мясцовых пін-

скіх валацуг. На гэтую пасаду яго назначыў сам начальнік турмы. Рэцыдывіст быў худы і кульгавы, але гэтак спрытна біў хлопцаў, што яны толькі стагналі пад яго ўдарамі. Палітычных там было пяць, і ўсе ціхія вясковыя хлопцы. Яны жылі не дружна, кожны сам па сабе. Я пагаварыў з імі, і праз тры дні ў нас ужо быў калектыў, шасцёра хлопцаў. Выбралі капцёра.

А ў кульгавага быў закон: палучыш з дому пасылку, выкладай усё яму на стол. У пасылках з вёскі звычайна былі чорныя сухары і сала. Сала кульгавы забіраў сабе. Іншы раз трошкі пакідаў гаспадару, а іншы раз і не. Затое карміў свайго капуся (даносчыка). Як аказалася, той умеў добра падслухоўваць. Здавалі пасылкі кульгаваму і нашы хлопцы-камуністы. А стварыўшы калектыў, мы перасталі даваць кульгаваму свае пасылкі. Патрабаваць ад нас даніну ён не адважыўся. Параіліся і вырашылі запрасіць да нашага калектыву і некаторых крымінальнікаў. Многія палескія хлопцы засуджаны былі за кражы: хто ўкраў авечку, хто цяля, хто палатно. Адзін з іх, напрыклад, украў у краме некалькі метраў тканіны, каб справіць сукню сваёй каханай. Цераз пару дзён у нашым калектыве было ўжо дванаццаць чалавек. Паступова ўсе хлопцы перасталі аддаваць пасылкі кульгаваму. А ён, хам, патрабаваў, але яму адказвалі: «Не дамо!» Пасля двух месяцаў майго побыту ў гэтай камеры кульгаваму ўжо не давалі нават курыць.

Але неўзабаве калектыў быў ліквідаваны — усіх хлопцаў перасадзілі ў другія камеры і прывялі новых. Мяне нікуды не пераводзілі. Кожны раз мне прыходзілася пачынаць усё спачатку, і кожны раз праз якіх пару дзён хлопцаў забіралі. Нарэшце ў камеру кінулі пяць рэцыдывістаў. Паны думалі, што яны мне тут паломяць рэбры. Аказалася наадварот. Я пераканаў астрожнікаў, што кульгавы — вялікі хам, што ён забірае пасылкі ў вязняў, што даносіць начальніку і што сам ён мае «капуся». Рэцыдывісты абурыліся і вырашылі даць яму «коца». (Коц — папольску коўдра. А «даць коца» — значыць накрыць каганебудзь коўдраю і адлупцаваць.) Дамовіліся, што зробяць гэта ўначы. Аднак кульгавы падслухаў і данёс. Увечары прыйшоў «параша» і забраў рэцыдывістаў. Гэта была ўжо трыццаць другая перасадка.

Назаўтра новы малады пшадоўнік выклікаў мяне на калідор, пхнуў у туалет і там пачаў біць. Сарваў з маёй галавы бінт. Пад ім было пятнаццаць скул. З галавы па-

цякла кроў. Кат, мусіць, спалохаўся, перастаў мяне біць, выцягнуў на калідор і ўпхнуў у камеру-адзіночку. Там сядзелі свае хлопцы. Я ўзрадаваўся.

## КОПЭЦЬ І ЧОРНАЯ ХМАРА

Паўтара года ўжо я сяджу ў пінскай турме пад следствам. І следству, здаецца, не будзе канца. Тут, у гэтай яме, прагулка толькі дзесяць мінут, кніжак, бадай, няма. Праўда, ёсць нешта каля дваццаці, і тыя найбольш прыгодніцкія. І як нейкі цуд сярод іх — паэма Міцкевіча «Пан Тадэвуш». І толькі адна газета — «Газета Польска».

Я па памяці выкладаю таварышам палітычную эканомію, расказваю сёе-тое з гісторыі, з літаратуры. Хлопцы дзеляцца ўспамінамі пра сваё жыццё, марамі пра волю. Гуляем у шахматы. Часта адведваем карцэр за тое, што перастукваемся. І ўрэшце, падлічыўшы нашы сілы ў маштабе ўсёй турмы, вырашылі «прасіць» начальніка, каб дазволіў нам выпісаць газеты, часопісы, каб павялічыў прагулку, каб аддзяліў палітычных ад крымінальных і размясціў асобна. Начальнік толькі з'едліва ўсміхнуўся і моўчкі выйшаў з камеры. Гэта быў пан Копэць (у перакладзе — копаць, сажа), чорны, як злыдзень, падобны на вачэй на вулічнага панажоўшчыка. І ўрэшце мы, 28 адзіночнікаў, леглі галадаць. На чацвёрты дзень узбунтавалася ўся турма. Мяне і яшчэ трох таварышаў дазорцы кінулі ў карцэр і ўпхнулі сюды двух крымінальнікаў, каб яны тасарвалі галадоўку. Крымінальнікі далучыліся да нас. Тады на шосты дзень галадоўкі мяне выклікаў у канцылярыю гэты самы пан Копэць. Ён, насуплены, злы, хадзіў па канцылярыі. Хадзіў доўга і моўчкі.

— Усё атрымаеце, чаго просіце, толькі перастаньце галадаць.

— Дзякую, пан начальнік. Думаю, што слова ваша — закон.

Копэць зноў маўчаў і зноў хадзіў па канцылярыі. Я пакланіўся і выйшаў. У камеры расказаў хлопцам пра абяцанне начальніка. Галадоўку, вядома, мы спынілі. Чакалі, ці выканае сваё абяцанне начальнік турмы. Але прайшоў тыдзень, другі — і нічога. Запісваюся на рапарт, іду да яго ў канцылярыю. Ён, надзьмуўшыся, адказвае:

— Тут турма, а не дом для ігры. Што маеце, тым карыстайцеся.— Устаў з-за стала, падышоў да мяне і хітра глянуў у вочы: — Так, Пестрак, размова скончана.

Я ішоў назад ашаломлены. А потым падумаў: «Ну што ж, такая прырода фашызму. Будзем змагацца!»

Адказ Копэця абурыў да канца таварышаў. Усе былі настроены працягваць барацьбу.

Недзе праз паўгадзіны з'явіўся «параша». Сказаў тое турэмна-трафарэтнае:

— Пестрак, забіраць свае рэчы.— Чакаў, пакуль я збіраўся.— Да канцылярыі,— дадаў ён.

Я з трывогай развітаўся з таварышамі.

У канцылярыі мяне дасканала скавалі — рукі назад, прывязаўшы да іх кавалак ланцуга, каб за яго трымаўся паліцыянт. На прывязі я павінен ісці аж да вакзала, каб адтуль пад канвоем двух паліцыянтаў даехаць да Вільні на судовы працэс маладых беларускіх літаратараў.

Вялі мяне па самай сярэдзіне вуліцы. Адзін паліцыянт ішоў наперадзе, другі — ззаду, трымаючы ў руцэ ланцуг.

Але вось бачу: на тратуары стаіць дзяўчынка са школьным партфелем у руцэ, у чатырохкутнай цёмна-сіняй шапачцы і пільна глядзіць на мяне. Маладзенькія вочы заліліся слязьмі. Нешта знаёмае я пазнаў у дзіцячым тварыку. «Ах, гэта ж сястрычка Фейгі, такой самай турэмніцы, як і я. Дык гэта яна, тая самая дзяўчынка, якая з цікавасцю глядзела на мяне, калі я да іх заходзіў».

Дзіця ідзе поруч са мною. Я ўпарта гляджу на дзяўчынку, каб даць зразумець, што я яе пазнаў.

Паварот направа — і дзяўчынка спынілася. Бывай, дарагое дзіця! Я твае слёзы пранясу ў сэрцы праз усё жыццё.

## «РАЙ»

У вагоне паліцыянты прывязалі мяне ланцугом да лаўкі. Яны выконвалі загад каменданта паліцыі і начальніка турмы Копэця. Выконвалі і яшчэ адзін наказ — маўчаць. А мне, наадварот, хацелася гаварыць. Поезд імчаў, мінаючы палі і лясы. Па шыбе акна цяклі струменьчыкі вады.

— Значыць, на свеце адліга,— сказаў я ўголас.

Паліцыянты зрабілі выгляд, нібыта не чуюць. Маўчанне, нейкае закамянелае маўчанне запала надоўга. Я гляджу на сваіх вартаўнікоў. У аднаго — бялявага — на твары нейкая крыху зычлівасць і прытоенае разуменне чагосьці добрага. У другога — пахмурасць і зацятасць. Пра-

шу раскаваць мне рукі, бо захацелася крыху перакусіць. Бялявы, пашукаўшы ключ, адамкнуў замочак на маіх кайданах.

— Колькі дарогі яшчэ асталося да Вільні? — спытаўся я.

Адказаў другі:

— А ўжо будзе палавіна.

Мы трохі разгаварыліся. Бялявы пачаў расказваць, колькі гарадоў ён бачыў за сваё жыццё, а вось у Вільні яшчэ не быў. З яго гаворкі я зразумеў, што паліцыянт паходзіць з тае часткі Польшчы, якая належала некалі да Аўстрыі, бо пералічваў такія гарады, як Вена, Будапешт, Прага, Берлін. Каб узбудзіць настрой паліцыянтаў, я сказаў:

— А цяпер пабываеце ў Вільні, там жа пахавана сэрца маршалка.

Усхапіліся абодва:

— О, абавязкова, абавязкова...

Настрой трохі палепшаў. Небяспека мінула. А небяспека — гэта, вядома, я — камуніст, якіх цяпер многа. Так і сказаў бялявы паліцыянт п'янаму паручніку, які прасунуў нос у нашае купэ:

— Гэта, пане паручнік, вялікі камуніст, засуджаны на дванаццаць год турмы. Канваіруем яго з Пінска.

Паручнік падазрона глянуў на мяне і адышоў. Здзівіўся і я, бо паліцыянт абдурыў паручніка для сенсацыі.

Вялі мяне па вуліцах ціхай начной Вільні; вялі не пасярэдзіне, як у Пінску, а па тратуары. А я ім, паліцыянтам, гавару, што дарэмна яны так мяне пільнуюць, бо я не ўцяку — ведаю, што ўсё роўна перамога будзе наша. Бялявы круціў галавою, захапляўся і гаварыў:

— Якая ўпэўненасць, якая ўпэўненасць...

Другі насцярожана маўчаў.

Я быў у Вільні ў 1928 годзе. Прыязджаў на з'езд Таварыства беларускай школы. Але з'езд не адбыўся,— забараніў віленскі ваявода Кіртыкліс. А цяпер, ужо праз сем год, я зноў у гэтым горадзе, толькі пад канвоем.

...Я не думаў, што турма Лукішкі па сваёй архітэктуры даволі ўнушальная: у зорнае неба тырчаў пазалочаны купал з пазалочаным крыжам над чатырохкутнай турэмнай прыбудоўкай. Пад гэтым купалам мясціліся розныя канцылярыі. Ад яго цягнуліся ў глыбіню турэмнага двара два чатырохпавярховыя гмахі. У іх — адзіночкі. Жалезныя сходкі — адны налева, другія направа — вядуць вышэй.

Бакавыя дашчаныя дарожкі, абстаўленыя парэнчамі, сцелюцца ўздоўж дзвярэй адзіночак. Усё блішчыць чысцінёй. На другім паверсе пры ўваходзе вісіць вялікі абраз Хрыста ў пазалочанай раме, перад якім на трох пазалочаных ланцужках мігціць запаленая лампадка. Да гэтага абраза ранкам і ўвечары сходзяцца крымінальнікі, каб праспяваць «Калі раннія ўстаюць зоры» і «Божа, ты ж Польшчу праз многія вякі...». Але што гэта? Побач з Хрыстом ва ўглыбленні сцяны месціцца крама. І адтуль выглядае галава крамніка ў белым чапцы. Што за недарэчнасць! Хрыстос у тыя далёкія палесцінскія часы, як гаворыць евангельская легенда, выгнаў з храма гандляроў, а тут ён ім памагае!

Пасадзілі мяне ў адзіночку на чацвёртым паверсе. Назаўтра на абед быў суп з вантробамі. Прызнаюся, я цешыўся гэтым супам. Прыйшоў бібліятэкар з каталогам. Я выбраў сабе кніжкі. Купіў у краме каля Хрыста сшытак і аловак. Пасля забруджанай пінскай турмы Лукішкі здаліся мне раем.

## ПАЭЗІЯ

Стыль усяго ўкладу адміністратыўнага парадку на Лукішках проста вырафінаваны. Ва ўсім адчувалася нейкая шляхецкасць. Нават прозвішча начальніка турмы было з літоўска-шляхецкім канчаткам «лло». Не помню, ці то Забелло, ці Скіргелло. Адным словам, ад Ягелло [1]. Давялося бачыць гэтага пана ў часе яго абходу адзіночак. Нічога не скажаш — выхаваны, тактоўны, трымаецца з гонарам. Пасля, як я даведаўся, ён з гэтакай тактоўнасцю катаваў камуністаў.

На судовым працэсе я пазнаёміўся з маладым паэтам Валянцінам Таўлаем, з вучнем Віленскай беларускай гімназіі Якубам Міско, з рэдактарам часопіса гумару і сатыры «Асва» Пятром Радзюком. Быў сярод нас тады яшчэ адзін цікавы хлопец — Майсей Патажнік. Ён паходзіў з Ломжынскага ваяводства. За час пабыту на Лукішках Патажнік вывучыў беларускую мову, чытаў беларускія вершы і прозу, быў добрым, цікавым крытыкам. Гэта была такая шчырая маладосць, такое таварыскае сумленне, што я і цяпер успамінаю яго з прыемнасцю.

---

[1] У тэксце недакладна пазначаны прозвішчы. Трэба: Забела, Скіргайла, Ягайла.

На судзе ў перапынках мы многа гаварылі пра літаратуру, пра яе шляхі-напрамкі. Я дэкламаваў Маякоўскага па-польску. Гэта былі ўрыўкі з паэмы «Воблака ў штанах», якія я вывучыў на памяць яшчэ ў гродзенскім астрозе.

Я атрымаў шэсць год турмы. Апеляцыйны суд за маю прамову дадаў мне яшчэ два гады. Але іх хутка скінула амністыя.

## «КРАТЫ»

Хочацца сказаць некалькі слоў аб «Кратах» — толькі не аб тых, што засланялі нам свет у вокнах, а пра падпольны турэмны часопіс. І яго мы называлі «Краты». Гэты часопіс выглядаў як кішанёвы блакноцік. У ім змяшчаліся вершы, апавяданні, публіцыстычныя артыкулы. У гэтых улюбёных «Кратах» упершыню быў надрукаваны мой верш «Паэзія», вынашаны мною яшчэ ў пінскай турме. Крытыкамі ў нас былі Таўлай і Майсей Патажнік. Дарэчы, у сваім апошнім слове, адказваючы на правакацыйнае пытанне пракурора, чаму ён, будучы яўрэем, трапіў з беларусамі на суд, Патажнік сказаў: «Так, я яўрэй, але гэта зусім не значыць, што вораг беларускага народа, таксама як і польскага».

Але вось у наша турэмнае жыццё прыйшоў са сваёй камсамольскай адвагай Сяргей Прытыцкі. Гэта была наша агульная радасць — правакатар Стральчук пакараны рукою Сяргея. Заходнебеларускі азэф [1] знішчаны. Прытыцкі паранены паліцыяй. Вытрымаў аперацыю. Ізаляваны. Але мы яго бачылі з акна. Ішоў, апіраючыся на мыліцы. Значыць, раны на нагах яшчэ не загаіліся. Потым было нам цяжка — Сяргей быў засуджаны на кару смерцю церaз павешанне. Яго развітальны ліст да таварышаў, ліст, поўны самаахвярнасці за справу, да партыі. Развітаўся з таварышамі так, як і вітаўся штодзённа — словамі нашай баёвасці: «Рот фронт! Рот фронт!»

Не далі фашыстам павесіць Сяргея, не далі! Увесь рабочы клас Польшчы падняўся забастоўкамі ў яго абарону. Беларускія сяляне насілі лісты-петыцыі ў валасныя праўленні і патрабавалі вызваліць Сяргея Прытыцкага ад усякіх кар. На першамайскай дэманстрацыі ў Вільні ў 1936 годзе развяваліся транспаранты з надпісам: «Патрабуем звальнення Сяргея Прытыцкага!»

[1] Эсэр, правакатар.

# ПЕТР РАДЗЮК

Пасля году пабыту ў віленскіх Лукішках мяне перавезлі ў знаёмую ўжо гродзенскую турму. Перавезлі не аднаго, а цэлую групу — нешта каля двухсот чалавек. Прычына такога вялікага перасялення была, можна сказаць, небывалая. Недзе ў лясных кутках навокал Вільні паліцыя вылавіла і арыштавала самагоншчыкаў. І не было дзе іх пасадзіць. Каб вызваліць ім месца, нас, палітычных, перавялі ў Гродна. Стаяла ўжо восень 1936 года. Старэйшых таварышаў незадоўга перад гэтым вывезлі ў Грудзёнц, Коранава, Равіч, бліжэй да нямецкай граніцы.

Я шкадаваў Лукішак, бо ведаў — гродзенская турма цяжэйшая.

Са мною ў адной камеры асталіся Валянцін Таўлай, Якуб Міско і Ян Друта, сын літоўца і беларускі, такі сабе па-літоўску паважны, прыгожа маўклівы хлопец. У яго з сабою была грыфельная дошка. Ён пастаянна, здаецца, на бягу, пісаў на ёй хімічныя формулы, рашаў задачы па алгебры і геаметрыі. Да свайго арышту Друта займаўся на агранамічным факультэце Віленскага універсітэта і быў членам акадэміцкай лявіцы. (Ян Друта выйшаў з турмы ў 1938 годзе. Цяпер ён польскі пасол у Парыжы.)

Сядзеў тут і яшчэ адзін студэнт Віленскага універсітэта — Пётр Радзюк. Яго таксама прывезлі з Лукішак, толькі жыў ён у другой камеры.

На тэрыторыі гродзенскай турмы ёсць адзін глухі закутак. Гэта там, дзе лазня, дзе вісела таблічка з надпісам: «Цёмныя камеры». Турэмнае начальства схітравала: замест «карцэры» напісала «цёмныя камеры». У гэты глухі закутак перасялілі ўсіх палітычных, занялі нават камеры сутарэння, чаго даўней не было. У адну з іх я трапіў пазней. А спачатку мяне пасялілі на другім паверсе. Начальнік турмы, фашысцкі рэфарматар, забраў ад нас усе палітычныя кніжкі і рускую белетрыстыку. «Капітал» Маркса пайшоў на рознае карыстанне. Аднаго разу таварышы, вярнуўшыся ад фельчара, прынеслі парашкі ў лістках з гэтай кніжкі. Мы захавалі іх да прыходу пракурора. І калі ён, абходзячы ўсе камеры, прыйшоў да нас, мы паказалі яму лісткі з «Капітала». Пракурор не быў такім звар'яцелым фашыстам, як начальнік, і таму нечакана здзівіўся. Тут жа загадаў начальніку разабрацца з гэтай справай. А што датычыла рускай белетрыстыкі, то катэгарычна сказаў: «Даваць. Няхай карыстаюцца».

Неўзабаве мяне выбралі сакратаром турэмнага камітэта (наша кіраўніцтва, вядома, было нелегальнае). Камітэт складаўся з пяці чалавек: трох мужчын і дзвюх жанчын. Сядзелі мы ў розных камерах, але сувязь паміж сабою падтрымлівалі пры дапамозе «коней». Найбольш уночы. Мы рыхтаваліся да нялёгкай барацьбы. Нашы разведчыя сілы данеслі, што турэмная адміністрацыя хоча змусіць палітычных вязняў да фізічнай працы, каб зраўняць іх з крымінальнымі. Што гэта азначала з пункту гледжання палітыкі? Палітычныя вязні былі сынамі і дочкамі працоўных, сынамі рабочых і сялян і, вядома, не цураліся фізічнай працы. Але турма для палітычных — гэта школа рэвалюцыянераў, а пайсці працаваць — значыла страціць гэтую школу, гнуцца пад фашысцкім бізуном, не займацца самаадукацыяй, не весці сістэматычна палітычную работу. Вось чаму барацьба супроць фізічнай працы ў капіталістычнай турме была важнай задачай палітвязняў.

І дзень гэтай барацьбы надышоў. Пасля снедання ў нашу камеру ўварваўся пшадоўнік у акружэнні дазорцаў. Мы выстраіліся ў дзве шарэнгі. Пшадоўнік тыкаў пальцам у хлопцаў: «Гэты, гэты, гэты...— выходзіць!» Вывелі пяць чалавек. Па пяць чалавек выводзілі і з другіх камер. На калідоры стала шумна, там ужо кагосьці білі. Мы забарабанілі кулакамі ў дзверы: «Не біць!» Праз сцены запрацавала «марзянка»: я пытаўся, ці пайшоў Радзюк да начальніка (Пятра Радзюка камітэт назначыў парламенцёрам для перагавораў з начальнікам турмы). Тым часам таварышаў ужо змушалі чысціць туалет. Яны адмовіліся, і іх пагналі ў тыя «цёмныя камеры»—карцэры.

Я перадаў, каб Радзюк ішоў да начальніка турмы. І ён пайшоў, дакладней — яго завёў дазорца. Начальнік, пачуўшы словы: «Ад імя палітычных вязняў...» — рыкнуў:

— Ц-о-о! У карцэр, пся крэў!

Радзюка павялі ў глухі закутак. На карцэрным калідоры ўсіх распранулі і голых ганебна абшуквалі. Прыйшоў начальнік турмы і загадаў стаць усім у шэраг.

— Будзеш працаваць? — пытаўся ў першага.

— Не! — адказваў таварыш.

— Браць яго! — падаваў каманду фашыст-начальнік.

Дазорцы хапалі таварыша, клалі тварам на цэментовую падлогу. Адзін трымаў за галаву, другі налягаў на ногі, а двух з гумовымі палкамі па камандзе начальніка адлічвалі «дваццаць пяць» — гэтую фашысцкую лічбу.

Па сканчэнні экзекуцыі начальнік зноў пытаўся:

— Будзеш працаваць? — Атрымаўшы адказ «не», кат крычаў: — У карцэр!

І таварыша вялі ў карцэр. І так прайшлі гэтую катоўню ўсе шэсцьдзесят таварышаў. Чарга дайшла да апошняга, да Пятра Радзюка.

— Будзеш працаваць? — спытаўся кат-начальнік.

— Не! — адказаў Радзюк.

— Браць яго!

Радзюка палажылі на падлогу і пачалі біць. Скончылі — начальнік спытаўся зноў:

— Будзеш працаваць?

Радзюк сказаў:

— Не!

Білі яшчэ.

— Будзеш працаваць?

— Не! — гучала ўжо трэці раз. Кат-начальнік падаў коратка:

— Дваццаць пяць!

І дазорцы выканалі катаўскі загад. Дваццаць пяць удараў упалі на Пятра Радзюка чацвёрты раз.

— Ну, а цяпер?..

— Не! — прагучала тое самае цвёрдае слова. І гэта пасля ста ўдараў!

— У карцэр! — рыкнуў знясілены кат і выйшаў на падворак. За ім пацягнулася ўся зграя.

Праз паўгадзіны ўсіх, каго загналі ў карцэр, выпусцілі, а Пятра Радзюка павялі ў канцылярыю на перагаворы. Атака фашызму захлынулася (Пётр Радзюк жыве цяпер у Польшчы, у горадзе Шчэціне, працуе дырэктарам упраўлення рамесніцкіх школ).

Якраз у разгар нашых сутычак з турэмным фашызмам за краты прыйшла невясёлая вестка аб роспуску КПП. Але пра гэта расказ будзе ў далейшым.

## ТАК МЫ ЖЫВЁМ

Мы жывём у надзвычай інтэнсіўную эпоху — эпоху навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Гэтая рэвалюцыя можа быць і напэўна будзе ключом для разгляду ўсялякіх пытанняў, праблем грамадска-сацыяльнага, палітычна-псіхалагічнага характару.

Вышка, як бачна, высокая, і нам, літаратарам, трэба

дасягаць гэтай вышкі. Пытанне ўпіраецца ў светапогляд пісьменніка, мастака, публіцыста, даследчыка і г. д. Перадавы светапогляд і ёсць тая найвышэйшая вышка, з якой далёка відны гарызонты жыцця. Наш светапогляд — марксізм-ленінізм.

Калі вось з такімі меркамі падыдзем да сённяшняга дня нашай рэспублікі, то ўбачым, што поступ яе за гады рэвалюцыйнай перабудовы вызначыўся як індустрыяльны. Узмужнеў і паступова папаўняецца рабочы клас. Гэта і ёсць тая якасна-гістарычная з'ява, якая карэнным чынам пераўтварыла жыццё краіны, дала ёй іншы рытм, іншую перспектыву.

Пераход людзей з вёскі ў горад — гэта не просты працэс. Ён у галоўным сваім аспекце звязаны з псіхалогіяй асобы — з набытымі навыкамі працы на полі, з усім укладам сялянскага побыту, «сялянскім» думаннем. Недарма ў апавяданнях некаторых нашых маладых пісьменнікаў гэтыя «пераходнікі», апынуўшыся на заводзе, яшчэ прагнуць «касіць сена хоць бы на асфальце». Гэта зусім зразумела. І гэты пераходны працэс, працэс ломкі псіхалогіі будзе працягвацца да таго часу, пакуль навукова-тэхнічнае аснашчэнне сельскай гаспадаркі не стане ўпоравень з гаспадаркай на фабрыках і заводах. І таму тэма рабочага класа ў нашай мастацкай літаратуры пачынае моцна стукацца ў дзверы. Як вядома, першыя парасткі ўжо ёсць. Будзем спадзявацца, што яны дадуць у будучым добры плён. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што вырашэнне рабочай тэмы ў мастацкай літаратуры не з'яўляецца працэсам скараспелым. Барані божа ад такога валюнтарызму! Працэс павінен быць і будзе працэсам шырокаглыбінным, арганічна звязаным з мінулым краіны, з гісторыяй народа.

Пра гэта — вялікая турбота нашай савецкай літаратуры і мастацтва ва ўсіх яго формах.

## ШЧЫРЫ ДРУГ І ДОБРАЗЫЧЛІВЫ КРЫТЫК

У ліпені 1943 года я прыляцеў у Маскву з партызанскага злучэння генерал-маёра Сабурава па выкліку ЦК КПБ. Прыйшоў у Саюз пісьменнікаў на вуліцы Вароўскага, і там мяне адшукаў А. Фадзееў.

Мне, пачаткоўцу, упершыню гаварыць з Аляксандрам Аляксандравічам было і боязна і ўцешна.

Мы сядзелі за столікам пры сцяне ў вестыбюлі Саюза, і Аляксандр Аляксандравіч распытваў мяне пра партызанскае жыццё, пра баявыя аперацыі і г. д. Я адчуў яго шчырую зацікаўленасць партызанскім рухам, і гутарка пайшла свабодней — часам нават крыху з жартам, смехам. Пасля гэтай сустрэчы я ўбачыўся з Фадзеевым недзе ў 1947 годзе ў Мінску на кватэры Петруся Броўкі. Там былі Якуб Колас, Міхась Лынькоў і Пятро Глебка. Гутарка ішла аб літаратуры розных народаў, а я не мог наглядзецца на яго, Аляксандра Фадзеева — чалавека, поўнага таварыскай непасрэднасці, весялосці, эрудыцыі. Ён дэкламаваў нам верш аднаго з грузінскіх паэтаў-класікаў, гартаў кніжку Якуба Коласа.

Неяк у тым жа годзе ў Маскве ён спыніў мяне на падворку дома Саюза пісьменнікаў. Рыхтаваўся сесці ў сваю машыну, але, убачыўшы мяне, прыпыніўся. Павёў гаворку пра мой раман «Сустрэнемся на барыкадах», урывак з якога ён чытаў у перыёдыцы.

Як добра было ў мяне на душы. Я адчуў у Фадзееве сапраўднага друга нашых нацыянальных літаратур.

А калі ў 1948 годзе раман выйшаў з друку, я зусім нечакана атрымаў ад Аляксандра Аляксандравіча вялікі ліст. Аказалася, ён, будучы хворым, у бальніцы прачытаў маю кніжку на беларускай мове. У лісце ён адзначыў і тое, што мне ўдалося і што яшчэ кульгае. У адказе я не шкадаваў слоў удзячнасці. А ліст Фадзеева я захоўваю як дарагую рэліквію.

Калі Аляксандр Аляксандравіч памёр, я паехаў у Маскву. Я не мог не пабачыць яго... Я стаяў і глядзеў на яго твар — на сціснутыя вусны, на светлае чало... Ён умеў мысліць шырока, умеў шчыра любіць наш савецкі народ, нашу слаўную гісторыю і нашу вялікую сучаснасць, азораную геніем Леніна.

# КАМЕНТАРЫІ

У пяты том Збору твораў Піліпа Пестрака ўваходзяць раман «Лесавічанка», публіцыстычныя і крытычныя артыкулы 1940—1973 гг. і «Асноўныя даты жыцця і творчасці П. Пестрака».

Раман «Лесавічанка» і артыкулы ўключаны ў Збор твораў упершыню.

Публіцыстычныя і крытычныя артыкулы падаюцца ў храналагічным парадку. Крыніцай асноўнага тэксту з'яўляецца тэкст першай публікацыі. Выключэнні агавораны.

Рукапісныя і машынапісныя матэрыялы, газетныя выразкі з аўтарскімі праўкамі і пісьмы, якія выкарыстоўваюцца ў каментарыях, захоўваюцца ў архіве сям'і П. Пестрака. Таму месца іх знаходжання ў кожным выпадку не ўказваецца.

Раман «Лесавічанка», над якім пісьменнік працаваў з канца 60-х гадоў і да апошніх дзён свайго жыцця, прысвечаны таму перыяду гісторыі Заходняй Беларусі, калі яна, толькі што вызваленая з панскай няволі, рашуча парывала з перажыткамі змрочнага мінулага і рабіла першыя крокі па шляху сацыялістычнага будаўніцтва. Відаць, не выпадкова аўтар, мастак з асабліва абвостраным успрыняццем падзей, максімаліст па натуры, які да гэтага так шырока і ўсебакова адлюстраваў дваццацігадовую гісторыю свайго народа ў рамане-эпапеі «Сустрэнемся на барыкадах» (1948—1952), паказаў яго барацьбу з гітлераўскай навалай у аповесцях і апавяданнях, быццам знарок абыходзіў аж да канца 60-х гадоў гэты важны і надзвычай няпросты этап у жыцці заходнебеларускіх працоўных. Яму, сведку і непасрэднаму ўдзельніку гэтых падзей, мабыць, патрэбен быў час, каб з пэўнай гістарычнай дыстанцыі глыбей асэнсаваць з'явы і працэсы, што адбываліся ў Заходняй Беларусі ў першыя пасляверасвёўскія гады,

і праўдзіва расказаць пра іх мастацкім словам, даць належную ацэнку.

Раман «Лесавічанка» — гэта далейшае ідэйна-эстэтычнае асэнсаванне гістарычнага лёсу таго пакалення заходнебеларускіх працоўных, якое прайшло вялікую школу мужнасці і загартоўкі ў рэвалюцыйным падполлі, у панскіх астрогах і пасля памятнага верасня з шчырым запалам узялося за ўстанаўленне на сваёй спакутаванай зямлі новага ладу, а затым самаадданa змагалася за яго з ненавісным фашызмам.

На вялікі жаль, твор гэты застаўся незакончаным. Завершана толькі першая яго кніга. Пры жыцці аўтара ў перыёдыцы былі апублікаваны асобныя ўрыўкі з кнігі, пазней у часопісе «Полымя» (1980, № 9) раман быў надрукаваны са значнымі скарачэннямі. У публікуемы тэкст не ўвайшлі некаторыя сцэны, эпізоды, якія меліся ў рукапісе, засталіся па-за творам некаторыя важныя для развіцця дзеяння персанажы, апушчаны многія маналогі герояў, аўтарскія характарыстыкі. Гэта ў значнай ступені адбілася і на яго мастацкай палітры, сюжэтна-кампазіцыйнай структуры.

Аднак і ў такім выглядзе «Лесавічанка» даволі выразна перадае подых таго часу, прынамсі, дае магчымасць адчуць, што пісьменніка надзвычай турбавала тое, што станавілася перашкодай у вялікай справе будаўніцтва новага жыцця. Аўтара асабліва непакоілі, у прыватнасці, праявы насцярожанасці і нават падазронасці некаторых кіраўнікоў у адносінах да былых членаў КПЗБ, да іх дзейнасці ў рэвалюцыйным падполлі, да іх змагання ў турэмнай няволі, глыбока абуралі пісьменніка факты абыякавасці, нежадання ўлічваць спецыфіку ўмоў сацыялістычнага будаўніцтва ў гэтай частцы рэспублікі. Вось чаму разам з адлюстраваннем таго новага, перадавога, што трывала ўваходзіла ў жыццё і свядомасць шырокіх працоўных мас, П. Пестрак значную ўвагу аддае выкрыццю многіх негатыўных з'яў, паказвае іх шкоднасць справе сацыялістычнага будаўніцтва.

Супраць гэтага адмоўнага, за сапраўды партыйны, прынцыповы падыход да справы, за шчырасць і чысціню чалавечых узаемаадносін выступаюць Лена Лесавічанка, Павел Верасовіч, Якаў Славінскі і іншыя станоўчыя героі твора. Яны не толькі жывуць сённяшнімі клопатамі свайго народа, але і з глыбокай павагай ставяцца да нядаўняга мінулага, да той вялікай справы, за якую змагаліся і пакутавалі ў гады панскай няволі тысячы рэвалюцыянераў-барацьбітоў. «Усё тварылася на нашых вачах,— гаворыць на мопраўскім з'ездзе, адводзячы абвінавачванні ў адрас КПЗБ, Лена Лесавічанка.— І ніхто лепш не ведае, як мы, як было, як рабілася. Мы схадзілі гэтую нашую зямлю сваімі нагамі, і няма таго кутка і куточка, дзе б мы не былі і не бачылі, як жывуць, як думаюць нашы людзі. Мы пазнавалі іх, хто з намі, а хто супроць нас. Ад нашага вока нічога не магло схавацца». А былы сакратар акругкома КПЗБ таварыш Вяргіня не толькі падтрымлівае ў сваіх таварышаў па змаганню веру ў святую рэвалюцыйную справу, але і робіць канкрэтныя захады, каб гэтая вера не згасала, каб былыя падпольшчыкі і пасля роспуску партыі заставаліся камуністамі. Яна дабіваецца перагляду партыйных спраў былых кэпэзэбоўцаў, аднаўлення іх у радах партыі.

У сувязі з гэтым хочацца нагадаць успаміны самога П. Пестрака пра апошні развітальны сход палітзняволеных гродзенскай турмы пасля вызвалення ў верасні 1939 года. «На сходзе апошня-

му давялося гаварыць мне, гаварыць аб тым, каб таварышы, раз'язджаючыся па сваіх сёлах, будавалі Савецкую ўладу, каб былі такія ж дысцыплінаваныя, як і ў падпольнай рэвалюцыйнай барацьбе, каб умелі пазнаваць ворага і абясшкоджваць яго, каб любілі партыю і былі ёй верныя да канца» («Незабыўнае»).

Вернасць рэвалюцыянераў вялікай ленінскай праўдзе паказана ў рамане ў розных праявах і аспектах. Аддапасць барацьбе за гэтую праўду вызначае сутнасць жыццёвай пазіцыі Валодзі Сасназуца і Веньяміна Башкоўскага, нягледзячы на той крыўдны недавер, які быў праяўлены ў адносінах да іх прадстаўнікамі новай улады. Вера ў правату жывіць глыбокую ідэйную перакананасць Аляксея Варанюка, які сам некалі вынес нечуваныя астрожныя пакуты і катаванні, а зараз едзе ў далёкую палескую вёску, каб заступіцца за незаслужана пакрыўджаную Настусю Гарабок, пацвердзіць, што яе хата сапраўды каля дзесяці гадоў была надзейнай канспіратыўнай кватэрай для падпольшчыкаў. Гэта выступае ў рамане як высокая праверка чалавечага сумлення ідэйнай перакананасцю, прынцыповасцю і рэвалюцыйнай загартоўкай.

Падзеямі нядаўняга мінулага, мужнага і гераічнага, падсвечаны многія эпізоды і мастацкія карціны рамана.

Пісьменнік паказвае, што не прайшла дарэмна турэмная навука для палескага селяніна Івана Хмыза, які становіцца шчырым прыхільнікам савецкага ладу жыцця, пачынае мысліць па-дзяржаўнаму. Там, у астрозе, зразумеў сапраўдны сэнс камсамольскай песні «КІМ, бей по разрухе...» просты вясковы хлопец Сымонка Жучок, які ў ліку першых рашуча крочыць на сход, каб дапамагчы залажыць аснову новага жыцця ў сваіх родных Раках, стварыць калгас. З разуменнем справы, глыбокім веданнем сялянскай псіхалогіі будуе сацыялізм на сваёй палескай зямлі былы чапаевец, а зараз старшыня Лахскага райвыканкома Пракоп Сідарук, намаляваны ў рамане надзвычай ярка, каларытна, як сапраўдны народны тып. Пісьменніку ўдалося стварыць прывабны вобраз кіраўніка, чалавека вялікай душы, здатнага, як кажуць у народзе, «і да танца, і да ружанца».

З многіх старонак рамана П. Пестрака відаць, як у жыццё і свядомасць людзей, зусім нядаўна вызваленых з-пад панскага прыгнёту, паступова ўкараняецца новае, як, дзякуючы мэтанакіраванай дзейнасці камуністаў, у іх сэрцах усё больш умацоўваецца вера ў калгасы, у сацыялістычны лад. Ва ўслаўленні гэтага новага, сцверджанні высокай прынцыповасці, сумленнасці, чулых адносін да чалавека-працаўніка, да агульных патрэб народа — асноўны пафас «Лесавічанкі».

Сюжэтную аснову твора складае жыццёвая біяграфія галоўных герояў Лены Лесавічанкі і Паўла Верасовіча. Яны з той кагорты сучаснікаў аўтара, якія мужна змагаліся ў падполлі, зведалі шматгадовае турэмнае зняволенне і нарэшце здабылі свабоду, магчымасць жыць і працаваць для шчасця свайго вызваленага народа. Гэтымі фактарамі і абумоўлены іх светапогляд, характар, жыццёвыя паводзіны.

Павел Верасовіч можа быць пастаўлены ў адзін рад з такімі Пестракавымі вобразамі, як Андрэй Касцевіч, Пятро Зараневіч, як лірычны герой яго даверасненёўскай паэзіі. Перакананы камуніст, змагар за рэвалюцыйную справу, інтэлігент-літаратар, ён у новых грамадскіх умовах імкнецца да навукі, каб, узброіўшыся ведамі, тэорыяй, прыносіць больш карысці свайму народу. Пры даволі

выразнай аўтабіяграфічнасці гэтага вобраза ў пачатку твора пісьменнік знайшоў неабходным пасля адысці ад яе. Так, ён накіроўвае Верасовіча ў Маскву, дзе ён, студэнт Інстытута філасофіі, літаратуры і мастацтва, больш года штурмуе вышыні навукі. Такім чынам герой на даволі працяглы час аказаўся па сутнасці ізаляваным ад падзей, і яго ўдзел у іх толькі ўскосны — праз размовы пры сустрэчах, перапіску з сябрамі, жонкай. Асноўная ж увага аўтара ўсё больш засяроджваецца на Лене, якая і выступае ў рамане на першы план. З гэтым вобразам П. Пестрак звязвае паказ дзейнасці мясцовых улад, калектывізацыю вёскі, станаўленне новых адносін да чалавека і многае іншае, характэрнае для тагачаснага жыцця Заходняй Беларусі. Яна фактычна выконвае функцыі галоўнай гераіні твора, і пісьменнік, відаць, не выпадкова назваў раман яе імем.

Вобраз Лены Лесавічанкі з'яўляецца як бы далейшым развіццём вобраза Надзі Харашэвіч і іншых гераінь рамана «Сустрэнемся на барыкадах». Гэтая сялянская дзяўчына з наднёманскай вёскі Прылессе яшчэ ў час навучання ў беларускай гімназіі звязала свой лёс з камсамольскім падполлем, працавала сакратаром райкома, а затым ужо ў турме стала членам ленінскай партыі. Каля пяці год астрожных пакут, змагання з турэмнай адміністрацыяй загартавалі яе волю, умацавалі перакананасць у перамозе камуністычнай праўды. З турмы яе вызваліў незабыўны верасень, які і адкрыў перад ёю новыя жыццёвыя шляхі і перспектывы.

У рамане толькі пункцірна намечана дзейнасць гераіні ў першыя месяцы пасля вызвалення, да таго, калі яна, адноўленая ў партыі, накіравана на працу ў аддзел прапаганды райкома партыі аднаго з глыбінных палескіх мястэчак. Цесная сувязь з народам, добрае веданне жыцця, чалавечай псіхалогіі, чуласць у адносінах да людзей дапамагаюць ёй заваяваць глыбокую павагу палешукоў і аўтарытэт прадстаўніка самай справядлівай Савецкай улады.

Ствараючы вобраз Лесавічанкі, пісьменнік ідзе па шляху ўвасаблення ў ім рыс і якасцей жывога чалавека ў яго непасрэдных узаемаадносінах з іншымі людзьмі, з навакольным асяроддзем, прыродай. Такой надзейнай «заземленасцю» і дасягаецца жыццёвая праўдзівасць вобраза, яго мастацкая пераканаўчасць.

Героі П. Пестрака — людзі высокай духоўнай культуры, багатага інтэлекту, яны шмат думаюць, разважаюць аб самых розных праблемах сучаснага і мінулага жыцця свайго народа. Адсюль у рамане частыя аўтарскія адступленні, разгорнутыя ўнутраныя маналогі, як, напрыклад, развагі-думкі Паўла Верасовіча ў пачатку твора аб складанасцях гістарычнага лёсу старажытнага наднёманскага горада. «Гэты горад астаўся пакаленням як сустрэча дзвюх плыняў, якія не скарылі адна адну, але якія парушылі даўняе дрымучае адзінства, калі мячы званілі «аб літоўскія шаломы», калі рэхам міжусобніцкіх бітваў поўнілася вялікая Кіеўская Русь. Усё гэта пахавалася пад напластаваннямі вякоў. Але знайшліся трубадуры скажонай гісторыі. Ашуканства ніколі не плыве наверсе — яно хаваецца, каб дзейнічаць спакваля. Пілсудскі, патураючы італьянскаму дучэ, загадаў археолагам уняддрыцца ў пласты Наднямоння, каб давесці свету іх адвечную польскасць і тым самым апраўдаць гістарычную экспансію тадышняй польскай магнатэрыі на ўсход...»

Своеасаблівы эмацыянальна-настраёвы каларыт ствараюць у рамане частыя разважанні Паўла па розных пытаннях гісторыі,

сацыялогіі, філасофіі, культуры, мастацтва, як і многія выказванні Лены, якім, дарэчы, больш уласцівы народны погляд, сялянская практычнасць вызначэнняў і ацэнак.

У асобных раздзелах пісьменнік, перадаючы пачуцці, настроі сваіх герояў, узнімаецца да сапраўднага лірызму. Хораша раскрыты, у прыватнасці, душэўная шчырасць і цеплыня ўзаемаадносін бабкі Ганулі Яхіміхі з яе кватаранткай Ленай, якая, з свайго боку, не толькі тонка адчувае душу простага чалавека, але і ўсведамляе, што «народу трэба выкладаць новы лад проста, зразумела», можа, нават, уласным прыкладам. Таму не выглядае штучным, калі яна, такая адукаваная і разумная маладая маці, з дазволу сакратара райкома Ярмілава ідзе разам з мястэчковымі жанчынамі жаць калгаснае жыта. Адчуваецца, што не толькі дзеля выкрыцця махінацый брыгадзіра Хвядоса Балабона ідзе яна на поле.

У рамане паэтызуецца дружба, народжаная ў сумеснай барацьбе, змацаваная агульнасцю поглядаў, ідэйных перакананняў. Надзвычай удалым у гэтым сэнсе з'яўляецца раздзел «Пад гоман вясёлы...». У ім вельмі трапна і дакладна перададзены агульны настрой, а таксама ўнутраны свет кожнага з герояў, якія за ўрачыстым навагоднім сталом так шчодра раскрываюць сябе, прыгажосць сваіх душ, чысціню мар і памкненняў. І як дарэчы гучыць тут народжаная на цярністых сцежках падполля і ў турэмных казематах суровая мелодыя «Пад гоман вясёлы...», якая яшчэ больш зближае сяброў-аднадумцаў, нагадвае пра перажытае, а таксама даўняя, дрымучая, як мінуласць, застольная песня бабкі Ганулі «Пеце, людзі, гарэліцу, а вы, гусі, воду...». Адвечна народнае, палітае горкаю слязою, хораша спалучаецца тут з радасцю здабытай нарэшце свабоды і адначасова з неспакоем ад таго, што робіцца ў свеце, за мяжою, дзе ўжо шалее раз'юшаны фашызм, пагражае вайною.

За паўсядзённымі справамі, буднямі будаўніцтва новага ладу на працягу ўсяго твора нязменна адчуваецца трывога за мірнае жыццё людзей. Яна гучыць у выступленні на мопраўскім з'ездзе былога кіраўніка рэвалюцыйнага падполля таварыша Вяргіні, у разважаннях Лены і Паўла, іх хваляваннях за лёс яшчэ не народжанага дзіцяці. Аб немінучасці вайны думае на сваім лясным хутары Іван Хмыз. Не выпадкова расказаная Верасовічам гісторыя пра варвара Аціла, які некалі з сваімі полчышчамі знішчыў старажытны Рым, выклікае ў яго асацыяцыі з Гітлерам. «Чуе душа,— гаворыць ён Паўлу,— што калі надыдзе тое ліха, цяжкая будзе барацьба. Хоць і ў нас сіла, але ўсё роўна будзе цяжка». Глыбокі сэнс набывае ў творы сцэна з начнымі матылькамі, якія цэлай хмарай рынуліся праз адчыненае акно на святло лямпы і, апечаныя, падалі на стол перад Верасовічам.

Трывожная атмасфера навіслай небяспекі разразілася ў самую кароткую чэрвеньскую ноч 1941 года першымі бомбавымі выбухамі. Вайна парушыла мірную працу савецкіх людзей, а разам з тым і планы герояў рамана. Замест выкладання ў пэдінстытуце і на абкомаўскіх палітычных курсах Павел Верасовіч, які закончыў навучанне ў Маскве, апынуўся ў партызанскім атрадзе Пракопа Сідарука. Для Лены Лесавічанкі і Паўла адкрывалася новая старонка жыцця, партызанская. З барацьбою народных мсціўцаў, відаць, і меў намер П. Пестрак звязаць далейшы лёс сваіх герояў у наступных частках рамана.

Пісьменнік ужывае самыя розныя сродкі мастацкай выразнасці, умела выкарыстоўвае магчымасці слоўнага жывапісу. Слова ў I. Пестрака заўсёды трапнае, сакавітае, і гучыць яно ў рамане то задуменна-разважліва, то драматычна-напружана, а то і задзірыста-гулліва, з лагодным гумарам. Як, напрыклад, пры апісанні падпольніцкай дзейнасці Сымонкі Жучка з яго па-свойму зразуметай камсамольскай песенькай або пры характарыстыках няўрымслівага газетнага працаўніка Юркі Точаня з яго прэтэнзіямі на ролю кіраўніка, выпрашальніка чужых лёсаў («не вучы вучонага»), а на справе зусім адарванага ад народнага жыцця.

Многія сцэны, эпізоды, карціны выпісаны ў рамане сапраўды па-майстэрску. Варта прыгадаць хаця б наведанне Лены такімі дапытлівымі і цікаўнымі дзяўчаткамі-трохкласніцамі ў раздзеле «Пярсцёнак», многія псіхалагічна дакладныя дэталі сялянскага сходу ў Раках, на якім стварaўся калгас, або надзвычай яркае і маляўнічае апісанне рачнога рынку на беразе Піны. «Пастойце крыху на рынкавым беразе і ўбачыце, як чаўны адзін за другім спыняюцца і спыняюцца... А ў чаўнах не толькі дзядзькі і цёткі ў карычневых, свайго вырабу сукна, куртках і куртачках, але дзяды і бабкі. Дзяды ў старасвецкіх шапках, якія выглядаюць, як мастажкі сена, і жанчыны ў даўніх прычосках «пад каблучку». Маладзейшыя абвешаны пацеркамі, а на нагах спрытныя, мастацкі сплеценыя, лапці-лазовікі з выгнутымі ўверх наскамі, як пеўнічкамі. Разам з мужчынамі, маладзіцамі, дзядамі і бабкамі з чаўноў выносяцца кошыкі з курамі, з ваўняным прадзівам, з сувоямі палотнаў, з яйкамі, з мяшкамі пранозлівых віскаў парасят... А потым выходзяць цялушачкі, цялушкі, дробныя палескія кароўкі і пасля ўсяго нават запрацаваныя, пастарэлыя валы... Глянь уздоўж берага — усё чаўны і чаўны рознай вялікасці і веку — то пачарнелыя, нават замшэлыя, то шэрыя, а то і нават белыя, нядаўнія. Але ўсе не сагнутыя, не склееныя з дошак, але суцэльныя, выдзеўбленыя з сасновай кадоўбінай прыроднай цаліны, зацеклай духмянай залацістаю жывіцай. І торг гудзе на рынку па-свойму, па-свойску — дзе маўклівы, аглядны, дзе з жартамі, смехам, а дзе нават і са сваркамі... Такая вось дабротная паляшучка Піна...»

Аўтар па-майстэрску перадае прыгажосць прыроды, асабліва прывабную яму самому непаўторнасць палескіх мясцін з іх дрымучай некранутасцю і таямнічай задуменнасцю. Разам з Ленай Лесавічанкай і яе фурманам Юркам Точанем мы любуемся, як жывой істотай, нястомнай ручаінай Таёмкай. «Яна, здаецца, пязначна для вока прабіваецца і праз баравыя сосны, дзе толькі трава-кругліца сцелецца кусцікамі — заўсёды як пасівелая. У такіх месцах ручаіна струмочкам нават шчабеча, адкрытая для свету, паказваючы сваё, усыпанае жвіровымі каменьчыкамі, дно. А потым зноў нырае — хаваецца ў гушчары — то арэхавыя, то альхова-крушынавыя,— віецца між абмытымі карчамі, то ўліваецца ў зараснікі маліны, ажыны, памешаных з лапушыстай крапівой. І там знікае. Яна прыціхла, стаілася, ледзь паблісквaючы цянiстым бляскам там, дзе лісцястыя травы-ўюны расхіліліся над ёю, каб даць магчымасць сонечным праменьчыкам дакрануцца да патаемных, нябачных струмочкаў крынічнай плыні». Падобных пейзажных замалёвак у рамане нямала, і яны разам з іншымі вобразна-выяўленчымі сродкамі не толькі садзейнічаюць раскрыццю ідэйнага зместу твора, але і робяць яго з'явай эстэтычнай.

Глыбока праўдзівы, востра тэндэнцыйны, напісаны з прынцыповых партыйных пазіцый раман П. Пестрака «Лесавічанка» па сутнасці ўпершыню адкрывае чытачу важную, малавядомую і надзвычай цікавую старонку жыцця нашага народа, сапраўды пamastaцку асвятляе яе і гэтым самым значна пашырае ідэйна-тэматычныя гарызонты беларускай савецкай прозы.

*К. Р. Хромчанка*

* * *

Раман Піліпа Пестрака «Лесавічанка» храналагічна ахоплівае перыяд з верасня 1939 года да першых дзён Вялікай Айчыннай вайны. Працу над творам, на жаль, аўтару завяршыць не давялося.

Друкуецца па час. «Полымя», 1980, № 9, дзе быў апублікаваны ўпершыню са значнымі скарачэннямі. Першая кніга рамана напісана на працягу 1969—1971 гадоў.

Урыўкі з рамана былі надрукаваны: «Лесавічанка» з падзагалоўкам «Роздум», «Сваімі вачыма» — Беларусь, 1967, № 10; «На канале» — Работніца і сялянка, 1968, № 10; «Дэкрэты» — Работніца і сялянка, 1970, № 7; «Лесавічанка» — Літ. і мастацтва, 1971, 6 жн.; «Сустрэча» — Літ. і мастацтва, 1976, 9 студз.

У архіве сям'і П. Пестрака захоўваюцца наступныя матэрыялы рамана «Лесавічанка»:

1. У дзвюх папках знаходзяцца разрозненыя машынапісныя лісты, часткі раздзелаў. На адной папцы надпіс: «Лесавічанка». Кніга першая — два экз. (чарнавік); на другой — «Лесавічанка». Розныя астаткі з рамана (разабрацца). Усяго 700 старонак. У трэцяй папцы — урыўкі з рамана. «Пярсцёнак», датуецца 17 чэрвеня 1968 г. (5 стар.). «На канале» (урывак з рамана «Лесавічанка», у якім апісваюцца падзеі ў Заходняй Беларусі непасрэдна пасля яе вызвалення), (10 стар. у 2-х экз.). «Усмешка», датуецца 27 сакавіка 1965 г. (6 стар.). «Таёмка» (урывак з рамана «Лесавічанка», у якім расказваецца пра падзеі непасрэдна пасля вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г.); датуецца 28 мая 1971 г. з подпісам Піліпа Пестрака (27 стар. у 2-х экз.).

2. Папка, дзе захоўваюцца асобныя лісты з другога раздзела «Неастылы пафас», «Адна струна» ў 3-х экз.; раздзел трэці «Роздум» (1 экз.) і некалькі дзесяткаў разрозненых машынапісных лістоў рамана.

3. У дзвюх папках змешчаны машынапісы рамана: першапачатковы і передрукаваны з яго з шматлікімі стылістычнымі праўкамі.

1) «Лесавічанка». Раман. Кніга першая (рабочы экземпляр), у канцы напісана: канец першай кнігі і подпіс Піліпа Пестрака (119 стар.).

2) Другі экземпляр рамана, неўпарадкаваны, адсутнічаюць некаторыя старонкі (100 стар.).

3) Перадрукаваны з вышэйназваных машынапісаў экземпляр першай кнігі рамана. Некаторыя старонкі адсутнічаюць (усяго 101 стар.). У канцы напісана: канец першай кнігі. Аўтар Піліп Пестрак (яго роспіс) і дата: 30 студзеня 1976 г., г. Мінск.

4) Машынапіс першай і другой кніг (няпоўны, з нязначнымі праўкамі); датуецца 1966—1971 гг. Усяго 288 стар.

4. 1) Рукапіс першай кнігі рамана «Лесавічанка» (152 стар.), напісаны сінім чарнілам, з праўкамі, якія зроблены самім Піліпам Пестракам. Праўкі носяць у асноўным стылістычны характар.

2) Рукапіс другой кнігі (пачынаючы з 154 стар., усяго 398 стар.). Напісаны сінім і фіялетавым чарнілам, з нязначнымі праўкамі самога аўтара. У канцы дата: 1966—1971.

5. Па ўсіх папках былі раскіданы лісты другога наборнага экземпляра рамана «Лесавічанка», ідэнтычнага таму, з якога раман друкаваўся ў час. «Полымя» (са значнымі скарачэннямі). Гэты экземпляр машынапісу ўдалося адшукаць і скласці амаль поўнасцю (за выключэннем 19 старонак). Ён мае вялікую каштоўнасць, таму што адлюстроўвае апошнюю аўтарскую волю.

* * *

С. 6. *Вітаўт* (1350—1430) — князь гродзенскі, трокскі, вялікі князь літоўскі (1392—1430). Праводзіў палітыку цэнтралізацыі і ўмацавання асабістай улады.

*Баторый Стэфан* (1533—1586) — трансільванскі князь (1571—1576), польскі кароль (выбраны ў снежні 1575-га, каранаваны ў маі 1576-га). Стаў каралём насуперак волі магнатаў паводле патрабавання дробнамаянтковай шляхты, даў ёй многа прывілей.

С. 8. *Пілсудскі Юзаф* (1867—1935) — польскі палітычны дзеяч, фактычны дыктатар Польшчы ў 1926—1935 гг. Вораг рэвалюцыйнага руху, саюзу рускага і польскага пралетарыяту.

С. 9. *...маёлікавыя крыжы... Маёліка* — абпаленая каляровая гліна, пакрытая непразрыстай палівай з рысункам. Тут у сэнсе вырабу з такой гліны.

С. 12. *Дэфензіва* — у панскай Польшчы: орган тайнага паліцэйскага нагляду.

С. 19. *Аціла* (г. н. невяд.— п. 453) — правадыр гунаў у 434—453. У 447 гуны спустошылі вялікую частку Балканскага паўвострава (разбурылі 70 гарадоў і крэпасцей), дайшлі да ваколіц Канстанцінопаля і прымусілі ўсходнерымскіх імператараў плаціць цяжкую даніну.

С. 25. *МОПР* — Міжнародная арганізацыя дапамогі змагарам рэвалюцыі. Створана ў канцы 1922 года на аснове рашэння 4-га кангрэсу Камінтэрна для абароны працоўных ад белага тэрору і дапамогі яго ахвярам. Аказвала матэрыяльную, юрыдычную, маральную падтрымку палітычным вязням і іх сем'ям, сем'ям загінуўшых рэвалюцыянераў — незалежна ад іх партыйнай прыналежнасці. З пачатку другой сусветнай вайны 1939—1945 гг. дзейнасць МОПР у міжнародным маштабе спынілася.

С. 27. *Шарваркі* — грамадская працоўная павіннасць пераважна па будаўніцтву і рамонту дарог, мастоў, грэбляў, панскіх будоўляў у Вялікім княстве Літоўскім, Рэчы Паспалітай у 15—18 ст. ст., а таксама ў Заходняй Беларусі ў 1921—1939 гг.

С. 34. *Люксембург Роза* (1871—1919) — дзеячка нямецкага, польскага і міжнароднага рабочага руху, адна з кіраўнікоў і тэарэтыкаў левага радыкальнага крыла ў нямецкай сацыял-дэмакратыі і ў 2-м Інтэрнацыянале, заснавальнікаў Камуністычнай партыі Германіі. Актыўна змагалася супраць апартуністычнага кампрамісу з буржуазнымі партыямі.

С. 36. *Камінтэрн, Камуністычны Інтэрнацыянал* (1919—

1943) — міжнародная рэвалюцыйная пралетарская арганізацыя, якая аб'ядноўвала камуністычныя партыі розных краін.

С. 38. *«Грамада»* — масавая легальная дэмакратычная рабоча-сялянская арганізацыя ў Заходняй Беларусі ў 1925—1927 гг.

С. 44. *Дэмаркацыйны* — які мае адносіны да дэмаркацыі.

*Дэмаркацыя* — устанаўленне і абазначэнне на мясцовасці граніцы паміж сумежнымі дзяржавамі на аснове заключаных пагадненняў.

С. 51. *Гельмгольц Герман Людвіг Фердынанд* (1821—1894) — нямецкі прыродазнавец.

*Бэкан Фрэнсіс* (1561—1626) — англійскі філосаф, пачынальнік англійскага матэрыялізму і эксперыментуючай навукі новага часу.

*Шэлі Персі Бішы* (1792—1822) — англійскі паэт і драматург.

*Гекель Эрнст* (1834—1919) — нямецкі біёлаг — эвалюцыяніст, прапагандыст дарвінізму.

*Кант Імануіл* (1724—1804) — нямецкі філосаф, родапачынальнік нямецкага класічнага ідэалізму.

*Лейбніц Готфрыд Вільгельм* (1646—1716) — нямецкі вучоны, філосаф-ідэаліст, грамадскі дзеяч.

*Дэкарт Рэнэ* (1596—1650) — французскі філосаф, матэматык, фізік, фізіёлаг.

*Гегель Георг Вільгельм Фрыдрых* (1770—1831) — нямецкі філосаф, аб'ектыўны ідэаліст, прадстаўнік класічнай нямецкай філасофіі, якая была адной з тэарэтычных крыніц марксізма.

*Мантэнь Мішэль дэ* (1533—1592) — французскі філосаф, гуманіст, пісьменнік. У асноўным творы («Вопыты», 1580) развіў сістэму скептыцызму, якая накіравана супраць сярэдневяковай схаластыкі.

*Прудон П'ер Жазеф* (1809—1865) — французскі дробнабуржуазны сацыяліст, філосаф, сацыёлаг, эканаміст, адзін з заснавальнікаў анархізму.

*Спіноза Бенядзікт* (1632—1677) — нідэрландскі філосаф-матэрыяліст і атэіст. За вальнадумства адлучаны ад яўрэйскай абшчыны. Асноўныя творы: «Багаслоўска-палітычны трактат» (1670) і «Этыка» (1677).

С. 51. *Петру Гроза* (1884—1958) — румынскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, доктар права.

С. 60. *Пляханаў Георгій Валянцінавіч* (1856—1918) — дзеяч рускага і міжнароднага рабочага руху, тэарэтык і прапагандыст марксізма, адзін з пачынальнікаў навуковага сацыялізма ў Расіі і заснавальнікаў рускай сацыял-дэмакратыі.

С. 84. *КІМ (Камуністычны Інтэрнацыянал Моладзі)* — міжнародная масавая арганізацыя працоўнай моладзі, якая існавала ў 1919—1943 гг. як секцыя Камінтэрна. Ідэя стварэння КІМа належыць У. І. Леніну. У маі 1919 г. Выканком Камінтэрна заклікаў моладзь свету стварыць Камуністычны Інтэрнацыянал Моладзі. КІМ ставіў галоўную задачу — аб'яднаць шырокія масы моладзі для барацьбы супраць імперыялістычнай вайны, капіталістычнай эксплуатацыі, за эканамічныя, палітычныя і культурныя правы моладзі і выхаванне яе ў духу марксізма-ленінізма.

С. 124. *Манблан* — горны масіў і вяршыня ў Заходніх Альпах, самая высокая ў заходняй Еўропе (4807 м).

Тут — у пераносным сэнсе.

С. 127. *Рубікон* — рака на Апенінскім паўвостраве. У 49 годзе да н. э. Цэзар з Галіцыі перайшоў з войскамі Рубікон, тым самым парушыў закон, і пачаў грамадзянскую вайну.

Тут — у сэнсе прыняцця беззваротнага рашэння.

*К. В. Піліповіч*

* * *

Літаратурна-крытычная і публіцыстычная спадчына Піліпа Пестрака — важная і цікавая старонка ў творчасці пісьменніка, жывая гісторыя развіцця беларускай савецкай літаратуры.

Пры жыцці аўтара ў розных саюзных і рэспубліканскіх газетах і часопісах было надрукавана звыш 150 літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў, рэцэнзій, нататкаў.

Для Піліпа Пестрака, палымянага змагара за правы паняволенага народа на годнае і свабоднае жыццё, публіцыстыка была жыццёвай неабходнасцю, зброяй у барацьбе за сацыяльныя пераўтварэнні, за гуманізм.

У дадзены том уключана найбольш значная і характэрная для творчага аблічча пісьменніка частка яго публіцыстычнай і літаратурна-крытычнай спадчыны.

Дзейнасць П. Пестрака як публіцыста пачалася яшчэ ў далёкім 1919 годзе з допісаў у бузулукскую павятовую газету на Паволжы, дзе тады знаходзіліся ў бежанцах яго бацькі. Гэтыя допісы, а таксама ўдзел у дыскусіях у час вучобы спачатку на рабфаку (1919—1920), затым у Самарскім універсітэце (1920—1921) і сталі яго першымі крокамі ў публіцыстыцы. Потым вучыла само жыццё, рэвалюцыйная барацьба ў Заходняй Беларусі, куды Пестрак разам з бацькамі вярнуўся ў 1921 годзе.

Урокі не прапалі марна: у зале Віленскага акруговага суда, дзе 23—29 сакавіка 1936 года разглядалася справа аб дзейнасці заходнебеларускіх літаратараў, выступіў ужо не вучань, не пачатковец, а глыбока перакананы ў сваёй праваце майстра-прамоўца! Прамова П. Пестрака, калі б яе запісалі стэнаграфічна, была б, па сцвярджэнню В. Таўлая, «адным з прыгажэйшых чалавечых дакументаў у гісторыі беларускай літаратуры. Піліп загаварыў аб крыніцах беларускай паэзіі, аб яе неразлучнай сувязі з народнай нядоляй: — Вы пасадзілі нас на лаву падсудных за тое, што беларуская паэзія — гэта паэзія бунту. Так, мы бунтуемся і не пакінем бунтаваць, пакуль беларускі народ будзе ў прыгнёце.— Няхай сабе будзе, што мы, як вы кажаце, не паэты, хоць сённяшні наш працэс — гэта красамоўны доказ таго, што вы лічыцеся з нашай паэзіяй як з рэальнай сілай. Няхай сабе мы — імгліца, як вы нас называеце, але гэта імгліца, з якой фарміруюцца зоры. Цяпер на зоры напаўзаюць хмары, хочучы задушыць іх. Не ўдасца! Ні цёмныя хмары, ні чорныя ночы ніколі яшчэ зор не патушылі. Ёсць мудрая прыказка: «Чым ноч цямней, тым ясней свецяць зоры...»[1] Гэтыя словы сталі сапраўды крылатымі, яны перадаваліся з вуснаў у вусны.

Найбольш поўна і выразна праявілася «рэвалюцыйная навука» ў мемуарах П. Пестрака. У іх ён часта вяртаецца да самых цяжкіх часоў у жыцці былой Заходняй Беларусі, часоў панавання чорных сіл рэакцыі: легіянераў і асаднікаў Пілсудскага, служак

---

[1] В. Таўлай. «Філіп Пестрак». Звязда, 1940, 11 сак.

Ватыкана, якія любымі сродкамі, крыжом і нагайкай стараліся ўціхамірыць неспакойныя «крэсы ўсходнія». Барацьба патрабавала мужнасці, аплочвалася самай дарагой цаной, зняволеннем у панскіх турмах. Адзінаццаць гадоў свайго маладога жыцця Піліп Пестрак правёў за кратамі. Аднак выпрабаванні не зламалі моцнага духам змагара. Ва ўспамінах паўстае вобраз маладога чалавека. якому ўласцівы пільная і ўзрушлівая цікавасць да людзей, юначы максімалізм, надзвычай патрабавальныя адносіны да сябе і да сваіх таварышаў па барацьбе. Асабліва цікавыя ў гэтым плане ўспаміны «...Як яно было там пад акупацыяй» (1949), «У падполлі і ў турме» (1958), «Незабыўнае» (1958), «Дарогаю жыцця» (1959), «Лічыла дні турма» (1967), «Пра родную Косаўшчыну» (1968) і інш. Праўдзіва паказвае П. Пестрак голад на Паволжы, складанасць і цяжкасць першых гадоў сацыялістычнага будаўніцтва («Дарогаю жыцця»). «Шасцігадовае знаходжанне на Паволжы ў самую пару юнацтва,— успамінае П. Пестрак,— сфарміравала маю душу, дало ёй зарад на ўсё жыццё, і такі зарад, якога можна пажадаць кожнаму юнаку і дзяўчыне нашага часу. Атрыбутамі гэтага зараду сталіся бескампрамісная сумленнасць у поглядах грамадска-палітычных і наогул у жыцці, таварыскасць без фальшу, любоў да народа, разуменне чалавечага хараства, нянавісць да няпраўды, да здзеку, да глуму» («Дарогаю жыцця»).

З пазіцый рэвалюцыянера, былога ўдзельніка сацыяльных пераўтварэнняў у Расіі, на Паволжы, падышоў Пестрак да праблем развіцця заходнебеларускай паэзіі. Асабліва відаць гэта па яго гарачай пісьмовай дыскусіі з Таўлаем яшчэ ў час знаходжання ў турэмным зняволенні: «Многа я даў бы цяпер за тое, каб мець гэтую перапіску (нашы пісьмы пісаліся на стужках з абгортачнай паперы). Помню, што я выказваў у асноўным такія думкі: паэзія ёсць усюды; паэты павінны пісаць аб з'явах і рэчах блізкіх. знаёмых для народа; трэба імкнуцца да змястоўнай, прыгожай прастаты» («Дарогаю жыцця»).

Высока цаніў П. Пестрак паэзію Я. Купалы і Я. Коласа за яе грамадзянскасць, сапраўдную народнасць. «Да цёмнага, забітага, сярмяжнага народа праз паэзію Янкі Купалы і Якуба Коласа,— пісаў ён,— прыйшла вялікая сіла, якую можна назваць самаадкрыццём, а кажучы інакш,— прыйшла нацыянальная свядомасць...» («У страі барацьбітоў»). Рэвалюцыйны запал маладосці не знікаў і ў пасляваенныя гады, асабліва калі Пестрак гаварыў пра неабходнасць тэматычнага пашырэння роднай літаратуры («Індустрыяльная тэма ў беларускай літаратуры і задачы пісьменніка», 1949, «Кастрычнікам народжаная», 1970), яе жанравага развіцця («Очерки о послевоенном строительстве», 1947), пра стан і задачы крытыкі і літаратуразнаўства («Неабходная размова», 1971). У літаратурна-крытычных і публіцыстычных выступленнях П. Пестрака выразна праявіўся яго характар барацьбіта: гаварыў, што думаў, без лішняй дыпламатыі, адкрыта і шчыра.

У сваіх літаратурна-крытычных артыкулах П. Пестрак нязменна адстойваў прынцып сацыяльнасці, які, на жаль, іншы раз пераўтвараўся ў крыху гіпертрафіраванае, прасталінейнае, «лабовае» патрабаванне ідэйнасці. І часам да ўсяго, што акружала пісьменніка ў мірным жыцці, ён падыходзіў з тымі ж меркамі і запатрабаваннямі, якія склаліся ў яго ва ўмовах змагання ў былой Заходняй Беларусі. Гэта адчуваецца і ў некаторых артыкулах пра творчасць таго ці іншага пісьменніка, дзе ён даходзіў да лішняй

гарачнасці, запалу, а часам і да не зусім справядлівых папрокаў. У асобных выпадках аўтар, слушны ў аналізе формы, не змог пазбегнуць пэўнай сацыялагізацыі ў раскрыцці зместу твораў. І хаця ў сваёй творчай практыцы П. Пестрак удала пазбягаў вульгарнага сацыялагізму, у галіне крытыкі ад асобных яго праяў не ўсцярогся.

Іншы раз ён даваў недакладныя ацэнкі літаратурным з'явам, вылучаўся сярод сваіх калег-крытыкаў празмернай катэгарычнасцю. Але ў адным яму не адмовіш — у шчырасці і адданасці сваёй справе.

Праз усё жыццё пранёс пісьменнік любоў да зямлі, да чалавека працы. У адным з даваенных артыкулаў ён пісаў: «Люблю вёску не толькі таму, што я сам селянін, але па той непадробнай шчырасці выяўлення пачуццяў, па прастадушнасці, па прыроднай прастаце і паўнаце людзей, якія смяюцца свежай і радаснай усмешкай палёў» («Письмо к другу», 1940). З якой цеплынёй і замілаваннем пісаў ён аб простых людзях — даярках, паляводах, меліяратарах! («Майстры ўраджаю», «На зямлі партызанскай», «Пра сваю вобласць», «Змагары на балоце» і інш.). Артыкулы і нарысы пра іх з'яўляліся ў выніку шматлікіх паездак па рэспубліцы.

У складзе пісьменніцкіх дэлегацый П. Пестраку некалькі разоў даводзілася бываць і за мяжой. Ён наведаў Францыю, Чэхаславакію, неаднаразова ездзіў у Польшчу. Гэта былі плённыя паездкі, яны давалі багаты матэрыял для нарысаў, артыкулаў, мастацкіх твораў.

П. Пестрака вылучала партыйная непрымірымасць да недахопаў у жыцці, гарачае жаданне зрабіць яго лепшым, багацейшым. Ён гаварыў, што трэба ісці ў адзіным патоку жыцця народа — разам з яго радасцямі і смуткам, удачамі і няўдачамі і рабіць усё, каб гэтых няўдач было як найменш. Асабліва паказальныя ў гэтым сэнсе артыкулы аб ахове лесу, аб пераўтварэнні балотных абшараў Палесся, аб сельскай гаспадарцы, у якіх пісьменнік дае нямала практычных парад («Край зубчаты бору», «У палескіх калгасах», «Пусть повсюду шумят леса» і інш.).

П. Пестрак вёў вялікую грамадскую работу. Яшчэ ў даваенны час ён быў старшынёй Беластоцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Пісьменнік часта выступаў на заводах і фабрыках, у калгасах і на будаўнічых пляцоўках, на прадстаўнічых форумах, і заўсёды яго выступленні вызначаліся рэвалюцыйнай палкасцю, выразнай мэтанакіраванасцю. У прамове на Другой Усесаюзнай канферэнцыі прыхільнікаў міру, што праходзіла ў 1950 годзе, ён гаварыў: «Паэт, празаік, драматург — кожны, апрача свайго жанру, павінен у той ці іншай меры быць публіцыстам — актыўна ўключацца ў барацьбу супраць вайны». Асабліва яркімі, палітычна завостранымі, эмацыянальна напоўненымі былі яго выступленні супраць амерыканскай агрэсіі ў В'етнаме, перад былымі вязнямі канцлагера Картуз-Бяроза, на V з'ездзе пісьменнікаў Беларусі. Многія з іх не страцілі сваёй актуальнасці і сёння.

П. Пестрак усё жыццё працаваў над сабой. Аб гэтым сведчаць яго запісныя кніжкі, агульныя сшыткі, асобныя лісткі паперы, у якіх мы знаходзім шматлікія запісы на самыя розныя тэмы, вытрымкі з прачытаных кніг, агранамічныя разлікі (прыгадаем яго

мару стаць аграномам), думкі аб літаратурным майстэрстве сваіх паплечнікаў. Сустракаем тут і запісы аб творах пачаткоўцаў.

Пісьменнік шмат увагі ўдзяляў творчай моладзі. Да яго не саромеліся звяртацца за дапамогаї, парадай, бо ведалі: ніколі не адмовіць, не адмахнецца. Ён заўважаў і падтрымліваў у маладых лепшае, характэрнае, гаварыў і аб недахопах. Яму належаць рэцэнзіі на першыя кніжкі Я. Брыля, А. Вялюгіна, Ул. Корбана, Р. Барадуліна, Д. Бічэль-Загнетавай і інш. Так, у рэцэнзіі «Дзверы ў шырокі свет» (1960) пісьменнік адзначае арыгінальнасць творчай манеры Р. Барадуліна, яго ўласнае бачанне свету, багацце паэтычнай мовы, дасціпнасць, гумар і ўсмешку «ў адносінах да жыцця, якое поўна чалавечага сэнсу». Аналізуючы першы зборнік апавяданняў Я. Брыля («Апавяданні», 1946), П. Пестрак звярнуў увагу на галоўнае, што вызначала маладога на той час празаіка — яго гуманізм, боль за прыбітага беднасцю, горам паднявольнага чалавека працы. Арыгінальнасць баек Ул. Корбана П. Пестрак бачыў у тым, што ў іх «няма ўплыву традыцыйнай байкі ў сэнсе зместу, персанажаў, мастацкіх калізій».

Пісьменнік горача падтрымліваў узаемадзеянне роднай літаратуры з іншымі літаратурамі. Ён уважліва сачыў за развіццём рускай, украінскай, польскай літаратур, захапляўся паэзіяй Т. Шаўчэнкі, У. Маякоўскага, даследаваў творчасць І. Тургенева і М. Рыльскага. Ёсць у яго цікавыя артыкулы пра творчасць А. Міцкевіча, С. Жаромскага, У. Бранеўскага, В. Трапачынскай-Агарак, Э. Межалайціса, М. Шолахава, П. Казланюка і інш.

П. Пестрак займаўся таксама перакладамі з іншых моў на беларускую. Вядомы яго пераклады вершаў Ю. Славацкага, У. Бранеўскага, Я. Гушчы, С. Дабравольскага, апавяданняў Л. Кручкоўскага і іншых польскіх пісьменнікаў. Акрамя гэтага, у сямейным архіве захоўваюцца некалькі перакладаў невядомых раней лістоў Э. Ажэшкі. Шмат працаваў П. Пестрак над перакладамі з украінскай мовы, сярод іх — пераклад кнігі І. Франка «Коли ще звіри говорили», пераклады вершаў Л. Украінкі, М. Рыльскага, П. Тычыны і інш.

Публіцыстычна-крытычная спадчына П. Пестрака, пры ўсёй яе натуральнай прывязанасці да свайго часу, абуджае думку, дае спажытак для роздуму. Яна пашырае ўяўленне аб творчым абліччы пісьменніка, дапаўняе яго новымі дэталямі і штрыхамі: мы адчуваем жывы характар — шчыры і адкрыты, патрабавальны да сябе і да людзей, натхнёны, нястомны і нават апантаны ў сваім сцвярджэнні высокіх камуністычных ідэалаў.

### Прамова дэпутата Вярхоўнага Савета СССР Пестрака П. С. (с. 144)

Упершыню — Звязда, 1940, 4 крас.

Выступленне П. Пестрака на VI сесіі Вярхоўнага Савета СССР, якая праходзіла ў Маскве з 29 сакавіка па 4 красавіка 1940 года.

С. 144. *...увайшоўшага ў дружную сям'ю народаў вялікага Савецкага Саюза.*— Гаворка ідзе аб уз'яднанні Заходняй Беларусі з БССР у верасні 1939 года.

*Рэч Паспалітая* — афіцыйная назва буржуазнай Польшчы ў 1918—1939 гг.

С. 145. *...у засценках Картуз-Бярозы.*— Маецца на ўвазе канцэнтрацыйны лагер Бяроза Картузская, месца зняволення палітычных вязняў у буржуазнай Польшчы. Створаны ў жніўні 1934 г.

*Молатаў Вячаслаў Міхайлавіч* (н. 1890) — прафесійны рэвалюцыянер, савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч.

С. 146. *Звераў Арсен Рыгоравіч* (1900—1969) — савецкі дзяржаўны дзеяч. З 1938 па 1960 гады — нарком (міністр) фінансаў СССР.

С. 148. *Як ворану вышэй арла не лятаць,*
*Так ворагу нашай зямлі не таптаць.*—

Радкі з верша К. Крапівы «Ворану вышэй арла не лятаць» (1939).

Першая кніга (с. 148)

Упершыню — Беларусь, 1947, № 7.

Рэцэнзія напісана ў сувязі з выхадам у свет першага зборніка апавяданняў Я. Брыля «Апавяданні» (1946).

С. 148. *Брыль Янка* (Іван Антонавіч; н. 1917) — народны пісьменнік БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

*Багушэвіч Францішак Казіміравіч* (1840—1900) — беларускі паэт-дэмакрат, пачынальнік крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры.

*Ядвігін Ш.* (сапр. Лявіцкі Антон Іванавіч; 1868—1922) — беларускі пісьменнік, адзін з пачынальнікаў беларускай прозы.

*Купала Янка* (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882—1942) — класік беларускай літаратуры. Народны паэт БССР. Акадэмік АН БССР і АН УССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

*Колас Якуб* (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882—1956) — класік беларускай літаратуры. Народны паэт БССР. Акадэмік АН БССР. Заслужаны дзеяч навукі Беларускай ССР. Лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР. Член Усесаюзнага славянскага камітэта, Савецкага камітэта міру.

*Бядуля Змітрок* (сапр. Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886—1941) — беларускі савецкі пісьменнік.

С. 149. *Талстой Леў Мікалаевіч* (1828—1910) — рускі пісьменнік. Драма «Улада цемры» (1886).

С. 151. *...«думкі ў дарозе» Якуба Коласа.*— П. Пестрак мае на ўвазе апавяданне Я. Коласа «Думкі ў дарозе» (1906).

Сведчанне братняй дружбы
*(Анталогія беларускай савецкай паэзіі на ўкраінскай мове)* (с. 152)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1948, 14 жн.

Артыкул напісаны ў сувязі з выхадам анталогіі «Білоруська радянська поезія» (1948).

Захоўваецца аўтограф (5 с.) у блакноце пад назвай «Анталогія беларускай савецкай паэзіі на ўкраінскай мове».

С. 152. *...першая — у перакладзе ленінградскіх паэтаў на рускую мову...*— Маецца на ўвазе «Антология белорусской поэзии» (1948) пад рэдакцыяй М. Браўна, П. Броўкі, П. Глебкі, Я. Коласа, А. Пракоф'ева.

*Буйло* (Калечыц) *Канстанцыя Антонаўна* (н. 1898/1899) — беларуская савецкая паэтэса.

*Крапіва* (сапр. Атраховіч) *Кандрат Кандратавіч* (н. 1896) — беларускі пісьменнік, вучоны, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР. Акадэмік АН БССР. Заслужаны дзеяч навукі Беларускай ССР. Лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы. Герой Сацыялістычнай Працы.

С. 152. *Трус Паўлюк* (Павел Адамавіч; 1904—1929) — беларускі савецкі паэт.

*Глебка Пятро* (Пётр Фёдаравіч; 1905—1969) — беларускі савецкі паэт. Акадэмік АН БССР.

*Бройка Пятрусь* (Пётр Усцінавіч; 1905—1980) — беларускі савецкі паэт і грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР. Акадэмік АН БССР. Заслужаны дзеяч навукі Беларускай ССР. Лаўрэат Ленінскай прэміі, Дзяржаўных прэмій СССР і Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы. Герой Сацыялістычнай Працы.

*Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч* (1914—1978) — беларускі савецкі паэт. Народны паэт БССР. Лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР, Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

*Лужанін Максім* (сапр. Каратай Аляксандр Амвросьевіч; н. 1909) — беларускі савецкі паэт. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларускай ССР. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа.

С. 153. *Панчанка Пімен Емяльянавіч* (н. 1917) — беларускі савецкі паэт. Народны паэт БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы і Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы.

*Машара Міхась* (Міхаіл Антонавіч; 1902—1976) — беларускі савецкі пісьменнік.

*Танк Максім* (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; н. 1912) — беларускі савецкі паэт і грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР. Акадэмік АН БССР. Лаўрэат Ленінскай прэміі, Дзяржаўнай прэміі СССР, Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы і Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы. Герой Сацыялістычнай Працы.

*Вітка Васіль* (сапр. Крысько Цімох Васілевіч; н. 1911) — беларускі савецкі паэт. Заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР. Узнагароджаны Ганаровым Дыпломам імя Х. К. Андэрсена за казкі.

*Зарыцкі Аляксей Аляксандравіч* (н. 1911) — беларускі савецкі паэт.

*Агняцвет Эдзі* (сапр. Каган Эдзі Сямёнаўна; н. 1916) — беларуская савецкая паэтэса.

*Астрэйка Анатоль* (Акім Пятровіч; 1911—1978) — беларускі савецкі паэт.

*Бялевіч Антон* (Антон Пятровіч; 1914—1978) — беларускі савецкі паэт.

*Таўлай Валянцін Паўлавіч* (1914—1947) — беларускі савецкі паэт.

*Тарас Ніна Міхайлаўна* (н. 1916) — беларуская савецкая паэтэса.

*Кірэенка Кастусь* (Канстанцін Ціханавіч; н. 1918) — беларускі савецкі паэт. Заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы і Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы.

*Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч* (н. 1923) — беларускі савецкі паэт. Заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы.

*Рыльскі Максім Тадэевіч* (1895—1964) — украінскі савецкі паэт, вучоны, грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР і АН УССР. Лаўрэат Ленінскай прэміі і Дзяржаўных прэмій СССР.

*Тычына Паўло Рыгоравіч* (1891—1967) — украінскі савецкі паэт, дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН УССР, член-ка-

рэспандэнт Балгарскай АН. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР. Герой Сацыялістычнай Працы.

*Сасюра Уладзімір Мікалаевіч* (1897/1898—1965) — украінскі савецкі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР і Дзяржаўнай прэміі УССР імя Шаўчэнкі.

*Крыжаніўскі Сцяпан Андрэевіч* (н. 1910) — украінскі савецкі паэт і літаратуразнавец.

*Масэнка Тарэнь* (Цярэнцій Германавіч; 1903—1970) — украінскі савецкі паэт.

*Дарошка Пятро Ануфрыевіч* (н. 1910) — украінскі савецкі паэт.

*Васкрэкасенка Сяргей Іларыёнавіч* (н. 1906) — украінскі савецкі паэт.

*Зісман Марк Давыдавіч* (н. 1909) — украінскі савецкі паэт і перакладчык.

*Цярэшчанка Мікалай Іванавіч* (н. 1898) — украінскі савецкі паэт.

*Стэльмах Міхайла Апанасавіч* (1912—1983) — украінскі савецкі пісьменнік. Акадэмік АН УССР. Лаўрэат Ленінскай прэміі і Дзяржаўнай прэміі СССР. Герой Сацыялістычнай Працы.

С. 154. *Шаўчэнка Тарас Рыгоравіч* (1814—1861) — вялікі ўкраінскі паэт, мастак, рэвалюцыянер-дэмакрат.

*Україно, цвіте любий,*
*Сонячний наш крину...*—

Пераклад верша Я. Купалы «Украіна» (1935).

### Вялікі польскі паэт

*(Да 150-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча)* (с. 155)

Упершыню — Звязда, 1948, 24 снеж.

Захоўваецца аўтограф (10 с.) з подпісам аўтара і датай: «16.XII.48 г.».

С. 155. *Міцкевіч Адам* (1798—1855) — польскі паэт.

*Паражэнне касцюшкаўскага паўстання...*— Упамінаецца нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1794 г., кіраўніком якога быў Тадэвуш Касцюшка (1746—1817) — палітычны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай.

С. 156. *У сваіх парыжскіх лекцыях...*— П. Пестрак мае на ўвазе курс лекцый, прачытаны А. Міцкевічам у час эміграцыі ў Парыжы ў Калеж дэ Франс (1840—1844).

*Горкі Максім* (сапр. Пешкаў Аляксей Максімавіч; 1868—1936) — вялікі рускі савецкі пісьменнік, заснавальнік літаратуры сацыялістычнага рэалізму, пачынальнік савецкай літаратуры. Ганаровы член АН БССР.

*Пушкін Аляксандр Сяргеевіч* (1799—1837) — рускі пісьменнік, пачынальнік новай рускай літаратуры.

*Бялінскі Вісарыён Рыгоравіч* (1811—1848) — рускі рэвалюцыянер-дэмакрат, літаратурны крытык і публіцыст, філосаф-матэрыяліст.

*Едучы ў Расію, як выгнанец...*— А. Міцкевіч быў сасланы ў Расію за ўдзел у філаматцка-філарэцкіх арганізацыях (кастр. 1824 — май 1829).

*Бой-Жаленскі Тадэвуш* (1874—1941) — польскі пісьменнік, публіцыст, перакладчык і крытык. Артыкул «Шляхі генія» («Drogi geniusza») — змешчаны ў зборніку «Brazownicy» («Бранзавальшчыкі»). Варшава, 1930 г.

С. 157. *Рылееў Кандрат Фёдаравіч* (1795—1826), ***Бястужаў Аляк-***

*сандр Аляксандравіч* (1797—1837), *Дэльвіг Антон Антонавіч* (1798—1831), *Жукоўскі Васіль Андрэевіч* (1783—1852), *Грыбаедаў Аляксандр Сяргеевіч* (1795, паводле іншых крыніц 1794—1829), *Вяземскі Пётр Андрэевіч* (1792—1878), *Казлоў Іван Іванавіч* (1779—1840), *Баратынскі Яўген Абрамавіч* (1800—1844).

*Он между нами жил*

*Средь племени ему чужого; злобы...*— Радкі з верша «Он между нами жил».

«Крымскія санеты» (1826), паэма «Конрад Валенрод» (1828), паэма «Дзяды» (1832).

*...тут было пераж**ы**та паўстанне дзекабрыстаў.*— Маецца на ўвазе паўстанне рускіх дваранскіх рэвалюцыянераў супраць самадзяржаўя і прыгону ў снежні 1825 г.

*Лермантаў Міхаіл Юр'евіч* (1814—1841) — класік рускай літаратуры.

С. 158. Паэма «Гражына» (1823).

*Тэўтонскі ордэн* (Нямецкі ордэн) — каталіцкі духоўна-рыцарскі ордэн, які ў 13—15 ст. ст. праводзіў агрэсіўную палітыку ва Усходняй Еўропе.

*Ён падобен дракону: адсячэш яму адну галаву, зараз жа вырастае другая...*— Радкі з паэмы «Гражына» (1823).

Паэма «Пан Тадэвуш» (1834).

*...у 1863 годзе, успыхнула трэцяе паўстанне...*— Маецца на ўвазе нацыянальна-вызваленчае паўстанне супраць царызму ў Польшчы, Літве і на Беларусі (Студзеньскае паўстанне 1863 г.).

С. 159. *Праметэй* — у старажытнагрэчаскай міфалогіі тытан, абаронца людзей.

*Луначарскі Анатоль Васілевіч* (1875—1933) — савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, прапагандыст марксізма-ленінізма, літаратар, крытык.

### Народ яго ведае і любіць (с. 159)

Упершыню — Полымя, 1956, № 3.

Артыкул напісаны ў сувязі з 60-годдзем з дня нараджэння Кандрата Крапівы.

С. 159. *«Маланка»* — ілюстраваны сатырычны часопіс прагрэсіўнага кірунку, які выдавала на беларускай мове ў Вільні са студзеня 1926 года Беларуская сялянска-рабочая грамада (БСРГ), з 1927 года да снежня 1928-га — прагрэсіўныя арганізацыі, яе пасля-доўнікі.

С. 160. *Ад Барысава да Слуцка*

*(Аж прызнацца нейк нялоўка)...*— Другая страфа з верша К. Крапівы «Будуйце лазні!» (1923), які пачынаўся радкамі: «Беларусь па вушы гразне, але ў вёсках Беларусі...»

Паэма К. Крапівы «Біблія» (1926).

### Паэт-барацьбіт
### *(Да дзесятай гадавіны з дня смерці В. Таўлая)* (с. 161)

Упершыню — Звязда, 1957, 27 крас.

### Руплівы сейбіт (с. 164)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1957, 8 чэрв.

Артыкул напісаны ў сувязі з падрыхтоўкай Дзяржаўным выдавецтвам БССР зборніка матэрыялаў аб жыцці і літаратурнай

дзейнасці К. Чорнага (складальнік І. Жыдовіч)[1]. З успамінамі пра Кузьму Чорнага ў кнізе выступаюць П. Глебка, П. Пестрак, Ус. Краўчанка, І. Грамовіч, М. Лужанін, І. Мележ і інш.

Захоўваецца аўтограф (8 с.) пад назвай «Шчыры чалавек і мастак» (сустрэчы з Кузьмой Чорным), якая закрэслена, і над ёй крыху святлейшым чарнілам напісана: «Аб Кузьме Чорным». Пад тэкстам подпіс аўтара і дата: «7, 8/V—1957 г.».

С. 164. *Чорны Кузьма* (сапр. Раманоўскі Мікалай Карлавіч; 1900—1944) — беларускі савецкі празаік, драматург, публіцыст.

С. 167. *Лынькоў Міхась* (Міхаіл Ціханавіч; 1899—1975) — беларускі савецкі пісьменнік, вучоны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР. Акадэмік АН БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа.

С. 168. *Эх, скасіла, не спытала,*
*Жвір халодны прыгарнуў...*—
П. Пестрак прыводзіць радкі з верша Я. Купалы «На смерць Сцяпана Булата» (1921). У Я. Купалы:

*«Задрамаў ты з доляй, з хваляй,*
*Жвір халодны прыгаруніў...—*
*Ой, скасіла — не спытала...»*

*Булат Сцяпан Герасімавіч* (1894—1921) — беларускі савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, журналіст.

## Незабыўнае
## *(З успамінаў аб вызваленні)* (с. 168)

Упершыню — Сел. гаспадарка Беларусі, 1958, № 11.

С. 168. *Перад вызваленнем мне даводзілася адбываць чарговы панскі прысуд у Гродзенскай турме.*— П. Пестрак знаходзіўся ў Гродзенскай турме з кастрычніка 1936 па верасень 1939.

## Мы, беларусы, з братняю Руссю... (с. 173)

Упершыню — Сел. гаспадарка Беларусі, 1958, № 12.

С. 173. *...Народны сход у Беластоку...*— Выбары ў Народны сход адбыліся 22 кастрычніка 1939 г., пасяджэнні — 28—30 кастрычніка. Сход абвясціў 17 верасня днём вызвалення Заходняй Беларусі ад прыгнёту буржуазіі і памешчыкаў.

*Калінін Пётр Захаравіч* (1902—1966) — партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў Айчынную вайну.

Пятая нечарговая сесія Вярхоўнага Савета СССР пачала сваю работу 2 лістапада 1939 г.

С. 176. *Урбановіч Іосіф Паўлавіч* (псеўд. Максім; 1907—1944) — удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Брэсцкай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну.

## Дарогаю жыцця (с. 177)

Упершыню — Полымя, 1959, № 12.

Захоўваецца машынапіс (35 с.) з подпісам аўтара і датай: «1958 г.— снежань». Акрамя гэтага, ёсць карэктура першадруку з праўкамі аўтара. На першай старонцы злева пад назвай простым алоўкам зроблена памета: «4 экз.».

---

[1] Кузьма Чорны. Зборнік матэрыялаў аб жыцці і творчай дзейнасці пісьменніка. Дзяржвыд БССР.— Мн., 1959.

С. 179. *Някрасаў Мікалай Аляксеевіч* (1821—1877/1878) — рускі паэт, рэвалюцыйны дэмакрат.

*...я пайшоў у школу ...ведаючы нават на памяць верш Някрасава «Малютка-мужычок».*— Маецца па ўвазе ўрывак з паэмы М. А. Някрасава «Сялянскія дзеці» (1861).

С. 180. *Царкоўны майдан* — плошча перад царквой.

*Ушынскі Канстанцін Дзмітрыевіч* (1824—1870/1871) — заснавальнік рускай педагагічнай навукі і народнай школы ў Расіі.

*Будучы ў бежанстве ў Самарскай губерні...*— Сям'я Пестракаў жыла ў Самарскай губерні з верасня 1915-га па верасень 1921-га.

С. 181. *Кальварыя* — мясціна каля Іерусаліма, праз якую, паводле Евангелля, вялі на распяцце Хрыста. У Сярэднявечча ландшафтнавізуальныя паўтарэнні Кальварыі, упрыгожаныя адпаведнымі скульптурамі і абразамі, узніклі каля многіх гарадоў Еўропы. Звычайна месца масавых паломніцтваў. Віленская кальварыя знаходзіцца на поўнач ад горада.

С. 183. *Нікіцін Іван Савіч* (1824—1861) — рускі паэт. Паэма «Кулак» (1857).

*Кальцоў Аляксей Васілевіч* (1809—1842) — рускі паэт.

С. 184. *Надсан Сямён Якаўлевіч* (1862—1887) — рускі паэт.

*Друг мой, брат мой, усталый,*
*страдающий брат...*—

Радкі з верша С. Я. Надсана «Друг мой, брат мой, усталый, страдающий брат...» (1881).

*Андрэеў Леанід Мікалаевіч* (1871—1919) — рускі пісьменнік. Раман «Сашка Жыгулёў» (1911).

*Чэхаў Антон Паўлавіч* (1860—1904) — класік рускай літаратуры.

*Мамін-Сібірак* (сапр. Мамін) Дзмітрый Наркісавіч; 1852—1912) — рускі пісьменнік.

*Гарын* (сапр. Міхайлоўскі/Мікалай Георгіевіч; 1852—1906) — рускі пісьменнік.

С. 185. *...я пайшоў вучыцца на эканамічнае аддзяленне... Самарскага універсітэта.*— П. Пестрак вучыўся ў Самарскім універсітэце з верасня 1920-га па май 1921 года.

*Бюхнер Людвіг* (1824—1899) — нямецкі ўрач, прыродазнавец, філосаф — вульгарны матэрыяліст. Яго матэрыялістычная работа «Сіла і матэрыя» ўпершыню апублікавана ў 1855 годзе, рускі пераклад — у 1860, 1907 гадах.

*Хто быў нічым, той стане ўсім.*— Радкі з міжнароднага пралетарскага гімна «Інтэрнацыянал». Тэкст паэта-камуніста Э. Пацье (1871), музыка П. Дэгейтэра (1888).

С. 187. *Калінін Міхаіл Іванавіч* (1875—1946) — дзеяч Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы, Герой Сацыялістычнай Працы.

*Тургенеў Іван Сяргеевіч* (1818—1883) — рускі пісьменнік.

С. 188. *Бакунін Міхаіл Аляксандравіч* (1814—1876) — рускі дробнабуржуазны рэвалюцыянер, адзін з заснавальнікаў і тэарэтыкаў анархізму і народніцтва. Яго кніга «Бог і дзяржава» ўвайшла ў 1-ы том поўнага Збору твораў у 2-х тамах, СПГ, 1907 г.

С. 189. *...«Пирует гордый Рим» Лермантава...*— Відаць, П. Пестрак меў па ўвазе верш «Умирающий гладиатор» (1836), які пачынаецца словамі «Ликует буйный Рим...».

*Ясенін Сяргей Аляксандравіч* (1895—1925) — рускі савецкі паэт. Паэма «Ганна Снегіна» (1925).

С. 191. *«Родныя гоні»* — грамадска-культурны і літаратурна-мастацкі часопіс дэмакратычнага кірунку, які выдаваўся на беларускай мове ў Вільні з сакавіка па кастрычнік 1927 года.

*Ваенная служба ў польскім войску...* — П. Пестрак быў мабілізаваны на абавязковую ваенную службу ў верасні месяцы 1924 года, якую адбыў паўтара года.

С. 192. *Дубовік Сямён Андрэевіч* (парт. псеўданім Андрэй; 1888—1937) — удзельнік грамадзянскай вайны, дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.

С. 193. *Шайкоўскі Лазар Рыгоравіч* (н. 1901) — удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.

*Канчэўскі Арсен Уладзіміравіч* (1901—1931) — дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.

С. 194. *Багдановіч Максім Адамавіч* (1891—1917) — выдатны беларускі паэт, перакладчык, літаратуразнавец, празаік.

...*«помню — я на міг пахарашэў душою».* — Радкі з вершаванага апавядання «У вёсцы» з цыкла «Мадонны». Упершыню апублікавана ў зборніку «Вянок» (1913).

С. 197. *Міско Якуб* (Якаў Герасімавіч; 1911—1981) — беларускі журналіст, удзельнік заходнебеларускага вызваленчага руху. Заслужаны дзеяч культуры БССР.

*«Беларуская газета»* — легальны неафіцыйны орган КПЗБ. Выходзіла ў Вільні неперыядычна з чэрвеня 1933-га па студзень 1934 года на беларускай мове.

С. 198. *Сташыц Станіслаў* (1755—1826) — польскі грамадскі дзеяч, ідыёлаг Асветніцтва, публіцыст, вучоны.

*Сваяк Казімір* (сапр. Стаповіч Канстанцін; 1890—1926) — беларускі клерыкальны паэт.

*Прытыцкі Сяргей Восіпавіч* (1913—1971) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з арганізатараў камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

С. 199. *Маякоўскі Уладзімір Уладзіміравіч* (1893—1930) — рускі савецкі паэт — наватар, адзін з пачынальнікаў літаратуры сацыялістычнага рэалізму.

*Бранеўскі Уладзіслаў* (1897—1962) — польскі паэт.

*Канструктывізм* — адзін з фармалістычных напрамкаў у літаратуры XX ст., які развіваў крайні тэхніцызм.

С. 202. *Суркоў Аляксей Аляксандравіч* (1899—1983) — рускі савецкі паэт і грамадскі дзеяч. Лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР. Герой Сацыялістычнай Працы.

*Радзішчаў Аляксандр Мікалаевіч* (1749—1802) — рускі пісьменнік, філосаф-матэрыяліст, рэвалюцыянер-асветнік.

*Гогаль Мікалай Васілевіч* (1809—1852) — рускі пісьменнік.

С. 203. *Жаромскі Стэфан* (1864—1925) — польскі пісьменнік.

*Ажэшка* (дзявочае Паўлоўская) Эліза (1841—1910) — польская пісьменніца.

*Фадзееў Аляксандр Аляксандравіч* (1901—1956) — рускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

Зборнік «Лясная песня» (1958).

### Слова пра Шолахава

*(Да шасцідзесяцігоддзя з дня нараджэння)* (с. 204)

Упершыню — Полымя, 1965, № 5.

Захоўваецца аўтограф (3 с.) з подпісам аўтара і датай: «3.VI.65 г.». Ёсць і машынапіс (5 с.) пад назвай: «Творца вялікай эпапеі» (Да 60-годдзя М. А. Шолахава). Пад тэкстам дата: «26-га сакавіка 1965 г.».

С. 204. *Шолахаў Міхаіл Аляксандравіч* (1905—1984) — рускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР. Лаўрэат Ленінскай прэміі і Дзяржаўнай прэміі СССР. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі. Герой Сацыялістычнай Працы.

*Вялікі Ленін у свой час гаварыў...*— П. Пестрак спасылаецца на словы У. І. Леніна з артыкула «Як арганізаваць спаборніцтва?» (1917).

«Ціхі Дон» (1928—1940, Дзяржаўная прэмія СССР, 1941).

С. 205. *...называючы гэтую «рускую Вандэю» ачагом ... «адарваным ад агульнарускай дэмакратыі»...*— П. Пестрак прыводзіць словы з работы У. І. Леніна «Руская рэвалюцыя і грамадзянская вайна» (1917).

*...«эксплуатацыяй наёмнай працы» ... «больш за ўсё можна спадзявацца на контррэвалюцыю».*— Радкі з работы У. І. Леніна «З заключнага слова па дакладу аб бягучым моманце на IV канферэнцыі прафесійных саюзаў і фабрычна-заводскіх камітэтаў Масквы 28 чэрвеня 1918 г.».

## Пра Янку Купалу (с. 207)

Упершыню — Маладосць, 1966, № 9.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы (8 с.) і белавы (12 с.) з подпісам аўтара і датай: «красавік — 1966 г.».

С. 207. Верш «А хто там ідзе?» (1907).

*...Максім Горкі назваў гімнам беларусаў.*— П. Пестрак мае на ўвазе водгук М. Горкага на песню «А хто там ідзе?» (музыку напісаў кампазітар Л. М. Рагоўскі). У пісьме да М. М. Кацюбінскага ад 7(20) лістапада 1910 г. М. Горкі пісаў: «У кніжку маю ўкладзены лісток — песня і ноты, нешта накшталт беларускага гімна. Мяне гэта рэч усхвалявала» (М. Горький. Собр. соч. в 30 томах, т. 29. М., 1955, с. 138—139).

*Дунін-Марцінкевіч Вінцэнты, Вінцук* (Вікенцій Іванавіч; 1807—1884) — беларускі пісьменнік, драматург і тэатральны дзеяч, стваральнік беларускага нацыянальнага тэатра.

*Катляроўскі Іван Пятровіч* (1769—1838) — украінскі пісьменнік, пачынальнік новай украінскай паэзіі.

*Кацюбінскі Міхайла Міхайлавіч* (1864—1913) — украінскі пісьменнік, рэвалюцыйны дэмакрат.

*Франко Іван Якаўлевіч* (1856—1916) — украінскі пісьменнік, вучоны і грамадскі дзеяч.

*Канапніцкая Марыя* (1842—1910) — польская пісьменніца.

*Славацкі Юльюш* (1809—1849) — польскі паэт і драматург.

С. 208. *Я не для вас, паны, о не,*
*Падняць скібіну слова рвуся...*—
Радкі з верша «Я не для вас...» (1907).

Верш «Мой дом» (1910).

С. 209. *Рафаэль* (сапр. Рафаэла Санці, ці Санцыо; 1483—1520) — італьянскі жывапісец і архітэктар Высокага Адраджэння.

С. 210. *У крыўду не дайся, свайго дабівайся.*
*Адвага хай будзе з табой!* —
Радкі з верша «За праўду» (1908).

С. 211. *І будзе ўнукаў панаванне*
*Там, дзе сягоння плача дзед!* —
Радкі з верша «Ворагам Беларушчыны» (1907).
*Карчмы ды астрогі,*
*Крыжыкі, бярозкі...*—
Радкі з верша «Вёска» (1909).
*Вучыся, нябожа, вучэнне паможа*
*Змагацца з нядоляй, з няволяй...*—
Радкі з верша «Вучыся...» (1907).

С. 212. *«Родны край»* — П. Пестрак, відаць, меў на ўвазе адну з чытанак для дзяцей Леанілы Гарэцкай (Чарняўскай), настаўніцы 1-й Беларускай гімназіі ў Вільні.

*Недарма на сваім апошнім юбілеі...*— У снежні 1940 года грамадскасць Беларусі шырока адзначыла 35-годдзе творчай дзейнасці Я. Купалы.

## Лічыла дні турма (с. 212)

Упершыню — Полымя, 1967, № 9.

Захоўваюцца два машынапісы. Адзін з іх на беларускай мове (47 с.) з праўкамі аўтара пад загалоўкам «З турэмных успамінаў. Фрагменты» і паметай: «люты — сакавік 1967 г.». Другі на рускай мове (50 с.) пад загалоўкам: «Из тюремных воспоминаний» і паметай: «февраль — март 1967 г.».

С. 213. *Бёрда* — прылада ў ткацкім станку з тонкіх пласцінак накшталт грэбеня з дзвюма спінкамі для прыбівання ўточнай ніткі.

С. 216. *Часопіс «Дзвігня»* («Dźwignia») — польскі літаратурна-мастацкі штомесячнік, выдаваўся ў Варшаве ў 1927—1928 гадах.

*Шпенглер Освальд* (1880—1936) — нямецкі філосаф-ідэаліст.

*Войкаў Пётр Лазаравіч* (1888—1927) — савецкі дыпламат. Забіты рускім белагвардзейцам у Варшаве. Пахаваны на Краснай плошчы ў Маскве.

С. 217. *Ён, мусіць, не змяніўся яшчэ з часоў Суворава.*— П. Пестрак успамінае той факт, што вядомы рускі палкаводзец Сувораў Аляксандр Васілевіч (1730—1800) з 1795 года валодаў г. Кобрынам, які знаходзіцца непадалёку ад Брэста (старая назва: Брэст-Літоўск).

С. 218. *Таварыства беларускай школы* (ТБШ) — культурна-асветніцкая арганізацыя працоўных Заходняй Беларусі. Заснавана ў 1921 годзе на аснове культурна-асветніцкіх арганізацый Беларускай школьнай рады, на якую ўплывалі беларускія нацыяналісты; актыўнай дзейнасці не вяла. Дзейнасць ТБШ была забаронена польскімі ўладамі ў 1937 годзе.

С. 223. *Нас узялі пад апеку беларускія паслы сейма з пасольскага клуба «Змаганне»...*— Пасольскі клуб «Змаганне» быў створаны ў польскім сейме дэпутатамі ад працоўных Заходняй Беларусі (выбары адбыліся 4 сакавіка 1928 года). Клуб цесна супрацоўнічаў з камуністычнай фракцыяй сейма і фактычна быў парламенцкай фракцыяй КПЗБ. Разам з сакратарыятамі, якія былі створаны вясной 1929 года амаль ва ўсіх паветах, клуб з'яўляўся цэнтрам легальнай палітычнай дзейнасці КПЗБ сярод шырокіх мас. У жніўні 1930 года фашысцкія ўлады арыштавалі і судзілі дэпутатаў сейма і кіраўнікоў «Змагання», а неўзабаве ліквідавалі ўсе мясцовыя сакратарыяты.

*Дварча́нін Ігнат Сымонавіч* (1895—1937) — беларускі грамад-

скі дзеяч, літаратуразнавец. У 1928 годзе выбраны паслом у польскі сейм па спісе рабоча-сялянскага блока. Выконваў абавязкі намесніка старшыні рэвалюцыйна-вызваленчай арганізацыі «Змаганне».

С. 223. *Грэцкі Іван Мікалаевіч* (1898—1937) — удзельнік рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Адзін з кіраўнікоў рэвалюцыйна-вызваленчай арганізацыі «Змаганне».

*Дурач Тэадор* (1883—1943) — дзеяч польскага рабочага руху. Абараняў палітычных зняволеных, у тым ліку членаў Грамады. Адзін з заснавальнікаў Камуністычнай партыі Польшчы і член яе ЦК. Забіты ў час допыту ў гестапа.

С. 231. *«Газета Польска»* — польская газета, якая выдавалася з 1929 па 1939 год у Варшаве, вядучы орган пілсудчыкаў.

С. 232. *...даехаць да Вільні на судовы працэс маладых беларускіх літаратараў.*— Упамінаецца судовы працэс, вядомы як «Працэс — 16». Праходзіў з 23-га па 29 сакавіка 1936 года.

С. 233. *...пахавана сэрца маршалка.*— Гутарка ідзе пра могілкі Роса, дзе ў 1936 годзе было, паводле завяшчання, пахавана сэрца Ю. Пілсудскага.

С. 234. *«Асва» (аса)* — часопіс сатыры і гумару. Выдаваўся легальна ў Вільні на беларускай мове студэнтам камуністам Пятром Радзюком як неафіцыйны орган падпольнай КПЗБ. Выходзіў з 25 сакавіка да 25 жніўня 1934 года. Часопіс змагаўся за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне Заходняй Беларусі, прапагандаваў поспехі сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР.

С. 238. *...за краты прыйшла ... вестка аб роспуску КПП.*— Камуністычная партыя Польшчы была распушчана ў 1938 годзе на падставе неабгрунтаваных падазрэнняў у шырокім пранікненні варожай агентуры ў рады кіруючых работнікаў партыі.

### Так мы жывём (с. 238)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1971, 19 сак.

Захоўваецца аўтограф (6 с.) з невялікімі праўкамі. Пад тэкстам подпіс аўтара і дата: «сакавік 1971 г.». Ёсць і машынапіс (4 с.) пад назвай «Мы пачынаем жыць...» з паметай: «сакавік 1971 г.».

С. 239. *...яшчэ прагнуць «касіць сена хоць бы на асфальце».*— Маецца на ўвазе зборнік апавяданняў Міхася Стральцова «Сена на асфальце» (1966).

### Шчыры друг і добразычлівы крытык (с. 239)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1972, 8 верас.

Артыкул напісаны да 70-годдзя з дня нараджэння А. А. Фадзеева. Захоўваецца чарнавы аўтограф (2 с.) пад назвай «Пісьменнік-гуманіст».

С. 240. *А калі ў 1948 годзе раман выйшаў з друку...*— П. Пестрак памылкова называе дату выхаду рамана з друку. Асобнай кнігай раман цалкам надрукаваны ў 1954 годзе.

*...я зусім нечакана атрымаў ад Аляксандра Аляксандравіча вялікі ліст.*— Маецца на ўвазе пісьмо А. А. Фадзеева ад 21 лютага 1955 г., якое захоўваецца ў сямейным архіве пісьменніка.

*Л. У. Хрышчановіч*

# АСНОЎНЫЯ ДАТЫ ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ

## СПІС ПРЫНЯТЫХ СКАРАЧЭННЯЎ

| | |
|---|---|
| Літаратура і мастацтва | — Літ. і мастацтва |
| Литературная газета | — Лит. газ. |
| Настаўніцкая газета | — Наст. газ. |
| Советская Белоруссия | — Сов. Белоруссия |
| Савецкі селянін | — Сав. селянін |
| Чырвоная змена | — Чырв. змена |
| К. Р. Хромчанка. П. Пестрак. Жыццё і творчасць. Выд-ва АН БССР, 1960 | — К. Р. Хромчанка П. Пестрак. Жыццё і творчасць. |
| Пяцьдзесят чатыры дарогі (аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў).— Мн.: ДВБ, 1963 | — 54 дарогі |

## 1903

*Лістапад, 27.*

У вёсцы Сакоўцы былога Касаўскага павета, на Палессі (цяпер Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці) у беднай сялянскай сям'і нарадзіўся Піліп Сямёнавіч Пестрак.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 415.

## 1910—1914

Вучыцца ў царкоўнапрыходскай школе ў сяле Бусяж.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 416.

## 1914

*Вясна.*

Атрымаў пасведчанне аб сканчэнні школы.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 416.

*Восень.*

«Вайна выгнала нас з радзімы, і нашы вёскі рушылі на сваіх коніках з будамі на ўсход. Позняй восенню нас у Бабруйску пагрузілі ў таварныя вагоны (цяплушкі), і праз месяца паўтара мы спыніліся на станцыі «Богатое», пры ёй сяло Паўлаўка, дзе давялося адбываць двухтыднёвы каранцін. А потым на санях-розвальнях завезлі нас рускія барадатыя сяляне ў вялікае сяло Максімаўку, Самарскай губерні, Бузулукскага павета, цяпер Куйбышаўскай вобласці, Багатаўскага раёна...»

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 416.

## 1914—1915

У Максімаўцы вучыцца яшчэ раз у 5-м аддзяленні Двухкласнага Міністэрства Народнай Асветы вучылішча.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 417.

## 1916

*Вясна.*

З поспехам скончыў 6-е аддзяленне Двухкласнага Міністэрства Народнай Асветы вучылішча.

Аўтабіяграфія.— Архіў сям'і пісьменніка, 1958.

## Май 1916 — лета 1918

Працаваў у крэдытовым Таварыстве памочнікам рахункавода. Затым працаваў у прадуктовым аддзеле валаснога праўлення, рабіў перапіс гаспадарак.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 417.

*Жнівень.*

У сяле Паўлаўка скончыў месячныя бібліятэчныя курсы.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 417.

## Верасень 1918

Вучыцца ў гімназіі ў г. Бузулук.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 417.

## Сакавік 1919 — студзень 1920

Працуе ў сяле Максімаўка ў валасным выканкоме памочнікам бухгалтара.

Аўтабіяграфія, 1951.— Архіў СП БССР.

## Студзень 1920 — май 1920

Вучыцца на рабфаку ў г. Івашчанкава (у 1929 перайменаваны ў г. Чапаеўск).

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 417.

## Верасень 1920 — май 1921

Вучыцца ў Самарскім дзяржаўным універсітэце на сацыяльна-гістарычным факультэце, эканамічным аддзяленні.

Аўтабіяграфія.— Архіў сям'і пісьменніка, 1958.

*Лістапад.*

У сувязі з голадам на Паволжы сям'я Пестрака вярнулася на радзіму, у в. Сакоўцы.

«На працягу двух тыдняў паміраюць бацька, сястра і брат. Ледзь сам выратаваўся ад тыфусу. Стаўшы на ногі, пайшоў працаваць на лесапільны завод Палескага ваяводства, грузіць бярвенні».

Аўтабіяграфія.— Архіў сям'і пісьменніка, 1958.

## Снежань 1921 — ліпень 1922

Працуе на лесапільным заводзе ва ўрочышчы «Бронна Гура» Косаўскага павета.

Аўтабіяграфія, 1951.— Архіў СП БССР.

## 1922—1923

Служыць леснікам у купцоў-лесапрамыслоўцаў пад Слонімам.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 417.

## 1924

*Лета.*

Робіць спробу ўцячы ў Савецкі Саюз. На станцыі Гарадзея паліцыя злавіла яго і этапным парадкам адправіла дахаты. Месяц трымалі пад арыштам у мястэчку Косава.

Аўтабіяграфія.— Архіў сям'і пісьменніка, 1958.

## Верасень 1924 — да красавіка 1926

Знаходзіцца на ваеннай службе ў г. Торунь Паморскага ваяводства ў 8-м палку цяжкай артылерыі. Там скончыў падафіцэрскую школу і вярнуўся з войска ў чыне капрала.

Аўтабіяграфія.— Архіў сям'і пісьменніка, 1958.

## 1926

*Красавік — кастрычнік.*

Працаваў на гаспадарцы ў в. Сакоўцы.

Аўтабіяграфія.— Архіў сям'і пісьменніка, 1958.

*Чэрвень, 20.*

Напісаны верш «Наперад, гэй...». Пад псеўданімам Звястун змешчаны ў час. «Родныя гоні», 1927, № 5. Першы друкаваны твор П. Пестрака.

К. Р. Хромчанка. П. Пестрак. Жыццё і творчасць, с. 26.

*Верасень.*

Уступіў у Камуністычную партыю Заходняй Беларусі (партыя працавала ў падполлі, праследавалася польскай буржуазнай уладай). Стаў членам павятовага камітэта «Беларускай сялянска-рабочай грамады» ў мястэчку Косава.

Аўтабіяграфія.— Архіў сям'і пісьменніка, 1958.

## 1927

*Люты, 3.*

Удзельнічае ў Косаўскай камуністычнай масавай дэманстрацыі пратэсту супраць ліквідацыі Грамады. Арыштаваны і да 11 чэрвеня знаходзіўся ў астрозе (Пружаны — Гродна). Выпушчаны з-за недахопу матэрыялаў для абвінавачвання.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 418.

## Ліпень 1927 — студзень 1929

З'яўляецца сакратаром падпольнага райкома КПЗБ, а таксама сакратаром акруговай управы Таварыства Беларускай школы ў Косаве.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 418.

## 1928

*Лістапад.*

Піша верш «Над намі віхры выюць...».

Упершыню — «Рунь веснаходу», Вільня.

## 1929

*Студзень, 14.*

Зноў арыштаваны і засуджаны Гродзенскім акруговым судом на пяць год турмы.

Аўтабіяграфія.— Архіў сям'і пісьменніка, 1958.

## 14 студзеня 1929 — 14 верасня 1933

Знаходзіцца ў гродзенскай турме. Там напісаны вершы: «Ночы сон...» («Гоман ночы...»), «Мацуйся», «Я цябе абніму», «Ціха зорка мігае», «Песня аб дубе» і інш.

Аўтабіяграфія. Рукапісы.— Архіў сям'і пісьменніка, 1958.

## 1932

*Люты, 20.*

У «Чырв. змене» змешчаны верш «Над намі віхры выюць...» — першая публікацыя твораў П. Пестрака ў беларускім савецкім друку.

## 14 верасня 1933 — 22 лютага 1934

Прымае актыўны ўдзел у падпольнай рабоце. Абраны членам Акруговага камітэта КПЗБ па Слонімскай акрузе. У лістападзе Слонімскім акруговым камітэтам КПЗБ пасланы ў ЦК КПЗБ у Варшаву, адкуль у якасці інструктара накіраваны ў Пінскую акругу.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 419.

## 1933

*Снежань.*

У Вільні адбылася пісьменніцкая канферэнцыя, якая прыняла рашэнне стварыць арганізацыю Літаратурны фронт. Прынятую «Дэкларацыю групы паэтаў да ўсіх пісьменнікаў Заходняй Беларусі» падпісаў П. Пестрак.

Гісторыя беларускай савецкай літаратуры.— Мн.: 1966, т. 2, с. 291.

## 1934

*22 лютага.*

Арыштаваны. Знаходзіцца пад следствам да лістапада 1935.

Аўтабіяграфія.— Архіў сям'і пісьменніка, 1958.

## 1935

*Лістапад.*

Прывезены ў Вільню ў Лукішкі.

Аўтабіяграфія.— Архіў сям'і пісьменніка, 1958.

*Восень 1935 — восень 1936.*

Знаходзіцца ў віленскай турме Лукішкі. Піша вершы «Паэзія» (упершыню быў змешчаны ў нелегальным рукапісным часопісе «Краты»), «Сціхніце, зоры...», «Пушча. Снег і ты. Едзем», «Дала мне кашы», «На штурм» (Песня чырвонага фронту), «Трыялет» (Калі на стрэсе бусел стаў), «Восень» і інш.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 419.

*Сакавік, 23—29.*

У Вільні адбыўся судовы працэс над групай беларускіх пісьменнікаў і журналістаў. Па абвінавачванню ў супрацоўніцтве з КПЗБ П. Пестрак прыгавораны да шасці гадоў турэмнага зняволення, з улікам таго часу, што ён знаходзіўся пад следствам.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 419.

*Лістапад 1936 — верасень 1939.*

Знаходзіцца ў гродзенскай турме. Піша вершы «Мы не памрэм!», «Сон аб аграноме», «Мой раманс», «Пасіянарыя», «Ціхі зрок...», «Гамлет» і інш.

Аўтабіяграфія. Рукапісы.— Архіў сям'і пісьменніка, 1958.

## 1937—1939

З'яўляецца сакратаром турэмнага камітэта гродзенскай

турмы. Пасля вызвалення Чырвонай Арміяй турэмны камітэт быў ператвораны ў рэвалюцыйны камітэт.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 420.

## 1939

*Верасень, 17.*

Паводле распараджэння ўрада СССР Чырвоная Армія перайшла граніцу Польшчы і ўзяла пад абарону насельніцтва Заходняй Беларусі.

*Верасень, 22.*

Вызвалены з гродзенскай турмы.

Аўтабіяграфія.— Архіў сям'і пісьменніка, 1958.

*Лістапад, 5.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны верш «Пасля прысуду» — першая публікацыя твораў П. Пестрака пасля вызвалення Заходняй Беларусі.

*Лістапад, 12.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны верш «Паэзія».

*Лістапад, 15.*

Разам з Я. Коласам, А. Куляшовым, М. Танкам, П. Панчанкам, М. Машарам выступае на вечары сустрэчы пісьменнікаў Заходняй Беларусі са студэнтамі і выкладчыкамі Мінскага педагагічнага інстытута.

Літ. і мастацтва, 23 лістап.

*Снежань, 5.*

У «Звяздзе» змешчаны артыкул «Мінуў час цемры і невуцтва».

*Снежань.*

У «Полымі рэвалюцыі» № 11—12 надрукаваны вершы «Зашумі ты, бор», «Краіне».

## 1939—1940

З'яўляецца старшынёй гаркома МОПРа ў г. Гродна.

Аўтабіяграфія, 1978.— Архіў СП БССР.

## 1940

*Студзень, 1.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны верш «Краіне».

*Студзень.*

У «Полымі рэвалюцыі» № 1 друкуе вершы «Нёман» (Бура), «Першы снег».

*Люты, 3.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны артыкул М. Клімковіча «Пілін Сямёнавіч Пестрак» аб жыцці і творчасці пісьменніка.

*Да 11 сакавіка.*

Прымае ўдзел у літаратурным вечары, які адбыўся ў беластоцкім Доме партактыву.

Літ. і мастацтва, 11 сак.

*Сакавік, 24.*

Абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР па Гродзенскай выбарчай акрузе.

Аўтабіяграфія, 1951.— Архіў СП БССР.

*Да 4 красавіка.*

Прымае ўдзел у рабоце VI сесіі Вярхоўнага Савета СССР, выступае з прамовай (надрукавана ў «Звяздзе», 4 красавіка).

*Красавік, 5.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны верш «Я маю сонцы два...».

*Красавік, 23.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны верш «Маўзалей».

*Май, 1.*

У «Звяздзе» надрукаваны верш «Мой Першы Май! Цябе чакаў я доўга...». Пад вершам памета: «Гродна».

*Да 6 верасня.*

Абраны ў склад камісіі па правядзенню 35-годдзя творчай дзейнасці Я. Купалы.

Літ. і мастацтва, 7 верас.

*Верасень, 6.*

Прымае ўдзел у Элісце ў рабоце XIII Пленума СП СССР, прысвечанага 500-годдзю калмыцкага народнага эпасу «Джангар».

Правда, 8 верас.

*Верасень, 7.*

«Літ. і мастацтва» паведамляе: друкуецца кніжка вершаў П. Пестрака «На варце». У кніжцы сабрана большая частка вершаў, напісаных за 11 год пакутавання ў турмах панскай Польшчы. Зборнік выйшаў у лістападзе.

*Верасень, 14.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны верш «Армія Чырвоная». Пад вершам памета: «Гродна».

*Верасень, 17.*

На пасяджэнні праўлення СП БССР прыняты ў Саюз савецкіх пісьменнікаў.

Літ. і мастацтва, 21 верас.

*Верасень, 23—24.*

Прымае ўдзел у агульным сходзе пісьменнікаў Беластока, прысвечаным творчым вынікам першага года жыцця і працы на вызваленай зямлі.

Літ. і мастацтва, 28 верас.

*Верасень, 25.*

На першым арганізацыйным сходзе пісьменнікаў Беластока

выбраны старшынёй бюро беластоцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР.

Літ. і мастацтва, 28 верас.

*Верасень, 25.*

У Доме партасветы ў Беластоку выступае з чытаннем сваіх вершаў на літаратурным вечары, прысвечаным гадавіне вызвалення Заходняй Беларусі.

Літ. і мастацтва, 28 верас.

*Кастрычнік, 5.*

Выступае з дакладам па сходзе пісьменнікаў Беластока. Надрукаваны ў «Вольнай працы» 12 кастрычніка пад назвай «Аб маральным вобліку савецкага пісьменніка».

*Снежань, 8.*

Прымае ўдзел ва ўрачыстым вечары, прысвечаным 35-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы, які адбыўся ў Вялікім дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР, выступае з прывітаннем, чытае свае вершы.

Звязда, 10 снеж.

*Снежань, 21.*

У «Літ. і мастацтве» друкуе верш «Даўні знаёмы». Пад вершам памета: «Гродна».

## 1941

*Студзень, 12.*

У «Чырв. змене» змешчана рэцэнзія М. Сурначова «Народжаная за кратамі» (аб зб. вершаў П. Пестрака «На варце»).

*Студзень, 18.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны верш «Аб Леніне вялікім». Пад вершам памета: «Гродна».

*Студзень, 21.*

У «Звяздзе» надрукаваны ўспаміны «Ленінец Сцёпа».

*Люты, 20.*

У «Вольнай працы» надрукаваны верш «Даклад».

*Сакавік, 21.*

У «Вольнай працы» надрукаваны артыкул «Дзяржаўныя прэміі».

*Красавік, 5.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны вершы «Калыханка», «Сустракаў цябе раз...», «Я маю сонцы два».

*Красавік, 6.*

У «Звяздзе» друкуе верш «Еду ў Мінск».

*Красавік, 12.*

У беластоцкім Доме Чырвонай Арміі адбыўся літаратурны вечар П. Пестрака. Адкрыў вечар уступнай прамовай М. Танк. П. Пестрак чытаў свае вершы.

Літ. і мастацтва, 19 крас.

*Красавік, да 29.*

Праўленнем СП БССР зацверджаны членам рэдкалегіі часопіса «Полымя рэвалюцыі».

Літ. і мастацтва, 29 крас.

*Май, 13.*

Выступае ў Доме Чырвонай Арміі (Беласток) на літ. вечары-сустрэчы М. Танка з камсамольцамі і моладдзю горада.

Літ. і мастацтва, 17 мая.

*Чэрвень, 22.*

Пачалася Вялікая Айчынная вайна.

*Сярэдзіна верасня.*

«Разам з сям'ёй пехатой дабраўся да Лельчыцкага р-на і спыніўся ў адной з глухіх вёсак».

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 420.

## 1942

*Снежань, 12.*

Уступае ў партызанскую групу Дэмбоўскага.

Аўтабіяграфія.— Архіў сям'і пісьменніка, 1958.

## 1943

*Люты — ліпень.*

Працуе ў рэдакцыі партызанскай газеты, рэдактарам часопіса пры партызанскім злучэнні А. М. Сабурава.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 420.

У час знаходжання ў партызанскім атрадзе піша вершы «Партызанская маршавая», «...Пад зорным карагодам», «Першы май» і інш.

Аўтабіяграфія. Рукапісы.— Архіў сям'і пісьменніка, 1958.

*Да ліпеня.*

Па запатрабаванню ЦК КП(б)Б выкліканы ў Маскву і прызначаны начальнікам Упраўлення па справах мастацтваў пры Саўнаркоме БССР.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 420.

*Ліпень, 1.*

Чытае свае вершы на вечары, прысвечаным гадавіне з дня смерці Я. Купалы (Масква). Вечар адкрыў А. Фадзееў.

Сав. Беларусь, 3 ліп.

*Ліпень.*

Піша верш «Памяці Я. Купалы», прысвечаны гадавіне з дня смерці. Пад вершам памета: Масква.

Аўтабіяграфія. Рукапісы.— Архіў сям'і пісьменніка, 1958.

*Лістапад.*

Напісаны верш «Слухайце, пушчы, паляны...».

Упершыню — Белостокская правда, 29 лістап., пад назвай «Слухайце, пушчы...».

## 1944

*Студзень.*

У «Беларусі» № 1 надрукаваны верш П. Пестрака «Рыцар Айчыны». У машынапісе датуецца вераснем 1943 г. з паметай: Масква.

*Студзень, 18.*

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

*Да 22 студзеня.*

Выступае з чытаннем сваіх твораў на літаратурным вечары, прысвечаным 25-годдзю БССР, які адбыўся ў Маскоўскім клубе пісьменнікаў пад старшынствам А. Фадзеева.

Лит. и искусство, 22 студз.

*Люты.*

У «Беларусі» друкуе верш «Маці».

*Чэрвень.*

У «Беларусі» змешчаны верш «Ткачыха».

## 1945

*Сакавік.*

У «Беларусі» надрукавана апавяданне «Аўдоцця і яе ўнучак».

*Май, 9.*

Закончылася Вялікая Айчынная вайна.

*Жнівень, 12.*

У «Літ. і мастацтве» друкуе вершы «На варце» і «Сінія туманы».

*Кастрычнік.*

У «Полымі» № 10 надрукаваны верш «Прыпяць».

*Кастрычнік.*

У «Беларусі» № 10 змешчаны верш «Віцебск».

*Снежань, 24.*

Узнагароджаны медалём «За доблестный труд в Великой Отечественной войне 1941—1945 гг.».

*Снежань, 27—29.*

Удзельнічае ў рабоце пашыранага пленума Праўлення СП БССР. Выступае ў спрэчках. Абраны членам рэвізійнай камісіі.

Літ. і мастацтва, 1946, 1, 10 студз.

## 1946

*Студзень, 1946 — верасень, 1948.*

Працуе старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР.

Аўтабіяграфія.— У кн.: 54 дарогі, с. 420.

*Студзень.*

У «Беларусі» № 1 надрукаваны вершы «Заходняй», «На руінах», «Над Нёманам».

*Красавік.*

У «Полымі» № 4 друкуе апавяданне «Муж і жонка».

*Май.*

Прымае ўдзел у абмеркаванні паэмы А. Бялевіча «Сям'я».

Літ. і мастацтва, 27 мая.

*Май — чэрвень.*

У «Беларусі» № 5—6 надрукаваны вершы «Дарогаю ляснай», «Дзяўчынка», «Вулей», «Дуб», «Воўк», «Жураўлі» (санет).

*Жнівень.*

У «Беларусі» № 8 друкуе апавяданне «Пад славацкія песні».

У Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшаў зб. вершаў «За сваю Айчыну».

*Кастрычнік, 22.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны артыкул В. Таўлая «Думкі пра зборнік «За сваю Айчыну».

*Лістапад, 2.*

Выступае на ўрачыстым вечары, прысвечаным 40-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Коласа.

Літ. і мастацтва, 6 лістап.

*Лістапад, 3.*

У «Сов. Белоруссии» друкуе верш «Якубу Коласу».

## 1947

*Люты.*

У «Беларусі» надрукаваны верш «Сябры».

*Сакавік.*

У «Беларусі» № 3 друкуе апавяданне «Генерал».

*Май, 1.*

У «Сав. селяніне» надрукавана апавяданне «Далёкае і блізкае».

*Май, 16—20.*

У Брэсце прымае ўдзел у нарадзе маладых пісьменнікаў заходніх абласцей Беларусі, скліканай ЦК ЛКСМБ і праўленнем СП БССР.

Літ. і мастацтва, 24 мая.

*Май.*

У «Беларусі» № 5 змешчана рэцэнзія «Паэзія ці стылізацыя» (на зб. вершаў А. Русака «На родных палетках»).

*Да 7 чэрвеня.*

Выступае ў спрэчках на сходзе партыйнай арганізацыі СП Беларусі, прысвечаным падрыхтоўцы да 30-годдзя Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Літ. і мастацтва, 7 чэрв.

*Чэрвень, 28.*

Прымае ўдзел у гарадскім сходзе, прысвечаным пятай гадавіне з дня смерці Я. Купалы.

Літ. і мастацтва, 5 ліп.

*Ліпень, 22.*

Прымае ўдзел у рэспубліканскім сходзе пісьменнікаў, прысвечаным абмеркаванню Пастаноў ЦК КП(б) Беларусі аб рабоце СП БССР, рэдакцый часопісаў «Полымя», «Беларусь» і газеты «Літ. і мастацтва». Выступае ў спрэчках па дакладу П. Броўкі.

Літ. і мастацтва, 26 ліп.

*Ліпень, 21—25.*

Выступае з дакладам на рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў.

Літ. і мастацтва, 26 ліп.

*Жнівень, 14.*

У «Сав. селяніне» надрукаваны верш «Родныя мясціны».

*Жнівень, 16.*

У складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў выязджае ў Ленінград. Знаходзіцца да 25 жніўня. Прымае ўдзел у вечарах беларускай паэзіі.

Літ. і мастацтва, 16, 30 жн.

*Верасень.*

У «Беларусі» № 9 надрукаваны ўрывак з паэмы «Сын кастрычніка».

*Кастрычнік.*

У «Беларусі» змешчана апавяданне «Гарадзь вёскі».

*Лістапад, 22.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны артыкул «Партызаны» на Народным сходзе» (аб п'есе К. Крапівы).

У Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшлі «Выбраныя творы».

## 1948

*Студзень, 11.*

У «Звяздзе» надрукаваны верш «Правадыру».

*Студзень, 17.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны верш «Ленінграду».

*Люты, 24—26.*

Прымае ўдзел у сходзе пісьменнікаў Беларусі, прысвечаным вынікам 1947 года ў галіне прозы, паэзіі, драматургіі, літаратуразнаўства і літаратуры для дзяцей. Выступае ў спрэчках.

Літ. і мастацтва, 28 лют.

*Люты.*

У «Беларусі» надрукаваны ўрывак з рамана «Сустрэнемся на барыкадах». Раман асобным выданнем выйшаў у 1954 г.

*Люты.*

У «Полымі» № 2 надрукаваны вершы «Ля помніка Лермантава», «Горы».

*Сакавік, 20.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны артыкул «Некалькі думак пра паэзію А. Зарыцкага» (аб зб. вершаў «Арліная крыніца»).

*Красавік, 6.*

Прымае ўдзел у пасяджэнні секцыі прозы СП БССР, на якім абмяркоўвалася новае апавяданне І. Грамовіча «Вяселле ў Загор'і». Абраны сакратаром бюро секцыі.

Літ. і мастацтва, 17 крас.

*Красавік.*

У «Полымі» № 4 надрукавана аповесць «Пачатак».

*Май, 29 — чэрвень, 1.*

Прымае ўдзел у рабоце сесіі аддзялення грамадскіх навук АН БССР, прысвечанай разгляду некаторых дыскусійных пытанняў гісторыі грамадскай думкі ў Беларусі. Выступае ў спрэчках.

Звязда, 2 чэрв.

*Да 27 чэрвеня.*

На пасяджэнні секцыі прозы СП БССР абмеркавана аповесць П. Пестрака «Пачатак», а на пасяджэнні паэтычнай секцыі — паэма «Слова пра Мінск».

Літ. і мастацтва, 27 чэрв.

*Ліпень.*

«Беларусь» № 7 паведамляе: Ленінградскае газетна-часопіснае выдавецтва мяркуе выдаць зборнік «Паэты Беларусі аб Ленінградзе». У зборнік увойдуць і вершы П. Пестрака.

*Да 24 ліпеня.*

Прымае ўдзел у рабоце сходу партыйнай арганізацыі СП БССР, прысвечанага вынікам рэспубліканскай нарады ў ЦК КПБ па пытаннях выдання кніг і часопісаў. Выступае ў спрэчках.

Літ. і мастацтва, 24 ліп.

*Жнівень, 14.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны артыкул «Сведчанне братняй дружбы» («Анталогія беларускай савецкай паэзіі» на ўкраінскай мове).

*Жнівень, 31.*

Выступае на жалобным мітынгу з нагоды смерці Жданава А. А.

Літ. і мастацтва, 4 верас.

*Верасень.*

Пачынае працаваць літаратурным кансультантам у СП БССР, выконвае гэтыя абавязкі да лютага 1951.

Анкета, 1955.— Архіў сям'і пісьменніка.

*Кастрычнік, 2.*

У «Літ. і мастацтве» выступае з артыкулам «Ватыкан — рассаднік рэакцыі».

*Кастрычнік, 16—20.*

Прымае ўдзел у рабоце рэспубліканскай нарады маладых пісьменнікаў.

Літ. і мастацтва, 23 кастр.

*Лістапад, 2.*

У «Чырв. змене» надрукаваны верш «Чацвёрты ордэн».

Прымае ўдзел у абмеркаванні аповесці А. Васілевіч «Шляхі-дарогі» на пасяджэнні секцыі прозы.

Літ. і мастацтва, 13 лістап.

*Да 2 снежня.*

Прымае ўдзел у чарговым пасяджэнні СП БССР, на якім быў абмеркаваны справаздачны даклад галоўнага рэдактара газеты «Літ. і мастацтва». Выступае ў спрэчках.

Літ. і мастацтва, 2 снеж.

*Снежань, 24.*

На юбілейным вечары, прысвечаным 150-годдзю з дня нараджэння А. Міцкевіча, выступае з чытаннем перакладаў твораў польскага паэта.

Звязда, 25 снеж.

*Да 18 снежня.*

У сувязі з падрыхтоўкай да святкавання 30-годдзя БССР выязджае па камандзіроўцы СП БССР у г. Гомель.

Літ. і мастацтва, 18 снеж.

## 1949

*Студзень, 1.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны верш «Слаўлю край свой родны».

*Студзень.*

У «Беларусі» № 1 змешчаны ўспаміны П. Пестрака «...Як яно было там пад акупацыяй».

*Студзень, 25 — люты, 3.*

У складзе беларускай пісьменніцкай дэлегацыі (Я. Колас, К. Крапіва, П. Броўка, А. Куляшоў, М. Танк, П. Панчанка, П. Глебка) удзельнічае ў Дэкадзе беларускай літаратуры ў Маскве.

Літ. і мастацтва, 27 студз.

*Да 5 лютага.*

Выступае з чытаннем сваіх твораў на сустрэчы беларускіх пісьменнікаў са слухачамі і выкладчыкамі Ваенна-палітычнай акадэміі імя Леніна (Масква).

Літ. і мастацтва, 5 лют.

*Люты, 10.*

Прымае ўдзел у пашыраным пасяджэнні праўлення СП БССР, прысвечаным абмеркаванню вынікаў Дэкады беларускай літаратуры ў Маскве.

Літ. і мастацтва, 14 лют.

*Люты, 23.*

Прымае ўдзел у чарговым пасяджэнні рэспубліканскай камісіі па рабоце з маладымі пісьменнікамі. Зацверджаны членам рэдакцыйнай камісіі па выданню твораў маладых пісьменнікаў.

Літ. і мастацтва, 26 лют.

*Сакавік, 9.*

Па накіраванню СП БССР выехаў у Віцебскую вобласць для напісання нарыса аб перадавой сельскай гаспадарцы.

Літ. і мастацтва, 12 сак.

*Да 23 красавіка.*

Прымае ўдзел у чарговым пасяджэнні сакратарыята СП БССР, на якое прадставіў нарыс пра насенняводчы калгас «Ларывонаўка» пад назвай «На шляху да росквіту».

Літ. і мастацтва, 23 крас.

*Красавік, 30.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны ўрывак з рамана «Сустрэнемся на барыкадах». Газета паведамляе: Да II з'езда пісьменнікаў БССР П. Пестрак заканчвае першую кнігу рамана, якая надрукавана ў час. «Полымя» № 9, 10. Асобным выданнем першая кніга выйшла ў 1951 годзе.

Літ. і мастацтва, 30 крас.

*Да 28 мая.*

Прымае ўдзел у адкрытым сходзе партыйнай арганізацыі СП БССР. Выступае ў спрэчках аб рабоце секцыі прозы.

Літ. і мастацтва, 28 мая.

*Чэрвень, 4.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны верш «Пушкінская восень».

*Чэрвень, 6.*

Выступае на ўрачыстым вечары, прысвечаным 150-годдзю з дня нараджэння А. С. Пушкіна, з чытаннем вершаў паэта ў перакладзе на беларускую мову.

Літ. і мастацтва, 11 чэрв.

*Чэрвень, 20—24.*

Прымае ўдзел у рабоце II з'езда пісьменнікаў Беларусі. Выступае са справаздачным дакладам рэвізійнай камісіі. Абраны членам рэвізійнай камісіі.

Літ. і мастацтва, 23 чэрв., 2 ліп.

*Чэрвень, 23.*

Чытае свае вершы на ўрачыстым пасяджэнні ўдзельнікаў II з'езда СП БССР і АН БССР, прысвечаным 7-й гадавіне з дня смерці народнага паэта Беларусі Я. Купалы.

Літ. і мастацтва, 2 ліп.

*Жнівень.*

На старонках «Полымя» № 8 выступае з артыкулам «Паўлюк Трус», прысвечаным 20-годдзю з дня смерці паэта.

*Верасень, 30.*

Выступае ў спрэчках па пасяджэнні праўлення СП БССР пры абмеркаванні справаздачы А. Міронава аб рабоце рускай секцыі і альманаха «Советская Отчизна».

Літ. і мастацтва, 8 кастр.

*Кастрычнік, 10—11.*

Прымае ўдзел у пленуме праўлення СП Беларусі, прысвечаным пытанням сучаснай беларускай крытыкі. Выступае ў спрэчках.

Літ. і мастацтва, 15 кастр.

*Кастрычнік, 29.*

У «Літ. і мастацтве» выступае з артыкулам «За дзесяць год» (аб творах пісьменнікаў Заходняй Беларусі).

*Кастрычнік.*

У «Беларусі» надрукаваны верш П. Пестрака «Мне помніцца...» (10 год уз'яднання БССР).

*Лістапад, 18.*

На партыйным сходзе, прысвечаным удзелу пісьменнікаў у адлюстраванні жыцця рабочага класа рэспублікі, выступіў з дакладам «Індустрыяльная тэма ў беларускай літаратуры і задачы пісьменнікаў».

Літ. і мастацтва, 28 лістап.

*Снежань, 10.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны верш «Наша песня».

*Снежань.*

У «Беларусі» надрукаваны верш «Як прыгожа».

## 1950

*Студзень, 5.*

Прымае ўдзел у чарговым пасяджэнні секцыі прозы, прысвечаным абмеркаванню рамана М. Паслядовіча «Святло над Ліпскам».

Літ. і мастацтва, 7 студз.

*Студзень, 21.*

У «Літ. і мастацтве» пад рубрыкай «Клапатліва выхоўваць літаратурную моладзь» выступае з артыкулам «Тэма калгаснага будаўніцтва ў вершах маладых паэтаў».

*Студзень.*

У «Беларусі» надрукавана апавяданне «На новы лад».

*Люты, 1.*

Сустракае дэлегацыю Таварыства польска-савецкай дружбы на чале з генеральным сакратаром М. Туранец, якая прыехала ў Мінск, каб азнаёміцца з жыццём сталіцы БССР.

Літ. і мастацтва, 5 лют.

*Люты, 7.*

Выступае на адкрытым партыйным сходзе пісьменнікаў, прысвечаным паказу жыцця працоўных заходніх абласцей Беларусі ў мастацкай літаратуры.

Літ. і мастацтва, 11 лют.

*Люты, 18.*

У «Літ. і мастацтве» выступае з артыкулам «Павысіць патрабавальнасць» (разгляд твораў, змешчаных у альманаху «Сов. Отчизна»).

*Люты, 27—28.*

Выступае на адкрытым сходзе партарганізацыі СП БССР па пытанню барацьбы за павышэнне ідэйна-мастацкай якасці літаратуры.

Літ. і мастацтва, 4 сак.

*Красавік, 1.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны артыкул Г. Шчарбатава «Сустрэнемся на барыкадах» (пра раман П. Пестрака).

*Красавік.*

У «Беларусі» № 4 надрукаваны верш «Партрэт».

*Красавік, 10—11.*

Прымае ўдзел і выступае з прамовай на III пленуме праўлення СП БССР, прысвечаным вынікам XIII пленума СП СССР.

Літ. і мастацтва, 15 крас.

*Красавік, 11.*

Выступае ў СП БССР на ўрачыстым вечары, прысвечаным ўшанаванню памяці У. Маякоўскага.

Літ. і мастацтва, 15 крас.

*Красавік, 25.*

Чытае свае вершы на адкрытым сходзе партарганізацыі СП БССР, прысвечаным 80-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна.

Літ. і мастацтва, 30 крас.

*Да 30 красавіка.*

Прымае ўдзел у абмеркаванні новай п'есы В. Віткі «Янка Купала» на пасяджэнні Прэзідыума праўлення СП БССР.

Літ. і мастацтва, 30 крас.

*Май, 3.*

Выступае з дакладам на агульным сходзе пісьменнікаў Мінска, прысвечаным выпуску Пятай дзяржаўнай пазыкі аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі СССР.

Літ. і мастацтва, 6 мая.

*Чэрвень, 17.*

У «Літ. і мастацтве» змяшчае рэцэнзію «З родных крыніц» (аб аднайменным зборніку твораў Р. Сабаленкі).

*Верасень, 2.*

У «Літ. і мастацтве» выступае з аглядным артыкулам «Павысіць патрабавальнасць да якасці матэрыялаў» (час. «Беларусь» за першае паўгоддзе 1950 г.).

*Кастрычнік, 16—18.*

У якасці дэлегата прымае ўдзел у рабоце Другой Усесаюзнай канферэнцыі прыхільнікаў міру. Выступае з прамовай на літаратурным вечары ў вайсковай часці.

Літ. і мастацтва, 5 лістап.

*Лістапад, 5.*

Прымае ўдзел ва ўрачыстым сходзе пісьменнікаў Мінска, прысвечаным 33-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Чытае свае вершы, прысвечаныя гэтай падзеі.

Літ. і мастацтва, 11 лістап.

*Лістапад, 11.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны верш «Шлях волатаў».

*Лістапад.*

У «Беларусі» № 11 змешчаны верш «З асенніх матываў».

*Снежань, 2.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны верш «Энгельс».

*Да 9 снежня.*

Прымае ўдзел у літаратурным вечары, прысвечаным міру. Вечар адбыўся ў Мінскім акруговым Доме афіцэраў.

Літ. і мастацтва, 9 снеж.

*Да 16 снежня.*

Чытае ўрывак «Слова аб палку Ігаравым» (пераклад на беларускую мову М. Багдановіча) на вечары, прысвечаным 150-годдзю з часу апублікавання выдатнага твора.

Літ. і мастацтва, 16 снеж.

*Снежань.*

У «Полымі» № 12 выступае з рэцэнзіяй «Добрыя ўсходы» (аб зборніку твораў маладых «На сонечных сцежках»).

## 1951

*Студзень.*

У «Полымі» надрукаваны верш «Хлопчыку».

*Сакавік, 25—31.*

Прымае ўдзел у Тыдні дзіцячай літаратуры, выступае на літаратурных вечарах, ранішніках, у школах.

Літ. і мастацтва, 31 сак.

*Красавік, 10.*

Прымае ўдзел у рабоце IV пленума праўлення СП БССР. Выступае ў спрэчках.

Літ. і мастацтва, 14 крас.

*Май.*

У «Полымі» надрукаваны артыкул «Без нейтральнай паласы» (аб аднайменнай кнізе У. Карпава).

*Ліпень, 23.*

Выступае на пасяджэнні праўлення СП БССР па пытаннях перакладу твораў беларускай літаратуры на рускую мову.

Літ. і мастацтва, 28 ліп.

*Жнівень, 20, 22.*

Выступае на адкрытым партыйным сходзе СП БССР, прысвечаным вынікам пастаноў ЦК ВКП(б) па пытаннях развіцця шматнацыянальнай савецкай літаратуры.

Літ. і мастацтва, 25 жн.

*Верасень.*

Паступае ва універсітэт марксізма-ленінізма (скончыў у 1954 годзе).

Анкета, 1955.— Архіў сям'і пісьменніка.

*Верасень, 29.*

У «Літ. і мастацтве» друкуе рэцэнзію «Аповесць на актуальную тэму» (аб аповесці І. Дуброўскага «Зямля маладзее»).

*Лістапад.*

У «Полымі» змешчана трэцяя частка рамана «Сустрэнемся на барыкадах».

У Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшаў зб. апавяданняў «Першыя ўсходы» і другая кніга рамана «Сустрэнемся на барыкадах».

## 1952

*Люты.*

У «Беларусі» № 2 надрукавана рэцэнзія «У барацьбе за свой творчы почырк» (аб кнізе Ул. Шахаўца «Насустрач»).

*Сакавік, 18, 19.*

Прымае ўдзел у рабоце V пленума праўлення СП БССР, прысвечанага абмеркаванню вынікаў 1951 літаратурнага года.

Літ. і мастацтва, 22 сак.

*Май.*

У «Беларусі» № 5 надрукаваны артыкул І. Сіўцова «Праўдзівы твор» (аб рамане П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах»).

*Чэрвень.*

У «Беларусі» № 6 змешчаны ўрывак з чацвёртай часткі рамана «Сустрэнемся на барыкадах».

*Верасень — снежань.*

У «Полымі» № 9—12 надрукавана другая кніга рамана «Сустрэнемся на барыкадах».

## 1953

*Студзень, 10.*

У «Вечернем Ленинграде» надрукаваны ўрывак з рамана «Сустрэнемся на барыкадах» — «Тесней ряды» ў перакладзе П. Кабзарэўскага.

*Люты, 27.*

У «Зары» (Брэст) надрукаваны ўрывак з рамана «Сустрэнемся на барыкадах» — «На штурм».

*Да 25 красавіка.*

На секцыі прозы СП БССР адбылося абмеркаванне рамана П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах». Выступілі: І. Шамякін, І. Мележ, П. Броўка і інш.

Літ. і мастацтва, 25 крас.

*Ліпень.*

У «Беларусі» № 7 надрукавана апавяданне «Вярнуўся».

*Ліпень, 30.*

Выступае на сходзе партыйнага актыву г. Мінска, прысвечаным 50-годдзю КПСС, з прамовай «Пільны вартавы інтарэсаў працоўных» (надрукавана ў газ. «Літ. і мастацтва» 1 жніўня).

*Да 17 кастрычніка.*

Выступае на адкрытым партыйным сходзе ў СП БССР, прысвечаным абмеркаванню пастановы верасьнёўскага Пленума ЦК КПСС.

Літ. і мастацтва, 17 кастр.

*Снежань, 5.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны артыкул М. Танка «Пісьменнік-барацьбіт», прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння П. Пестрака.

## 1954

*Студзень, 3.*

«За Радзіму» надрукавала артыкул П. Вераб'ёва «Сустрэнемся на барыкадах» (пра аднайменны раман П. Пестрака).

*Сакавік, 25.*

Выступае на пасяджэнні секцыі прозы ў СП БССР, прысвечаным падвядзенню вынікаў творчага года і абмеркаванню работы секцыі.

Літ. і мастацтва, 27 сак.

*Май, 22.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны верш «Не забыты песні...».

*Верасень, 15—18.*

Прымае ўдзел у рабоце III з'езда пісьменнікаў БССР. Выступае з справаздачай рэвізійнай камісіі.

Абраны ў члены праўлення СП БССР.

Літ. і мастацтва, 25 верас.

*Да 25 кастрычніка.*

Выступае на пашыраным пасяджэнні прэзідыума СП БССР, прысвечаным абмеркаванню пытання аб стане беларускай літаратурнай крытыкі і мерах яе паляпшэння.

Літ. і мастацтва, 25 кастр.

## 1955

*Люты, 25.*

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Звязда, 27 лют.

*Да 9 красавіка.*

На агульным сходзе пісьменнікаў Мінска ў абарону міру выступае ў падтрымку Звароту Сусветнага Савета міру аб забароне атамнай вайны.

Літ. і мастацтва, 9 крас.

*Май, 23.*

Выступае на літаратурным вечары, прысвечаным 50-годдзю творчай дзейнасці Я. Купалы, з чытаннем сваіх вершаў пра народнага песняра.

Літ. і мастацтва, 28 мая.

*Май, 27.*

Прымае ўдзел у рабоце І Усесаюзнай нарады па пытаннях развіцця ваенна-мастацкай літаратуры.

Лит. газ., 28, 31 мая.

*Чэрвень, 11.*

Выступае ў Навагрудку на літаратурным вечары, прысвечаным 100-годдзю з дня смерці А. Міцкевіча.

Звязда, 15 чэрв.

*Верасень, 27.*

Разам з П. Броўкам, М. Танкам, А. Куляшовым, І. Шамякіным, Я. Брылём выехаў у Варшаву для ўдзелу ў месячніку польска-савецкай дружбы, які адкрыўся 30 верасня.

Літ. і мастацтва, 1 кастр.

*Да 19 лістапада.*

Выступае на сходзе пісьменнікаў Мінска па абмеркаванню пытанняў мастацкага нарыса.

Літ. і мастацтва, 19 лістап.

*Снежань.*

У «Полымі» № 12 надрукаваны верш «Мастак».

## 1956

*Люты.*

У «Полымі» № 2 надрукаваны верш «Маяк».

*Да 3 сакавіка.*

На сходзе секцыі паэзіі, прысвечаным вынікам мінулага года, выступае з аглядам паэтычных твораў.

Літ. і мастацтва, 3 сак.

*Красавік, 2.*

Выступае на рэспубліканскім сходзе пісьменнікаў, прысвечаным вынікам XX з'езда КПСС, па пытаннях развіцця беларускай савецкай літаратуры.

Літ. і мастацтва, 7 крас.

*Верасень, 22.*

У «Літ. і мастацтве» змешчана апавяданне «Прыгода Чаравакі».

*Верасень, 27.*

У «Звяздзе» надрукавана апавяданне «Неспадзяванак».

*Да 13 кастрычніка.*

Прымае ўдзел у пасяджэнні секцыі прозы СП БССР, прысвечаным абмеркаванню «Праекта ўдакладненняў і частковых змен беларускага правапісу».

Літ. і мастацтва, 13 кастр.

*Кастрычнік, 14.*

У «Ніве» (Беласток) змешчаны верш «Дзівасіл».

## 1957

*Студзень, 31.*

У «Калгаснай праўдзе» надрукавана апавяданне «Гумно без варот».

*Сакавік, 2.*

У «Літ. і мастацтве» змешчана апавяданне «Апошні крыж».

*Да 23 сакавіка.*

Выступае на Трэцім пленуме праўлення СП БССР.

Літ. і мастацтва, 23 сак.

*Сакавік.*

У «Беларусі» № 3 надрукаваны вершы «Бомы», «Ля студні», «Дарожка» (з цыкла «Нарач»).

*Красавік, 27.*

У «Звяздзе» выступае з артыкулам «Паэт-барацьбіт» (да 10-й гадавіны з дня смерці В. Таўлая).

*Красавік, 31.*

У «Ніве» надрукавана апавяданне «Путавод».

*Май.*

У «Работніцы і сялянцы» № 5 змешчана апавяданне «Дзіця».

*Чэрвень, 8.*

У «Літ. і мастацтве» выступае з успамінамі аб К. Чорным «Руплівы сейбіт».

*Ліпень, 3.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны ўрывак з трылогіі «Камісар Шчупак» — «Партызаны ў рэйдзе».

*Верасень, 14.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны верш П. Пестрака «На Дняпры».

*Кастрычнік, 19.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны верш «Так сказаў капітан...».

*Кастрычнік, 21.*

У «Калгаснай праўдзе» змешчана апавяданне «Імунітэт».

*Кастрычнік, 29—30.*

Удзельнічае ў сходзе актыву работнікаў літаратуры і мастацтва Беларусі, выступае з прамовай.

Звязда, 30, 31 кастр.

*Лістапад, 29.*

У «Зары» надрукаваны нарыс «Вярнуўся».

*Да 28 снежня.*

У тэатры імя Я. Купалы ўступным словам адкрыў агульнагарадскі вечар, прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння В. Дуніна-Марцінкевіча.

Літ. і мастацтва, 28 снеж.

*Да 28 снежня.*

Выступае з чытаннем сваіх твораў на сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з удзельнікамі Усебеларускага семінара настаўнікаў у Мінскім педінстытуце імя М. Горкага.

Літ. і мастацтва, 28 снеж.

## 1958

*Студзень, 15.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны артыкул «Пясняр рэвалюцыйнай барацьбы» (да 60-годдзя з дня нараджэння Уладзіслава Бранеўскага).

*Да 5 сакавіка.*

Чытае свае вершы на сустрэчы са студэнтамі Гомельскага сельскагаспадарчага тэхнікума.

Літ. і мастацтва, 5 сак.

*Да 8 сакавіка.*

«Літ. і мастацтва» паведамляе: адбыліся выступленні пісьменнікаў перад выбаршчыкамі. У Гомельскай вобласці перад працоўнымі выступіў П. Пестрак.

Літ. і мастацтва, 8 сак.

*Да 15 сакавіка.*

Выступае на чарговым пасяджэнні Прэзідыума праўлення СП БССР аб мемуарнай і гістарычнай літаратуры.

Літ. і мастацтва, 15 сак.

*Сакавік.*

У «Полымі» № 3 выступае з рэцэнзіяй «У пошуках тэмы» (аб зборніку апавяданняў І. Мележа «У гарах дажджы»).

*Да 9 жніўня.*

Чытае свае вершы на сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з групай польскіх выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры.

Літ. і мастацтва, 9 жн.

*Жнівень, 17—23.*

Па запрашэнню Ленінградскага аддзялення СП СССР у складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў выехаў у Ленінград для ўдзелу ў вечарах беларускай літаратуры.

Літ. і мастацтва, 16, 30 жн.

*Да 30 жніўня.*

У Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшла кніга апавяданняў П. Пестрака «Лясная песня».

Літ. і мастацтва, 30 жн.

*Верасень, 19—25.*

Прымае ўдзел у Тыдні беларускай літаратуры ў Літве. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Літ. ССР за заслугі ў

справе папулярызацыі літоўскай літаратуры ў Беларусі ўзнагароджаны Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Літоўскай ССР.

Літ. і мастацтва, 27 верас.

*Кастрычнік, 12.*

У «Зары» (Брэст) надрукаваны вершы «Як прыгожа!», «Сонца».

*Кастрычнік, 14.*

Прымае ўдзел у чарговым пасяджэнні праўлення СП БССР, на якім абмяркоўваліся і зацвярджаліся планы работы секцый на апошні квартал бягучага года. Выступае ў спрэчках.

Літ. і мастацтва, 18 кастр.

*Да 5 лістапада.*

Выступае ў СП БССР на нарадзе кіраўнікоў раённых і абласных літаратурных аб'яднанняў, прысвечанай падрыхтоўцы да IV рэспубліканскага і III Усесаюзнага з'ездаў пісьменнікаў, з разглядам твораў, змешчаных у гродзенскім абласным альманаху «Нёман».

Літ. і мастацтва, 5 лістап.

*Лістапад.*

У «Беларусі» надрукаваны ўрывак з рамана «Серадзібор».

*Снежань, 18.*

У Палацы культуры прафсаюзаў выступае з чытаннем сваіх твораў на літаратурным вечары, прысвечаным 40-годдзю БССР.

Літ. і мастацтва, 20 снеж.

*Снежань, да 20.*

Выступае з чытаннем сваіх твораў на сустрэчы беларускіх пісьменнікаў у АН БССР.

Літ. і мастацтва, 20 снеж.

*Да 27 снежня.*

Прымае ўдзел у абмеркаванні работы рэдакцыі час. «Полымя» за 1958 г. на пасяджэнні Прэзідыума праўлення СП БССР. Выступае ў спрэчках.

Літ. і мастацтва, 27 снеж.

## 1959

*Студзень, 3.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны артыкул «Слова пра родны край».

*Студзень.*

У «Полымі» надрукаваны вершы: «У Карлавых Варах», «Славачка», «Матка Лідзіцэ», «Чэсць працы!», «Радасціцэ», напісаныя пад уражаннем паездкі ў ЧССР.

*Люты, 12—14.*

Прымае ўдзел у рабоце IV з'езда пісьменнікаў Беларусі. Абраны членам праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, а таксама — дэлегатам на III Усесаюзны з'езд пісьменнікаў.

Літ. і мастацтва, 13, 18 лют.

*Люты, 16.*

Прымае ўдзел у Першым пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.

Літ. і мастацтва, 18 лют.

*Сакавік, 25.*

У «Літ. і мастацтве» выступае з артыкулам «Паэзія на старонках беластоцкай газеты «Ніва».

*Да 1 красавіка.*

Выступае на пашыраным пасяджэнні праўлення СП БССР пры абмеркаванні даклада М. Калачынскага «Пісьменнік і сучаснасць».

Літ. і мастацтва, 1 крас.

*Красавік.*

У «Беларусі» змешчаны верш «Дваццаць адзін».

*Май, 13.*

У «Літ. і мастацтве» выступае з артыкулам «Станаўленне» (Размова аб майстэрстве), прысвечаным паэзіі А. Вялюгіна.

*Май, 18—23.*

Прымае ўдзел у рабоце трэцяга Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў СССР.

Літ. і мастацтва, 20, 27 мая.

*Ліпень, 9.*

Выступае на вечары, прысвечаным 125-годдзю з дня нараджэння чэшскага паэта Яна Неруды.

Літ. і мастацтва, 11 ліп.

*Верасень, 15.*

У сувязі з Тыднем латышскай літаратуры ў Беларусі (10—16 верас.) выступае на літаратурным вечары ў Палацы культуры прафсаюзаў.

Літ. і мастацтва, 16 верас.

*Верасень.*

У «Дружбе народов» № 9 пад рубрыкай «Трыбуна пісьменніка» надрукаваны артыкул «В рабочем строю». (Задачи белорусских писателей.)

*Кастрычнік, 31.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны верш «Мы ў радасці».

*Кастрычнік.*

Прымае ўдзел у рабоце семінара па пытаннях нарыса.

Полымя, № 11.

*Снежань.*

У «Полымі» № 12 у рубрыцы «Успаміны, дзённікі і дакументы» надрукаваны мемуары П. Пестрака «Дарогаю жыцця».

## 1960

*Студзень, 9.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны артыкул «Дзверы ў шырокі свет» (аб творчасці Р. Барадуліна).

*Люты, 2.*

Выступае ў «Звяздзе» з артыкулам «Невядомыя пісьмы Элізы Ажэшкі».

*Люты, 7.*

У «Сов. Белоруссии» надрукаваны ўрывак з рамана «Серадзібор» — «Яблонька» (Аўтарызаваны пераклад з беларускай А. Міронава).

*Люты.*

У «Беларусі» надрукаваны верш «Аб вясне» і санеты «Сярод паэтаў» і «Другу невядомаму».

*Сакавік, 12.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны артыкул «Падарунак братэрству» (аб кнізе Э. Межалайціса «Паэма братэрства»).

*Сакавік.*

У «Полымі» № 3 надрукаваны вершы «Залп «Аўроры», «Латышскія стралкі».

У выдавецтве Акадэміі навук БССР выйшла манаграфія К. Хромчанкі «Пілін Пестрак. Жыццё і творчасць».

*Красавік, 22.*

У «Лит. газ.» змешчаны верш «Латышскія стралкі» ў перакладзе на рускую мову В. Рэвіч.

У «Звяздзе» надрукавана гумарэска «Бацькавы гузікі».

*Май, 9.*

У «Звяздзе» змешчаны верш «Памяці Веры Харужай».

*Май, 27.*

У «Літ. і мастацтве» надрукавана апавяданне «Наручны гадзіннік».

*Май, 30.*

Выступае на адкрытым сходзе пісьменнікаў рэспублікі пры абмеркаванні даклада В. Ф. Шауры «Аб выніках XXIV з'езда КПБ і задачах пісьменніцкай арганізацыі».

Звязда, 31 мая.

*Май.*

У «Беларусі» № 5 змешчана апавяданне «Залатая зорка».

*Чэрвень.*

У «Полымі» № 6 надрукаваны санеты «На магіле Максіма Багдановіча», «Зямля», «Рэха».

*Ліпень, 29.*

У «Літ. і мастацтве» выступае з рэцэнзіяй «Падслухала шчырае сэрца...» (аб кнізе А. Васілевіч «Падслухала сэрца»).

*Жнівень, 11—13.*

Выступае з прамовай на вечары-сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з дэлегатамі рэспубліканскага з'езда настаўнікаў.

Літ. і мастацтва, 16 жн.

*Жнівень, 26.*

У «Літ. і мастацтве» змешчана рэцэнзія «Паэт і яго героі» (аб паэме А. Русецкага «Другі пачатак»).

*Жнівень.*

У «Полымі» надрукаваны вершы «Карэнні», «Возера Свіцязь».

*Верасень, 3—13.*

Прымае ўдзел у Дэкадзе беларускай літаратуры ў Латвіі.

Сов. Белоруссия, 3—14 вер.

*Верасень, 9.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны верш «Калумбы».

*Кастрычнік, 11.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны ўрывак з рамана «Серадзібор» — «У запаветным кутку».

*Кастрычнік.*

У «Полымі» № 10 выступае з рэцэнзіяй «Шырока глядзець на свет» (аб кн. І. Пташнікава «Зерне падае не на камень»).

*Снежань, 4.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны артыкул «У пошуках» (аб паэзіі С. Грахоўскага).

*Снежань.*

У «Беларусі» друкуе падборку вершаў аб Латвіі: «Зязюля», «Сірэны», «Райніса струны...», «Кветкі», «Коклэ», «Запавет маладосці», «Рэха», «Сын рыбака».

*Снежань, 30.*

У «Літ. і мастацтве» пад рубрыкай «Нашы творчыя планы» дзеліцца сваімі планамі на 1961 г.

На пасяджэнні Прэзідыума СП БССР зацверджаны членам камісіі па падрыхтоўцы да святкавання 100-годдзя з дня смерці Т. Шаўчэнкі.

Літ. і мастацтва, 3 студз. 1961 г.

## 1961

*Студзень, 24.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны артыкул «Перад неабходнасцю выбару» (пра вершы А. Вялюгіна).

*Студзень, 25—26.*

На III пленуме праўлення СП БССР, прысвечаным удзелу пісьменнікаў у рабоце радыё, кіно і тэлебачання, выступае ў спрэчках.

Літ. і мастацтва, 27 студз.

*Студзень, люты.*

У «Полымі» № 1, 2 надрукавана першая частка рамана «Серадзібор».

*Красавік, 5—12.*

Прымае ўдзел у пашыраным пасяджэнні Камісіі праўлення СП СССР па ваенна-мастацкай літаратуры, якое праводзілася ў Мінску.

Літ. і мастацтва, 18 крас.

*Да 16 мая.*

Прымае ўдзел у нарадзе, якая адбылася ў Доме творчасці беларускіх пісьменнікаў у Каралішчавічах.

Літ. і мастацтва, 16 мая.

*Жнівень, 22.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны ўрывак з рамана «Серадзібор» — «У дарозе».

*Жнівень.*

У «Беларусі» № 8 выступае з рэцэнзіяй «Першыя крокі» (на зб. вершаў Д. Бічэль «Дзявочае сэрца»).

*Верасень, 30.*

Выступае на вечары сучаснай польскай паэзіі ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы ў сувязі з Дэкадай польскай кнігі.

Звязда, 3 кастр.

*Да 3 кастрычніка.*

Прымае ўдзел у літаратурных вечарах, якія адбыліся ў Доме палітычнай асветы і педінстытуце ў Магілёве, у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках.

Магілёўская праўда, 3 кастр.

*Кастрычнік, 24.*

У «Літ. і мастацтве» надрукавана рэцэнзія «Творчае дыханне» (на зб. апавяданняў Я. Скрыгана «Скажы адно слова»).

*Лістапад, 17.*

Выступае на адкрытым партыйным сходзе ў СП БССР пры абмеркаванні вынікаў XXII з'езда КПСС.

Літ. і мастацтва, 21 лістап.

*Снежань, 10.*

Прымае ўдзел у адкрыцці Клуба пісьменніка і чытача і выступае з прамовай. Клуб быў адкрыты пры Цэнтральнай кнігарні горада Мінска.

Літ. і мастацтва, 12 снеж.

*Снежань.*

У «Полымі» № 12 надрукаваны вершы «Пад небам Францыі»: «Пэр Ляшэз», «Ветэран», «Чырвоная куртка», «Негр у атэлі», «Усмешак не відаць», «Ціхі лес», «Звон святога Германа».

## 1962

*Красавік.*

У «Юманітэ» надрукаваны верш «На гары Манмартр» — «З Парыжскага сшытка».

Літ. і мастацтва, 13 крас.

*Ліпень, 6.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны артыкул «У страі барацьбітоў» (да 80-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы).

*Лістапад — снежань.*

У Полымі» № 10—11 надрукавана другая частка рамана «Серадзібор».

## 1963

*Студзень, 29.*

У «Літ. і мастацтве» выступае з артыкулам «Ці трэба пачынаць спачатку?» (да дыскусіі на тэму «Пісьменнік і час»).

*Красавік, 13.*

Адкрывае ўступным словам юбілейны вечар, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння Д. Беднага.

Літ. і мастацтва, 16 крас.

*Красавік, 19.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны артыкул «Наш компас» (аб выніках сустрэчы кіраўнікоў партыі і ўрада ў Маскве з работнікамі літаратуры і мастацтва).

*Красавік.*

У Маскве ў перакладзе на рускую мову выйшаў раман «Сустрэнемся на барыкадах».

*Кастрычнік, 18.*

У «Сов. Белоруссии» змешчаны верш «Роднай партыі».

*Лістапад, 26.*

У «Літ. і мастацтве» надрукавана апавяданне П. Пестрака «Вось як было...» і артыкул І. Навуменкі «Подзвіг пісьменніка-камуніста», прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння П. Пестрака.

*Лістапад, 27.*

У «Гомельскай праўдзе» змешчаны артыкул М. Даніленкі «Слова — гарт пісьменніка» (да 60-годдзя з дня нараджэння П. Пестрака).

У «Наст. газ.» змешчаны ўрывак з рамана «Серадзібор» — «Дарожкі кахання».

У «Чырв. змене» надрукаваны вершы «Рыцар айчыны», «Белы комін», «Дзівасіл».

*Лістапад.*

У «Бярозцы» змешчаны верш «Хлопчыку».

*Лістапад, 28.*

У сувязі з 60-годдзем з дня нараджэння Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР узнагароджаны ордэнам «Знак пашаны».

Сов. Белоруссия, 29 лістап.

*Лістапад, 30.*

У клубе СП БССР адбыўся юбілейны вечар, прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння П. Пестрака. З дакладам выступіў І. Навуменка. Юбіляра віталі І. Шамякін, М. Лынькоў, П. Глебка, М. Танк, А. Русецкі, Т. Хадкевіч, Р. Барадулін і інш.

Літ. і мастацтва, 3 снеж.

## 1964

*Люты, 22.*

На вечары, прысвечаным 50-годдзю з дня нараджэння В. Таўлая, выступае з успамінамі пра паэта.

Літ. і мастацтва, 25 лют.

*Красавік.*

У «Беларусі» № 4 надрукаваны апавяданні «Не, не загубленая...», «Прынцыпы».

*Ліпень.*

Выйшаў з друку зборнік «Сярод чаротаў».

*Жнівень.*

У «Работніцы і сялянцы» № 8 змешчана апавяданне «Уяда».

*Кастрычнік, 16.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны верш «Змагары».

*Кастрычнік, 20.*

На ўрачыстым вечары, прысвечаным 150-годдзю з дня нараджэння М. Ю. Лермантава, чытае свае пераклады вершаў вялікага паэта.

*Снежань.*

У «Бярозцы» № 12 надрукавана апавяданне «Іванка».

*Снежань, 30.*

Раман «Серадзібор» адзначаны літаратурнай прэміяй імя Я. Коласа.

Літ. і мастацтва, 1 студз. 1965 г.

## 1965

*Люты.*

У «Полымі» выступае з рэцэнзіяй «За мастацкую самастойнасць» (на кн. Я. Васілёнка «Таццяна Ларына»).

*Люты.*

У «Бярозцы» № 2 надрукавана апавяданне «Пыл».

*Май.*

У «Полымі» выступае з артыкулам «Слова пра Шолахава».

*Ліпень, 27.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны ўрывак з рамана «Сустрэнемся на барыкадах» — «Госць».

*Лістапад, 5.*

Узнагароджаны медалём «Двадцать лет победы в Великой Отечественной войне 1941—1945 гг.».

*Лістапад, 14.*

Узнагароджаны медалём «За боевые заслуги».

## 1966

*Май, 12—14.*

Прымае ўдзел у рабоце V з'езда пісьменнікаў БССР. Выступае ў спрэчках. Абраны членам праўлення СП БССР.

Літ. і мастацтва, 13, 17 мая.

*Чэрвень.*

У «Бярозцы» № 6 змешчана апавяданне «Імя Віці...».

*Верасень.*

У «Маладосці» № 9 выступае з артыкулам «Пра Янку Купалу».

## 1967

*Студзень.*

Прымае ўдзел у пашыраным пленуме праўлення СП БССР, прысвечаным падрыхтоўцы да 50-годдзя Савецкай улады і 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна. Выступае ў спрэчках.

Беларусь, № 1.

*Май, 22—27.*

Прымае ўдзел у рабоце IV з'езда СП СССР.

Літ. і мастацтва, 23, 30 мая.

*Май.*

У «Беларусі» № 5 надрукаваны ўрывак з паэмы «Слова пра Мінск» — «Я іду з успамінам».

*Жнівень, 11.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны ўрывак з рамана «Лесавічанка» — «У родным Залессі».

*Жнівень, 23.*

У «Лит. газ.» надрукаваны артыкул «Социальная зоркость писателя (Осмысливая пройденный путь)».

*Верасень.*

У «Полымі» № 9 змешчаны ўспаміны «Лічыла дні турма» (з біяграфіі пісьменніка).

*Кастрычнік.*

У «Беларусі» № 10 надрукаваны ўрывак з рамана «Лесавічанка».

## 1968

*Студзень, 13.*

«Сельская газета» надрукавала інтэрв'ю з П. Пестракам.

*Сакавік, 27.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны верш «Зорная быль».

*Кастрычнік.*

У «Работніцы і сялянцы» надрукаваны ўрывак з рамана «Лесавічанка» — «На канале».

*Лістапад.*

У «Полымі» № 11 выступае з артыкулам «Вялікі і сумленны талент» (да 150-годдзя з дня нараджэння І. С. Тургенева).

*Да 17 снежня.*

За заслугі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР удастоены ганаровага звання заслужанага дзеяча культуры Беларускай ССР.

Літ. і мастацтва, 17 снеж.

*Снежань.*

У Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшла паэма «Слова пра Мінск».

## 1969

*Май, 7.*

У «Звяздзе» выступае з рэцэнзіяй «І растаў снег...» (аб рамане І. Шамякіна «Снежныя зімы»).

*Чэрвень, 13.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны верш «Енісей».

*Ліпень, 29.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны верш «Цытадэль у Варшаве».

*Ліпень.*

У «Дружбе народов» № 7 пад рубрыкай «Писатель о себе» надрукаваны артыкул «Таков был путь».

*Верасень.*

У «Немане» № 9 змешчаны верш П. Пестрака «Нева». (Пераклад з беларускай мовы П. Кабзарэўскага.)

*Кастрычнік, 10.*

У «Літ. і мастацтве» надрукавана апавяданне «У тую восень».

## 1970

*Студзень, 30.*

У «Літ. і мастацтве» выступае з артыкулам «Кастрычнікам народжаная» (гісторыка-рэвалюцыйная тэма ў творчасці беларускіх пісьменнікаў).

*Сакавік, 31.*

Узнагароджаны медалём «За доблестный труд».

*Ліпень.*

У «Работніцы і сялянцы» № 7 надрукаваны ўрывак з рамана «Лесавічанка» — «Дэкрэты».

## 1971

*Студзень, 1.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны верш «У ціхім гімне».

*Сакавік, 19.*

У «Літ. і мастацтве» пад рубрыкай «Насустрач VI пісьменніцкаму з'езду БССР» надрукаваны артыкул «Так мы жывём».

*Чэрвень, 29 — ліпень, 2.*

Прымае ўдзел у рабоце V з'езда пісьменнікаў СССР.

Літ. і мастацтва, 2 ліп.

*Ліпень, 2.*

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР узнагароджаны ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі.

*Ліпень, 23.*

У «Літ. і мастацтве» надрукавана нататка «На высокім працоўным уздыме», прысвечаная V з'езду пісьменнікаў СССР.

*Жнівень, 6.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны ўрывак з рамана «Лесавічанка» — «Таёмка».

*Снежань, 24.*

У «Літ. і мастацтве» выступае з артыкулам «Неабходная размова» (аб стане і задачах літаратурнай крытыкі).

*Снежань, 31.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны адказ П. Пестрака на святочную перадпавагоднюю анкету.

## 1972

*Люты, 16.*

Удзельнічае ў рабоце пленума праўлення СП БССР, прысвечаным праблемам сучаснай крытыкі.

Літ. і мастацтва, 18 лют.

*Верасень, 8.*

У «Літ. і мастацтве» выступае з артыкулам пра А. А. Фадзеева «Шчыры друг і добразычлівы крытык».

## 1973

*Лістапад, 23—28.*

У сувязі з 70-годдзем з дня нараджэння «Літ. і мастацтва» змясціла віншаванне праўлення СП БССР, артыкулы І. Шамякіна «Слова — гарт, слова — кліч, слова — бой», Я. Міско «Гаваў у нашых душах бунт», у беластоцкай «Ніве» змешчаны артыкул Г. Валкавыцкага «Наш добры сябра», «Чырв. змена» надрукавала артыкулы С. Кухарава «Свая асобная краса», В. Мысліўца «Шляхамі жыцця», у «Звяздзе» змешчаны артыкул С. Гаўрусёва «Гарт барацьбы суровых дзён», у «Наст. газ.» надрукаваны артыкул Б. Бур'яна «Старонкі, абпаленыя рамантыкай».

*Снежань, 30.*

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР за заслугі ў развіцці беларускай літаратуры і ў сувязі з 70-годдзем з дня нараджэння ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў.

## 1975

*Студзень.*

У «Беларусі» надрукаваны вершы «Па ленінскіх запаветах», «Латышскія стралкі».

*Сакавік, 21.*

У «Літ. і мастацтве» змешчаны вершы «Пошумы», «Ён і самалёт», «Неспакой».

## 1976

*Студзень, 9.*

У «Літ. і мастацтве» надрукаваны ўрывак з рамана «Лесавічанка» — «Сустрэча».

*Май, 11—12.*
Прымае ўдзел у рабоце VII з'езда пісьменнікаў Беларусі. Абраны членам праўлення СП БССР.
Літ. і мастацтва, 14 мая.

*Лістапад, 12.*
У «Літ. і мастацтве» надрукаваны вершы «Час», «Аб Горкім».

## 1977

*Чэрвень, 17.*
У «Літ. і мастацтве» надрукаваны верш «Кліч свабоднай зямлі».
*Кастрычнік, 20.*
Узнагароджаны медалём «Ветэран працы» за добрасумленную шматгадовую працу.

## 1978

*Жнівень, 22.*
Піліп Сямёнавіч Пестрак памёр.

***В. М. Грышкевіч***

# ПАКАЗАЛЬНІК ІМЁНАЎ [1]



[1] У паказальнік вынесены імёны, якія прама або ўскосна ўпамінаюцца ў публіцыстыцы П. С. Пестрака. Імёны, якія прыгадваюцца ў каментарыях, у паказальніку не анатуюцца, а старонка каментарыя, на якой змешчана анатацыя, выдзелена паўтлустым шрыфтам.

## ЗМЕСТ

**Пестрак П.**

П 28 Збор твораў. У 5-ці т. Т. 5. Лесавічанка: Раман; Публіцыстычныя і крытычныя артыкулы; Асноўныя даты жыцця і творчасці.— Мн.: Маст. літ., 1986.— 302 с., 4 л. іл.

У пяты том Збору твораў П. Пестрака ўключаны раман «Лесавічанка», найбольш значная і характэрная для творчага аблічча пісьменніка літаратурна-крытычная і публіцыстычная спадчына, асноўныя даты жыцця і творчасці, паказальнік імёнаў.

П $\frac{4702120200-054}{М\ 302(05)-86}$ БЗ 112-86 ББК 84Бел7

*Филипп Семенович Пестрак*

Собрание сочинений в пяти томах

ТОМ 5

ЛЕСОВИЧАНКА

*Роман*

ПУБЛИЦИСТИЧЕСКИЕ И КРИТИЧЕСКИЕ СТАТЬИ
ОСНОВНЫЕ ДАТЫ ЖИЗНИ И ТВОРЧЕСТВА

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Рэдактар А. А. Сляпцова*
*Мастак Г. Р. Малышаў*
*Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
Карэктар *Я. А. Бебель*

ІБ № 2197
Здадзена ў набор 23.07.85. Падп. да друку 10.02.86. АТ 00512. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 15,96+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 16,38. Ул.-выд. арк. 18,06. Тыраж 10 000 экз. Зак. 1666. Цана 1 р. 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.